УДК 821.161.3-31
ББК 84(4Беи)-44
А28

**Адам, М.**
А28 Сёстры : раман / Мікола Адам. — Мінск : Галіяфы, 2020. — 328 с.
ISBN 978-985-7209-61-3.

Новы раман «Сёстры» Міколы Адама правакуе на кожным кроку. Выкраданне, вайна на Данбасе, каханне, Берлін, Нью-Ёрк, Мінск — карагод падзей і гарадоў раскручваецца, нібыта спіраль. Жыццё дзвюх родных сёстраў ператвараецца ў сапраўдны трылер.

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7209-61-3**

# 1

Сонца з недасяжных вышынь усміхалася гарэзлівым дзяўчом, гайдалася, бы на арэлях, у паветры бязвоблачнага неба, што здавалася і намаляванай гуашшу карцінай, і свежапамытай, толькі што адпрасаванай бялізнай, і навюткай гладкай шаўковай прасцінай сочнага блакітнага колеру, завіслай над нябачным ложкам у чаканні свайго прызначэння. Да яе карцела дацягнуцца, пакратаць рукой і нават сцягнуць уніз, на сябе, захутацца, як у кокан, у нябесную празрыстасць і пяшчоту, каб прыўзняты настрой захаваць надалей, каб ён нікуды і ніколі не знік, прынамсі, пакуль доўжыцца жыццё, якому заўжды так бракуе пяшчоты і сонца, быццам вязню, навечна асуджанаму на пакаранне. Ды хіба жыццё — гэта пакаранне? Калі навокал рознагалоссе фарбаў і вясёлкавы гоман птушак? Калі ты проста ідзеш па вуліцы і табе ўсміхаюцца зусім незнаёмыя людзі, тыя, што ідуць насустрач, і тыя, што абганяюць цябе? Іх твары светлыя, вочы бліскучыя, рухі ўпэўненыя, галасы звонкія, постаці дзівосныя!.. На кожным рагу цалуюцца парачкі... Дзяўчаты ў лёгкіх сукенках, у любы момант

гатовыя ўзляцець нават без крылаў. Зрэшты, крылы ім дораць хлопцы. Пацалункамі. Увагай. Клопатам. Пачуццямі... Яны носяць сваіх дзяўчат на руках, а некаторыя на спіне і нават на шыі. Побач з імі спыняюцца паважныя старыя, абапіраючыся на кавенькі, узіраюцца ў маладыя твары, пазнаючы ў іх сябе. Правальваюцца ў настальгію былых гадоў, пражытых, але не забытых. Жыццё — суцэльная памяць, такое ж, як неба. Яно ніколі не перарываецца. Жыццё няспыннае, рыхтык знак бясконцасці, упэўненае ва ўласнай неўміручасці.

Лета сонечнымі прамянямі, што пераскоквалі з твару на твар жоўтымі малпачкамі, абяцала шчасце. Святло, што сыходзіла ад яго, не асляпляла тэатральнымі сафітамі і ліхтарамі, сілкавалася салодкай ватай, шакаладам, які раставаў проста на вачах і ліпнуў да пальцаў вязкай масай, халодным квасам і фантанамі, у якіх плёскалася маленькімі дэльфінамі дзятва, дурэючы разам з дарослымі.



Летам быў аплецены, як выкшталцонай павуцінай, і горад Станіслаў, што знаходзіўся ў самым цэнтры Галічыны і з'яўляўся ці не сэрцам яго. Прынамсі, падобнае адчуванне ўзнікала падчас першага знаёмства з ім і павялічвалася ў разы на Стометроўцы — ці інакш вуліцы Незалежнасці, якая, у сваю чаргу, была сэрцам самога горада. Яна брала пачатак ад Вечавай плошчы з двухкаскадным фантанам, побач з якім зазвычай прызначаліся спатканні і сустрэчы, і цягнулася аж да вуліцы Івана Франко (найстарэйшай у горадзе, цяністай з-за высачэзных ліп

ды каштанаў і зацішнай), але даўжыня яе складала амаль пяцьсот метраў, а не ўмоўных сто. Паводле легенды, яшчэ ў часы цара Гароха тут панавала царства павеўн на любы смак, густ і кошт. Там, дзе сёння разнастайнае багацце кавярняў, раней стаялі бардэлі ці прытулкі спакусы і асалоды, — як неверагодна дарагія, для багатых на грошы і фантазіі кліентаў, так і несамавітыя, танныя, пафарбаваныя ў жоўты колер будыначкі для менш заможных наведвальнікаў, але не менш ахвочых да жаночага аголенага цела і ласкавак. Будынкі ляпіліся адзін да аднаго паабапал дарогі з абодвух яе бакоў і пазіралі вокны ў вокны, асабліва ў начную пару, калі асвятленне дазваляла нават зазіраць у шыбы. Дзеля рэкламы, у якой, дарэчы, ніводзін з падобных дамоў не меў патрэбы, тым не менш уласніцы і гаспадыні выпраўджвалі на вуліцу, быццам на варту, дзяўчат, якіх меней за астатніх замаўлялі. Рабілася гэта і ў выхаваўчых мэтах, і ў якасці пакарання, бо працэс прыбытку не павінен быў пакутаваць з-за незапатрабаванасці асобных прадстаўніц найстаражытнейшай прафесіі. Прынамсі, яны і ўтваралі тую «стометроўку», сваімі постацямі падпіраючы сцены дамоў, да якіх належалі, перагукваліся адна з адной, дражнілі адна адну, смяяліся адна з адной, абражалі адна адну і ўмомант заціхалі, калі міма праходзіў патэнцыйны кліент. Прычым самая непрыгожая з іх, з'едзеная сіфілісам, празрыстая, як пергамент, вачыма асвятляючы, нібы ліхтарамі, сябе і свае паслугі, шчыравала спрытней за астатніх каляжанак у спробах заарка-

ніць хоць каго-небудзь. На дзіва, ёй гэта ўдавалася, пацвярджаючы слушнае выслоўе, што непрыгожых жанчын не бывае. Ці ведалі яны, ці хоць на хвіліну задумваліся пра тое, якой стане іх вуліца праз гады? Наўрад ці яны ўвогуле пра штосьці думалі. Тым не менш, тыя самыя будынкі, адрэстаўраваныя і падлечаныя, змененыя цалкам, што не пазнаць, ператварыліся ў кнігарні і кавярні самага рознага кшталту з аднаго боку, а з другога, вокнамі ў горад, — у элітнае жыллё, гатэлі і банкі.

Менавіта сюды спяшалася і Аксана, ужо нават спазнялася патрапіць у пэўны час да фантана, побач з якім сама ж і прызначыла сустрэчу. Зрэшты, затрымалася яна непадалёк ад Стометроўкі, праводзіла заняткі па фотамайстэрству (курс гэты складаў дванаццаць практычных урокаў з тэарэтычнымі абгрунтаваннямі па месцы лакацыі, накіроўваючы і падказваючы чатыром дванаццацігадовым дзяўчатам, яе вучаніцам, пра фокус, ракурс і святло) у палацы Патоцкіх — занядбаных, сляпых збудаваннях з высокімі столямі, адкуль шматамі сыпалася тынкоўка, аблезлымі сценамі, таемнымі лёхамі і магнетычнай прыцягальнасцю даўніны ды міжвольнай рамантычнай фантазіяй, што абавязкова ўзнікала, калі ты знаходзіўся ўнутры палаца. Пасля развалу СССР палац выкупілі ў дзяржавы польскія камерсанты, нягледзячы на тое, што той больш як трыста гадоў з'яўляўся вайсковым, а потым проста шпіталем і належаў гораду. Магчыма, палякі лічылі інакш, магчыма, мелі намер аднавіць гістарычную спадчыну графаў Патоцкіх, але ў іх нічога з гэтага

не выйшла, і праз дваццаць пяць гадоў яны вярнулі права Станіслававу валодаць палацам, які ўжо выглядаў як бомж з працягнутай рукой, просячы міласціны. Адміністрацыя горада вырашыла зрабіць з палаца музей дзеля памяці і турыстаў, аб’явіла тэндэр на рэканструкцыю, але кошты патэнцыйныя мецэнаты не спяшаліся вылучаць на абнаўленне старых будынкаў. Музейныя супрацоўнікі ўласнымі сіламі намагаліся даводзіць памяшканні да ладу, звярталіся да людзей, заахвочвалі валанцёраў, фатографаў, журналістаў пашыраць звесткі пра гістарычны помнік… Між іншым, гэта гетман каронны і шляхетны ваявода Станіслаў Рэвера Патоцкі заснаваў і палац, і горад яшчэ ў 1654 годзе. Чароўная маляўнічая мясцовасць, на якой размешчаны сённяшні Станіславаў, колішняе паселішча Забалоцце, што існавала з 1437 года, у свой час вельмі захапіла графа. Ён вырашыў заснаваць тут горад, а выкананне ўласнага рашэння даручыў сыну Андрэю.

Горад-крэпасць, названы Андрэем Патоцкім у гонар бацькі (па іншых версіях, у гонар сына), быў узведзены за досыць кароткі тэрмін (пяць месяцаў) у 1662 годзе па праекце французскага архітэктара Франсуа Карасіні ў форме правільнага шасцікутніка з дадатковымі бастыёнамі, рэдутамі і фортам. На вастрыях шасцікутніка размясціліся бастыёны — знешнія пяцікутныя ўмацаванні, якія дазвалялі ажыццяўляць флангуючы мушкетны абстрэл уздоўж сцен. Папярочны разрэз сцен складаў земляны вал шырынёй 20–30 метраў, умацаваны звонку дубовымі

бярвёнамі. Пасля 15 гадоў заснавання Станіславаўская крэпасць была настолькі моцнай, што здолела спыніць у 1672 годзе велізарную турэцкую армію і вытрымаць доўгую аблогу.

Работы над умацаваннем Станіславаўскай крэпасці працягваліся да сярэдзіны XVIII стагоддзя. У 1679–1682 гадах інжынер Караль Бенуа ўдасканаліў крэпасць у напрамку новазбудаванага палаца Патоцкага. У 1734–1750 гадах частакол замянілі на камень і цэглу, арсенал цалкам перабудавалі. Сцены сталі цаглянымі, а вароты — каменнымі. Усяго налічвалася сем вялікіх і малых крапасных бастыёнаў. Вышыня крапасных сцен дасягала 10 метраў. Крэпасць апярэзвалі земляныя валы, за імі цягнуліся равы, якія запаўняліся вадой з Быстрыцы, і ў горад можна было трапіць толькі праз перакідныя масты, якія апускаліся з дапамогай ручных калаўротаў — такім чынам адкрываліся гарадскія вароты. З поўдня доступ да крэпасці перакрываўся чорным лесам і паласой суцэльных балотаў.



Па еўрапейскіх канонах горадабудаўніцтва ў гарадах, якія мелі магдэбургскае права, галоўнай плошчай прызначалі плошчу Рынак з узведзенай на ёй Ратушай, якая з’яўлялася не толькі органам самакіравання і ўпрыгожваннем горада, але і вартавой вежай, самым высокім пунктам горада-крэпасці, з якой вяліся назіранні за тым, ці не набліжаецца да горада вораг і ці не ўспыхнуў дзе пажар. У самой Ратушы знаходзіліся магістрат, суд і крама. Першыя памяшканні Ратушы былі драўлянымі.

У 1699 годзе завяршылася будаўніцтва каменнай Ратушы. Кожны бок плошчы Рынак шчыльна забудавалі дамамі, што, як правіла, не маглі мець вышэй за два, а пазней за тры паверхі і не больш за тры-чатыры акны. Падобнае патрабаванне традыцыі горадабудаўніцтва па магдэбургскім праве было прадыктавана меркаваннямі бяспекі.

Пасля далучэння Галічыны да Аўстрыйскай манархіі ў 1772 годзе Станіславаўская крэпасць страціла сваё абарончае значэнне. Імператарскім указам ад 1804 года знесены муры, засыпаны крапасныя равы, валы разбіралі да 1870 года. Па засыпаных равах праклалі вуліцы, з каменя і цэглы муроў выклалі 4 плошчы, 24 вуліцы і пабудавалі жылыя дамы.

Збольшага Аксана, што ведала, тое і распавяла дзяўчатам, знешне, між іншым, амаль не адрозніваючыся ад іх, хоць узрост мела бальзакаўскай жанчыны. Росту ніжэй сярэдняга на сантыметраў дзесяць, з прывабнай зграбнай фігурай пад лёгкім сарафанам у кветачкі, што падолам ледзь кранаўся прыгожых каленяў (сарафан яна апранула паўзверх белай футболкі з доўгімі рукавамі), з акруглымі падлеткавымі плечукамі, з караткаватымі, але вытанчанымі ножкамі, абутымі ў бела-ружовыя красоўкі на матузках; побач з вучаніцамі яна сапраўды нагадвала школьніцу, асабліва калі не прыглядацца да яе адмыслова, не ўзірацца ў твар яе. Зрэшты, толькі па вачах і можна было зразумець, што жыццё след свой пакінула не абы-які, як у душы Аксаны, так і на сэрцы: аўтографам распісвалася з зайздросным паста-

янствам і з шырокім размахам, быццам у школьным дзённіку настаўнік, не шкадуючы месца ў вымалёўванні двойкі. Вочы Аксаны — колеру дажджу ў марскіх хвалях цёплага блакіту пад доўгімі густымі, нібы штучнымі, аднак натуральнымі вейкамі (якім зайздросцілі яшчэ з часоў студэнцтва аднакурсніцы і прасілі падзяліцца сакрэтам іх прыгажосці, ды сакрэта ніякага не было, акрамя ўмення карыстацца касметычнымі сродкамі, да таго ж вейкі ад прыроды былі такімі доўгімі, і яна падфарбоўвала адно верхнія) — як люстэрка адлюстроўвалі яе ўнутраны стан, быццам прыкуты кайданамі да каменных і волкіх сцен досведу, падобных на лёхі ў палацы Патоцкіх, адкуль тхнула страхам і загадкавай таямнічасцю праз агеньчыкі ліхтарыкаў у руках дзяўчат, што падпальвалі цемру, нібы паперу, і адчуваўся нават смурод, як ад гарэлага мяса. Зрэшты, чаго толькі не прывярэдзіцца ў памяшканні, аплеценым стагоддзямі, а не адно павуцінай. Велікаваты рот Аксаны з беласнежнымі роўнымі зубамі і вуснамі, падобнымі на мандарынавыя долькі, нібыта звужаўся пры судакрананні з чырвонай памадай альбо, інакш кажучы, скараўся ёй, ператвараўся ў надзвычайнае ўпрыгожванне, вусны рабіліся пульхнымі і сакавітымі, як вішні, ад якіх немагчыма было адвесці позірк. Прамы, але цікаўны, як і яго гаспадыня, нос нярэдка сутыкаўся з непрыемнасцямі такога кшталту, якія можна было б асацыяваць і з прыемнасцямі таксама. Справа густу, не больш. Гладкая скура, натуральнага, не бледнага колеру на дотык нагадвала шоўк, праўда,

на шыі ўжо намячаліся адбіткі часу, якія на тканіне былі б падобнымі на драпінкі. Пастрыжаныя валасы колеру апалага лісця ўжо адрасталі і тырчэлі кудзеркамі з-за вушэй. Каб на вочы не падала доўгая грыўка, яны былі зачасаныя назад і прыціснуты да галавы абручом. Падпяразаная «патранташам» з прыладамі для фотаапарата, і жаночым начыннем для падтрымкі прыгажосці, Аксана абняла па чарзе кожную дзяўчынку на развітанне, тыя ў адказ абнялі яе і разбегліся ў розныя бакі да наступнага ўрока праз некалькі дзён. Зірнула на гадзіннік і прыспешыла крок, бо дужа затрымлівалася, чаго вельмі не любіла і старалася не спазняцца. Хада яе, хоць і хуткая, трэба адзначыць, не мела нічога агульнага з мітуслівасцю і вінаватасцю. Аксана ішла ўпэўненымі крокамі чалавека, які ведае, хто ён і для чаго на гэтым свеце, звычайна без пагарды да тых, хто акружае, але і не заўважаючы іх. Цяпло і лагода, што выпраменьваліся кожнай клетачкай яе цела зусім нядаўна побач з дзяўчатамі, зніклі ўмомант пасля развітання з імі. Холад, аддаленне і недасягальнасць суправаджалі Аксану нябачным, на першы позірк, шчытом, на які неаднаразова натыкаліся незнаёмцы ў раптоўным спадзеве пазнаёміцца з ёю. Аксану ніхто не цікавіў да таго часу, пакуль яна сама кімсьці не зацікавіцца, таму сцяну паміж сабой і светам пабудавала адмыслова, хоць і вымушана, меліся на тое прычыны. Але ніколі пра гэта не шкадавала. Зрэшты, ад свету дзяўчына не адгароджвалася, прымала яго, аднак па ўласных законах, вядомых толькі ёй.

Яна спазнілася на пятнаццаць хвілін. Сораму не адчувала, бо папярэдзіла загадзя аб магчымай затрымцы: усё ж выкладала не абы-які прадмет, якому ў школе не вучаць, да таго ж тым, хто зацікаўлены апрыёры ў яе ведах. А яшчэ фотакурсы з'яўляліся адной з частак яе фінансавага прыбытку, не такой прыбытковай, як фатаграфаванне вяселляў, дзён нараджэння ды іншых святаў, але дужа важнай для ўнутранага стану, задавальнення ўласных патрэб.

Соню, малодшую сястру, з якой і дамовілася сустрэцца яшчэ з учарашняга вечара, Аксана ўгледзела адразу, як толькі выйшла на Вечавую плошчу. Тая сядзела пад велізарным дубам, што рос пасярэдзіне плошчы, акальцаваным драўлянымі лаўкамі, якія рэдка калі пуставалі, хіба што ўначы, бо цень ад яго дужых мускулістых, бы ў казачнага волата, рук-галін заўжды ратаваў усіх жадаючых і ад сонца, і ад ветру. Аксана абмінула фантан, які заўжды акупаваны дзецьмі, дарослымі, і наблізілася да сястры.



— Прывітанне, сістэр! — прамовіла да яе.

Тая, відаць, аб нечым задумаўшыся ці некага вышукваючы ў шматлюднай плыні плошчы, нават уздрыгнула ад нечаканасці, але ўзрадавана падхапілася з месца і памкнулася да сястры. Яны абняліся па звычаю, нават жарсна, нібыта не бачыліся сто гадоў, зрэшты, так і было, калі не ўлічваць відэаразмоў па скайпе, клюнулі адна адну ў шчаку, потым узяліся за рукі і колькі імгненняў не адпускалі іх, узіраючыся ў вочы.

Соня была маладзейшай за Аксану на пяць гадоў і здавалася вышэйшай за сястру, магчыма, з-за

хударлявасці, бо на самай справе рост абедзве мелі аднолькавы. Доўгія саламяныя валасы Соні падалі на яе вострыя плечы сонечнымі прамянямі, хоць звычайна яна іх збірала ў тугі хвост і перахоплівала ззаду гумкай, адно залатыя кудзеркі вытыркаліся па баках і лажыліся па скронях уніз. Але твар тады выглядаў не вельмі прывабна: і без таго хваравітую бледнасць скуры падкрэслівалі выразныя скулы, завостраны нос і тонкая нітачка бясколерных вуснаў. Адно вочы свяціліся ліхаманкавым бурштынавым бляскам. Вызваленыя з хвастатага палону валасы ўпрыгожвалі твар, надавалі яму круглейшую форму, хавалі ў сабе яго безабароннасць перад светам. Да таго ж доўгая тонкая шыя пад валасамі не нагадвала шыю жырафы, па словах самой Соні. Насамрэч яна проста іранізавала, бо шыя яе, калі параўноўваць, больш была падобная на лебядзіную. У байцы з каптуром на спіне і Куртам Кабэйнам на грудзях, апранутай на белую футболку, сініх фірмовых джынсах з адмысловымі дзіркамі на каленях і ружовых кедах, дзяўчына нічым не вылучалася сярод мінакоў Станіслава, хоць па факце з'яўлялася грамадзянкай Злучаных Штатаў Амерыкі. І размаўляла яна на роднай мове без акцэнту, які зазвычай штучным чынам узнікаў у большасці эмігрантаў, магчыма, міжвольна. Голас Соні нагадваў мурканне пяшчотнай хатняй кошачкі, яго хацелася слухаць бясконца і дазваляць яму рабіць з сабой што заўгодна. Здавалася, ён пакрываў суразмоўцу з ног да галавы мёдам і лашчыў нябачным языком сэрца, ад чаго займала

дыханне. Голас Аксаны не меў падобнага эфекту, але вылучаўся іншымі цікавосткамі. Яна валодала ім, як прафесійная актрыса, нездарма некалькі гадоў наведвала заняткі па рыторыцы, і яе выключным артыкуляцыйным дадзеным зайздросціла не адна сапраўдная актрыса з мясцовага драмтэатра.

— Дужа рада цябе бачыць! — нарэшце выдыхнула Соня.

— Я цябе таксама, — усміхнулася Аксана ў адказ.

— Ты... так... — падбіраючы словы, каб вымавіць наступную фразу, Соня разгубілася, аднак глядзела ў вочы сястры з непрыхаваным захапленнем. — Карацей, калі б я была хлопцам, — нарэшце знайшла патрэбныя словы, — абавязкова ў цябе закахалася б. — І выгукнула: —Ксан, ты такая прыгажуня!



— Дзякую, — стрымана ўсміхнулася тая.

Ёй было прыемна, што малодшая сястра зрабіла камплімент, на які старэйшая не напрошвалася. Але факт заставаўся фактам. Аксана сапраўды выглядала шыкоўна насуперак усім тым жыццёвым віхурам, якія, як зграя ваўкоў, пераследвалі яе з часоў заканчэння школы. Бясспрэчна, Соня выглядала не менш прывабна, нягледзячы на хударлявасць, якая мімаволі кідалася ў вочы. Мела б яна больш высокі рост — і дзверы безлічы мадэльных агенцтваў магла б адчыняць нагой.

— І ты не Папялушка, Соня, — мусіла Аксана засведчыць відавочнае і дадала: — Ажно свецішся ўся.

— Так, прасвечваюся, як прамакашка, — засмяялася Соня з сябе і адкінула валасы з вачэй рукамі

ў чорных празрыстых пульсэтках. І пульсэткі, і байка нікольки не перашкаджалі ёй радавацца жыццю ў амаль трыццаціградусную гарачыню. Соня была мярзлячкай, таму зараз жыла там, дзе ніколі не бывае холадна, — у паўднёвым штаце Луізіяна, а менавіта ў горадзе Батан-Руж, які вылучаўся еўрапейскай архітэктурай і больш нагадваў Еўропу, чым Амерыку — дзіўна, але нагадваў нават паветрам, якім дыхалі яго жыхары. Толькі прысутнасць тут кракадзілаў падказвала кожнаму, што гэта ўсё ж Амерыка. Гэтыя стварэнні, рыхтык сельскія куры, корпаліся на ўзбярэжжы каналаў у гразі ці адпачывалі ад будзённасці пад вадой, не ведаючы аніякага страху перад людзьмі. Іх ніхто не чапаў, і яны нікога не чапалі.

Аксана не паспела запярэчыць сястры ці запытаць у яе, як яна пачувае сябе дома. Пытанне, як кажуць, на засыпку, але не абавязкова галоўнае і, хутчэй за ўсё, неарыгінальнае, а таму і добра, што засталося незададзеным. Неўзабаве на плошчы з'явіўся малады чалавек, які падышоў да сясцёр (дакладней, да Соні) з некалькімі піражнымі «картошка» ў руках і адно працягнуў Соні, адно Аксане, а трэцяе пакінуў сабе. Аксана пазнала ў ім Сонінага нарачонага Томаса (ён неаднаразова прымаў удзел у размовах па скайпе з будучай сваячкай), узяла піражнае, падзякавала, а потым Томас абняў яе і сказаў на вушка, зразумела, па-англійску, што вельмі рады знаёмству ў рэале. Соня тым часам назвала іх імёны адно аднаму, што было лішнім, аднак і неабходным па правілах этыкету.

Томас узвышаўся над сёстрамі, як дуб над горадам, вышэйшы за іх на галаву, калі не на дзве. Прынамсі, так здавалася Аксане. Магчыма, падобны эфект узнікаў з-за сапраўды яго вялікага росту, хоць да 180 не дацягваў. Малады чалавек меў спартыўную фігуру, шырокія плечы, мускулістыя валасатыя рукі і грудзіну, якія рэльефна вылучаліся праз белую футболку з амерыканскім сцягам на правым рукаве ў выглядзе нашыўкі, падобнай на вайсковую. Не менш мускулістымі выглядалі і яго ногі ў клятчастых шортах, пакрытыя валасамі нават на каленях, усунутыя ў карычневыя сандалеты з прарэзамі для пальцаў. Аксане знешне не дужа падабаліся падобныя мужчыны, бо нічога эстэтычнага ў так званай атлетычнай прыгажосці не бачыла, наадварот, тыя бугры на целе, якія мужчыны любоўна называлі біцэпсамі, трыцэпсамі ды іншай трасцай і цешыліся як дзеці іх наяўнасцю, палохалі яе, хоць сама яна таксама сачыла за сваёй фігурай, ніводнага разу не прапусціла заняткаў у фітнес-цэнтры і ганарылася зайздроснымі кубікамі прэса на жываце. Хаця мускулы Томаса не здаваліся лішнімі наростамі і не нагадвалі чужародныя пухліны. Ён быў падцягнуты, сухаваты, і мускулы адно дапаўнялі агульны малюнак яго постаці, да таго ж ён вылучаўся не абы-якой прывабнасцю і прыцягальнасцю, не салодкай, як некаторыя прыгажуны з шоу-бізнесу, а прыроднай, сапраўды мужчынскай, да якой карцела калі не прыхінуцца, то хаця б паспытаць яе водару. Кароткія чорныя валасы ззаду, а спераду, наадварот, доўгія. Ён іх увесь

час закідваў назад рукой з квадратным гадзіннікам на левым запясці, што надзейна трымаў у палоне серабрысты бранзалет. Густыя дугі чорных брывоў над глыбока пасаджанымі ў вачніцы вачыма колеру каштана з разумным пільным позіркам і прыхаванай цеплынёй у кутках. Яны амаль не міргалі. Томас мог доўга не міргаць, тое выходзіла само сабой. Прамы нос, ямка на падбароддзі з трохдзённай няголенасцю, якая дужа пасавала твару. Крыху прыпухлыя губы, напэўна, ад Соніных пацалункаў. Гэты амерыканец сапраўды меў нешта агульнае, няўлоўнае на першы позірк, але, калі прыгледзецца і доўга ўзірацца, — відавочнае падабенства, асабліва ў вачах, з Тарасам, першым Соніным каханнем і прычынай яе хваравітай хударлявасці. Соня адчула тое адразу, як толькі пабачыла Томаса ўпершыню.

# 2

Яны вучыліся ў адным класе. Соня з Тарасам. Сябравалі яшчэ з дзіцячага садка. Ён быў яе рыцарам, яе паветрам, яе аддушынай. Яна для яго — багіняй. Ніхто не сумняваўся, што і пасля школы яны будуць разам. Соня нават падзялілася з сястрой пра тое, якім бачыла сваё вяселле, якую сукенку апране, пашытую, між іншым, уласнаручна, з якой тканіны, бо ўжо прыгледзела ў аддзеле тканін шыкоўны адрэз. Бацькі прымалі Тараса за роднага: мама заўсёды прыязна ўсміхалася яму, калі той заходзіў да Соні (у вялікую пяціпакаёвую кватэру ў каменным доме, што падпіраў сабой іншыя, больш сталыя, з налётам гісторыі на фасадах і франтонах, непадалёк ад скрыжавання вуліц Сечавых Стральцоў і Мазепы, з унутраным дворыкам, залітым асфальтам, куды вяла чыгунная разьбяная брама з кованымі жалезнымі дзвярыма ды кодавым замком на іх), прапаноўвала галубцы альбо варэнікі, якія не пераводзіліся на яе кухні, бо яна любіла кухарыць. Тарас ніколі не адмаўляўся, еў як не ў сябе, нібы яго дома не кармілі, што падабалася маме, бо дочкі апетытам не вылучаліся. Падзяўблі,

бы птушачкі, і пабеглі. Як яшчэ іх ногі насілі? А тата таксама апошнія дзесяць гадоў на ежу асабліва не налягаў, не іначай навучыўся ў дачок, а неўзабаве ўвогуле адмовіўся ад мяснога, перайшоў на так званае правільнае харчаванне травамі ды карэньчыкамі. Хіба імі наясіся? Зрэшты, не па ўласным жаданні ён ператварыўся ў вегетарыянца: ратаваў страўнік і здароўе. Як ні дзіўна, травы дапамаглі: высмакталі небяспечныя пухліны. Таму мама глядзела нават з замілаваннем на Тараса, калі той еў, і, лічы, для яго аднаго гатавала баршчы, смажыла катлеты ды варыла кампоты. Пры гэтым пырхала як матылёк, не толькі па кухні, па жыцці. Дый выглядала суадносна. Ні роды, ні гады не ператварылі яе ў квадратную бясформенную істоту, як мноства іншых жанчын яе пакалення. Мама захавала фігуру падлетка, сачыла за сабой з той жа ўвагай, з якой вырошчвала ўлюбёныя ружы. Ружу і нагадвала, не першай свежасці, але не менш прывабную. Насіла вопратку ў абцяжку, пераважна ружовага колеру, бо такога ж колеру падаваўся ёй і свет навокал: сукенкі, блузкі, штанцы, паліто, нават куртачкі на людзях, у хаце фарсіла перад мужам у ласінах і ружовых футболках, чым і спакушала яго. Залатавалосая, курносая, з правільнымі рысамі твару, авалу якога пазайздросціла б кожная маладая натуршчыца мастацкіх вучэльняў, яна паходзіла з беднай шматдзетнай сям'і. З татам ёй пашанцавала, як лічылі многія. Зрэшты, гэтаксама лічыла і мама. Усё сваё жыццё пражыла за ім як за каменнай сцяной. Той, здавалася, і нарадзіўся і жыў толькі

дзеля таго, каб забяспечваць яе ўсім, што ёй пажадаецца. Яго сям'я таксама нічым асаблівым не вылучалася: звычайныя калгаснікі, брыгадзір ды цялятніца. Старэйшы брат так у калгасе і застаўся на зернатоку, малодшы вывучыўся на доктара, жыў у Львове, тата ж шабашыў на будоўлях па Расіі. Дзяцінства сясцёр прайшло амаль без яго, бо той увесь час знаходзіўся ў раз'ездах, але не бедавалі: грошы ў мамы вадзіліся, зробленыя татам, і на дзецях яна не ашчаджала. У канцы 1990-х тата пачаў працаваць на сябе: будаваў дамы-катэджы па ўласных архітэктурных распрацоўках, мама дапамагала яму па дэкору і ўнутраным аздабленні, затым прадаваў — і так па коле. Нярэдка і Тарас дапамагаў развіваць сямейны бізнес. Тата не прымушаў яго і не прасіў, хлопец па асабістай ініцыятыве хацеў быць карысным. Працы не баяўся, за што б ні ўзяўся — даводзіў да ладу, старанна і з любоўю да даручанай справы. Фізічная праца яму пасавала. Спартыўны, такі ж высокі, як і Томас, хіба што худзейшы, таму і мускулы асабліва ў вока не кідаліся, Тарас міжволі звяртаў на сябе ўвагу, асабліва калі даводзілася перацягваць з месца на месца цяжкія рэчы, кшталту вялікіх камянёў або драўляных цурбаноў. Яго з радасцю слухаліся нажоўка і малаток, перфаратар і зборная мэбля. Кемлівы і рухавы, ён забіваў цвікі з двух удараў у любую будаўнічую плоць, не ранячы ні яе, ні сябе, як некаторыя мамчыны сынкі, а перфаратар у яго руках, здавалася, спяваў ад задавальнення гаспадаром і працай. Соня закахалася ў яго чароўную ўсмешку, відаць, з першага позірку,

як толькі пабачыла ў дзіцячым садку. Яна сапраўды была чароўнай, мяняла яго быццам бы пахмурны твар да непазнавальнасці ямачкамі на абедзвюх шчоках, чорцікамі ў вачах-каштанах, зморшчынкамі-праменьчыкамі пад вачыма. У школе хлопец з дзяўчынай сядзелі за адной партай з першага класа. Ён не вельмі цягнуўся да навук, займаўся ў спартыўнай секцыі па кікбоксінгу, будучае бачыў толькі ў спорце, у падлеткавым узросце станавіўся неаднаразовым чэмпіёнам краіны, сур'ёзна рыхтаваўся да дарослага бою на чэмпіянаце ў Кіеве. Соня, наадварот, вучылася старанна і прэтэндавала на залаты медаль, нярэдка дапамагала Тарасу ў вучобе і з хатнімі практыкаваннямі, распавядала яму змест усіх літаратурных твораў, якія патрабавалася ведаць па праграме. Ён слухаў удумліва, запамінаў галоўнае. Чытаць не любіў, дый часу на чытанне не меў, размеркаваўшы яго на Соню, спорт і бізнес-праекты Сонінага таты. Адзіны сын удавы-бібліятэкаркі, якая страціла мужа адразу пасля нараджэння дзіцяці (той, відаць, недзе загінуў на ўмоўных франтах бандыцкіх войн дзевяностых, дакладна яна не ведала, хіба што здагадвалася), Станіславаў вывучыў уласнымі нагамі ўздоўж і ўпоперак. Паколькі жыў ён з маці на Набярэжнай, куды амаль не хадзіў ужо ніякі транспарт пасля шостай гадзіны вечара, а школа, і секцыя, і Соня знаходзіліся прыблізна ў адным раёне, трэба было прызвычайвацца.

А яшчэ ў Тараса быў сябар, якога ён лічыў такім жа блізкім чалавекам, як маці і Соню. Той жыў насупраць школы ў сям'і супрацоўнікаў адміністра-

цыі горада. Яго бацька меў брата, які ў дзевяностыя падчышчаў за даволі ўплывовымі людзьмі іх не вельмі прыгожыя справы і якраз гасцяваў у Станіслававе. Па неасцярожнасці (разняволіўся за шыкоўным братавым сталом з багатай закуссю і дарагой выпіўкай), не інакш, ён пакінуў без нагляду зброю, якую меў права насіць і прымяняць, бо працаваў усё тым жа «чысцільшчыкам» з той, аднак, розніцай, што яму гарантаваліся бяспека  і беспакаранасць на самым высокім узроўні. Карацей кажучы, пісталет апынуўся ў руках Тарасавага сябра. Юнак выскачыў з ім з кватэры, як уджалены, адрэналін калашмаціў яго не горш за якісь наркотык. Анягож, ён уладарыў сапраўднай зброяй, якой можна было забіць чалавека, прычым дужа лёгка, адным націскам гачка. Піф-паф — і кранты. Пра тое, што наступствы выкрадання пісталета мусяць прынесці яму толькі непрыемнасці, хлопец не думаў, не да таго. У яго ўвогуле падобных думак не ўзнікла, дзейнічаў інстынктыўна, як варвар, не Конан, зразумела (адкуль у Конана тая агнястрэльная зброя?). Галоўнае, каб не хутка заўважылі знікненне пісталета, каб Арцём (так, яго звалі Арцёмам) паспеў нацешыцца небяспечнай у няўмелых руках цацкай. Яго ж рукі ўмелыя. Тэарэтычна ён ведаў пра пісталеты ўсё. Перш-наперш праверыў абойму: яна апынулася цалюткай — кулі, рыхтык салодкія ледзянцы, з нявінным выглядам нерухома застылі ў спячцы, туліліся адна да адной, быццам грэліся, быццам ім было холадна. Арцём асцярожна, захоплена правёў па гладкай паверхні ве-

рхняй кулі, якую раптам захацелася вынуць, сунуць у рот і пасмактаць, як цукерку. Ён прагнаў насланнё ўзмахам рукі, нібы вос, якія тым часам сапраўды залуналі над галавой. Арцём агледзеўся: нейкім чынам апынуўся ў школьным садзе, адсюль і восы. Хлопец вярнуў абойму на месца, праверыў засцерагальнік, каб выпадкова не націснуць гачок і не адстрэліць сабе што-небудзь. Карцела з кімсьці падзяліцца радасцю і пахваліцца наяўнасцю зброі. Арцём дастаў тэлефон і набраў Тараса. Каму, як не сябру, мог ён яшчэ даверыцца?.. Той якраз гасцяваў у Соні, то бок знаходзіўся непадалёк ад школы, значыць, хутка далучыцца да Арцёма, хоць той і не назваў прычыны выкліку, адно заінтрыгаваў таямнічым паведамленнем пра нешта такое, аб чым ніхто з іх абодвух ніколі не пашкадуе потым, да таго ж калі яшчэ давядзецца патрымаць...

Тарас развітаўся з Соняй, усё адно збіраўся сыходзіць, абяцаў маці прыйсці раней дапамагчы разабрацца з дакументацыяй новых паступленняў літаратуры ў бібліятэку, што размяшчалася на першым паверсе высоткі, у якой яны жылі пад самым дахам. Двухпакаёвая, даволі вялікая кватэра з прасторнай кухняй і лоджыяй — татаў падарунак — усё, што засталося ад яго. Ды яшчэ хіба грошы, якія мама Тараса ўсе выдаткавала на адукацыю сына: лепшы дзіцячы садок (па вуліцы Тарнаўскага), лепшая школа (№ 5 па вуліцы Івана Франко, між іншым, у далёкім мінулым — турма)...

Сыходзячы, чуў, як сварыліся Соніны бацькі ў гасцёўні. Іх гучныя галасы перакрывалі гук тэлевізара

з трэсканінай стрэлаў нейкага крымінальнага серыяла. Тарасу заўсёды здавалася, што яны сварацца не напраўду, што гэта ў іх гульня такая, каб трымаць сябе ў тонусе. Ну што за прычына сваркі — непаголены чэрап Сонінага таты? Зразумела, што мама Соні любіла гладкапаголеную галаву мужа, асабліва свежапаголеную, таму ён галіўся штодзень: ёй падабалася цалаваць мужаву галаву і вадзіць па ёй вуснамі, як па гладкай тканіне сваіх начных тунік. Верагодна, занадта далікатныя яе вусны ўкалоліся аб тыя валаскі на галаве мужа, што паспелі за дзень адрасці, таму і выклікалі абурэнне ў той самы час, калі хацела ласкі і пяшчоты. Тарас усміхнуўся: памірацца. Мужчына паголіцца, і бура ўляжацца.



Праз хвілін дзесяць ён быў на месцы, зайшоў у двор школы. Арцём чакаў яго каля ўваходу ў падвал, куды перасунуўся з саду. Хлопцы парукаліся, а затым Арцём — худы, вузкаплечы, але высокі акулярык з доўгімі рукамі, шырокімі далонямі ды даўно нястрыжанымі валасамі, зрэшты, як ён казаў, валасы адпусціў адмыслова, каб вылучацца з натоўпу,— выцягнуў з-за спіны пісталет.

— Зацані! — Арцём трымаў пісталет на далоні, адчуваючы яго салодкі цяжар і холад сталі.

— Сапраўдны? — зацікавіўся Тарас, але веры не даваў. Зрэшты, Арцём не паклікаў бы выхваляцца цацачным пісталетам.

— А то! — закапыліў губу Арцём. — Выцягнуў з кабуры дзядзькі, які ў дзевяностыя кілерам падпрацоўваў.

— Ага, — зноў не паверыў Тарас. — І дасюль жывы?!. — усміхнуўся.

— Яшчэ як жывы! — запэўніў Арцём. — Гарэлку жлукціць зараз з татам паўнюткімі гранёнымі шклянкамі. Адзначаюць сустрэчу.

— Даўно не бачыліся?

— Хто? — не зразумеў Арцём.

— Дзядзька твой з бацькам, —патлумачыў Тарас.

— Даўно, — кіўнуў той.

— Дасі патрымаць? — запытаў раптам Тарас. Яму сапраўды захацелася хаця б дакрануцца да рэчы, якая забівае, што ўласціва, бадай, кожнаму хлопцу. Пра Арцёмавага дзядзьку больш не ўзгадваў, пра наступствы ўчынку Арцёма ўвогуле не задумаўся. Пісталет быў тут і зараз, і калі ён сапраўдны — то магічна ўздзейнічаў на абодвух сябрукоў. 25

— Хадзем, — паклікаў Арцём за сабой, і яны пасунуліся ў глыб падвалу.

Падвал на той час ніколі не замыкаўся. Дый для чаго яго замыкаць? Нічога каштоўнага ў ім не захоўвалася, і сам ён ніякай каштоўнасці не ўяўляў, хоць меў патаемныя хады, падобныя на тыя, што захаваліся ў Пніўскім палацы (іх яшчэ «бандэраўцы» выкарыстоўвалі, бо тыя выводзілі ў горы і ў лес), хіба што ў мініяцюрным эквіваленце. Гэтыя хады Арцём з Тарасам і адшукалі, выпадкова, праўда (калі выносілі па просьбе дырэктара непатрэбнае савецкае лайно з былога памяшкання піянерскага кутка, якое за нейкім чынам зрабілі музеем, як высветлілася, непатрэбным, і таму ку-

ток мусіў стаць неўзабаве камп’ютарным класам; Арцём тады ў літаральным сэнсе праваліўся пад зямлю, шыхтуючы ў рад спісаны інвентар побач з апорнай сцяной, пад якой якраз і апынуліся лёхі на радасць цікаўным юным «следапытам»), аднак нікому пра тое не распавялі, пакінулі ў сакрэце, бо ён, сакрэт, быў выключна іх таямніцай, схаванай ад чужога вока пад стальніцай, што некалі належала дыхтоўнаму сталу з шуфлядамі пад ключ ды ўшчэнт струхлелымі гнутымі ножкамі. Хады, надзіва, асвятляліся электрычнасцю. Адразу пад лазам меўся шчыток з рубільнікам, які запальваў святло, што сыходзіла ад цьмяных слабых лямпачак пад столлю, размешчаных праз кожныя дзесяць метраў адна ад адной на голай праводцы. Хады мелі тры накірункі, адзін з якіх заканчваўся даволі прасторным памяшканнем, дзе, відаць, нехта адпачываў, пра што сведчылі драўляны стол у куце, стальніца якога была амаль з’едзена тэрмітамі, некалькі даволі крэпенькіх зэдлікаў ды канапа, больш падобная на вожыка з-за вострых спружын, якія раздзерлі дзермацінавы покрыў, бы Тузік грэлку, і бязлітасна пазіралі навокал, здавалася, з надзеяй яшчэ б каго распатлашыць. На сцяне над сталом вісела мапа СССР, пакрытая поліэтыленам і брудным шэрым пылам ад часу, як, зрэшты, і ўся мэбля. Да гэтага закутка хлопцы і мкнулі. У іх быў пісталет, была атмасфера. Яны адчувалі сябе «бандэраўцамі», загнанымі ў пастку, але жывымі іх ворагу не ўзяць. Яшчэ невядома, чыя возьме, бо клятыя маскалі не

арыентаваліся ў падзямеллі, а Арцём з Тарасам ведалі хады, як свае пяць пальцаў. Хутчэй за ўсё яны выберуцца з лёхаў у горы, а пераследнікаў падарвуць, каб назаўжды адбіць ахвоту ганяцца за імі...

Тараса таксама апанавала трапяткое пачуццё хвалявання і ўрачыстага моманту, як нядаўна Арцёма, калі ён трымаў пісталет у руках. Так карцела навесці яго на ўяўнага ворага, прыцэліцца і стрэліць. Калі яшчэ надарыцца нагода?.. Ён сказаў пра гэта сябру, але Арцём запярэчыў, што нельга, хоць і яму хацелася пастраляць. Ды хоць разок стрэльнуць, усё адно дзядзька яго заб’е, мабыць, і дамоў вяртацца нявартa. Ну нонсэнс жа, мець сапраўдны пісталет і не скарыстацца выпадкам?!.

Яны дамовіліся зрабіць па адным стрэле ў канапу. Права першаму паспытаць удачу бясспрэчна належала Арцёму, і Тарас без ваганняў згадзіўся. Ён вярнуў сябру пісталет, які ў чарговы раз захоплена разглядаў (пры гэтым неасцярожным рухам зрушыў засцерагальнік з месца), рукаяткай да яго, ствалом да сябе. Арцём пры перадачы зброі адчуў, як палец кладзецца на гачок і цісне на яго; ён хацеў утрымаць пісталет у руках, бо той слізгануў з далоні. Выбух, які пачуў Арцём, нагадваў бомбавы, у вушах звінела, перад вачыма — заслона пылу ці дыму, і Тарас чамусьці ляжаў дагары на канапе, хапаў паветра шырока адкрытым ротам, кадык яго хадзіў ходарам, а правы бок (ён адразу не заўважыў) набрыняў крывёй, густой і ліпкай. Ён адчуў яе на руках, калі кінуўся да сябра, не разумеючы,

што адбылося. Некалькі спружын пракалолі рукі Тараса наскрозь.

— Тарас, ты чаго? — укленчыў перад ім Арцём, тузануў.

Вусны Тараса крывавіліся, з вачэй цяклі слёзы, ён намагаўся нешта вымавіць, але з рота толькі булькала і пенілася. Ён цяжка дыхаў і раптам, умомант, перастаў.

— Тарас, — прашаптаў Арцём. Усведамленне непапраўнага паўстала перад тварам цаглянай сцяной. Але ж ён невінаваты, пісталет стрэліў сам, выпадкова... Трэба неадкладна вярнуць яго на месца, і ніхто не даведаецца. Нічога не было. Ніхто не ведае пра хады. Дзядзька дакладна яго заб'е, калі не вярнуць зброю своечасова.



Яшчэ адзін позірк на Тараса, і Арцёма сагнула напалам у ванітных пазывах. Але ён усё адно пазіраў на сябрука, пад якім расцякалася кроў і па кроплі падала на падлогу, марудна, быццам рабіла ласку адмыслова для Арцёма, якога зноў і зноў выварочвала, здавалася, што зараз выхаркае кішкі. Ён трываў гэты стан, прымаў яго за пакаранне, згаджаўся ў думках з тым, што заслужыў яго, потым пасунуўся прэч на паўсагнутых нагах, непаслухмяных і няўстойлівых. Хутчэй на паветра, бо паветра катастрафічна не хапала, у вачах цьмяна, цела хістала ў бакі, быццам ён знаходзіўся на караблі ў дрэннае надвор'е, а не пад зямлёй, замураваны ў волкасць і шэрасць. Калі выкараскаўся з сутарэння і хапануў кіслароду, бы махануў сто грамаў, раптам зразумеў, што забыў пісталет. Ён

згубіў яго адразу пасля стрэлу, калі не разам са стрэлам, і пакінуў ляжаць на падлозе маўклівым сведкам забойства. Як гэта страшна гучала: забіў чалавека! Ды не ён, а пісталет, які з пісталета сведка, калі страляў пісталет! Пісталет і ёсць забойца! Але яго трэба вярнуць на месца, пакуль не позна. А калі позна? Што чакае яго дома? Арцём заскуголіў, як шчанюк, якога шпурнулі на вуліцу пад дождж і снег. Ён шкадаваў сябе, шкадаваў Тараса, якога ўжо не вярнуць, дык трэба хоць вярнуць пісталет і пазбавіцца ад найбольш верагоднай праблемы, бо ўсё ж дзядзькавага гневу баяўся так, быццам грэшнік пекла. Дзядзька лёгка мог яго забіць проста на вачах у бацькі. Бацька б і не рыпнуўся на яго. Арцём жа паміраць не хацеў, бо і не жыў яшчэ. Тарас таксама не хацеў паміраць, але так атрымалася. Выпадковасць. Ніхто не вінаваты. Судзіць трэба пісталет, бо стрэліў ён, па сваёй ахвоце, без папярэджання напаў на Тараса, як Гітлер на Савецкі Саюз. Супакойваючы сябе падобным чынам, Арцём вярнуўся ў памяшканне з целам Тараса на канапе. Пісталет застыў у нерухомасці за два крокі ад яе. З нутра зноў падбіралася хваля ванітаў, рабілася млосна. Арцём падабраў пісталет і паспяшаўся назад, на хаду клацнуў затворам, паставіў пісталет на засцерагальнік, быццам нацягнуў наморднік на пысу бульдога, схаваў пад кашуляй за спінай.

Пакуль выбраўся з падвала на двор, здавалася, мінула вечнасць. На самай справе прайшло паўгадзіны з моманту сустрэчы яго і Тараса. Сонца адно сабралася сысці на бакавую да загадзя падрыхта-

ванага аблокамі ложка пад барвовым балдахінам захаду. Арцём адвёў ад яго вочы, бо яно нагадала яму кроў сябра, і патэпаў дамоў. Сэрца яго замёрла, калі ён увайшоў у вітальню. З гасцёўні за шклянымі дзвярыма даносіліся гучныя галасы, тосты і п’янае прыцмокванне слоў. Хлопец разуўся і на дыбачках па сцэнцы прасачыўся да пакоя, у якім пасцялілі дзядзьку на ноч. Пустая кабура на скураным рэмені вісела на крэсле гэтаксама, як ён і пакінуў яе. Арцём запхнуў у кабуру пісталет, быццам запячатаў змяю кляпам, і адхапіў руку. З палёгкай выдыхнуў. Падаўся спінаю назад, да дзвярэй. Пры гэтым не зводзіў вачэй з кабуры-змяі, быццам тая магла выплюнуць кляп і накінуцца на яго, каб пакараць за глупствы. Потым зачыніўся ў сваім пакоі, паваліўся тварам у падушку, заплакаў. Наўзрыд. Затым уключыў музыку — «Рамштайн» — у спадзеве, што тая дапаможа яму забыцца. Праз некалькі гадзін яго затрэсла, бы ў ліхаманцы, ён пакрываўся потам з ног да галавы, паднялася тэмпература, а галаву апанаваў страшэнны боль: здавалася, што ў чэрап уставілі бур, як у шахце, і здабываюць нешта, не іначай прызнанне яго віны ў смерці Тараса, які, магчыма, і забраў бы Арцёма з сабой (удваіх усё не так страшна), ды перашкодзіла маці сябрука, якая зайшла ў пакой да сына, занепакоеная тым, што той не адгукаўся, колькі яго ні клікалі. Прыйшлося выклікаць «хуткую». Давялося рэаніміраваць. Па ўсіх прыкметах: мікраінсульт. Арцёма, тым не менш, паспелі выратаваць, але напалохаў ён усіх сваякоў. Яны з-за святочнага

стала перабраліся ў бальнічны калідор Першай гарадской клінікі, ламаючы галаву над тым, якім чынам хлопец мог падчапіць мікраінсульт, нібыта той быў вірусам. Дзядзька яго, як толькі даведаўся, што небяспека для жыцця пляменніка мінула, развітаўся з братам і з'ехаў. Ці здагадваўся ён, што пісталет натрапіў на прыгоды, пакуль гаспадар адпачываў?.. Ніхто і ніколі яго больш у Станіслававе не бачыў.

У той вечар Тарасава маці — мініяцюрная, падобная на вераб'я з-за птушынага выразу твару, але даволі прывабная жанчына — доўга не магла заснуць. Яе вялікія бледна-блакітныя вочы, амаль такога ж колеру, як пабляклыя ад сонца і мыцця сацінавыя фіранкі на вокнах у бібліятэцы, дзе яна працавала, незразумела ўзіраліся ў столь над ложкам (святла яна не выключала). У кутах столі павукі, невялікія з выгляду, але на доўгіх тонкіх лапках, здавалася, адпачывалі, хоць таксама пазіралі зверху на жанчыну з тым, аднак, адрозненнем, што не бачылі яе, яна ім не перашкаджала ў паляванні на мошак, якіх набілася ў пакоі процьма. Тыя праз адчыненую фортку ляцелі на святло, быццам загіпнатызаваныя, апякалі аб яго свае крыльцы. Некаторыя падалі на падлогу і разбіваліся, некаторых адкідала, быццам токам, у куты столі, дзе яны траплялі ў павуціну і заблытваліся ў ёй на радасць павукам, якія, зрэшты, ніяк той радасці не выказвалі, а былі нерухомымі ў чаканні ежы. Так ужо ў свеце заведзена: моцны з'ядае слабога, пакуль моцнага не з'есць мацнейшы за яго, і да бясконцасці паўтараецца адно і тое.

Тарас упершыню не прыйшоў начаваць дамоў, але маці яго, хоць і чакала, бо сын абяцаў прыйсці раней і дапамагчы ёй у бібліятэцы, падумала, што ў таго з'явілася нешта больш важнае за дапамогу ёй. Зразумела, ёй было непрыемна асэнсаваць той факт, што сын вырас і мае клопат не пра яе адну, таму і не стала яму тэлефанаваць, каб не патурбаваць незнарок. Аднак душу і сэрца вярэдзілі неспакойныя адчуванні і нават злосць, бо мог жа патэлефанаваць і папярэдзіць, каб маці не чакала і не хвалявалася за яго. Няўжо так цяжка набраць яе нумар і сказаць некалькі слоў? Яна хаця б заснула, бо зранку на работу ды яшчэ справаздачы пісаць... Гэта эгаістычна з яго боку і зусім на яго не падобна. Аднак усё адно не патэлефанавала сыну, варочалася з боку на бок у ложку, драмала, на працу выйшла без настрою і вельмі нагадвала ўскудлачанага вераб'я. Потым усё ж перасіліла сябе і патэлефанавала сыну. Аўтаадказнік абыякавым жаночым голасам паведаміў ёй, што абанент па-за зонай сеціва або выключаны, і параіў патэлефанаваць пазней. Тады пачала абзваньваць аднакласнікаў сына, ды тыя нічога не ведалі пра яго, нехта параіў звязацца з Соняй. Дзяўчынай з фотаздымкаў, якімі абвешаны быў увесь пакой Тараса. Як яна адразу не дадумалася? Ёй і трэба было тэлефанаваць. Аднак і Соня не ведала, куды падзеўся Тарас, прынамсі, яна сказала, што хлопец даволі рана сышоў ад яе ўчора, маючы намер дапамагчы маці на працы. Яна таксама адчувала неспакой, бо перад сном не атры-

мала звыклых і нават абавязковых паведамленняў з пажаданнем добрай ночы праз тэлефон. Набірала Тарасаў нумар, але той не адказваў. Абедзве зразумелі, што з Тарасам нешта здарылася. Маці яго звярнулася ў паліцыю, рукі яе калаціліся, яна заікалася ў намаганнях данесці да дзяжурнага сэнс уласных перажыванняў. Ды ніхто не хацеў пачуць болю жанчыны. Ёсць пратакол падобных спраў: толькі праз трое сутак пасля знікнення чалавека паліцыя пачынае варушыцца. Звычайна за гэты тэрмін чалавек знаходзіцца самастойна. Тарасавай маці параілі супакоіцца і вяртацца дамоў, дзе, магчыма, яе ўжо чакае сын, якога яна быццам бы згубіла. Жанчына хацела б, каб так і адбылося, спадзявалася на тое, спяшалася, ляцела дадому бы на крылах. Аднак Тараса не было. Ён не вярнуўся ні на другія суткі, ні на трэція, ні на чацвёртыя. У паліцыі стараліся не сустракацца вачыма з ёй. Тараса пачалі шукаць. Менавіта тады Соню ахапіў холад упершыню. Напэўна, каханне да Тараса сагравала яе, магчыма, рабіла няўразлівай. Не стала яго (хоць пра тое яшчэ ніхто не ведаў і нават не здагадваўся, акрамя, зразумела, Арцёма) не стала і цяпла, як і святла, якімі Тарас забяспечваў Соню напоўніцу. Дзяўчына мерзла на сонцапёку, бы ў мароз. Падрыхтоўка да іспытаў не давалася ёй, выслізгвала, быццам лядзяш з рук. Якая размова магла весціся пра вучобу, калі ўсе думкі яе былі толькі пра Тараса?! Невядомасць паглынала яе, з'ядала знутры, бы глісты. Паліцыя нічым не магла суцешыць. Усе

пошукавыя працэдуры скончыліся нічым, ніякай зачэпкі следчая група не выявіла. Пакуль раптам не загаварыў Арцём. Праз восем дзён свайго знаходжання ў клініцы. Правы бок яго паралізавала. Твар таксама перакрывіла. Хлопец увесь час бязгучна плакаў, слёзы каціліся па шчоках безупынку, пакідалі мокрыя празрыстыя сцяжынкі на скуры, быццам пракладалі для некага ці для нечага шлях. Маці яго таксама не стрымлівала слёзы, але адварочвалася да акна палаты, каб яшчэ больш не вярэдзіць сына, і насоўкай прамакала вочы. Аднак плечы ёй здраджвалі і ўздрыгвалі пры кожным нявольным яе ўсхліпе. Бацька Арцёма трымаўся мужна, як і належыць дзяржслужачаму, адно кусаў губы ад роспачы і жалю да сына, якому ён нічым не мог дапамагчы, бо не валодаў паўнамоцтвамі Бога, ад дотыку якога хлопец падняўся б на ногі ўмомант. Сем дзён Арцём знаходзіўся ў коме, тое, што яго паралізавала часткова, дактары лічылі добрай прыкметай і запэўнівалі бацькоў пра часовасць з'явы. Арганізм малады — адужае немач. Ды бяда, як кажуць, не ходзіць адна.

Захлёбваючыся ў плачы, глытаючы канчаткі, Арцём сіліўся данесці да бацькі тое, што зрабіў, і менавіта за гэта цяпер расплачваўся.

— Што ты такое гаворыш? — не разумеў яго бацька.

— Я не хацеў, — выў і скуголіў Арцём. — Не хацеў, чуеш, тата? Само атрымалася.

— Што атрымалася? — намагаўся пачуць сына бацька, але ў яго нічога пакуль што не атрымоўвалася.

— Там... у падвале... Тарас... — працягваў Арцём. Яму было цяжка і маральна, і фізічна прызнавацца ў здзейсненым.

— Тарас? — прыслухалася маці і хутка адышла ад акна, прысела на краёк ложка сына.

— Так, Тарас, — пацвердзіў Арцём.

— Што з Тарасам? — мякка запытала ў яго маці.

— Ён там... ляжыць... адзін...

— Дзе там?

— У падвале... у школе... нежывы...

— Нежывы? — нарэшце дайшоў сэнс сказанага да бацькі Арцёма.

— Я не хацеў... — пускаў пузыры з рота хлопец.

— Што не хацеў? — бацькаў твар пахмурнеў на вачах у прадчуванні непапраўнага.

— Выпадкова... Пісталет стрэліў сам...



— Зачыні дзверы ў палату! — пачуўшы апошнія словы сына, хутка загадаў жонцы бацька Арцёма. Тая ўмомант яго зразумела і выканала загад.

— Які пісталет? — нахіліўся над хлопцам.

— Дзядзькаў... я яго скраў... — прызнаўся Арцём. — Хацеў паказаць Тарасу... А ён стрэліў...

— Тарас стрэліў?

— Не... пісталет стрэліў сам у Тараса.

— Божа! — схапілася рукой за сэрца маці Арцёма.

— Як пісталет мог стрэліць сам? — даволі голасна выгукнуў бацька.

— Не крычы! — асадзіла яго жонка.

— Я не вінаваты... не вінаваты... — запэўніваў іх сын.

— Дзе ён? — жорстка запытаў бацька.

— У падвале... там... хады падземныя мы знайшлі... ніхто не ведае пра іх... ён там... у школе... у тых хадах. Там люк пад сталом...

— Хадзем са мной! — сказаў бацька Арцёма жонцы, і яны імкліва выйшлі з палаты, пакінулі клініку і накіраваліся ў бок свайго дома, да школы.

Падвал, як і заўжды, быў адчынены. Яны бесперашкодна дабраліся да ламачча, побач з якім пад стальніцай выявілі схоў. Бацька Арцёма першым спусціўся ўніз, пасвяціў сабе тэлефонам, абмацаў святлом ад тэлефона сцены і столь, натыкнуўся позіркам на рубільнік, пацягнуў на сябе, успыхнула, але ляніва, як бы не хочучы, электрычнае святло. Тады дапамог спусціцца жонцы.



— Кашмар нейкі! — азірнулася вакол сябе жанчына. — І гэта адбываецца з намі? — ці то да мужа звярнулася, ці то пытанне было рытарычным. У любым выпадку, муж яе не адрэагаваў. Ён марудна рухаўся наперад, і яму не падабалася тая сітуацыя, якая вымалёўвалася сваёй жорсткай відавочнасцю проста на вачах. Прызнанне сына насцярожыла яго, але не напалохала, не верылася, што Арцём здзейсніў злачынства, пра якое так эмацыйна распавёў, хутчэй за ўсё гэта вынік крывацёку ў мозг, парушэнне ўспрыняцця рэчаіснасці, ва ўсякім разе падобна на тое. Аднак лаз і падземны ход пад ім — не прытрызнены хворай фантазіяй пад уздзеяннем лекаў — вось ён, як на далоні, сапраўдней за якую-небудзь сапраўднасць. І ўсё ж да апошняга бацька Арцёма спадзяваўся на тое, што сын нагаворваў на сябе.

Жонка першаю адчула саладкаваты пах мерцвяка. Затым і яму ў нос ударыў трупны пах, быццам кулаком у баксёрскай пальчатцы. Яго галава хіснулася, як ад сапраўднага ўдару. Крокі Арцёмавых бацькоў міжвольна замарудзіліся, асуджана, бы па інерцыі, аднак, усё ж рухаліся далей. Маці хлопца галасна ўскрыкнула, калі пабачыла цела Тараса, вочы яе пашырыліся ад жаху пабачанага. Пальцы і вушы юнака былі з'едзены пацукамі, месца раны таксама згрызена. Бацьку Арцёма кінула ў халодны пот, але не ад жалю да загінулага, Тараса ўжо не вернеш, жаль агарнуў яго да сына, якому давядзецца адказваць, нягледзячы на тое, што ён ужо расплачваўся за смерць сябра ўласным здароўем. Патыхала катастрофай і для яго, і для ўсёй сям'і. Яе непазбежнасць адчувалася проста зараз, і пахла яна смерцю.

Жонка скуголіла і галасіла, кружыла на адным месцы, быццам ганялася за хвастом, як кошка. Бацьку Арцёма яе паводзіны раздражнялі і выводзілі з раўнавагі. Ён ледзьве стрымліваўся, каб не спагнаць усю сваю злосць, увесь свой адчай на ёй.

— Сціхні! — усё ж працадзіў, не накрычаў. Ды няхай бы накрычаў, магчыма, лягчэй бы стала. Хаця не, не стала б. І не стане ўжо ніколі.

Жанчына падняла на мужа вочы, страшныя, ахопленыя страхам, быццам завязаныя ім, як стужкай.

— Давай на паветра! — загадаў ён. — Выклікай паліцыю! — Як?.. — усхліпнула тая.

— Рабі, што я кажу, — упэўнена вымавіў Арцёмаў бацька і падштурхнуў жонку да дзеяння: адпіхнуў ад сябе рукой у плячо.

Яе ногі запляталіся, калі яна ішла назад, цела кідала ў бакі, плечы балюча шорхаліся аб сцены. Муж ішоў следам, панурыўшы галаву.

Свежае паветра ап’яніла, рыхтык сто грамаў каньяку, калі выбраліся з падвала. Жанчына палезла па тэлефон у сумачку. Рукі яе не слухаліся. Тэлефон выслізнуў і разбіўся аб асфальт. Запчасткі, гарэзліва падскокваючы, разляцеліся па баках. Жанчына стомлена наблізілася да бліжэйшага дрэва, абняла камель і павольна спусцілася па ім да зямлі, абліваючыся слязьмі.

Арцёмаў бацька выклікаў паліцыю і «хуткую». Паведаміў, што знайшоўся Тарас і што ён чакае іх каля школы.

Неўзабаве высветлілася, што хлопца можна было ўратаваць, калі б Арцём паклікаў каго-небудзь на дапамогу. Тарас памёр толькі праз паўгадзіны пасля атрыманага ранення. Арцёма судзілі. Улічваючы стан здароўя хлопца, суд прысудзіў яму сем гадоў пазбаўлення волі ўмоўна. Бацька Арцёма мусіў сысці з працы: асуджальныя позіркі кожнага наведвальніка дзяржадміністрацыі, здавалася, праціналі яго наскрозь. Ён дамовіўся з судовымі выканаўцамі на пераезд з Станіслававa ў іншую мясцовасць: так было лепш і для горада, і для сям’і Арцёма. Потым яны ўвогуле з’ехалі некуды ў Беларусь, на радзіму Арцёмавай маці.

Соня, здавалася, таксама памерла разам з Тарасам. Было такое адчуванне, што яе пахавалі разам з ім. Выглядала яна як жывы мярцвяк. Пераўтва-

рыцца ў чалавека, зразумела, адбылося не адразу, паступова. На пахаванні дзяўчына ледзь не страціла прытомнасць, калі труну з целам хлопца апусцілі ў яму і пачалі закопваць. Соня пахіснулася і, як самнамбула, зрабіла крок да яе, маючы, відаць, намер, магчыма, неасэнсаваны, скочыць у магілу, каб і яе таксама закапалі разам з каханым. Аксана паспела ў апошнюю секунду затрымаць сястру і адцягнуць убок. Але ўдзячнасці ў яе позірку не пабачыла. Толькі боль, які пасяліўся павуком у зарумзаных вачах. Зрэшты, у той дзень Соня не плакала, слёзы, нібы лёд, застылі ў кутках яе вачэй. Адно плечы ўздрыгвалі ад душэўнага холаду, ад пустэчы, у якую гэты жорсткі свет акунуў дзяўчыну, пакінуўшы ёй адзіноту і пакуты. Ніхто не верыў, што Соня была здатная на такія глыбокія пачуцці, бо ў сучаснай рэчаіснасці ім асабліва не надавалі ўвагі, адмахваліся з-за недахопу часу: каханне лічылася раскошай, якая даўно належыць сферы літаратуры. Грамадства ўспрымала пакуты кахання выключна на старонках раманаў, курчылася і перажывала разам з выдуманымі персанажамі, але нават уявіць не магло, што кніжныя жарсці магчымыя наяве. Дзяўчына яшчэ не бачыла жыцця, казалі пра Соню, не пакаштавала яго на смак, не адрознівала, што добра, а што дрэнна, не мела за плячыма важкага заплечніка з досведам, каб прэтэндаваць на месца фаварыткі кахання. Яго заслужыць трэба, ды не абы-якімі вартасцямі, а імі яна дакладна не валодала. Нават бацькі сумняваліся ў малодшай дачцэ, згаджаліся з агульным меркаваннем і спадзяваліся на

хуткае вяртанне Соні ў шэрагі нармальных жыхароў горада, не разумеючы, чаму тая ўпарцілася і выдавала сябе за тургенеўскую паненку. Аднак Соня не іграла ніякай ролі, яна і была той тургенеўскай паненкай, якіх нараджаецца некалькі на стагоддзе. Яна адчувала свет інакш, бо ўмела кахаць і ведала болей за кожную абцяжараную ўласным жыццёвым досведам жанчыну. Тыя жанчыны толькі рабілі выгляд, што кахалі, бо так было прынята грамадствам, каб выйсці замуж і нарадзіць дзяцей, стварыць сямейны вулей і ахвяраваць ім дзеля ненажэрнай дзяржавы. Соня дзяржаве нічога не хацела аддаваць, ні каліва сваёй душы, якая ўжо належала Тарасу. Праз дзень пасля пахавання яна прыйшла да яго маці, у кватэру, дзе ён жыў, калі быў жывы, і дзе яна ніколі не была. Яны разам пасядзелі ў яго пакоі, абвешаным, быццам шпалерамі, фотаздымкамі рознай велічыні і якасці з яе адлюстраваннем. Паплакалі. Затым пайшла на могілкі, лягла на свежы грудок магілы Тараса, нібы прытулілася да яго грудзей, і праляжала да таго часу, пакуль яе не знайшлі і літаральна неададралі з таго грудка. Соня супраціўлялася, істэрычна крычала і скавытала, каб яе пакінулі ў спакоі і дазволілі памерці, бо жыцця без Тараса не ўяўляла. Тата сілай запіхнуў дачку ў машыну. Знаёмыя яго раілі звярнуцца па дапамогу ў псіхлякарню, бо Сонін стан палохаў і пагражаў іх дабрабыту, невядома, праўда, якім чынам. Верагодней за ўсё, негатыўна ўздзейнічаў на іх стабільны спакой, што ўдасканальваўся гадамі, падманліва непахісны, як дзіцячая вежа з кубікаў.

Тата закрыў кратамі вокны ў пакоі дачкі і зачыніў яе там, папярэдне вынес адтуль небяспечныя для яе здароўя рэчы. Такім чынам, Соня апынулася за кратамі. Бо за каханне трэба плаціць. У першую чаргу грамадству. А яна гэтага не зрабіла, бо палічыла, што каханне належыць толькі ёй з Тарасам, і мела рацыю. Так і павінна быць у цывілізаваным асяроддзі. На жаль, сучаснае чалавецтва чым далей сягае ў цывілізацыю, тым бліжэй да дзікунства: замяняе каханне на яго сурагат — секс. Гэта тое самае, што цукар у сваім рацыёне падмяніць яго замяніцелем. Нібыта той жа эфект, але розніца вялікая.

# 3

Томас усміхаўся. Усміхаўся гэтаксама, як і Тарас, на ўвесь рот, дэманструючы бездакорнай формы і чысціні зубы са шчарбінкай, аднак, паміж двух верхніх. Ад усмешкі цяплелі яго вочы, падаваліся раднейшымі, у іх скакалі гарэзлівыя чорцікі, якіх можна было нават разгледзець, калі пільна прыглядзецца. Усмешка Томаса, як і Тараса, выпраменьвала дабро і, здавалася, лашчыла тых, каго краналася. Аксана адчула гэта адразу, як толькі Томасава ўсмешка, быццам сонечная далонь, кранулася яе шчок, і тыя запунсавелі ад задавальнення, што не зусім добра, бо дзяўчыне карцела, каб пяшчотныя дотыкі не супыняліся, нягледзячы на ўважлівы позірк Соні, якая не зводзіла з сястры вачэй, зрэшты, па іншай прычыне, а не па той, пра якую падумала Аксана і раптам засмяялася. Лёгка, звонка і заразліва. Не стрымала смеху і Соня, і Томас, нічога не разумеючы, мусіў падтрымаць маладых жанчын, каб не здавацца няветлівым.

— Можа, сходзім куды-небудзь? — прапанавала пасля Аксана і дадала: — Калі вы не супраць і маеце

час? Бо не вельмі хочацца, — прызналася, — калі шчыра, ісці да бацькоў зараз.

Соня з Томасам абмяняліся позіркамі, бы мяккімі цацкамі, якімі ўражваў пакой дзяўчыны ў бацькоўскай кватэры. Разнастайныя прадстаўнікі флоры і фаўны купкаваліся на ложку, над ложкам (на адмысловай паліцы), на падаконніку, такім шырокім, што на ім можна было спаць (звычайна Соня выкарыстоўвала падаконнік дзеля чытання, падкладала пад спіну падушку, выпроствала ножкі і давала нырца ў той ці іншы раман, а калі той надакучваў, вярталася ў рэчаіснасць і кідала тужлівыя позіркі ў акно), на шафах і на падлозе па кутах.

Томасу падабалася ў Станіслававе, таму ён згодна кіўнуў. Да таго ж цікавасць іншаземца да тутэйшых славутасцяў узрастала з кожным новым адкрыццём. Яму таксама не хацелася вяртацца ў кватэру, бо адчуваў там сябе няёмка пад цяжкім позіркам Сонінага і Аксанінага таты. Лепш увогуле прыйсці ўжо на вячэру, калі збяруцца ўсе сваякі.

— Горад папрыгажэў, — звярнулася Соня да сястры. — Выглядае як карцінка з дарагога глянцавага часопіса. — І дадала: — Таму нават мне цікава штосьці адкрываць наноў.

— Так, — пагадзіўся Томас, — у Штатах падобнай архітэктуры вобмаль. — Абвёў вокам вакол сябе, бы намаляваў кола...

— Батан-Руж выключэнне, — падтрымала мужа Соня, — таму мы і аселі ў ім.

— Зразумела, — працягнула Аксана. — І дзе вы ўжо былі?

— У бастыёне, — усміхнулася Соня. — Першае ўзгаданае месца, куды б я хацела прывесці Томаса. Да таго ж там ёсць выстава тваіх фотаработ, — дакранулася рукой да пляча Аксаны.

— Гэта цудоўна! — усклікнуў Томас, маючы на ўвазе фотавыставу.

— Дзякую, — не без задавальнення адгукнулася Аксана, але ў той момант глядзела сабе пад ногі. — У палацы Патоцкіх няма жадання паблукаць? — падняла вочы на сястру.

— Палац Патоцкіх? — зацікавіўся Томас.

— Так, — кіўнула Аксана, — я толькі што там заняткі праводзіла з дзецьмі. Дужа атмасфернае месца, дзе гісторыяй дыхае нават паветра.



— Там жа шпіталь быў, — без аптымізму прыгадала Соня.

— Быў ды сплыў, — спыніла сястру Аксана.

— Дык добра, — узняла рукі ўгару Соня. — Я, як большасць, —прамовіла яна, паглядзеўшы на Томаса.

— Хадземце! — рашуча вымавіў той.

— Ну, тады за мной! — загадала Аксана.

Яна ведала: госцю спадабаецца тое, што ён пабачыць. І не памылілася. Томас не стрымліваў захаплення ад убачанага. Магчыма, стан заняпаду, у якім досыць працяглы час знаходзіўся палац, уразіў яго больш, чым калі б гэты архітэктурны старадаўні ансамбль быў рэстаўраваны. Адсутнасць вокнаў ці шкла ў аконных праёмах абурыла амерыканца. Ён нават адчуў

боль будынкаў, той боль, якім іх пакаралі немаведама за што, па-дзікунску пазбавіўшы вачэй, наўмысна асляпілі памяшканні, забыўшыся, а мо і не памятаючы альбо не ведаючы, як тыя памяшканні ратавалі цягам стагоддзяў тысячы людзей, сагравалі сваім цяплом і спраўна давалі прытулак. Зрэшты, памяць непадуладная варварам. Яна ім у прынцыпе непатрэбна, як непатрэбна і гісторыя, бо абцяжарвае розум, а насіць цяжар ва ўласнай галаве — няма дурных. З якім бы задавальненнем Томас адпомсціў тым вылюдкам, якія пазбавілі палац зроку, пашкодзілі і зруйнавалі яго лёгкія, ныркі і сэрца, знішчылі сад і пакінулі паміраць: улетку ад спёкі, зімой ад холаду, дажджу, снегу і вятроў. Без ваганняў Томас натоўк бы пысу кожнаму вінаватаму ў здзеку над гістарычным помнікам даўніны. Абшарпаныя сцены, з якіх шпалеры звісалі вушамі спаніеля і абсыпалася тынкоўка, у многіх месцах памечаныя дзіркамі ад куль; высокія столі, з якіх таксама сыпалася тынкоўка, а часам адвальвалася цэлымі кавалкамі, — выклікалі тужлівы жаль, але і незразумелую, невытлумачальную годнасць, пачуццё прысутнасці, датычнасці да гісторыі і войн, што засталіся ў памяшканнях палаца нябачнымі прывідамі, нікуды не зніклі і не збіраліся сыходзіць. Разам з паветрам уваходзілі ў кожнага, хто заходзіў да іх, даказвалі сваё існаванне, прасілі дапамогі не знішчаць, а ўратаваць тое, што засталося. У падземных збудаваннях, што ўдалося валанцёрам ачысціць і так-сяк зрабіць прыдатнымі для агляду (а колькі яшчэ працы па ачыстцы іншых!), дух ажно займала. Здавалася, прывіды

стаялі проста за спінай; здавалася, было нават чуваць, як яны перасоўваюцца з-за лёгкага, ледзь улоўнага павеву ветрыку. Цемра, плотная навобмацак, быццам заслона ў тэатры, толькі дадавала ўпэўненасці ў існаванні прывідаў. Яна не баялася нікога і нічога і лёгка адбівалася ад святла тэлефонаў, нібы глытала яго. Паветра ў падзямеллі, здавалася, можна было памацаць, як і цемру. Яно нагадвала мокрую анучу і пагражала не на жарт адвесіць тузін аплявух някліканым гасцям. Соня адчула намер паветра першаю і агучыла яго ўголас. Ёй адразу не спадабалася ідэя спусціцца ў лёхі, лепш бы яна пачакала наверсе, але Томас угаварыў яе. Гэта ж прыгоды, сапраўдныя прыгоды, вартыя найкруцейшых квестаў! Уласны голас дзяўчыне падаўся чужым. Здавалася, нехта невядомы і нябачны перасмейваў кожнае вымаўленае Соняй слова. Яна спалохана ўскрыкнула і падалася да святла, выразна адчуваючы, як нябачныя ліпкія пальцы з трупным пахам хапаюць яе за плечы. Томас таксама адчуў, як варушацца на галаве валасы ад жудасці, але ён ведаў дакладна, што цемра толькі палохае, выдае за рэчаіснасць тое, чаго на самай справе няма. Аксана, хоць і не была палахліўкай, але агульны настрой малодшай сястры перадаўся і ёй, таму паспяшалася следам за Соняй. Томас з’явіўся на сходах да выхаду на паверхню праз некалькі хвілін пасля дзяўчат. Яго каханая кінулася да яго, як да ратаўніка. Яе трэсла. Аксана зразумела, што неадкладна трэба выходзіць на двор, да сонца. Уздыхнулі з палёгкай толькі тады, калі апынуліся ў бяспецы, пад аховай закінутага сада,

які таксама чапляўся за ногі калючым хмызняком, пакідаючы на калашынах мініяцюрных «вожыкаў».

— Што гэта было ўвогуле?!. — запытала Соня, азіраючыся на маўклівыя сцены палаца Патоцкіх, але незразумела было, да каго яна звярталася. — Ты таксама адчула, праўда ж? — мовіла да сястры.

— Так, — усміхнулася Аксана, але нічога вясёлага ў яе ўсмешцы не назіралася. — Дзіўныя адчуванні, трэба сказаць.

— У будынках са шматгадовай гісторыяй своеасаблівая аўра, — заўважыў Томас. — Яны жывыя, як мы з вамі.

— Ды ну цябе! — прыпыніла высновы каханага Соня.

— Мабыць, Кінга начытаўся? — уголас падумала Аксана.

— Кінгу, сапраўды, не перашкодзіла б наведацца ў гэты палац, — падхапіў Томас размову. — Шыкоўны б твор напісаў пасля экскурсіі па ім.

— Яму і без экскурсіі хапіла б фантазіі на чарговы трэшак, — запэўніла Соня, якая ў свой час захаплялася творамі майстра жахаў, але выпрабоўваць тыя жахі на ўласнай скуры не мела ніякага жадання.

— А мне спадабалася, — прызнаўся Томас. — Адрэналін і ўсё такое...

— Томас! — зноў абарвала яго Соня. І Аксана падумала, што сястрычка, відаць, галоўная ў маладой сям'і. Ва ўсякім разе, падобна на тое, бо Томас заўжды слухаўся жонку.

— Давайце я вас лепш сфатаграфую на фоне палаца, — прапанавала яна маладзёнам.

Соня з Томасам не запярэчылі і паслухмяна сталі побач на той адлегласці ад Аксаны, якая ёй патрабавалася для годнага кадра. Адно каб не дужа блізка да палацавых сцен, бо па словах Соні, яны яе палохалі. Дзяўчыне мроілася, што праз вокны, дакладней, дзіркі ад вокнаў на яе вось-вось скочаць якія-небудзь монстры і зацягнуць наўпрост у пекла. Томас абяцаў яе ўратаваць, але Соня не зусім верыла ў яго сілы, бо чалавек, якім бы ні быў асілкам, заўсёды прайграе звышнатуральным істотам, прынамсі, пра тое сведчаць адпаведныя літаратура і кіно.

— Дарэчы, —прамовіла Аксана, — спачатку палац быў драўляным. Ён знаходзіўся на месцы сучаснай грэка-каталіцкай катэдры і менавіта ў ім нарадзіўся сын Андрэя Патоцкага — Станіслаў. Гэты палац будаваўся адначасова з горадам і хутчэй за ўсё яму адводзілася роля часовай рэзідэнцыі, — распавядала яна і адначасова кіравала сястрой і Томасам, дзе і як тым стаць, каб атрымаўся добры фотаздымак.



Томас уважліва слухаў Аксану, прыслухоўваўся да кожнага слова, каб запомніць і, хто ведае, можа, распавесці дзе-небудзь у Амерыцы. Соня таксама не без цікавасці слухала сястру, бо раней нават ніколі не задумвалася пра гісторыю палаца і ніколі не звяртала на яго ўвагу. Зрэшты, магчыма, таму, што палац тады з усіх бакоў быў абгароджаны высокім жалезным плотам і з'яўляўся нечай прыватнай уласнасцю.

— Адзін з еўрапейскіх падарожнікаў, — працягвала Аксана, — які наведаў Станіславаў у 1687 годзе,

напісаў у сваіх успамінах, што «пабачыў новы палац, пабудаваны з каменя і выдатна ўпрыгожаны». Ён уяўляў сабой трохпавярховы будынак, — Соня і Томас азірнуліся назад, каб упэўніцца ў праўдзівасці Аксаніных слоў, — які хаваўся ў глыбіні саду і мусіў па плане складацца з цэнтра, левага і правага крыла. Аднак у XVIII стагоддзі паспелі пабудаваць толькі цэнтр і левую частку. У цэнтры саду знаходзілася старая кухня, а па баках, быццам каменныя вартавыя, асталі новая кухня і другасныя памяшканні для яе. Гэтыя двухпавярховыя збудаванні з грубымі сценамі, якія захаваліся дасюль, адначасова выконвалі яшчэ і абарончую ролю. Ад горада палацавы комплекс адгароджваў драўляны плот з каменнымі слупамі, сапраўдным упрыгожваннем якога стала парадная ўязная брама, аздобленая ваеннымі даспехамі. Плошча перад агароджай называлася эспланадай і была вольная ад усякай забудовы. У выпадку пажару агонь спыніўся б на гэтай пустцы, а пры абароне палаца яна дазваляла весці артылерыйскі агонь з саду па плошчы. У канцы XVIII стагоддзя патрабаванні бяспекі трохі памякчэлі, што дазволіла ўзвесці на эспланадзе стайню і вазоўню, дзе захоўваліся панскія карэты. На жаль, ні планаў, ні графічных малюнкаў палаца не захавалася. Аднак да нас дайшло апісанне яго аздаблення ў XVIII стагоддзі. Такім чынам, замак у ніжняй частцы складаўся з шасці невялікіх скляпеністых пакояў, кухні і сенцаў. Па вінтавой лесвіцы падымаліся на другі паверх, «да вялікай залы з паркетнай падлогай, палатнянай бела-маляванай

столлю і дзвярыма, за якімі хаваліся спальны пакой і «гардэробка», далей «пакой для жанчын», «кавярня», другая «гардэробка», пярэдні пакой. Да выхаду на вал (ён з трох бакоў акружаў палац з усімі яго пабудовамі) вяла пара вялікіх зашклёных дзвярэй. За імі быў мост, які выводзіў аж да вала. У зале ўсе сцены абабітыя палатном з рознакаляровымі паласамі. З гэтай залы праз падвойныя, пафарбаваныя набела, з пазалочанай лістотай дзверы можна было патрапіць у пакой кампаніі з дубовай падлогай, белай палатнянай столлю, шафавідным камінам з цэглы, двума падвойнымі вокнамі». Трэці паверх складаўся з васьмі пакояў, даволі сціпла абстаўленых. Зразумела, што за доўгую гісторыю існавання палац бачыў у сваіх сценах шмат ганаровых гасцей. Акрамя, вядома, шматлікай сям'і Патоцкіх, тут спыняўся і польскі кароль Ян III Сабескі, і ўладар Трансільваніі Ферэнц II Ракоцы, знаходзілі прытулак жонка і дочкі ўкраінскага гетмана Піліпа Орліка, і нават аўстрыйскі імператар Іосіф II завітваў сюды. Як і кожная магнацкая сям'я, Патоцкія проста вымушаны былі жыць заможна. Таму даволі часта ладзілі балы, званыя вечары, вяселлі і іншыя забавы. Калі нарадзіўся французскі прынц, што прыходзіўся сваяком жонцы ўладальніка Станіслававa, то ў палацы зладзілі феерверк у гонар венцаноснага немаўляці. Акрамя вясёлых святаў адзначалі і сумныя падзеі. Так, эпідэмія чумы 1729–1730 гадоў забрала жыцці многіх прадстаўнікоў сям'і, а пахаванне Язэпа Патоцкага ў 1751 годзе наогул набыло маштабы дзяржаўнай значнасці. Ад-

нак з пераходам Галічыны пад уладу Аўстрыйскай імперыі ўплыў Патоцкіх на горад рэзка паменшыўся, а пасля банкруцтва апошняга ўладальніка Станіслава Прота Патоцкага ў 1801 годзе горад наогул перайшоў у дзяржаўную ўласнасць. Аўстрыйцы зрабілі з палаца ваенны шпіталь, які больш за дзвесце гадоў не мяняў свайго прызначэння. Зразумела, што новыя гаспадары перапланавалі палац згодна з яго новым прызначэннем і знішчылі інтэр'ер. У першай трэці XIX стагоддзя, падчас пажару згарэла цэнтральнае крыло збудавання. Вайскоўцы не сталі аднаўляць яго, а проста разабралі. Так што неяк так...

Аксана без усякага пераходу ад аповеду звярталася то да Томаса, то да Соні, падказвала, як ім лепш стаць, каб кадр атрымаўся ўдалы, змяняла адну за другой лакацыі, бо недзе сонца перашкаджала, недзе, наадварот, дапамагала святлом ухапіць тое няўлоўнае ў тварах, што звычайна не заўважаецца, што бачна, і тое не заўсёды, толькі праз аб'ектыў камеры. Яе бездакорная акцёрская дыкцыя, хочаш не хочаш, быццам спакушала і трымала на сабе ўвагу гэтаксама, як чароўная дудачка ў вуснах факіра — кобру ці анаконду. Соня, уражаная ведамі сястры, хоць і мусіла памятаць пра жарсць Аксаны да гісторыі, не стрымалася выказаць сваю захопленасць ёю.

— Ты сапраўдная Вікіпедыя! — усклікнула яна, калі Аксана прыпыніла «лекцыю».

— Гэта зараз сарказм такі быў ці камплімент, не разумею? — прымружыла вочы Аксана, бо яна павярнулася тварам да сонца, і яно нязграбна лашчыла яе.

— Ды я ў захапленні ад тваіх ведаў! — правуркатала Соня, наблізілася да сястры і абняла яе. — І адкуль толькі ты ўсё гэта памятаеш?..

— Мушу прызнацца, — уздыхнула Аксана жартоўна, — што Вікіпедыя адпачывае ў параўнанні са мной. Але думкі твае мне падабаюцца, — цмокнула Соню ў шчаку.

— Экскурсаводам, часам, не падпрацоўваеш тут? — кіўнула Соня на палац, маючы на ўвазе той факт, што пусцілі іх у зону палацавага ансамбля бесперашкодна.

— Пакуль не, — шчыра адказала Аксана, — але ідэя спакуслівая. Хаця, — імгненне падумала, — не ў маім выпадку.

— Што так? — пацікавілася Соня.

— Не ў тым ужо ўзросце, прабач, каб займацца альтруізмам.

— Грамадскі пачатак, значыць, цябе не прываблівае?

— Ні кроплі.

— А як жа вялікае мастацтва ў масы? Народ павінен ведаць сваіх герояў?..

— Соня, прыдушу цябе зараз! — не стрывала Аксана кепікі сястры, але кожная ведала, што гэта толькі словы, прычым не пагрозлівыя, а гарэзлівыя. Тым не менш Соня зрабіла выгляд, што спалохалася і адбегла да Томаса. Побач з ім яна не баялася паказваць Аксане язык. Амаль як у дзяцінстве. Соня нешта ўтворыць, атрымае ад Аксаны на гарэхі (не балюча, звычайна, але непрыемна) і бяжыць скардзіцца да таты. Той, зразумела, насварыцца на старэйшую дачку,

пакіне без прысмакаў альбо пакарае нейкім іншым чынам, а малодшая тым часам выглядвае з-за яго спіны і робіць міны Аксане ці высалупвае язык. Гэта яна ўмела: задурыць тату галаву і віць з яго вяроўкі. З самага маленства Соня лічылася татавай пястухай. Аксана ж ніколі не апраўдвалася, не даказвала ні віну сястры, ні сваю невінаватасць. Моўчкі зносіла пакаранне, няхай і несправядлівае, бо лічыла ніжэй уласнай годнасці дарма нешта даказваць. Занурвалася ў гістарычныя раманы і прападала ў іх: забывалася на навакольны свет, тату і Соню разам узятых. Магчыма, дзякуючы Соні, яе непрыгожым паводзінам у дзяцінстве, Аксана і захапілася гісторыяй. Спачатку праз кнігі Дзюма, Вальтэра Скота, творы пра Анжаліку, потым з'явілася цікавасць да больш сур'ёзнай літаратуры, датычнай айчыннай мінуўшчыны, да лёсу змагароў з УПА, постацяў Бандэры і Мельніка, Віннічэнкі і Франко. Неўзабаве надышла чарга захапіцца гісторыяй роднага горада, яго вуліц і будынкаў. Да прыкладу, сучасная вуліца Яўгена Канавальца — першага лідара АУН (Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў), палкоўніка Арміі УНР, подла забітага нкусаўцамі ў 1938 годзе, якую Аксана пешшу вымерала ўздоўж і ўпоперак, бо тая падзяляла яе дом па вуліцы Петлюры ад дому бацькоў, да таго ж злучала з Цэнтрам, — доўгі час мела назву Зосіна Воля. Аксана ведала аж тры легенды, якія тлумачылі паходжанне назвы. Паводле першай легенды, вуліцу назвалі ў гонар Сафіі Патоцкай (папольску Zofia, ласкальна Zosia), дачкі Язэпа Патоц-

кага і Вікторыі Ляшчынскай. Дзяўчына вылучалася дабрынёй і міласэрнасцю, ахвотна дапамагала бедным. Гарадскія жабракі і калекі пераважна жылі якраз на гэтай вуліцы, і Сафія разам з маці іх часта наведвала. Паданні сведчылі, што Сафія Патоцкая, акрамя таго, мела не абы-якую прывабнасць, таму хворыя адчувалі сябе лепш з-за адной толькі прысутнасці побач з красуняй. Па просьбе дачкі Язэп Патоцкі пабудаваў там прытулкі і вызваліў жыхароў вуліцы ад выплаты падаткаў.

Паводле іншай версіі, Сафія была зусім не добрай і міласэрнай, а вельмі капрызнай паненкай. Аднойчы ёй прыйшло ў галаву пакатацца на санках... летам. Каб выканаць капрыз дачкі, Язэп Патоцкі загадаў засыпаць вуліцу соллю, якая ў тыя далёкія часы каштавала вельмі дарага. Дзяўчына праехалася па вуліцы на санках, а жыхары пасля пазбіралі соль для ўласных патрэб. З тых часоў вуліцу пачалі называць Зосінай воляй.

Існавала і трэцяя версія: Зося з'яўлялася не высакароднай паненкай, а... прастытуткай. Дзяўчына служыла ў аднаго багатага мясцовага спадара, сын якога закахаўся ў бедную служанку. Раз'юшаны спадар, які чакаў зусім не такой нявесткі, выгнаў служанку з дому і паклапаціўся, каб яна нідзе ў горадзе не магла ўладкавацца на працу. Каб выжыць, Зося гандлявала ўласным целам і, дзякуючы сваёй прыгажосці, набыла вядомасць у горадзе. Аднак працаваць мела права толькі на той вуліцы, дзе жыла, гэта значыць толькі там мела волю.

На вуліцы Нізавой, непадалёк ад абласнога мастацкага музея, у будынку лазні, між іншым, збіраліся ў 1892 годзе радыкалы на чале з Іванам Франко. Вуліца гетмана Івана Мазепы вядомая з 1798 года; яна з'яўлялася дарскай дарогай, вяла ад Станіслава да паселішча Лісец, у якім меўся хутар Гарадзішча, які савецкая ўлада знішчыла за падтрымку УПА, зараз, відаць, найдаўжэйшая, і вядзе да парку Шаўчэнкі, гарадскога возера і моста, праз які можна патрапіць на выспу Кахання. Таксама на вуліцы размешчаны Музей Алексы Доўбуша...

Аксана натхнялася водарам звестак пра родны горад, якія акрылялі яе. Яна нават адчувала тыя крылы за спінай. Ёй здавалася, што яны насамрэч растуць з яе, вылузваюцца праз скуру, быццам парасткі з зямлі, і выклікаюць прыемны сверб пад лапаткамі. Валоданне таямніцамі мінуўшчыны, датычнасць да падзей і людзей, якія ніколі не паўторацца, але ўсё адно існуюць у памяці цікаўнай дзяўчыны, прычым жывейшыя за любога сучасніка, уздымалі Аксану ва ўласных вачах, надавалі ёй значнасці і ўпэўненасці ў сабе. З ёй размаўлялі будынкі горада — помнікі архітэктуры дзевятнаццатага стагоддзя, — якіх засталося яшчэ багата, асабліва ў Цэнтры, быццам з уладаркай, давяралі ёй і дзяліліся набалелым. Кранаючыся халодных звонку сцен каменных дамоў, Аксана чула іх цяпло, чула дыханне і біццё сэрца кожнай пабудовы. Яна гладзіла іх так, як бы гладзіла адданага пса, казычучы ў яго за вушамі. Без гісторыі дзяўчына не ўяўляла далейшага жыцця і не сумнявалася,

што пасля школы паступіць на гістарычны факультэт, каб працягваць вывучаць мінуўшчыну роднага краю, які столькі захоўваў таямніц і незвычайных скарбаў, што хапіла б на дзясяткі жыццяў пасля яе. Прынамсі, Аксану дужа хвалявала пытанне, як выглядаў Станіславаў у першапачатковым, некранутым ні бурамі стагоддзяў, ні войнамі выглядзе. Не без яе ўдзелу быў створаны яго графічны макет паводле таго кавалка бастыёна, у якім сёння адбываюцца разнастайныя імпрэзы і мерапрыемствы, ды куды, быццам у Меку, прыходзяць турысты. Але спыняцца на дасягнутым утрапёная шукальніца «скарбаў» не збіралася. Тады ж яна пачала і фатаграфаваць на звычайную мыльніцу, вядома, проста дзеля таго, каб упадабаныя мясціны заўжды былі пад рукой. Аднак тата не ўхваляў захопленасці дачкі. Ён увогуле не лічыў гісторыю годным заняткам, тым больш не жадаў, каб ёю займалася яго дзіця. Для агульнага развіцця, зразумела, веданне нейкіх векапомных падзей не перашкодзіла б, але выключна ў рамках школьнай праграмы. Будучага для дачкі ён жадаў канкрэтнага, практычнага і празрыстага: або эканоміка і фінансы, або дыпламатычная служба перакладчыка, да таго ж здольнасці да вывучэння замежных моў Аксана мела. Тата нічога не хацеў слухаць пра карысць гісторыі, упэўнены ў тым, што больш за пасаду вясковай настаўніцы Аксане не свеціць. Не ў іх краіне сур'ёзна займацца гісторыяй, якая перапісваецца штогод, а праўда наўмысна замоўчваецца. Ды гэта паўбяды. Бяда ў тым, ён быў упэўнены, што дзяўчына даволі

хутка расчаруецца ў бяздумна абраным шляху, асабліва калі сутыкнецца з падводнымі камянямі ў асобах выкладчыкаў і прафесараў, якія тое расчараванне ёй і прышчэпяць. Аксана даводзіла адваротнае, плакала і пагражала, але тата заставаўся непахісным у аднойчы прынятым рашэнні. Ён заўсёды выходзіў пераможцам. Яна скарылася, бо татаў аўтарытэт яшчэ ўздзейнічаў на яе, яшчэ меў на яе ўплыў, пахістаўся, як шыбенік перад самагубствам, балансуючы на зэдліку, але трымаўся. Дзяўчына закінула кнігі па гісторыі (не выкінула, канешне, паставіла на паліцы і толькі пазірала на іх перад сном у роспачы, але ў рукі не брала, хоць адчувала, як яны прасілі маўклівымі кацянятамі, каб хаця пагартала, пашамацела старонкамі, ім бы хапіла і гэтага, ды адварочвалася тварам да сценкі, бы здрадніца) і абклалася падручнікамі ды слоўнікамі па англійскай мове. Тата ёй давёў слушнасць перакладчыцкай дзейнасці, і яна згадзілася паступаць на факультэт замежных моў, аднак у Кіеў не адпусціў. Добра, што Станіславаў меў не горшыя за сталічныя навучальныя ўстановы.

Аксана паступіла, але вучобу, менавіта на факультэце замежных моў, не лічыла сваёй, не ляжала душа да яе, асабліва спярша, не адчувала дзяўчына сябе шчаслівай у новым дарослым жыцці, бо вымушана была паслухацца тату. Яна быццам падзялілася на дзвюх Аксан, і падзел гэты руйнаваў яе псіхіку, перашкаджаў агульнаму развіццю. Другое «я» дзяўчыны, якому карцела дыхаць напоўніцу і карыстацца кожным момантам існавання, падабацца

хлопцам і бацькам, выклікаць адным узмахам вей захапленне асяроддзя і рухацца, несупынна рухацца наперад, заваёўваць сабе месца пад сонцам, не зважаючы ні на што, паглынала першае — пяшчотную і рамантычную істоту ў ружовых акулярах, вязня мінуўшчыны, непрыдатнага да суворых сучасных будняў. І хутка паглынула, зачыніла ў галаве за кратамі загадзя пабудаванай каморы, звязала па руках і нагах чырвонымі атласнымі стужкамі, спавіла плотнай тканінай у кокан, запячатала рот і вочы кніжнымі старонкамі і пакінула ў суцэльнай цемры, папярэдзіла, праўда, што будзе наведваць час ад часу. Новы вобраз Аксаны кардынальна адрозніваўся ад папярэдняга. Яна пафарбавала свае русявыя валасы да плячэй у насычаны чорны колер, апраналася выключна ў стылі мілітары, касметыка яе і вопратка мелі агрэсіўны характар, цела і позірк дыхалі сексам, нават не дыхалі, а сексам і былі. Калі дзяўчына ішла на пары або вярталася з іх па вуліцы, мінакі мужчыны ледзь не ламалі сабе шыі, абарочваліся на яе, рэагуючы, як сабакі на загад «фас». Адным няўлоўным рухам пальчыка Аксана магла кінуць сабе пад ногі кожнага з іх, растаптаць і не заўважыць. У сценах універа яе з'яўленне таксама выклікала непрыхаванае захапленне не толькі студэнтаў, але і выкладчыкаў. Вечарынкам і дыскатэкам, на якіх прысутнічала дзяўчына, спадарожнічаў нечуваны поспех. Яе хацелі ўсе, ды яна не хацела нікога, бо сапраўдную сябе пакінула на антрэсолі памяці. Тым не менш вучылася Аксана з ахвотай, засвойвала ма-

тэрыял лепей за астатніх аднакурснікаў, на выдатна адказвала на ўсіх практычных занятках, пісала шыкоўныя курсавыя, рыхтавала хатнія практыкаванні, а вымаўленне, калі размаўляла па-англійску, вельмі паходзіла на амерыканскае, куды дзяўчына мела намер з'ехаць адразу пасля атрымання дыплому. На той час яна лічыла сябе годнай большага за тое, што ёй магла прапанаваць айчына ці тата ў асобе айчыны. Зусім інакш наконт Аксаны думаў яе старэйшы на некалькі гадоў стрыечны брат на адным з агульна-абавязковых сямейных святаў, што праходзілі зазвычай у сяле, з усіх бакоў падпёртым лясістымі гарамі, у хаце татавай маці, якая якраз незадоўга да таго пахавала мужа, Аксанінага дзеда. Па словах бабулі, яна ніколі не кахала дзеда, выйшла за яго замуж таму, што так трэба было, таму, што так з ім дамовіўся бацька. Цярпела ўсё жыццё дзедавы п'янкі, сваркі і бойкі, бо пажаліцца не было каму, да таго ж у хаце мела не толькі чарку, але і скварку да яе ды каўбасу, пальцам піханую, чым пахваліцца магла далёка не кожная гаспадыня ў сяле. Дзед працаваў ад відна да відна, не шкадаваў сябе, але не шкадаваў і бабу. З палёгкай яна ўздыхнула, калі той памёр, адчула сябе, нарэшце, вольнай, бо да таго пачувалася ці не батрачкай, дый дзед, напэўна, збольшага адносіўся да яе як да батрачкі, чалавека ўвогуле ў ёй не бачыў. Пайсці ад яго, зноў жа, не было куды і да каго, паўсюль адно і тое ж з нязначнымі адрозненнямі. Пра развод ніхто і не заікаўся ніколі, гэтая тэма ў сяле з'яўлялася ўсеагульным табу, а культ сям'і ледзьве не абагаўляўся.

Жанчына не мела права голасу, затое мусіла нараджаць, працаваць ды ўлагоджваць мужа. Такі сабе феадальны лад дваццатага стагоддзя. Аксану ажно перасмыкнула ад бабуліных расповедаў, і яна выйшла на двор падыхаць свежым паветрам, бо кульнула колькі кілішкаў з самаробным віном, а таму даволі моцным, і адчувала, як літаральна гарэлі яе вушы і шчокі. Двор сустрэў дзяўчыну прыемнай прахаладай, якая лягла на яе плечы плашчом, дыхаць стала лягчэй. Якраз толькі-толькі бралася на вечар, барвавела ўдалечыні справа, за гарамі, куды падала сонца, бы збітая птушка. Сельскія гукі, якіх ніколі не пачуеш у горадзе, апанавалі з хуткасцю саранчы. З усіх бакоў даносіліся непарушныя нічым сілы прыроды. Кваканне жабак з рачулкі, стракатанне конікаў, здавалася, проста з-пад ног у траве, цвырканне цвіркуноў недзе зверху над галавой, пошум ад узмахаў крылаў матылёў, камарыны піск, незадаволены буркат жука-плывунца, які, відаць, прыняў за непрадбачаную перашкоду Аксаніны ногі, месершмітывосы, што нахабна праразалі сабой паветра перад вачыма. Дзяўчына раптам усміхнулася: узгадала выпадак з дзяцінства. Тады капалі бульбу, прыселі перакусіць, разаслалі на траве пад раскідзістым дрэвам ручнік, на яго пасыпаліся памідоры, парэзаныя напалам і пасоленыя адна аб адну палавінкі гуркоў, сала свежае і падсмажанае, хлеб, смажаныя яйкі разам з хлебам, журавінны морс у літровай пластыкавай бутэльцы, пляшка з гарэлкай, бо як жа без яе, хоць тата асабліва не злоўжываў, нават маючы на той час

здароўе. Мама пазяхнула, шырока раскрыўшы рот, соладка пацягнулася, распраўляючы плечы, і адна з вос, якая кружляла над галовамі, сiганула ў мамін рот, як у пячору. Пячора тут жа зачынілася, а мама заекатала ад дзікага, напэўна, болю, бо аса, шукаючы паратунку, укусіла яе, тым самым прабіла сабе шлях на свабоду, спалохаўшыся, мабыць, болей за маму. Нічога смешнага, зразумела. Маміна шчака распухла ўмомант. Але сам факт укусу... праз шмат гадоў... здаваўся вясёлым. Ці гэта пад уздзеяннем віна? Мама не прабачыла б Аксане нават намёку на ўсмешку, калі б дзяўчына зараз вярнулася і распавяла ёй пра выпадак, што яе насмяшыў не толькі цяпер, але і тады. Мама на самай справе выглядала смешна, як бы жорстка гэта ні гучала. Адна палова твару адначасова нагадвала паветраны шарык і кітайца, другая — спалоханае кураня. Вядома, тата падхапіў маму на рукі і паспяшаўся як мага хутчэй даставіць яе ў лякарню. Добра, што ў яе не выявілі ніякіх алергій, і за даволі хутка твару вярнулі былую прывабнасць і прыгажосць.



Нахабная аса, што кружляла перад вачыма, відаць, упэўненая ва ўласнай неўміручасці, тым часам быццам прыляпілася да Аксаны, што не дзіўна: яе вусны былі салодкімі ад віна. Дзяўчына адмахнулася ад яе раз, другі, трэці, аднак тая, здавалася, не разумела, што ёй не рады, і працягвала круціцца з намерам ісці на таран, як сапраўдны фашысцкі самалёт. Аксана зняла з нагі красовак і ледзь не ўпала, балансуючы на адной назе. Яна, бясспрэчна, не ўтрымала б раўнавагу, калі

б яе не падхапіў ззаду Руслан — стрыечны брат, які якраз выйшаў пакурыць. Дзяўчына адно войкнула, але падзякавала, што той яе ўтрымаў. Яны рэдка бачыліся, Руслан не быў заўзятым аматарам сямейных пасядзелак і, калі атрымлівалася, збягаў з іх. Ён заўжды нудзіўся побач са сваякамі, бо яго ніяк не цікавіла існаванне апошніх, асабліва пасля таго, як вярнуўся з войска. Патуляўшыся па розных фірмах і прадпрыемствах, куды ўладкоўвалі яго сваякі, нідзе Руслан не прыжыўся, бо працаваць трэба было, а не лынды біць, да якіх ён быў звыклы, таму зноў па пратэкцыі трапіў на службу ў паліцыю, а менавіта ў пэпээснікі, дзе і затрымаўся надоўга. Хлопец ён быў кемлівы, да таго ж меў спартыўную фігуру і валодаў не абы-якімі практычнымі ведамі па самаабароне ды рукапашным



баі. У дзяцінстве Аксана некалькі разоў з ім перасякалася. Ужо тады ён пазіраў на яе неяк дзіўна, прасіў задзерці ўгору сукенку ці спадніцу, але дзяўчына паказвала яму сярэдні палец і ўцякала. У той момант, калі Руслан падхапіў дзяўчыну, каб яна не ўзарала носам бабулін двор, рукі яго міжвольна затрымаліся на яе грудзях пад надзейнай ахоўвай плотнай фланэлевай кашулі і станіка, а гарачы подых яго апёк ёй патыліцу. Аксана падзякавала за выратаванне і вызвалілася з абдымкаў сваяка, якія падаліся ёй зусім не сваяцкімі. Руслан з вялікай неахвотай адпусціў яе, але не сыходзіў, трымаўся побач. Потым сказаў:

— Верыш, што я ведаю таемную пячору, у якой хаваліся змагары УПА ад маскалёў, пра якую табе нічога невядома, і яна якраз тут, непадалёк…

Аксана адчувала ненатуральнасць у словах і паводзінах стрыечнага брата, не верыла яму, але раптам ён не маніў і сапраўды ведаў штосьці такое, што яна прапусціла (ды гэта наўрад), бо аблазіла ўсё наваколле да збіцця каленак, сыпі ад крапівы па ўсім целе і драпін ад вострых галінак.

— Не веру, — адгукнулася яна, — бо нічога новага з нічога ўзнікнуць не магло, — сказала, як адрэзала.

— Памыляешся, — Руслан выдыхнуў цыгарэтны дым у паветра, задраўшы галаву, дадаў: — Другі раз не прапаную схадзіць туды са мной і ўпэўніцца. Тут недалёка.

— Тым больш калі недалёка, — не давала веры Аксана. — Цікава, калі ты яе адшукаў?

— Нядаўна, — адказаў Руслан, — выпадкова. І зрабіў схоў, каб ніхто не знайшоў.

— Яна, калі існуе, — гістарычны помнік і ўласнасць дзяржавы, — запярэчыла Аксана, — таму ты мусіш распавесці пра знаходку адпаведным структурам.

— Дык хадзем тады са мной, — настойваў Руслан. — Падару пячору табе, а там рабі як знаеш.

— Сур'ёзна? — задумалася дзяўчына. Нягледзячы ні на што, гісторыя цікавіла яе па-ранейшаму. У існаванне невядомай таямнічай пячоры хацелася верыць, тым больш на падпітку. — А калі ты хлусіш ці ўвогуле проста смяешся з мяне? — усё ж вагалася яна.

— Навошта гэта мне? — пацiснуў плячыма Руслан.

— Добра, — задумліва вымавіла Аксана. Ёй гэтаксама, як і Руслану, сярод сваякоў стала сумна. — Да-

вай сходзім, — пагадзілася нарэшце. — Але з умовай, — удакладніла, — спрачацца я не буду.

— Як скажаш, — задаволена ўсміхнуўся Руслан і працягнуў сваячцы руку.

Горы грувасціліся і навісалі над сялом хмарамі, але ісці да іх цяжка не было, прынамсі, спачатку. Неўзабаве бадзёрасць Аксаны пачала прытухаць, знікаць, выходзіць паветрам вонкі, як са спушчанага аўтамабільнага кола. Дыханне збівалася, балелі калені. Стомленасць авалодала целам дзяўчыны, магчыма, таму, што даўно ў горы не хадзіла альбо з-за даволі хуткага тэмпу, зададзенага Русланам першапачаткова. Ён ішоў паперадзе, за крокаў пяць ад Аксаны, і не азіраўся на яе. Хутчэй за ўсё наўмысна, каб яна не перадумала і не папрасіла яго вярнуцца, пакінуўшы спатканне з пячорай на потым, у больш спрыяльны для такой прагулянкі час. Яна нават злавала на яго, бо ў думках хацела, каб ён азірнуўся. З упартасці крочыла следам, цяжка дыхала, пераадольвала боль, але ішла і не пыталася, калі нарэшце дойдуць да той чортавай пячоры.

У той самы момант, калі Аксане падалося, што яна вось-вось ляжа пластом, бо моцы больш не знаходзіла для руху, Руслан спыніўся каля густых зараснікаў вострага кустоўя і азірнуўся назад. Ён нават не ўспацеў у адрозненне ад дзяўчыны. Кашулю хоць выкручвай. І стомленасці ні на грам. Здавалася, хлопец толькі з дому выйшаў.

— Тут, — паказаў ён на непраходны з выгляду зараснік.

Аксана з палёгкай выдыхнула. Яна думала, што шлях да пячоры не скончыцца ніколі, хоць па часе дарога заняла не больш за паўгадзіны.

Руслан рушыў у кустоўе, якое расступалася перад ім, быццам заслона ў тэатры, прытрымліваў яго, каб знячэўку не параніць дзяўчыну. Яна тэпала крок у крок следам. Па-за зараснікам воку адкрыліся вялікія гладкія звонку камяні, уросլыя ў зямлю, пакрытую зялёным мохам. Аксана ведала гэтыя камяні, бывала тут неаднойчы, праўда, дабіралася іншай дарогай, больш зручнай, падоўгу сядзела на іх, спадзявалася адчуць повязь з мінуўшчынай, пачуць яе голас ці хаця б шэпт, але ніякіх пячор не выявіла, хіба што надпісы на камянях, выразаныя лацініцай, імёны і прозвішчы, якія давалі падставу меркаваць аб прычыне ўзнікнення камянёў. Цалкам магчыма, што яны былі надмагільнымі помнікамі. 65

— Ты мяне падмануў, — расчаравана мовіла дзяўчына, — гэтае месца я ведаю з часоў глыбокага дзяцінства. І чаму я павялася на твае байкі?.. — задумліва працягнула.

— Бо хацела, — коратка адказаў Руслан. — Але я цябе не падманваў, — хутка дадаў.

— Ды што ты?! —усміхнулася Аксана.

— Пячора ёсць, — казаў далей хлопец, — і пра яе ведаю толькі я. Яна заўсёды была ў цябе пад носам. Проста далей уласнага носа ты нічога не бачыш, — быццам упікнуў.

— І дзе яна? — прапусціла міма вушэй Русланавы словы, што тычыліся яе, бо зацікаўленасць пячо-

рай перамагала ўсе абразы, крыўды і непрыемнасці разам узятыя.

— Глядзі, — падышоў Руслан да найменшага каменя, аднаго росту з ім, які знаходзіўся якраз пасярэдзіне каменнага ансамбля, узяўся за яго паверхню аберуч, напружыўся і пацягнуў на сябе. Камень незадаволена, марудна, але зрушыўся з месца, быццам старыя забытыя дзверы.

— Афігець! — вырвалася з вуснаў надзвычай ўражанай Аксаны.

— Прашу! — запрашальным жэстам прапанаваў Руслан дзяўчыне зайсці першай у пячору і асвятліў тую ліхтарыкам ад тэлефона.

Аксана ахвотна нырнула за камень і апынулася ў прадаўгаватым памяшканні, метры тры ў даўжыню і метр у шырыню. У куце стаяў ляжак, прыкрыты некалькімі бавоўнянымі коўдрамі ў квадраты. Падлога, залітая бетонам, каля лежака — даматканы выцвілы круглы дыванок. З абодвух бакоў у сценах выбіты выемкі, напэўна, для рэчаў асабістай гігіены альбо яшчэ для нечага, што прадугледжана палявымі ўмовамі. У адну з такіх выемак Руслан паклаў тэлефон, павярнуўся да каменя, што служыў дзвярыма, пацягнуў на сябе і зачыніў іх дваіх у пячоры.



— Ты што робіш? — спалохалася Аксана, але выгляду не падала.

— Не хочаш адчуць сябе сувязной, якая мусіць тут хавацца, пакуль за ёй не прыйдуць? — нечакана пацікавіўся Руслан. — Бывала, што ніхто не прыходзіў, і сувязныя гінулі ў падобных пячорах ад голаду, але

самастойна схоў пакінуць не мелі права, без загаду. Дысцыпліна была тая яшчэ.

— Я ведаю гэта, — перапыніла яго Аксана, — не трэба мне чытаць лекцый з гісторыі.

— Тады распранайся, — цалкам сур'ёзна вымавіў Руслан.

— Ты жартуеш? — перасмыкнула плячыма дзяўчына.

— Якія жарты... — усміхнуўся Руслан і падышоў да яе ўсутыч.— А будзеш супраціўляцца, — папярэдзіў, — зачыню тут адну, каб напоўніцу адчула сябе на месцы тых сувязных.

На супраціў Аксана не мела сіл. Руслан усё правільна разлічыў з заманухай пра пячору. Магчыма, спачатку плану наконт менавіта Аксаны ён не меў, бо мог прывесці сюды каго заўгодна. Выпадак лёсу, не больш за тое. 67

Далейшыя падзеі Аксана не вельмі памятала або не хацела памятаць. Асобнымі эпізодамі ці сполахамі яны ўспыхвалі ў галаве і ранілі цела, як сапраўдныя кулі. Руслан штурхануў яе на ляжак і наваліўся зверху, а важыў ён багата. Аксана адчула сябе Партосам, які гінуў пад маналітнай плітой. Дыхаць было цяжка, неўзабаве яна страціла прытомнасць. Напэўна, Руслан заўважыў, што дзяўчына адключылася, і перавярнуў яе на жывот.

...Ачомалася яна ад болю ўнізе жывата.

— Скажаш каму — знішчу! — схіліўся над галавой Руслан і сышоў, дзяўчыну пакінуў адну. Добра, што пячору не зачыніў, бо наўрад ці яна зладзіла з тым камянём. Нават Руслану было цяжка цягаць яго туды-сюды.

Яна не плакала, не шкадавала сябе, злавала, што дазволіла ашукаць, лічы, самастойна прыцяглася, каб ёю скарысталіся, быццам прэзерватывам, і адштурхнулі, як непатрэбную болей рэч. Напэўна, не яна першая, не яна апошняя патрапіла ў сіло пячоры, куды Руслан прыводзіў добраахвотных ахвяр, а потым пакідаў адных пад пагрозай расправы. Напэўна, яго баяліся, бо ён служыў у паліцыі і мог пагрозу ажыццявіць наяве. Маўчалі, кусалі вусны, намагаліся забыць здзек над сабой, магчыма, забывалі. Яна таксама будзе маўчаць. Не таму, што спалохалася пагрозы, не спалохалася. З-за гонару. Нават з сястрой бядой не падзялілася. Зрэшты, на той час Соня сама жыла бы ў пастцы, бядой была аблюбаваная і заангажаваная. Аднак пячоры не пакінула шансаў на таемнасць, як і Руслану, каб той больш не прыводзіў туды іншых дзяўчат і не сільнічаў іх пад аховай маўклівых камянёў. Яны больш не сустрэліся. Нядаўна, праўда, Аксана бачыла яго ў горадзе. Руслана разнесла, як парсюка, якога кормяць на забой. Выглядаў ён агідна. Вочы, і без таго вузкія, ператварыліся ў ледзь бачныя шчылінкі пад тоўстым слоем тлушчу. Шыя знікла, быццам яе і не існавала ніколі. Тоўстае чэрава выпіналася далёка наперад. Паліцэйская служба, відавочна, пайшла яму на карысць.

# 4

Пайшоў дождж. Нечаканы, раптоўны. І хоць парыла як на дождж, і паветра здавалася, нават навобмацак, гарачым, высунь язык і апячэш, бы аб патэльню, — усё адно не верылася, што будзе дождж. А ён спачатку заскакаў па асфальце, як сыты верабей, вялікімі цяжкімі лянівымі кроплямі, ды потым гэтак разышоўся, што ператварыўся ў залеву і бязлітасна пляжыў усіх і ўсё вакол.



Томас з першых кропляў адчуў небяспеку вымакнуць за лічаныя секунды, таму прапанаваў дзяўчатам перабегчы куды-небудзь пад навес, бо ад палаца Патоцкіх ужо даволі далёка аддаліліся. Соня не верыла ў магчымасць анамальных паводзін прыроды, бо неба па-ранейшаму заставалася бязвоблачным (адкуль той дождж мог узяцца?), таму назвала мужа панікёрам ды выклікала на яго твары адно ўсмешку, усёдаравальную і пяшчотную. Аксана ўзняла галаву ўгору, паспрабавала паразумецца з небам і таксама не знайшла прычын паслухаць Томаса, але ў адрозненне ад сястры, падтрымала яго на ўсялякі выпадак. Утраіх яны ледзьве паспелі сесці пад тэнтам кавярні,

што раскінулася шатром перад самым фантанам, як залева акупавала горад з хуткасцю маланкі. Заверашчалі дзеці і дзяўчаты, навыперадкі перакрыквалі адно аднаго і шукалі паратунку. Умомант Стометроўка апусцела, і дождж быццам прагарцаваў па ёй пераможцам на нябачным выкшталцоным кані. Людзі пахаваліся хто дзе: абляпілі дуб, згуртаваліся пад дахам паштовага аддзялення, пад кожным навесам будынкаў паабапал брукаванкі, запаланілі кавярні і кнігарні... На шчасце, дождж не затрымаўся надоўга. Яго моцы хапіла на адзінаццаць хвілін, а затым ён здуўся, як паветраны шарык, выціснуў з сябе, бы з выкручанай анучы, апошнія кроплі і знік. Замест яго неба расфарбавала вясёлка, як ніколі раней выразная і яскравая, на якую паглядзець высыпала са схованак уся дзятва, намагалася памацаць яе рукамі, каб укараскацца па вясёлкавай дузе і, відаць, праверыць яе на трываласць.



Вясёлкавым і радасным здавалася Соні будучае жыццё, калі яшчэ быў жывы Тарас. Пасля яго смерці, калі ён сышоў ад яе,— сышлі і колеры, сышла і будучыня ў нябыт, сышла ў нябыт і сама Соня. Прынамсі, так яна адчувала і будучага свайго аніякага і нідзе не бачыла. Бо без Тараса яго не ўяўляла. Сядала да закратаванага акна і моўчкі пазірала праз краты ва ўнутраны двор дома, дзе амаль нічога не адбывалася. Спрэс заасфальтаваны двор (асфальт скаваўсціснуў, здавалася, да знямогі нават некалькі дрэў, якія па нейкіх прычынах пакінулі некранутымі ў адрозненне ад астатніх — выкарчаваных з каранямі,

каб і следу не засталося, бо не было дзе з-за іх прыткнуцца аўтамабілям, і якія па начах драпалі сваімі галінамі-пальцамі шкло Сонінага акна, намагаліся ці нешта сказаць ёй важнае, ці пажаліцца на ўласны лёс), па сутнасці, уяўляў сабой паркоўку, і машыны з нязменнымі апалымі лістамі на дахах выглядалі зверху грыбамі, заблукалымі і адзінокімі, хоць і туліліся адна да адной, быццам сёстры, шукалі цяпла і ласкі, ды двор не мог ім даць ні першага, ні другога, бо і сам хацеў бы таго ж. Калі ішоў дождж — станавілася зусім невыносна. Соня плакала разам з ім. Ёй хацелася думаць, што кроплі на шкле — тлустыя празрыстыя кляксы, якія дарэмна намагаліся ўтрымацца на гладкай паверхні і адчайна сцякалі ўніз да карнізу —гэта слёзы па ёй, па Тарасу, што яны спачувалі яе страце і аплаквалі. У падобныя моманты дзяўчына шкадавала сябе, але разумела марнасць жалю, бо мінулага не вярнуць, і тады ёй хацелася выць ад невыноснага болю ў грудзях, захлёбвацца ў слязах, як у бурлівай рацэ, дазволіць паглынуць сябе той рацэ назаўжды, зацягнуць на дно і аблытаць цінай. Зрэшты, стрымлівала сябе ад гэтага ўдзень, ды ўначы жадала скавытаць і раўці напоўніцу. Соня засынала і ў сне адпускала сябе. Наўзрыд. Наводмаш. Бязлітасна. Да сірэннага віскату. Пры гэтым раздзірала да крыві скуру на целе доўгімі пазногцямі, драпала яе з шаленствам, бы хворая на каросту. Аксане давялося зрэзаць пазногці сястры, але той усё адно ўдавалася раніць сябе і расчэсваць наноў месцы, што ледзь паспелі загаіцца. А яшчэ яна не ела. Пераста-

ла есці праз тыдзень пасля пахавання. Арганізм яе адмаўляўся прымаць сілкаванне ў якім-небудзь выглядзе. Ежа выклікала ваніты, якія доўга не праходзілі і выварочвалі навыварат. Без болю на Соню было цяжка глядзець. Яна вельмі пахудзела, з цяжкасцю перасоўвалася па пакоі, з якога не выходзіла. Скура яе адрузла, пакрылася нечым, падобным на шэры мох. Неўзабаве настала хвіліна, калі дзяўчына не змагла ўстаць з ложка без чыёй-небудзь дапамогі. Бацькі не ведалі, што рабіць, як лячыць дачку, ад чаго ратаваць? Дактары Станіслававa таксама разводзілі рукамі і ўпарта раілі звярнуцца ў псіхіятрычную клініку, бо, маўляў, справа Сонінай хваробы ў галаве, а не ў целе. Аднак тата не верыў і не хацеў верыць нават у магчымасць падобнага. Нарэшце ён дадумаўся звярнуцца да малодшага брата, які працаваў у львоўскай абласной клініцы. Той прыехаў, агледзеў пляменніцу, патэлефанаваў некуды і вечарам забраў яе ў Львоў, перад тым, праўда, доўга спрачаўся з татам, бо тата нізавошта не жадаў аддаваць дачку ў стацыянар. Адзінае, што яго супакоіла, — ніякіх псіхічных паталогій у Соні не выяўлена. Больш за ўсё ён баяўся менавіта дыягназу ненармальнасці, хоць хто можа стоадсоткава даказаць ці паказаць межы нармальнасці?.. Ён паехаў у Львоў разам з братам і Соняй. Катэгарычна адмовіўся жыць у братавай сям'і, каб не абмяжоўваць сваёй прысутнасцю, і зняў кватэру непадалёк ад клінікі, у якую памясцілі Соню. Яго прысутнасць была неабавязковай, бо нічым дапамагчы ў лекаванні не мог. Тым не менш

учынак быў красамоўны. Тата дужа любіў Соню, яго не адпускалі дурныя прадчуванні. Ён гнаў іх, змагаўся з імі і спадзяваўся на цуд. Тата не разумеў, чаму Соня захварэла на нейкую незвычайную хваробу, пра якую ніхто не ведаў, а таму і лекаў ад яе не было. Брат яго супакойваў, абяцаў ўратаваць дзяўчыну, ды ўсё адно тата не асабліва верыў яго словам і не хацеў верыць у простае тлумачэнне, што Соня не хацела жыць з-за гібелі Тараса, якога кахала так, як у раманах дзевятнаццатага стагоддзя. Тата лічыў падобнае тлумачэнне лухтой і трызненнем, бо ад кахання не паміраюць, тым больш у сямнаццаць гадоў. Яна яшчэ жыцця не бачыла — якое каханне?!. І калі так — то значыць гэта паталогія, гэта псіхічны разлад, і Соня, атрымліваецца, душэўнахворая... Брат супакойваў тату, як мог, раіў не хвалявацца і вяртацца дамоў да жонкі, прысутнасць яго побач з дачкой ніякім чынам ёй не дапаможа, а хутчэй наадварот. Тата злаваўся, не разумеў, якім чынам яго прысутнасць можа негатыўна ўплываць на здароўе дачкі. Брат разам з іншымі дактарамі, якія падключыліся неўзабаве да лекавання складанага выпадку, цярпліва тлумачылі, што дзяўчынцы патрэбен спакой і пазітыўныя эмоцыі, не звязаныя памяццю пра тых, хто нагадвае ёй пра падзеі, за якія хвароба чапляецца, бы Голум за залаты пярсцёнак, і тым самым выклікае рэцыдывы хваробы. Зрэшты, назву хваробы яны так і не назвалі, з-за чаго тата пачаў сумнявацца ў іх кампетэнтнасці, забыўшыся, што станіслаўскія медыкі ўвогуле адмаўляліся лекаваць Соню і настой-

валі на неадкладнай шпіталізацыі ў дурдом. Ён не вярнуўся, зразумела, дамоў, застаўся ў Львове, паранейшаму большую частку свайго часу праводзіў у клініцы, згадзіўшыся, праўда, з братам — не трапляць на вочы Соні, не назаляць і не маячыць перад імі. Дзяўчыну абследавалі некалькі разоў на дзень, старанна правяралі і пераправяралі вынікі атрыманых аналізаў, чухалі патыліцы, задумліва мружылі вочы і пазіралі ў акно, быццам бы за акном хаваўся адказ на пытанне, што ўрэшце рэшт за трасца прысмакталася да Соні і піла з яе кроў.



Аксана тым часам афармляла дакументы на атрыманне візы дзеля паездкі ў ЗША па праграме абмену студэнтамі. Амбіцыйныя планы, звязаныя з будучай прафесіяй, яна спадзявалася ажыццявіць за мяжой і толькі за мяжой. Англійскай мовай дзяўчына валодала бездакорна, а патрэбны акцэнт, не сумнявалася, справа нажыўная, была б практыка. Праца ў Амерыцы тую практыку гарантавала. Ну каму, калі не ёй, выдатніцы з абавязковым чырвоным дыпломам, мусіла яшчэ пашчасціць?.. Аксана жыла толькі думкамі пра Штаты, дзе збіралася, калі пашанцуе, і застацца на ПМЖ, а ёй абавязкова пашанцуе; адпрацуе неабходныя тры месяцы афіцыянткай ці барыстай у якім-небудзь паўдзённым гарадку, абавязкова паўдзённым, бо толькі на поўдні і захавалася яшчэ сапраўдная Амерыка — патрыярхальная і таямнічая — амаль такая ж, як у раманах Фолкнера, пазнаёміцца з амерыканцам, закахаецца ў яго, а ён у яе: і ўсё, праз непрацяглы час яна — амерыканка

і гаспадыня ўласнага дома з шыкоўным садам і адпрасаваным газонам перад домам. А што, хіба яна не вартая лепшай долі за тую, якую мог прапанаваць тата і Станіславаў? Пра тое, што яе чакае шыкоўная кар'ера на дыпламатычнай службе, Аксана не паверыла адпачатку. Там даўно ўсе месцы занятыя і размеркаваныя. Усё, што ёй «свяціла» — гэта перакладчыцкая дзейнасць у якім-небудзь выдавецтве ў лепшым выпадку або ў горшым — выкладаць англійскую мову ў школе. Ні тое, ні іншае Аксану не задавальняла, таму яна дужа разлічвала на адкрыццё візы і выезд за мяжу, якія на самай справе выглядаў як уцёкі. Так, яна ўцякала, бо не адчувала сябе патрэбнай ні маці, ні тату, тыя хваляваліся і перажывалі адно за Соню. Пра старэйшую дачку быццам забыліся, быццам яе ўвогуле не існавала. А яна, між іншым, таксама была жывым чалавекам, і ў яе таксама балела ў грудзях, не так глабальна, вядома, як у Соні, але тым не менш. Падсвядома Аксана хацела звярнуць на сябе ўвагу бацькоў, каб яны сумавалі па ёй гэтаксама, як за Соняй, калі не больш. Сястру яна не шкадавала, раўнавала, магчыма, нават жадала, каб яе не стала, але адразу праганяла падобныя думкі прэч.

І тое, што адбылося потым, мела і логіку, і заканамернасць. Без аніякіх тлумачэнняў, суха і казённа, Аксане адмовілі ў візе ў тую самую хвіліну, калі Соне паставілі дыягназ. Татаў брат рызыкаваў, агучваючы яго, але быў упэўнены ў тым, што меў рацыю. Соніна хвароба насіла назву анарэксіі, пра якую тады

мала хто ведаў у краіне, а калі ведаў — то адмаўляў яе сур'ёзнасць і ўвогуле скептычна ставіўся да самога існавання захворвання.

Аксана дарэмна патрабавала тлумачэнняў адмовы ў візе, псіхавала, нават замахнулася рукой на клерка, які з безжыццёвым выразам твару паведаміў ёй пра адмову, не разумеючы, што зламаў дзяўчыне жыццё, як запалку. Дзяўчыну вывелі на вуліцу ахоўнікі і ветліва папрасілі не вяртацца, бо будуць вымушаны выклікаць паліцыю.

Аксана адчула жаль да сябе, крыўду на ўвесь свет, кожнага сустрэтага адразу запісвала ў ворагі. Паліліся слёзы, якія пакідалі чорныя доўгія шнары на шчоках ад размоклай тушы. Жыццё падавалася расстраляным, як паэты ў 1937-м, хоць нічога агульнага з тымі паэтамі не мела, аднак атаясамліванне сябе з ахвярамі сталінскага генацыду яскрава вымалёўвалася ў галаве. Аксана быццам наяве бачыла, як яе вялі да сценкі, спрэс запырсканай крывёй і ашмёткамі мазгоў папярэдніх небаракаў, як загадалі апусціцца на калені тварам да сцяны; яна нават адчула холад цаглін, калі міжволі дакранулася да іх ілбом, бо ёй ударылі па нагах, каб не марудзіла і не затрымлівала чаргу, а потым клерк, які прагугнявіў ёй адмову ў візе, падышоў збоку, прыставіў пісталет да яе патыліцы і націснуў гачок. Дзяўчына ледзь не трапіла пад колы машын, бо якраз пераходзіла дарогу на чырвонае святло, а ў хворай фантазіі сваёй запаволена хілілася набок з прастрэленай галавой, счэсвала да крыві скуру на шчоках аб цагліны. Віскат

тармазоў выдраў яе з прастрацыі. Аксана здрыганулася, прыспешылася, спалохана азіраючыся. Услед ёй ляцелі мацюкі кіроўцаў, якія паспелі своечасова зрэагаваць і не пераехаць коламі жывую істоту. Дзяўчына схавалася ў каўнер і паспяшалася прэч ад небяспечнага месца, на якім чыста выпадкова, але магла ляжаць з расколатым чэрапам, амаль гэтаксама, як у нядаўнім сваім трызненні. Тым не менш жыць яна не хацела яшчэ хвілін дзесяць, пакуль не патэлефанаваў тата і не паведаміў пра дыягназ Соні. Аксана імгненна вырашыла ехаць у Львоў. Магчыма, сапраўдная прычына адмовы ў візе заключалася ў хваробе сястры, што забівала Соню на самай справе і не праз штучную істэрыку, якой паддалася сама Аксана, як слабавольная аўца. Ну не канец жа свету ўрэшце рэшт — адмова ў візе! Падумаеш. Соня — цяжкахворая, а яна, Аксана, забылася на яе пакуты, дбала толькі пра сябе і шукала лепшай долі за мяжой, нават пражыла там цэлае жыццё!.. У сям'і бяда, а яна намагалася збегчы ад бяды і забыцца пра яе, як пра нешта надакучлівае і раздражняльнае. Так жа нельга! Вось і тлумачэнне, атрыманае ў найбольш падыходзячы момант.

Аксана прыехала ў Львоў. На вакзале яе сустрэў тата. Яны абняліся так, быццам не бачыліся дзесяцігоддзі. У вачах яго столькі болю, але толькі ў вачах. Знешне ён не змяніўся, такі ж непахісны волат, лысы і вусаты, як Кацюбінскі. Яны доўга размаўлялі. Тату тэрмінова патрабавалася вярнуцца дамоў. Бізнес яго трашчаў па швах, бо мама адна не спраўлялася. Ён не

хацеў пакідаць Соню, хоць яна і не бачыла яго амаль, аднак мусіў з-за Соні, якой патрабаваліся вельмі не танныя лекі, а на іх трэба было зарабіць. Аксана ўсё разумела, не маленькая ж. Соня забірала апошняе ў сям'і, мары і спадзяванні кожнага, у якіх не было яе, Соні. Сястра злавала на сястру, абвінавачвала ў эгаізме, у тым, што добра ўладкавалася пад пледам хваробы і маніпулюе ўсімі... Вядома, тату пра гэта нічога не сказала, каб не хваляваць і не нерваваць лішні раз, адправіла яго дадому і пасялілася ў кватэры, якую той зняў на нявызначаны тэрмін.

Апынуўшыся адна ў чужой, па сутнасці , кватэры, Аксана зноў адчула да сябе жаль, зноў заплакала, шкадавала аб тым жыцці, якое не пражыла наяве, але памятала яго па хвілінах ва ўяўленні, і, каб супакоіцца, замовіла сушы і віно да іх праз інтэрнэт-дастаўку. Яна выпіла пляшку цалкам, нават выцадзіла з яе апошнія кроплі і аблізала горлышка, сушы таксама спажыла ўсе і заснула на падлозе пад ложкам, абедзвюма абдымаючы тую пустую пляшку. Добра, што тата не бачыў. Сярод ночы прачнулася ад холаду, бо перад тым, як заснуць, распранулася да ніжняй бялізны, і да ложка дапяць проста не хапіла сілы. Не адразу зразумела, дзе яна, але хутка ўзгадала ўчарашні дзень, раптам адчула ванітны пазыў і памкнулася да прыбіральні, якая знаходзілася разам з ванным пакоем. Апаласнула твар халоднай вадой, набрала ванну, распранулася і з асалодай пагрузілася ў цёпла-гарачыя яе абдымкі, паціху сагрэлася. Ледзь не заснула зноў. Усё ж разляпіла павекі, прычым дапа-

магала пальцамі, трымала імі вейкі, каб вочы не заплюшчваліся, вылезла з ванны на халодную плітку, заскакала на месцы, бы трапіла на распаленае вуголле, абцерлася збольшага ручнікам і патэпала да ложка, у які бразнулася бы мёртвая, зарылася тварам у падушку і засапла.

Калі прачнулася, не магла ўцяміць, дзе яна і чаму голая. Пацягнулася за коўдрай і сарамліва прыкрыла голае цела, быццам было ад каго хавацца. Зрэшты, хаця б ад сонца, якое нахабна плюшчыла жоўтую пысачку аб шкло акна. Агледзелася вакол, усё ж прыслухалася: раптам у кватэры нехта быў, нехта, з кім пераспала, але пра тое ні каліва не памятала. Аднойчы падобнае ўжо адбылося з ёй, на другім курсе вучобы, падчас удала здадзенай сесіі, якую вырашылі ўсім курсам адзначыць на лецішчы кагосьці з аднакурснікаў непадалёк ад Пніўскага палаца, на тэрыторыі якога ў савецкія часы здымалі шматсерыйны фільм пра Каўпака. Яна тады падвярнула нагу: няўдала пераскочыла перашкоду, якіх хапала на зямлі з каменнымі руінамі, і бесклапотная няўважлівасць магла ўвогуле прывесці да калецтва, асабліва калі ты на абцасах. Аднак Аксана толькі напачатку некалькі разоў войкнула ад працяўшага, нібы стралой навылет, нечаканага болю, заскакала на адной назе. Ёй дапамог якраз гаспадар лецішча — высокі прыгажун з тых, хто падабаецца дзяўчатам, амаль галівудскай знешнасці, — які дзівосным чынам апынуўся побач. Зрэшты, магчыма, што і зусім не дзівосным, але, як бы там ні было, дзяўчына з удзячнасцю абаперлася

на яго плячо. Потым ён нёс яе на руках да лецішча пад зайздросныя позіркі і ўздыхі аднакурсніц. Хутчэй за ўсё ён жа яе і падпаіў, дакладна яна не ведала, але памятала, што кілішак яе заўсёды быў паўнюткім, колькі б яна ні піла, а сядзелі яны побач. Ён нешта ёй нашэптваў на вуха, смешнае і адначасова прыемнае, што выклікала козыт унізе жывата і пад рэбрамі. Яна хіхікала бы дурніца, п’янела, не заўважаючы таго, цмокала прыгажуна ў шчаку ў прадчуванні нечага чароўнага, хоць гэты прыгажун і мажор зусім ёй не падабаўся, пра што з какетлівым яхідствам не забывалася яму гаварыць. У якісьці момант яны апынуліся ўдвох, пасля чаго дзяўчына прачнулася ў чужой пасцелі ў пакойчыку пад самым дахам без анічога, то бок у чым маці нарадзіла. З душавай кабінкі за дзвярыма насупраць ложка чуўся плёскат вады, неўзабаве ён прыпыніўся, і з кабінкі выйшаў прыгажун, таксама голы. Аксана міжволі адвярнулася, хоць хлопец меў даволі прыгожае цела, зразумець гэта ёй хапіла і некалькіх секунд. Ён прывітаўся, нахіліўся, каб пацалаваць дзяўчыну ў скроню. Яна прымружылася, як у дзяцінстве, праганяючы насланнё, прынамсі, разлічвала менавіта на гэта. У дзяцінстве дапамагала. Аднак не ў той раз. Аксана расплюшчыла вочы, але прыгажун нікуды не знік, навісаў над ёй непрыемнай рэчаіснасцю, больш за тое — мосціўся поруч пад бачок. Яна парывіста скочыла з ложка, падабрала свае рэчы, раскіданыя па пакойчыку, шмыгнула ў душавую кабінку, апранулася там і выйшла, каб знікнуць назаўжды з жыцця

прыгажуна. Так, яны бачыліся, бо вучыліся ж разам, але ніколі не ўзгадвалі, нават намёкам, на выпадкова праведзеную ноч. Аксана адмыслова пазбягала стасункаў з ім, няхай і самых нявінных, бо ён напамінаў ёй пра стан, які яна не сумела пракантраляваць, дый запомніць тое, што паміж імі адбылося, таксама не змагла, прынамсі, цэльнай карціны не бачыла, адно разрозненыя ўспышкі-малюнкі, у якіх, тым не менш, дужа сабе не падабалася і падабалася адначасова, проста баялася прызнацца ў тым. Да таго ж у яе быў хлопец, які чыста фізічна не здолеў патрапіць на лецішча з-за занятасці на працы. Яго прысутнасць стрымала б яе, вядома, і яна не пакутавала б даволі працяглы час і не з'ядала сябе поедам у пытаннях маралі, бо кахала Назара. Не, не кахала, таму, відаць, і здрадзіла яму. Аксану пазнаёміў з ім тата. Сказаў: талковы малады чалавек, перспектыўны, з паважанай і заможнай сям'і, пляменнік яго партнёра па бізнесе. Відавочна, Назар падабаўся тату. Магчыма, ён бачыў у ім сына, якога хацеў мець, але нарадзіліся дзяўчаты. Імя хлопца не сыходзіла з татавых вуснаў ні на хвіліну, калі ён распачынаў гаворку са старэйшай дачкой. Прычым тэма размовы магла быць абсалютна рознай. Ён умудраўся у любым выпадку ўвесці ў канву гутаркі Назара. Зразумела, яна здалася, хоць не дужа хацела знаёміцца праз пратэкцыю: марыла сустрэць самастойна свайго прынца на белым кані. Ды тата, што ні кажы, умеў настойваць на сваім.

Ён запрасіў хлопца на вячэру. Мама накруціла галубцоў і наляпіла варэнікаў з бульбай і сырам да

стала. Выставілі на стол і падарачную пляшку каньяку. Назар прыйшоў з двума букетамі барвовых ружаў. Большы працягнуў маці (тая ажно запунсавела ад задавальнення і ўвагі з боку маладога чалавека), меншы дастаўся Аксане, але ўзяла яна букет не з тым настроем, на які, напэўна, разлічваў Назар. З такім выглядам, быццам штодзень атрымлівала кветкі ад паклоннікаў, стрымана і раўнадушна, хоць, калі шчыра, ружы вельмі любіла. Хлопца запрасілі ў кватэру, ён зайшоў у вітальню, скінуў абутак,чаравік аб чаравік, зірнуў у люстэрка, што ва ўвесь рост вісела там жа, нядбайнымі рухамі колькі разоў правёў грабянцом, вынутым з унутранай кішэні пінжака, па валасах, зачасаў іх назад, здзьмухнуў з грабянца пылінкі і схаваў яго ў кішэні. Пінжак складаў пару да

рупліва адпрасаваных нагавіц, стрэлкі якіх на вока здаваліся вострымі і небяспечнымі. Магчыма, аб іх сапраўды можна было парэзацца. Двойка мела прыемны цёплы колер і блішчэла на сонцы, калі прамяні ласкавымі дотыкамі краналі яе, да таго ж сядзела выдатна, як па ім сшытая, і дужа Назару пасавала, нават падкрэслівала яго вочы, такія сінія, што яны здаваліся намаляванымі ці падфарбаванымі фламастарам, як у дзіцячай размалёўцы. Высокі рост, шырокія плечы, праўда, хударлявыя, і ад гэтага нервовыя, смешны кадык, ад якога Аксана доўгі час не магла адвесці позірку, у чорных кропках і чырвоных плямках пасля галення, ямка на падбароддзі і голас... У голасе Назара адчувалася прыцягальная аксамітнасць і мёд. Гаварыў ён разважліва і суха, але

тым не менш яго хацелася слухаць. Не яго самога, па праўдзе кажучы, а голас, які заварожваў, абмазваў мёдам, скоўваў рухі і ўсякае жаданне супраціўляцца. Гэтаму голасу хацелася скарыцца і падпарадкоўвацца кожнаму слову. Аксана адразу адчула сябе мухай, што прыліпла не толькі лапкамі, але і ўсім брушкам да таго мёду. Аднак чыста знешне Назар ёй не падабаўся, нешта ў ім яе адштурхоўвала, нешта паказное, несапраўднае, магчыма, прыгажосць Назара, ненатуральная, халодная, хоць і мужчынская, не такая, як у прыгажуна-аднакурсніка, але прыгажосць аднакурсніка падавалася больш арганічнай і гарманічнай за прыгажосць Назара. Нешта ўсё ж у ёй мелася хворае, нервовае, як у плячах. І толькі голас кампенсаваў хібы, магчыма, адмыслова прыдуманыя Аксанай. Ёй не хацелася так хутка здавацца (на радасць Назару і тату). Хутчэй за ўсё яны ўдваіх загадзя разлічылі яе рэакцыю і ўжо пілі за іх агульную будучыню, за будучую сям'ю і дзяцей і нават не палічылі патрэбным спытаць у яе, Аксаны, ці хоча яна той сям'і.



Дзяўчына выбегла на балкон і закурыла, упершыню не тоячыся. Яна не курыла так, як яе каляжанкі і сяброўкі, хутчэй забаўлялася, падтрымлівала кампанію, але ў той момант, адчувала: магла скурыць цэлы пачак запар. Неўзабаве да яе далучыўся Назар. Запытаў, ці не пачастуе яна яго цыгарэтай. Аксана кінула позірк на пачак побач з папяльніцай. Назар узяў той пачак, сціснуў у кулаку і раздушыў.

— Мая дзяўчына не курыць, — патлумачыў свае дзеянні, — разумееш?

Аксана азірнулася па баках, быццам у пошуку дзяўчыны Назара.

—Цікава, якім чынам мае цыгарэты датычаць тваёй дзяўчыны? — з выклікам выдыхнула дым яму ў твар.

Назар спрытным пстрычком выбіў цыгарэту з пальцаў дзяўчыны, абхапіў яе стан дужымі рукамі з вялікімі далонямі і прыцягнуў да сябе.

— Мая дзяўчына ты, хіба не відавочна?! — вымавіў наўпрост.

Аксана нават разгубілася ад падобнай нахабнасці і страціла магчымасць супраціўляцца, бо Назар літаральна прысмактаўся да яе вуснаў, прасунуў язык у яе рот і з той жа нахабнасцю разгульваў там як у сябе дома. У дзяўчыны ўзнікла думка прыкусіць Назараў язык, каб той болей не соваўся з падобнымі інсінуацыямі, але ёй раптам стала так добра ў абдымках маладога чалавека, што пачала цалаваць яго ў адказ і нават заплюшчыла вочы, бо пацалункі падаліся ёй чароўнымі. Ніколі раней нічога падобнага яна не адчувала. Потым закружылася галава і, калі б Назар не падтрымаў, Аксана паваліілася б да яго ног. Яна ўткнулася носам у яго шыю, пад той яго смешны кадык і захіхікала, затым заплакала...

Дык мо ў кватэры знаходзіўся якраз Назар? Мо Аксана патэлефанавала яму ў беспамяцтве, а той узяў і прыехаў? Магло такое быць? Цалкам верагодна. Ёй падабаліся яго абдымкі, яго вялікія далоні з доўгімі пальцамі музыканта, хоць да музыкі ён не меў аніякага дачынення, хіба што слухаў «Металіку», «Арыю», «Скарпоў» ці «Ніклбэк» у машыне, калі ездзіў па

справах бізнесу. Так, хутчэй за ўсё Назар прымчаўся сярод ночы пасля тэлефанавання дзяўчыны, зрабіў ёй прыемна і сышоў у ванны пакой, каб не будзіць яе. Аксана гукнула яго па імені, але, відаць, не зусім гучна, калі ён не пачуў. Тады выгукнула грамчэй, нават у вушах зазвінела ад уласнага голасу. Ды ў адказ, колькі ні прыслухоўвалася, нічога не пачула, хіба што пакаёвую цішыню ды бразгат трамвая па рэйках за акном. Непадалёк ад дома, у якім тата зняў кватэру, літаральна праз дарогу знаходзіўся прыпынак канцавога маршруту трамвая № 7, што падвозіў да лесапарку «Пагулянка». У ваколіцах раёна, які меў назву Лычакаўскага, але на самай справе ўсе называлі яго Пагулянкай, знаходзілася і клініка, у якой лячылася Соня. Тата хацеў быць бліжэй да дачкі, жаданне зразумелае, таму і Аксане не давядзецца блукаць па горадзе ды трэсціся ў перапоўненых трамваях, каб патрапіць да сястры. Наўпрост праз парк — і ў дамках, як у шашках. 

Аксана выбралася з пасцелі, нырнула з галавой у ружовую футболку з Мікі Маусам на грудзях (мамін падарунак), якая мела такую даўжыню, што нагадвала сукенку, але ў ёй дзяўчына любіла спаць і выкарыстоўвала замест начнушкі ўначы і халата пасля сну, прынюхалася да паветра, мо пачуе Назараў пах, але не пачула: памяшканне ўсё яшчэ пахла татам. Падкралася да ваннага пакоя, прыслухалася. Ды там нікога не было, бо і святло з-пад дзвярэй не палосілася, і цішыня дыхала адтуль водарам стэрыльнай чысціні. Тым не менш Аксана праверыла ванны

пакой, зразумела, нікога там не пабачыла, акрамя сябе ў люстэркавым адлюстраванні, уздыхнула, ці то з палёгкай, ці то расчаравана, і патэпала на кухню рабіць сабе каву. Кожны дзень у дзяўчыны пачынаўся з кавы — свайго роду рытуал перад далейшым днём. Калі кавы яна не пап'е зранку — абавязкова дзень не атрымаецца і будзе яе мучыць да самага позняга вечара. Непрыемны ападак застаўся пасля ўчарашняй адмовы ў візе, але дзяўчына яго размяшала, страсянула, як парэшткі кавы на донцы ў кубку, і выкінула, як смецце, вонкі. Няма чаго лезці ў галаву і ў сэрца ды смуродзіць і засмечваць здаровую душу. Затым Аксана патэлефанавала тату, пацікавілася, як у яго і ў мамы справы. Той, у сваю чаргу, запытаў, ці добра яна ўладкавалася на новым месцы, і параіў не заседжвацца ў хаце, а наведаць сястру. Аксана адказала, што зразумела, і паспяшалася ў клініку.



Яны не дужа кантактавалі апошнім часам. Соня падавалася Аксане занадта малой у яе дарослых справах, да таго ж хворай, а хваробы наводзілі на старэйшую сястру нуду, чаго яна дужа не любіла, як не любіла і хварэць, таму, мусіць, ніколі не хварэла. Яна не ведала, што скажа Соні, як тая яе сустрэне, ці дазволяць увогуле ім пабачыцца. Але ж у клініцы працаваў татаў брат, дзядзька Раман, таму праблем узнікнуць не павінна. Дый не турма ж гэтая клініка!

Аксана не здолела стрымаць слёз, калі пабачыла Соню ў той палаце. Вочы на ўвесь твар, ручкі і ножкі, як у дзіцяці, танюткія і няўстойлівыя, валасы нездаровыя, пазногці ломкія, рэбры напаказ, быццам

павеўны ў дарэвалюцыйным Станіслававе на Стометроўцы, галасок ледзь чутны, таксама дзіцячы. Ды, на дзіва, з таго самага дня Соня пачала папраўляцца. Аксана паплакала-паплакала, аднак сабралася і… не накрычала на сястру, але насварылася з усёй перакананасцю ў сваёй праўдзе наконт і хваробы Сонінай, і яе жадання памерці, і яе кахання да Тараса, і яе магчымасцяў, як асобы і жанчыны. Верагодна, Соня і чакала падобных слоў увесь час, верагодна, менавіта Аксану і чакала, каб тая прамовіла тыя словы да яе. Яна ўдзячна дакранулася да пальцаў Аксанінай правай рукі, якія былі бліжэй, і ўсміхнулася. Упершыню ў вачах Соні дактары пабачылі непрыхаваную радасць і жаданне вылечыцца.

# 5



Львоў не Венецыя, але таксама пабудаваны на вадзе. Проста пад нагамі ў ім працякае падземная рака Полтва, якая некалі была ці не адзінай воднай артэрыяй горада. Яна з'яўляецца прытокам Заходняга Буга, і менавіта дзякуючы ёй Львоў мае не раўнінны, а ўзгорысты рэльеф. Яшчэ да 1872 года Полтва бесперашкодна працякала пасярод горада. Там, дзе цяпер праспект Свабоды, стоена дыхалі балотныя гушчары і каласілася высокая асака. Да таго ж Полтва вылучалася нядобрым характарам, як вісклівая баба, і прыносіла мінакам нямала клопату. З-за вялікай працягласці ракі і вадзяных сцёкаў у горадзе пастаянна роем лёталі камары і распаўсюджваліся хваробы. Таму ў пачатку дзевятнаццатага стагоддзя магістрат вырашыў замураваць Полтву ў падземны калектар. Будавалі саркафаг для ракі больш за трыццаць пяць гадоў. Пагаворвалі дасведчаныя людзі: калі спусціцца ў аркестравую яму Опернага тэатра, то можна пачуць, як хвалі ракі б'юцца аб бетонны саркафаг. А яшчэ ў Львове планавалася набярэжная, ды замест яе горад абраў тэатр. У свой час вядомы

мецэнат граф Станіслаў Скарбек даў грошы на нешта адно — або на будаўніцтва набярэжнай, або на тэатр. Таму зараз Львоў мае будынак Нацыянальнага тэатра імя Марыі Занькавецкай.

Плошча Рынак — свайго роду цэнтр Львова, яго сэрца, што сфармавалася як цэнтр пасля заваёвы Львова польскім каралём Казімірам III Вялікім у чатырнаццатым стагоддзі, — складаецца з Ратушы і сарака чатырох дамоў, якія носяць назвы камяніц, таму што будаваліся выключна з каменя і цэглы. Дазволіць сабе будаўніцтва дамоў на плошчы Рынак маглі выключна заможныя купцы і багатая шляхта. І толькі яны ды вышэйшае духавенства атрымалі права будаваць дамы вышэй за тры паверхі, і толькі ім дазволілі размяшчаць на фасадзе больш за тры акны на адным паверсе. Менавіта таму большасць дамоў на плошчы вузкай формы. Цікавы той факт, што ніводзін дом на плошчы Рынак не меў нумарацыі, паколькі кожная камяніца атрымлівала назву ад прозвішча ўладальніка або ад часткі вонкавага афармлення — «Пад ільвом», «Пад аленем», «Камяніца Лукашэвічаў». У пачатку дваццатага стагоддзя да сэрца далучыліся лёгкія і селязёнка: праспект Свабоды, плошча Міцкевіча і праспект Шаўчэнкі. З кутоў плошчы Рынак адгалінаваліся восем вуліц (па сучасных назвах — сем вуліц і адна плошча): Руская, Сербская, Галіцкая, Кафедральная плошча, Кракаўская, Шэўская, Друкарская, Стаўрапігійская.

Соня любіла прыязджаць сюды, калі адчувала сябе здатнай на падарожжа і мела неабходны настрой.

Спачатку з Аксанай, якая атрымлівала афіцыйны дазвол у дактароў, потым адна, калі адчувала моц у целе і жаданне жыць напоўніцу. Са з'яўленнем Аксаны, з яе падтрымкай і апекай, Соня пачала выкарасківацца з таго стану, у які, па сутнасці, загнала сябе сама. Шпацыр па гістарычным Львове, расповеды пра галаву Чорнага манаха, алебастравы саркафаг, што па начах з'яўляецца каля Ратушы, пра найпрыгажэйшую жанчыну свайго часу Лізавету Астрожскую, якая хавалася ў Дамініканскай царкве, Краіўку ды іншыя легенды і жахі, датычныя той або іншай мясцовасці, прымушалі Сонiна сэрца біцца шпарчэй, перапынялі дыханне і падагравалі кроў, якая ажно закіпала ў танюткіх венах. Яна захаплялася старэйшай сястрой, яе ведамі. Здавалася, пра што ні запытай яе, тая дакладна адкажа на любое пытанне. Найбольш Соні падабалася з усяго пачутага ад Аксаны легенда пра Сару Брагу. Сёстры якраз гулялі Пагулянскім паркам, і Аксана прыгадала гісторыю пра маёнтак, з якім было звязана шмат страшных чутак, хоць сапраўдны знешні выгляд ён набыў пазней, пасля таго, як быў перабудаваны і рэстаўраваны. Гісторыя мела месца ў 1910 годзе. Бліскучы львоўскі адвакат у самым росквіце сіл закахаўся ў жанчыну, уладальніцу вілы «Півоня» на Пагулянцы, дзе і пражыў з ёю два гады. Але неўзабаве яго сябар-псіхіятр заўважыў невытлумачальныя змены ў паводзінах таварыша. Апрача гэтага, той паскардзіўся на нястрымную сексуальную цягу да сваёй каханай, нашмат старэйшай за яго, што падавалася дзіўным, бо знакаміты лаве-

лас, адвакат Стаслаўскі, меў поспех у жанчын маладых і шыкоўных і быў здольны лёгка і нязмушана рваць з імі адносіны. Ды чамусьці аказаўся слабым перад магіяй фатальнай жанчыны і адчуваў, як яна паступова высмоктвае з яго маладое жыццё. Пасія адваката выглядала гадоў на трыццаць. Псіхіятр, вядома ж, занепакоіўся выпадкам і цвёрда вырашыў дапамагчы сябру. Ён перагледзеў усе старыя гісторыі хвароб і, калі нарэшце знайшоў гісторыю спадарыні з Пагулянкі, не паверыў сваім вачам: тая жанчына з дыягназам псіхапатычнага засмучэння на сексуальнай глебе звярталася да ўрача ў 1875 годзе ва ўзросце 45 гадоў, а гэта азначала, што на момант яе сувязі са Стаслаўскім мела за плячыма не менш за 80. У псіхіятра з'явілася непераадольнае жаданне пазнаёміцца з Сарай Брага — так звалі жанчыну, дарэчы, з шляхетнага іспанскага роду. Мужчына з цяжкасцю супрацьстаяў чарам жанчыны пасля знаёмства з ёю. Тым часам адвакат памёр ад невядомай хваробы, а яго сябар высветліў, што Сара мела перад ім яшчэ шасцярых мужчын, лёс якіх невядомы. Разумеючы небяспеку задуманага, ён усё ж пасяліўся на Пагулянцы ў доме Сары. Неймаверных высілкаў каштавала яму не паддавацца чарам фатальнай спакусніцы, так што ніводнага разу справа не дайшла да ложка. І вось Сара, адчуваючы бяссілле, пачала старэць, на яе маладым твары з'явіліся зморшчыны, а ў валасах — сівізна. Не дапамагалі ні істэрыкі, ні маленні — псіхіятр заставаўся непахісным. Неяк, чытаючы Біблію, ён выпадкова адкрыў таямніцу Сары

ў кнізе Товіта. Там гаварылася пра Сару з Мідыі і яе семярых мужоў, якія потым былі аддадзены дэману Асмадэю. Увечары, калі яны сядзелі побач на канапе ў гасцёўні, ён прачытаў ёй гэтае месца са Старога Запавету. Са страшным крыкам Сара выбегла з гасцёўні. Псіхіятр рушыў следам і... убачыў яе цела на лесвіцы. Сара была мёртвая. Перад ім ляжала 80-гадовая старая.

Пакрысе здароўе Соні дазволіла дактарам выпісаць дзяўчыну з клінікі, але з умовай догляду родных за ёй, каб пазбегнуць магчымасці рэцыдыву. Яна пасялілася разам з Аксанай у кватэры, знятай татам. У Станіславаў вяртацца рэзка адмовілася. Зрэшты, і дактары дзяўчыну падтрымалі. Нягледзячы на асабістае жыццё і планы (ды што тыя планы значылі пасля адмовы ў візе?), Аксана пагадзілася не пакідаць сястру, пакуль тая не акрыяе. Назару, зразумела, рашэнне Аксаны не спадабалася, аднак яго меркаванне дзяўчыну не асабліва хвалявала. Калі ён не разумеў сітуацыі — то гэта яго праблема, а не яе, і вырашаць, як яму сябе паводзіць у такім разе —таксама цалкам яго прэрагатыва. Так, ён тэлефанаваў Аксане рэгулярна, нудзіўся без яе, жаліўся, як яму дрэнна, ды прыязджаць у Львоў не імкнуўся на спатканні, бо не адчуваў горад сваім і ўвогуле адчуваў сябе лішнім, асабліва ў той аднапакаёўцы, дзе Соня, здавалася, была паўсюль. У яе прысутнасці яму не хапала ні паветра, ні прасторы, бо дзяўчына, на яго думку, паглынала ўсё навокал, запаўняла сабой, пранікала ўсюды, нават у яго лёгкія. І сапраўды, калі Назар зрэдку прыязджаў, застацца з Аксанай не

выходзіла. Яна не магла пакінуць сястру адну, без варыянтаў. Зрэшты, дыскамфорту не адчувала. Непакоіла гэта толькі Назара, а значыць, ён сапраўды быў лішнім. Дый не меў на Аксану ніякіх правоў. Яна ўжо двойчы адмовіла яму ў прапанове шлюбу. Іншы б задумаўся адразу і даўно пакінуў яе ў спакоі, Назар жа лічыў, відаць, што Аксана проста ўпарціцца, бо так прынята, да таго ж яго падтрымлівалі яе бацькі, вось ён і не губляў надзею аднойчы ўзяць дзяўчыну за жонку. Аксана ж замуж не спяшалася. Якое замужжа?!. Яна яшчэ маладая, у яе планы на будучае жыццё, і ў гэтым жыцці не было ні мужа, ні дзяцей, нічога падобнага. Так, няўдача з ад'ездам у Амерыку крыху пахіснула паветраны замак, узведзены марамі і спадзяваннямі, але не зруйнавала. Трэба давучыцца ва ўніверсітэце, дапісаць дыпломную працу, абараніць дыплом, уладкавацца ў якую-небудзь дыпламатычную місію — тата ж абяцаў дапамагчы... Мама, канешне, выносіла ёй мозг развагамі пра Назара, вяселле, расповедамі пра ўзрост для шлюбу і нараджэння дзяцей, быццам не чула дачку, быццам ні ў што не ставіла думкі і жаданні дачкі, адносілася, напэўна, як да немаўляці. Аксана стамілася ёй паўтараць, што мае не пяць гадзікаў і неяк сама разбярэцца, як упарадкаваць жыццё, бо гэта яе жыццё, а не маміна. Нібы са сценкай размаўляла. Таму з задавальненнем засталася ў Львове. З Соняй пачувала сябе зацішна, утульна, камфортна. Спакойна пісала дыплом па паэтыцы Оскара Уайльда і яго ўнёску ў развіццё англійскай мовы, улічваючы той факт, што той быў ірландцам. Тата якраз прывёз усю неабходную

літаратуру, якую дзяўчына замовіла яму. Магла, вядома, сядзець у бібліятэцы, ды бібліятэкі не любіла, да таго ж Соня на руках. Нярэдка яны выходзілі ў парк на Пагулянку, калі надвор'е ажно клікала далучыцца да яго і нацешыцца цёплымі абдымкамі паветра і сонечных промняў, бралі з сабой коўдрачку, якую сцялілі на траву і ўладкоўваліся на ёй пад тым альбо іншым дрэвам з абавязковым ценем ад галінастых зялёных шатаў, а таксама нешта з ежы, каб падсілкавацца, калі раптам захочацца сунуць штосьці ў рот, і ваду ў пластыкавых пляшачках. Аксане добра працавалася ў тыя моманты над дыпломам, Соне ж проста было добра: яна лажылася на спіну і слухала музыку праз навушнікі. Калі і музыка і вучоба надакучвалі — сёстры дурэлі, як у дзяцінстве, ганяліся адна за адной, граючы ў даганялкі. Часам дазвалялі сабе і бадмінтон, таму ў сумцы Аксаны аказваліся ракеткі і валанчык. На жаль, Соня хутка стамлялася ад гульняў, але тое, што ёй падабалася гуляць — усцешвала. А яшчэ яна ўвесь час мерзла, асабліва па вечарах, калі трэба было класціся спаць, і непасрэдна ў пасцелі. Дзяўчыну трэсла, быццам у ліхаманцы, і яна шукала цяпла ў абдымках Аксаны (дзяўчаты спалі разам у адным ложку). Соня ўціскалася ў сястру, нібы хацела патрапіць унутр яе, як у гарачую выратавальную пячору, церлася сваім целам аб цела сястры, нібыта высякала агонь (так старадаўнія продкі каменем аб камень той агонь здабывалі), мармытала нешта сабе пад нос, сапучы ў шыю Аксаны, саграvалася і заціхала нарэшце, скароная сном. Аксана, у сваю чаргу, таксама туліла сястру да сябе, каб тая

не патанула ў цемры, як у вадзе, не растала, быццам у тумане, бо выглядала рыхтык цукровай ці як дзьмухавец — дзьмухнеш на яе — і костачкі рассыплюцца, такімі кволымі і крохкімі падаваліся. Не дзіўна, што яна адчувала холад і, як кошка, усюды і паўсюль шукала цяпла. Абедзве яны не заўважылі, як сястрынскія абдымкі перараслі ў нешта іншае, больш інтымнае. Соня прагнула пяшчоты, бо цела яе ажывала і цягнулася да іншага цела, якім па іроніі лёсу сталася цела Аксаны. Яна захаплялася прыгажосцю сястры заўжды, бездакорнымі яе формамі і зайздросціла самой сабе на злосць Назару, бо магла ўладарыць Аксанай у адрозненне ад яго. Хлопца сястры Соня ненавідзела і не любіла, калі той прыязджаў. Наўмысна перашкаджала заставацца ім сам-насам, жадала, каб Назар як мага хутчэй з'ехаў і пакінуў дзяўчат толькі ўдвох. Аднойчы, калі яны ляглі тварам да твару і спавілі адна адну целамі, Соня сказала Аксане, пазіраючы ў яе вочы пільна і засяроджана: 

— Ксан, чаму ты такая прыгожая?! Я так цябе люблю, ты нават не ўяўляеш, наколькі моцна! І не хачу цябе ні з кім дзяліць, разумееш?..

— Я таксама цябе люблю, Соня, — усміхнулася ёй Аксана, — ты ж мая малодшая сястра, не забыла?

— Тады пацалуй мяне, — прамовіла Соня, пры гэтым фраза прагучала патрабавальна і рашуча.

Аксана клюнула сястру ў лоб, дакранулася вуснамі куткоў яе вачэй.

— Не так! — прыкрасць адчувалася ў голасе дзяўчыны.

— А як яшчэ? — не разумела Аксана.

Соня шчыльней прытулілася да сястры, знайшла вуснамі яе вусны і прысмакталася да іх, быццам да ачышчанай мандарынкі. І Аксане пацалунак сястры спадабаўся. У яе было імкненне адштурхнуць Соню, прысароміць, насварыцца на яе, бо гэтак жа нельга, але яно доўжылася не больш за дзве секунды. Яна памятала пра магчымы рэцыдыў і вяртанне Сонінай хваробы... Калі Соню адштурхнуць — не выключаны трагічны фінал. Яе паводзіны сведчылі аб пераадоленні хваробы. Соня папраўлялася, бо як інакш патлумачыць гэты ўчынак?.. Зразумела, усё пройдзе з часам, галоўнае не напалохаць бедную дзяўчынку, не зрабіць ёй балюча. Дый што такога крамольнага ў пацалунках, калі яны пойдуць толькі на карысць?..



Соня заплюшчыла вочы. Аксана дазваляла ёй сябе цалаваць і насцярожана назірала за сястрой. Цікаўны месяц зазіраў у акно, але наўрад ці што бачыў нават праз напаўпразрысты цюль. Але святло яго дапамагала Аксане бачыць ноч, у якой Соня больш не танула, Соня танула ў ёй, з хуткасцю камікадзэ. Калі тата даведаецца — пракляне абедзвюх. Хаця не, Соне даруе. Аксану выкрасліць са свайго жыцця. І не патлумачыш яму, што ўсё рабілася дзеля Сонінай тэрапіі. Але даведацца тата можа толькі ў адным выпадку і ад аднаго чалавека: ад самой Соні, якая, здавалася, нават вуркатала ад задавальнення.

— Спадабалася? — спытала яе Аксана, калі тая, быццам вампір, які наталіў смагу крывёю, адляпіла-

ся ад яе вуснаў. Соня перарывіста дыхала, абдаючы гарачым подыхам твар сястры.

— Ты не дужа злуешся? — выдыхнула ў адказ дзяўчына.

Аксана зрабіла выгляд, што задумалася, і затым цвёрда вымавіла:

— Не.

— Не — не дужа, ці не — не злуешся? — патрабавала Соня канкрэтыкі і носам пацерлася аб нос сястры.

— Што ты хочаш пачуць? — у адказ Аксана пацалавала яе.

— Я вельмі люблю цябе, Ксан! — прызналася Соня так, быццам Аксана была яе сапраўдным каханнем.

— Я таксама люблю цябе, Соня! — запэўніла тая дзяўчыну.

— І мы ніколі не расстанемся? — пачала Соня гульню, падобную на дзіцячую, калі яны, малымі, гэтак жа спалі разам і ціскалі адна адну, гарэзуючы.

— Ніколі, ты ж ведаеш, — падхапіла Аксана Соніну гульню.

— І нас ніхто не разлучыць?

— Ніхто.

— І нават Назар?

— Назар у першую чаргу.

— Ты сур’ёзна?

— Так.

— Добра падумала?

— Так.

— Назад дарогі не будзе. Ты настойваеш на сваім рашэнні?

— Так.

— Люблю цябе.

— Спі давай.

— А пацалаваць?

Аксана паслухмяна пацалавала сястру, і тая, прыціснуўшы рукі да грудзей, уткнулася носам у ямачку на шыі Аксаны. Праз колькі хвілін яна ўжо спала.

Зразумела, далей пацалункаў нязвыклыя стасункі сясцёр не рушылі. Яны і не імкнуліся сягаць некуды вышэй. Соня выдатна разумела, хто ёй Аксана, не зусім жа яна была «ку-ку», але пацалункі прыносілі ёй палёгку, абдымкі — цяпло. Побач з сястрой, у палоне яе рук, прыгажосці і аўтарытэту яна не адчувала сябе адзінокай. Сыход Тараса шпурнуў дзяўчыну, як непатрэбнае кацяня, у калодзеж адзіноты такой  глыбіні, што яна згубіла ў ім саму сябе і не ведала, як адтуль выкараскацца, не ставала сіл і нават жадання. Холад паглынаў яе розум, душу і цела аднекуль знутры, жор яе страўнік, лёгкія, ныркі, сэрца, пячонку паасобку і запіваў крывёй. Уратавацца ад яго яна не магла, не ведала, куды збегчы ад яго. Аксана, быццам рыцар, з'явілася менавіта тады, калі холад, лічы, перамог Соню, і схапілася з ім у бітве, як з трохгаловым цмокам. Соня бачыла іх тытанічны двубой наяве, але праз прызму казачнага трызнення, і таму пацалункі — адзінае, што яна палічыла слушным падарыць Аксане ў знак удзячнасці, бо нічога іншага не прыходзіла ў галаву. Пацалункі і абдымкі ў першую чаргу былі патрэбны Соні, каб вылечыцца, пазбавіцца холаду, дзякуючы пацалункам, як па

драбінах, яна здолее вылезці з калодзежа адзіноты і беспрытульнасці свету, — гэта Соня адчувала на ўзроўні інстынкту, аднак усё адно лічыла, што і Аксане патрэбны былі яе пацалункі і цяпло, бо і сястра блукала ў поцемках гэтаксама, як і Соня, згубіўшы сябе. Яны абедзве былі патрэбны адна адной, аддаленыя часам і ўзростам, як ніколі раней. Іх пацалункі нагадвалі пераліванне крыві, яны абнаўляліся такім чынам, каб не загінуць, і станавіліся раднейшымі не часова ў прыліве пяшчоты, а назаўжды.

Соня ўпадабала фланелевую татаву кашулю, якую ён, відаць, забыў у кватэры, і спала ў ёй, а выглядала дужа смешнай, бо амаль цалкам хавалася ў ёй. Кашуля таксама з'яўлялася яшчэ адной часцінкай цяпла, якога дзяўчыне бракавала.



Пацалункавая тэрапія праходзіла штовечар як абавязковы рытуал даволі працяглы час. Зрэшты, дзякуючы ёй, на Соніным твары з'явіўся румянец, а вочы заблішчэлі жаданнем жыць і радавацца жыццю. Неўзабаве дзяўчына зноў адчувала сябе жывой, пачала цікавіцца навінамі і кнігамі. Усё часцей выходзіла з дому адна і нават запісалася на курсы цырульнікаў, з задавальненнем вывучала мастацтва стрыжкі. Курсы аплачваў тата, і недарэмна. У Соні, як высветлілася, меўся сапраўдны дар стварэння прычосак, які не без карысці для сябе выкарыстаў адзін з львоўскіх салонаў прыгажосці, размешчаны непадалёк ад Нацыянальнага ўніверсітэта, куды пасля заканчэння курсаў Соню запрасілі працаваць. Яе прычоскі параўноўвалі з мастацкімі шэдэўрамі, якія

зазвычай дзяўчына выпрабоўвала на студэнтках, бо тым у эксперыментальных мэтах дазвалялася бясплатнае абслугоўванне. У Соніных руках валасы кліентак ператвараліся ў дзівосныя скульптуры, якія не абышлі ўвагай ні СМІ, ні тэлебачанне. У яе крэсла перад люстэркам ва ўсю сцяну марылі патрапіць нават зоркі айчыннага шоу-бізнесу, неаднойчы яна атрымлівала прапановы пераехаць у Кіеў і мець пастаянную працу на розных тэлеканалах, займацца непасрэдна сваёй прафесіяй, некаторым зоркам карцела мець дзяўчыну за ўласную візажыстку... Аднойчы на адрас салона, у якім Соня працавала і прыносіла яму немалы прыбытак, прыйшло запрашэнне на ўдзел у міжнародным конкурсе цырульнікаў, які мусіў адбыцца ў Польшчы. Соня дакладна ведала, што паедзе на конкурс і не вернецца назад. Гэта быў яе шанец вырвацца канчаткова з калодзежа холаду і адзіноты. Пацалункі Аксаны, цяпло сястры, зразумела, ратавалі яе, але нагадвалі наркаманскія дозы і дзейнічалі часова. Ёй, як сапраўднаму наркаману, з кожным разам патрабавалася ўсё больш і больш цяпла, чаго Аксана даць у прынцыпе не магла, а калі магла — то са стратамі для сябе. Нярэдка Соня лавіла сябе на думцы, што нагадвае энергетычнага вампіра, здатнага высмактаць з сястры ўсе сокі, бо ўзамен нічога ёй не давала. Сама наталялася, а пра Аксану не думала, што не дзіўна: яе арганізм чапляўся за кожную магчымасць адужвання, пачуўшы смак здаровай крыві, і не лічыўся з нормамі маралі і наступствамі. Тым не менш Аксана радавалася за

Соню. А колер скуры Аксаны відавочна пабляк, набыў шэрае адценне, а пад вачыма ўзніклі гусіныя лапкі зморшчынак. Соня не заўважала спачатку перамен у сястры, а калі і заўважала — не надавала значэння, спісвала на launched ператамленне Аксаны з-за вучобы і працы над дыпломам, да таго ж з Назарам у яе не асабліва выходзіла. Усведамленне сваёй віны ў стане сястры Соню крыху збянтэжыла, але не пахіснула. Яна ўжо даволі моцна трымалася на нагах ва ўсіх сэнсах, таму смела прапанавала Аксане раз'ехацца, дакладней, вярнуцца той у Станіславаў. Хопіць, маўляў,важдацца з ёй, час дбаць і пра сябе. Тады ж паведаміла, што пасля конкурсу не вернецца ў краіну. Як, якім чынам застанецца за мяжой, яшчэ не ведала, але вырашыла цвёрда. Аксана не адгаворвала Соню. Наадварот, поспехі сястры акрылялі яе, выклікалі гонар за малую. Калі там ёй будзе лепш — чаму не? Тата, праўда, раз'юшыўся, як шторм у акіяне, калі даведаўся пра Сонін намер, але і ён сціх. Падумаў, відаць, яшчэ ж не з'ехала, чаго раней часу панікаваць. Можа, наадварот, захоча хутчэй прыехаць дамоў, як пабудзе там і пабачыць усё чужое. Аднак не, не захацела Соня. Яна выйграла той конкурс і падпісала дамову з сусветным мадэльным канцэрнам. Згодна з дамовай яна некалькі гадоў мусіла рабіць прычоскі мадэлям і замежным кіназоркам. Нават на вяселле Аксаны не прыехала. Зрэшты, Соня не прыехала б у любым выпадку.

Аксана сапраўды выйшла замуж за Назара. Як тое сталася, сама не разумела. Яна скончыла ўніверсітэт

з чырвоным дыпломам, на які спадзявалася, верыла ў перспектыву ўласных магчымасцяў ды кар'ерны рост у той дзейнасці, якую ёй запрапануюць працадаўцы з Кіева. Аксана не сумнявалася, што менавіта яна патрэбна ім, што яны пастануць у чаргу дзеля яе пераманьвання ў свой «гарод». Аднак дзівосаў не адбылося. Ніхто з Кіева не прыехаў ні за ёй, ні за кім іншым. Нікому новаспечаныя спецыялісты з бездакорным валоданнем замежнымі мовамі ў сталіцы не спатрэбіліся. Стэрэатыпныя адносіны ўсходу краіны з захадам, здавалася, узмацніліся яшчэ больш, чым за савецкім часам, і ледзь не кожнага жыхара захаду ўсход асацыяваў з «бандэраўцамі»— бескампраміснымі, нацыяналістычнымі, узброенымі да зубоў і з базукай на плячы. Падобнае стаўленне ўкраінцаў да ўкраінцаў выклікала крыўду і прыкрасць, але яно было настолькі ўстойлівым, што пераканаць кагосьці ў адваротным не ўяўлялася магчымым. Калі б Аксана вучылася ў Кіеве, яе б асімілявалі за пяць гадоў навучання, русіфікавалі і прынялі за сваю. Яна б атрымала жаданую працу без аніякіх праблем. Хутчэй за ўсё і ў візе ёй адмовілі з-за таго, што яна была з захаду. Несправядлівасць свету дратавала Аксану, татавы супакойлівыя словы раздражнялі, а паводзіны мамы выводзілі з сябе. Тата падшукаў ёй працу і ўладкаваў настаўніцай замежнай мовы ў школу ў раёне Пасечнай. Дзяўчына зачынілася ў сваім пакоі і некалькі дзён запар праплакала. Яна не бачыла сябе ў далейшым жыцці, не ведала, што рабіць і як рабіць. Наперадзе толькі пустэча. Школа ні пад якім пунктам не стаяла

ў планах. Аднак такія думкі роіліся ў галаве, здаваліся выразнымі і рэальнымі. Толькі б лёс усміхнуўся ёй хаця б краем вуснаў, а не махаў ручкай з падножкі хуткаснага цягніка, што знікаў за Карпатамі ў напрамку Варны! Рашэнне выйсці замуж, нарэшце ашчаслівіць Назара, не сябе, узнікла спантанна, з адчаю і жалю да няздзейсненых надзей і спадзяванняў. Аксана ў той жа момант пашкадавала, але нічога не паробіш... Так, яна псіханула, аднак яе учынак і бацькі, і Назар, і бацькі Назара ўспрынялі цалкам сур'ёзна, узрушана і радасна, як доўгачаканую падзею — выпакутаваную і заслужаную ўзнагароду. Ці кахала яна Назара? Калі шчыра — не задумвалася. Яе падхапіла нейкая плынь, і яна плыла, быццам човен, туды, куды плылося. Зрэшты, чым адной марнець і жаліцца ў прастору на ўласную долю, лепш мець пад бокам кагосьці, хто цябе любіць, ці не так? Не так сумна, не так адзінока, не так страшна існаваць пад бязлітасным небам дзяржавы, якая цябе свядома адрынула.

Бацькі Аксаны і Назара пазбавілі маладых вясельных і перадвясельных клопатаў. Усе арганізацыйныя пытанні ўзялі на сябе. Ім тое было ў радасць. Да таго ж яны пасябравалі і потым усе святы адзначалі разам, нават бралі адпачынкі ў такі час, каб правесці іх адной кампаніяй.

Назар жа заўсёды яе хацеў і патрабаваў блізкасці. Аксане міжволі думалася, што больш яму нічога не трэба ад яе, але ж тое не каханне, пра якое ён заліваў, дыхаючы ў вушы. Дзяўчына з кожным днём

шкадавала аб згодзе выйсці за яго. Адчувала сябе быццам у лабірынце, у які змясціла сябе сама і выдаліла з памяці веды пра тое, як адтуль выйсці. Яе будучы муж настояў, каб яны разам з’ездзілі ў Львоў і адпачылі перад вяселлем у кватэры на Пагулянцы, усё яшчэ запісанай за татам, але пустой. Соня тым часам ужо заваёўвала Еўропу, і бацькі мелі магчымасць падрыхтаваць свята самастойна, прынамсі, гэтага яны чакалі больш за ўсё ў жыцці. Галоўнае — не перашкаджаць ім уласнай прысутнасцю і заняцца сабой. Логіка ў словах Назара мелася, таму Аксана прымусіла сябе скарыцца яму.

Кватэра сустрэла насцярожанай цішынёй, хіба што, як і заўжды, яе,маўклівую, рэзалі ляск і скрыгат трамваяў. Гукі знадворку забівалі з апантанасцю маньяка, што наносіў удары зноў і зноў, а яна, цішыня, як фенікс, зноў і зноў уваскрасала. Адчуванне жудасці ад уяўнага відовішча знішчала жаданне знаходзіцца ў кватэры, якая здавалася чужой без Соні. Прысутнасць сястры ажыўляла яе, рабіла цёплай і ўсмешлівай, нягледзячы на катастрафічны недахоп цяпла непасрэдна ў Соні. Было падобна на тое, што Соня цяпло кватэры спажыла да астатку і без жалю пакінула Аксану на волю лёсу. Нават сонца, ці мо гэта Аксане падалося, дэманстратыўна павярнулася спінай да акна, у якое так любіла заглядаць і дражніць сясцёр шторанку няўлоўнымі промнямі. Зрэшты, надвор’е каторы дзень выглядала хворым дзіцем, якое па шыю нацягнула коўдру шэрані. Львоў нагадваў Лондан, схаваны ў тумане імжы і смогу. Электрычнае святло,

якое ўключыў Назар, падкрэслівала мёртвасць дня, ад вільготнага паветра міжвольна ўздрыгвалі плечы, бо яно працінала цела наскрозь, абдаючы холадам.

Без прэлюдый Назар паваліў Аксану на ложак, але яна вызвалілася з-пад яго і рашуча запярэчыла: толькі не на ложку, ва ўсякім разе не на гэтым. Першы ж дотык да пасцелі ўкалоў яе тысячамі іголак непрыняцця, больш за ўсё дасталася правай шчацэ, якая пацалавалася з падушкай, аднак той пацалунак нагадваў укус піранні.

— Ды што не так? — не разумеў Назар і раздражнёна хадзіў па пакоі ўзад-уперад.

Аксана не магла яму растлумачыць, бо яе свет, яе адчуванні і ўспрыняцце рэчаіснасці яму ніколі не спазнаць. Яна дакладна ведала, што Назар нават намагацца не будзе, каб зразумець яе, бо нічога агульнага паміж імі не выпраменьвалася першапачаткова, акрамя плоцкага прыцягнення. Навошта тады яны жэняцца?..

Назар падышоў да дзяўчыны ўсутыч, прыцягнуў да сябе. Яна пляснула яго па шчацэ далоняй. Ён пахіснуўся, механічна схапіўся рукой за адразу набрынялую чырванню, быццам нарывам, шчаку.

— Ды што з табой? — выгукнуў з крыўдай у голасе.

Назар выглядаў разгубленым. Аднак Аксане не было яго шкада. Яна не хацела замуж. Ні за яго, ні за кагосьці іншага. У той момант дзяўчыне карцела збегчы як мага хутчэй з кватэры куды-небудзь падалей і ніколі не вяртацца. На дзіва, Назар адчуў яе намер, ды ўцёкі нявесты ў яго планы не ўваходзілі. Ды што

яна ўяўляе сабе, граецца з ім, як з немаўляткам! Без пяці хвілін яго жонка, а значыць, ён мае права на ўсё ў дачыненні да яе. Хопіць дазваляць ёй трымаць яго за лоха. Ён пакажа, хто з іх гаспадар і дзе чыё месца.

— Ты будзеш пакарана, — вымавіў Назар і дадаў: — Тут і зараз!

— Што?! — Аксана нават зажмурылася.

— Што чула, — рашуча адказаў Назар. — І павер, гэта дзейнічае стоадсоткава.

— Ды пайшоў ты! — паспрабавала дзяўчына адштурхнуць яго і прайсці да дзвярэй.

Аднак сілы былі няроўнымі.

Назар яе не біў, не ўдарыў ніводнага разу, нягледзячы на тое, што яна пры супраціве не саромелася, калі атрымлівалася пацэліць кулачком то ў твар яго, то пад рэбры, пры гэтым кусалася і дапамагала сабе нагамі. Зразумела, удары яе не наносілі асаблівых пашкоджанняў Назару, які ўсё ж такі ўтаймаваў будучую жонку. Ён спачатку звязаў ёй рукі за спінай, пасля ногі ды кінуў тварам на ложак. Падушка, быццам натапыраны вожык, сустрэла дзяўчыну сотнямі іголак. Аксана кляла Назара на чым свет стаіць, брыдка лаялася, мацюкалася, пакуль ён не заляпіў ёй рот скотчам. Яму хацелася плакаць ад пачутага, бо падобнага стаўлення не заслугоўваў,але стрымліваў сябе. Усё ж адчуваў да Аксаны тое, што людзі называюць каханнем, ні больш ні менш. Ён быў упэўнены ў сваіх пачуццях да дзяўчыны, бо ніякая іншая не выклікала ўвогуле нічога ў яго сэрцы. З першага позірку, кінутага на Аксану ў доме яе бацькоў, Назар

зразумеў, што менавіта яна стане яго жонкай. Нават раней, калі тата дзяўчыны распавядаў хлопцу пра дачку. Яна аказалася дакладна такой, якой ён яе і ўяўляў па адных расповедах. Канечне, апантаным Аксанай ён не быў, ды нават калі і так, што з таго? Назар не зломак і не вырадак, таксама варты кахання. Менавіта Аксанінага. І ён гэта давядзе ёй. Сваімі метадамі. Нішто і ніхто іх ніколі не разлучыць. Цярпець ён умее. Гэтаксама як і дамагацца свайго.

Назар схадзіў на кухню, пакорпаўся ў шуфлядах кухоннага стала, знайшоў тое, за чым прыйшоў, і вярнуўся да Аксаны. Вочы дзяўчыны, і без таго вялікія, павялічыліся ці не ўдвая, калі яна пабачыла даўжэзны кухонны нож у руках жаніха. Жудасць і страх апанавалі ўсё цела і розум. Аксана круцілася па пасцелі ў марных намаганнях уратавацца ад немінучай смерці, выціснуць хоць гук, каб паклікаць на дапамогу, не ўсведамляючы, што ўсё адно ніхто не пачуе. Слёзы сляпілі вочы, і таму Назар расплываўся расфакусаваным контурам. Вось ён навіс над ёй з занесеным нажом для рашучага ўдару ў сэрца. Аксана зажмурылася ў прадчуванні невыноснага болю. Аднак... болю не адчула. Няўжо колатыя раны такія не балючыя? — падумала яна і расплюшчыла вочы. Назар старанна і засяроджана разразаў на ёй вопратку. Затым рэзкім рухам вызваліў яе цела ад непатрэбных шматкоў тканіны, у якія ператварылася адзенне, і мімаволі загледзеўся на аголенасць бездакорных формаў. Яму карцела валодаць імі, як скнары Габсеку грашыма, хацелася накінуцца на безабаронную ў той

момант дзяўчыну і паказаць раз і назаўсёды ўладу над ёй. Трапяткая плоць, жаданая і даступная, вабіла і спакушала. Ён з цяжкасцю адвёў вочы ад яе, бо пакаранне заключалася зусім у іншым. Браць Аксану гвалтам не мела сэнсу, ён не гвалціць яе прывёз сюды, да таго ж кахаліся яны ўжо неаднаразова. Дзяўчына павінна зразумець, што ён не жартаваў з ёю, што яго намеры наконт яе сур'ёзныя, таму і наступствы паводзін яе таксама патрабавалі суадноснай рэакцыі з яго боку. Назар агледзеўся вакол з выглядам шукальніка скарбаў. Позірк яго зачапіўся за шторы на акне з жоўтага саціну, рассунутыя ў бакі. Тое, што трэба. Ён сарваў адну. Аксана не зводзіла з Назара ні на секунду насцярожанага, трывожнага позірку. Яна крыху супакоілася, зразумеўшы, што забіваць



яе не будуць, і нават пачала адчуваць цікаўнасць да дзейнасці Назара, хоць страх усё яшчэ сядзеў у галаве, быццам клешч. Тканіна з акна накрыла Аксану з ног да галавы. Гэтаю тканінай Назар спрытна спавіў дзяўчыну, як немаўля, але так плотна і шчыльна, што дыхаць ёй было цяжка. Сацін пазбавіў магчымасці рухацца не толькі яе цела, але і твар паланіў з задавальненнем маньяка. Яна магла задыхнуцца... Зрэшты, да апошняй думкі Аксана аднеслася раўнадушна. Яе паглыналі стома і абыякавасць.

Назар сядзеў побач. Навёў у тэлефоне будзільнік, вызначыўшы час, які дзяўчына мусіла правесці ў імправізаванай турме, упэўнены ў эфектыўнасці працэдуры. Не ён яе прыдумаў, усяго толькі паўтарыў за сваёй маці. Яна была даволі ўладарнай жан-

чынай і заслужана займала пасаду намесніцы мэра, шмат зрабіла карыснага для горада. Станіславаўцы любілі і паважалі яе, сямейныя ж пабойваліся. Хатні дыктат жанчыны нікім ніколі не аспрэчваўся. Мужа яна хутка падмяла пад сябе пасля вяселля, вымусіла займацца практычнымі справамі, якія прыносілі фінансавы прыбытак і незалежнасць. Да знаёмства з ёю бацька Назара пісаў карціны, магчыма, неблагія, але нікому непатрэбныя, бо іх ніхто ніколі не купляў у яго, хоць выстаўкі праводзіліся досыць рэгулярна, нават інтэрв'ю бралі спецыялізаваныя часопісы і публікавалі на сваіх старонках разам з рэпрадукцыямі работ мастака. Бацькі рэдка распавядалі пра знаёмства. Хто ведае, можа, бацьку падабалася, што ім кіравала жанчына, што яна выцягнула яго з адвечнай нястачы, разгледзела ў ім талент для іншага накірунку дзейнасці. Ён ніколі не жаліўся, што маці адвучыла яго ад захопленасці самім сабой і, лічы, пазбавіла любімага занятку, затое адкрыла іншыя гарызонты, шырэйшыя і дастойнейшыя, не зусім звязаныя з творчасцю, але, калі падумаць, даволі блізкія да яе. Ён прыдумваў новыя віды і формы тортаў і пірожных для адной-адзінай шакаладніцы на той час (яна знаходзілася на водшыбе і належала маці, але неўзабаве вырасла ў цэлую сетку па ўсім горадзе).

Выглядаў бацька цалкам задаволеным уласным становішчам і, відаць, нават не крыўдзіўся на жончыны зняважлівыя словы. Пад настрой тая магла дазволіць сабе прынізіць яго, лішні раз напомніць, з якой сметніцы падабрала, як шалудзівага сабаку,

пасмяяцца з уяўнага магчымага бацькавага будучага без яе ўдзелу ў яго лёсе. Штораз выходзіла незайздросная карціна, падобная, між іншым, на карціны самога бацькі, галоднага, халоднага, высахлага, знямоглага, даведзенага да жабрацтва, затое ў абдымку з мастацтвам. Зрэшты, ён і на матчынай заможнасці мяса не нарасціў на рэбрах. Выглядаў сухарлявым, падцягнутым, нават арыстакратычным, маючы бледную скуру і ліхаманкавы бляск творчай нерэалізаванасці ў вачах. Але, мусіць, быў задаволены жыццём. Ён рана палысеў, яшчэ ў войску, і бездакорна гладкі чэрап яго, рыхтык більярдны шар, блішчэў на сонцы. Маці, у адрозненне ад бацькі, мела ўпэўненую гвардзейскую постаць. Яна не была тоўстай, аднак здавалася мажнай і крупнай жанчынай з-за высокага росту і шырокай структуры костак. Голас яе таксама вылучаўся звонкасцю, цвёрдасцю і загадным тонам. Яна заўсёды ведала, чаго хацела і да чаго імкнулася. У выніку пабудавала трохпавярховы каменны катэдж з двума гаражамі ў зацішным завулку на Азерковіча (непадалёк ад універсітэта і Шаўчэнкаўскага парку), улетку схаванага пад шатамі разгалістых садовых дрэў і дуба, наяўнасць якога і заахвоціла будавацца менавіта побач з ім. Першы паверх не ўяўляў з сябе нічога асаблівага. Яго вылучылі пад кухню, санвузлы і гасцёўню, абсталяваную пад Францыю Людовіка XIV. Маці захаплялася ў свой час раманамі Дзюма — таму, калі з’явілася магчымасць ажыццявіць дзіцячыя і юнацкія мары, без ваганняў скарысталася выпадкам. Псаваў агульнае ўражанне

хіба што сучасны тэлевізар на палову сцяны. Зрэшты, сям’я рэдка збіралася непасрэдна ў гасцёўні, бо яна прызначалася выключна пад дзелавыя прыёмы і візіты, звязаныя з дзейнасцю маці. На другім паверсе размяшчаліся пакоі бацькоў з ваннымі пакоямі ў кожным, бібліятэка, бацькаў кабінет, матчына гардэробная. Трэці паверх займалі дзеці: Назар і малодшая за яго на некалькі гадоў сястра, якую маці выхоўвала ў поўным падпарадкаванні сабе. Зразумела, што Даша — так яе звалі — перыядычна бунтавала, тады маці праводзіла карныя мерапрыемствы ў дачыненні да неслухмянкі. Перш-наперш прымушала распранууцца, паставіць ногі на шырыню плячэй і напалову росту зменшыцца, то бок выпрастацца ў нахіле літарай «г». Затым пачыналася экзекуцыя «рамянём», праўда, замест рамяня маці зазвычай карысталася хлапушкай, той самай, гумовай, чыё непасрэднае прызначэнне заключалася ў знішчэнні мух. Яна прыкладалася хлапушкай па пяць разоў да абедзвюх паловак азадку дзяўчыны, якая верашчала пасля першага ж удару. Енчыла, што больш так не будзе. Аднак маці не верыла абяцанням дачкі, загадвала лажыцца на ложак, звязвала рукі і ногі і спавівала ў прасціну, загадзя падрыхтаваную, а ў рот запіхвала соску. «Калі ты не адказваеш за свае ўчынкі, — казала маці, — а за кожны ўчынак, дрэнны ці добры, трэба быць гатовым адказваць, тады і павага і суадноснае стаўленне да чалавека з’явіцца, — значыць, ты немаўля. А што з немаўлём робяць?..» Яна змаўкала на паўслове, пакідала дачку адну і замыка-

ла дзверы яе пакоя на ключ. Гэта цягнулася з самага дзяцінства Дашы і працягвалася ў падлеткавым яе ўзросце, асабліва ў падлеткавым, калі дзяўчына часта парушала ўсе матчыны запаведзі з рэгулярнасцю ў тыдзень. Яна нават кідалася на маці з кулакамі, але выглядала тое смешна, што моська на слана, бо не вылучалася ні ростам, ні пышнымі формамі. Маці лічыла дачку няўдаліцай з самага яе нараджэння, што з кожным годам пацвярджалася, але найперш падабенства дзяўчыны з бацькам раздражняла жанчыну. Даша імкнулася да творчасці, малявала, бацька падтрымліваў яе талент і, як мог, развіваў. Маці ж ірвала малюнкі дачкі ў яе на вачах і карала нават за тое, што тая малявала. Да таго ж дзяўчына адрознівалася не абы якой прыгажосцю і прывабнасцю,

можна сказаць, магнетычнай прыцягальнасцю, з-за чаго яшчэ больш раздражняла маці. Даша выклікала жаданне валодаць ёю непадзельна, няважна ў якім выглядзе і з якой нагоды, і ў гэтым была яе галоўная праблема. Зразумела, што не яе віна ва ўзнікненні падобных жаданняў у кожнага, хто яе бачыў хоць раз, і маці адчувала гэта і намагалася неяк звузіць колькасць жадаючых зблізіцца з дачкой. Ратавала такім чынам ад няўдзячнага свету. Праўда, ці лічыла Даша мацерыны пакаранні за ратаванне— цяжкае пытанне. Урэшце рэшт яна збегла з дому, чым раз’юшыла маці ледзь не да нянавісці, асабліва калі высветлілася, дзе дзяўчына апынулася. Тады якраз адбылася Рэвалюцыя годнасці, і Даша прымала непасрэдны ўдзел у падзеях на Майдане ў Кіеве; знаёмыя, якія

таксама там адзначыліся і вярнуліся затым дамоў, распавядалі, што Даша актыўна ўдзельнічала ў валанцёрскай працы, літаральна танчыла пад кулямі, быццам Гаўрош, і ў вольную хвіліну занатоўвала ў альбом для малявання алоўкам тое, што бачыла вакол сябе, ды пісала на асобных аркушах партрэты паплечнікаў. Маці нервавалі байкі пра дачку. Яна чакала яе вяртання не дзеля таго, каб захапляцца геразмам крывінкі. У адрозненне ад астатніх маці прагнула пакараць дзяўчыну за ўпартую непаслухмянасць і жаданне маляваць. Выяўленчае мастацтва маці не ўспрымала ўвогуле, а ў сваёй сям'і пагатоў. Яна марыла ўдала выдаць дачку замуж, ужо і жаніха ёй прыгледзела, бо сэнс жыцця жанчыны бачыла ва ўдалым шлюбе і дзецях. Усё іншае— пабочныя адхіленні, асабліва творчасць, цягу да якой трэба выпальваць калёным жалезам пры самых першых яе праявах. Маці не без падстаў лічыла творчасць адной з самых шкодных з'яў у жыцці чалавека, якая нічога, акрамя пакут, расчаравання, няшчасця і заўчаснага сыходу, не прыносіла. Асабліва гэта тычылася жанчыны. Рэдкія выключэнні не браліся ёю пад увагу і адмыслова ігнараваліся. Аднак Даша не вярнулася, неўзабаве яна даслала ліст, у якім паведамляла, што знаходзіцца ў зоне АТА і каб яе не чакалі. Маці парвала той ліст на шматкі і спаліла ў каміне. З таго дня забараніла нават імя дачкі ўзгадваць, прынамсі, у сваёй прысутнасці. Даша для яе памерла. Назар ганарыўся сястрой. Неаднойчы пытаўся ў самога сябе, ці пайшоў бы ў войска, ведаючы, што абавязкова

патрапіць на фронт? Ён не лічыў сябе баязліўцам, але адчуў, што добраахвотна ніколі б не паехаў на вайну. У любым выпадку. Пакуль вайна не прыйшла ў яго дом і не пагражала непасрэдна яму — не было сэнсу з ёй і знаёміцца. Па позве — іншая размова. Але позвы не прыходзілі. Шмат каму прыходзілі, яму — ні разу. Магчыма, дзякуючы маці, якая трымала пытанне позваў пад уласным кантролем.

Ці не хацеў Назар апынуцца на месцы маці і адчуць тое, што адчувала яна ў дачыненні да Дашы, калі вырашыў пакараць Аксану? Ён неяк выпадкова бачыў пакаранне сястры, але яно прымусіла яго застыць на месцы і не варушыцца ўвесь той час, пакуль цягнулася экзекуцыя. Ні маці, ні Даша яго не бачылі. Але ён бачыў усё. Стаяў за дзвярыма Дашынага пакоя, нядбайна прачыненымі, і назіраў праз даволі ёмістую адтуліну. Потым сышоў незаўважаным, але карціна ўбачанага доўгі час пераследвала яго. Магчыма, таму, што ён хацеў апынуцца на месцы маці. І вось апынуўся. Але ж гэта ненармальна. Па ўсіх законах логікі і прыстойнасці. Ён кахаў Аксану, яны мусілі хутка пажаніцца. Ці захоча Аксана пасля перажытага выйсці за яго? Яму, напэўна, трэба было пачакаць з пакараннем да вяселля...

Назар падхапіўся, быццам ачомаўся пасля летаргічнага сну, сутаргавымі рухамі пачаў вызваляць дзяўчыну з палону. Што ён нарабіў?! Бесперапынна выбачаўся перад ёй, а яна не прамовіла ані слоўца, акінула яго зняважлівым позіркам і зачынілася ў ванным пакоі, чым зноў выклікала неадольнае жаданне

пакараць яе, ды ён неймавернымі высілкамі стрымаў яго. Не, яна не плакала там і не намагалася ўтапіць сябе ў ваннай ці наглытацца таблетак, каб атруціцца і такім чынам адпомсціць за гвалт над сабой, на што, магчыма, Назар разлічваў. Аксана набрала ў ванну вады, з асалодай апусцілася ў яе і суцяшала сябе, што ледзь не зрабіла жыццёва важнай памылкі, датычнай Назара. Ні аб якім вяселлі не магло быць і думкі пасля яго ўчынку.

# 6



Кватэра бацькоў гула align="">рознагалоссем запрошаных гасцей. І хоць іх было няшмат, у асноўным сваякі ды некалькі сябровак Соні, уражанне складвалася не на карысць мінімалізму. Міжволі ўяўлялася перапоўненая гасцёўня, падобная на залу для баляў. То тут, то там чуліся смех і жарты. Госці, у чаканні галоўных герояў п’есы, рэжысёрам-пастаноўшчыкам якой з’яўлялася жыццё, расцягнуліся па кватэры. Мама Аксаны і Соні ў апошні раз акінула пільным позіркам накрыты святочны стол (але пакуль не з нагоды вянчання малодшай дачкі і амерыканца, запланаванае на паслязаўтра, а непасрэдна дзеля Соні і Томаса, дзеля гасціннасці і прыстойнасці), паморшчыла носік, бо рэдкая гаспадыня застаецца задаволенай сабой і заўжды непакоіцца ды нервуецца, ці ўсё добра ў яе выйшла, зірнула на мужа, быццам спытала, ці справілася яна. Той абняў жонку, шапнуў, што хопіць правяраць сябе, і супакоіў, ухваліўшы яе майстэрства сервіравання і гатавання. Яна ўсміхнулася яму і пабегла пераапранацца, каб выглядаць годна і адпаведна падзеі. Гаспадар

дома тым часам выйшаў на балкон і патэлефанаваў Соні — паведаміць, што ў іх з мамай усё гатова, і трохі прыспешыць маладых. З непрыхаванай радасцю тата пачуў, што яны ўжо вярнуліся і разуваліся ў вітальні. Ён пакінуў балкон, прайшоў гасцёўню наскрозь і сутыкнуўся з дочкамі ды Томасам якраз тады, калі тыя апынуліся на парозе гасцёўні. Тата пацікавіўся ў Томаса ўражаннямі ад горада, усміхнуўся захопленаму адказу амерыканца.

— Дык, можа, — па-змоўніцку падміргнуў яму, — калі так даспадобы ў нас, засталіся б...

Томас крыху разумеў украінскую мову, нават няўмела намагаўся размаўляць на ёй у асаблівых выпадках. Прапанову цесця ён упадабаў, але не мог нічым суцешыць яго.

— Тата, не пачынай! — пасняшалася Соня на дапамогу мужу. — Мы ж усё даўно абмеркавалі, навошта зноў гэты ціск?..

— Ды я так... проста... — крыху разгубіўся тата.— Падумаў, а раптам... — І пацiснуў плячыма. Ён вельмі любіў Соню, і жорсткае ўсведамленне таго факту, што, ледзь знайшоўшы, мог зноў яе страціць, — палохала і балюча адгукалася ў грудзях і скронях.

Томас вінавата паглядзеў на яго, таксама пацiснуў плячыма і адышоў убок, адцягнуты жонкай.

Да таты наблізілася Аксана, прытулілася. Сёння яна была вольная. Зранку атрымала афіцыйны ліст, у якім паведамлялася аб скасаванні яе шлюбу з Назарам. Яна зазірнула знізу ўверх у татавы вочы.

— Чакаеш, што яны прыйдуць? — спытала.

Тата не адказаў, аднак Аксана ведала, што чакаў. Бацькоў Назара. Пасля разводу тыя дзяўчыну лічылі здрадніцай. Яе гэты факт не бянтэжыў і ніякім чынам не чапляў, ды, мабыць, у таты мелася іншае меркаванне на сітуацыю з разводам.

— Ты іх запрашаў? — удакладніла яна.

Тата кіўнуў. Ды калі Назаравы бацькі не прыйшлі, то і не прыйдуць, бо зазвычай прыходзілі загадзя, дапамагалі маме на кухні або тату з шашлыкамі ў выпадку загараднай сустрэчы. Зрэшты, да свята сястры яны не мелі аніякага дачынення, таму і не дзіўная іх адсутнасць. Да таго ж Аксана зусім не прагнула бачыць свякроў, тым больш размаўляць з ёю. Са свёкрам яшчэ тудэма-сюдэма, але ж абодва яны аднолькавыя…



У гасцёўню ўрачыста ўвайшла мама. Татавы вочы засвяціліся, нібы ў іх пырснулі жывой вадой. Мама выглядала шыкоўна ў сукенцы, спраўна пашытай па фігуры, з сапраўднага кітайскага шоўку сіне-жоўтага колеру— некалі Соня прывезла сукенку з Амерыкі. Яе з’яўленне міжволі выклікала воплескі прысутных, што якраз амаль у поўным складзе запоўнілі гасцёўню стараннямі Соні і Томаса. Мама запрасіла рассаджвацца за стол, і пачалося хутчэй свята жывата, а не вітанне і ўшанаванне тых, дзеля каго, уласна, сабраліся. Вядома, Соню і Томаса віншавалі ў першыя хвіліны застолля, паводзілі сябе стрымана і разважліва, услухоўваліся ў татавы словы, прамоўленыя з нагоды святкавання. Пасля першай чаркі стрыманасць паслабла, пасля другой, а затым трэцяй раз-

няволенасць паглынула стрыманасць, далікатнасць і асцярожнасць разам узятыя, вальнейшымі рухамі браліся стравы, звінеў посуд, знікала ежа ў страўніках, правальвалася бы ў бездань. Неўзабаве некаторыя нават забыліся на прычыну свайго з'яўлення за гасцінным сталом, гучныя размовы на палітычную тэму апанавалі і паветра, і пачырванелых ад спёкі і пітва аратараў, якія з пенай і потам даказвалі ўласную праўду апанентам, быццам знаходзіліся ў Радзе. Жанчыны падтрымлівалі мужоў, трымаючыся за іх локці, падтаквалі і згодна ківалі галовамі. Зрэшты, даволі хутка гэта ім надакучыла і яны адасобіліся, каб папляткарыць пра сукенкі і бялізну нядаўняга завозу ў модныя буцікі, пра кошты і якасць прадукцыі, пра хатніх гадаванцаў і іх харчаванне, пра дзяцей і падлеткавае выхаванне... Непазбежнасць падобнага развіцця падзей была прадчувальная, але рэдка хто з тым прадчуваннем згаджаўся, бо штораз спадзяваўся на іншае і лепшае. На жаль, сцэнарый заўжды паўтараўся адзін і той жа, непадуладны ні праўкам, ні перапісванню наноў. Зайздросная нязменнасць сямейных застолляў уражвала і адштурхоўвала аднachасова. Да Томаса звярталіся з адной мэтай, і тое выпадкова ўзгадаўшы пра яго, — каб абвінаваціць ва ўсіх асабістых бедах і няўдачах Амерыку, тыкалі ўказальнымі пальцамі то ў грудзі Томаса, то ў плячо і патрабавалі справядлівасці, быццам ён меў магчымасць звярнуцца з усімі іх просьбамі і скаргамі да прэзідэнта ЗША, як да свайго найлепшага сябра. Ён усміхаўся ім і згодна ківаў галавой (а што яшчэ

заставалася?); Соня трымала мужа за руку і гладзіла яе супакойлівымі рухамі, каб той не выбухнуў раптам якой-небудзь тырадай, сэнс якой ніхто б не зразумеў, але абавязкова палічыў бы за абразу і абвінавацію Томаса ў непавазе найперш таму, што той размаўляў не па-нашаму, а значыць, быў маскалём. Зрэшты, Соню забаўлялі паводзіны сваякоў. Яна не сумавала па сямейных святах, але яны заўсёды здаваліся (ці запомніліся) ёй вясёлымі. Алкаголь рабіў з людзьмі тое, чаго яны заслугоўвалі, ператвараў у істот, якіх яны ў сабе душылі, намагаліся кантраляваць, але ўтрымацца ад пітва істот не мелі моцы. Таму рохканне, муканне, бляянне, гаўканне вакол сябе Соня ўспрымала з усмешкай. У якійсьці момант яна зарагатала як дурная пасля чарговага наскоку ку-

хоннага змагара за незалежнасць на яе мужа, і ўжо Томасу давялося супакойваць жонку.

Аксана тым часам быццам трызніла наяве, як бы збоку назірала за тым, што адбывалася вакол. Шум і галасы чуліся прыглушана, быццам вушы яе нехта адмыслова закупорыў коракамі. Яна павольна цадзіла шампанскае і ў бурбалках яго разглядала сябе, тую, якою была на сваім вяселлі, хоць не жадала яго ні пад якім соусам.

Як толькі вярнулася з Львова, адразу накіравалася да таты. Ёй карцела распавесці яму пра ўчынак Назара, каб тата разабраўся з ім, а пасля яны б разам выкраслілі яго з жыцця і больш не ўзгадвалі. Усю дарогу ў цягніку складала цэлую прамову, каб пераканаць бацькоў аб немагчымасці звязаць улас-

нае жыццё з жыццём Назара, пазнаходзіла трапныя вобразы і параўнанні, якія эмацыйна падкрэслівалі вагу слоў. Аднак пры сустрэчы яе бездакорная, здавалася, ода крыўдзе зменшылася да памераў незразумелага мармытання. Тата і мама літаральна дыхалі яе вяселлем, якое, у выпадку адмены, перакрыла б ім кісларод, і яны б задыхнуліся ад асфіксіі. Мама свяцілася, зіхацела, як зорка, шчабятала пра ўсё на свеце, але кожную фразу звязвала з будучай урачыстасцю і паўтарала, нібы запэўнівала дачку, што тая будзе выглядаць у вясельнай сукенцы сапраўднай імператрыцай. І яна мела рацыю: сукенка насамрэч была шыкоўнай, з белага атласу з доўгай спадніцай-клёш у падлогу, праўда, мела чырвоны ліф і гіпюравыя празрыстыя рукавы да локцяў, таксама чырвоныя. Сукенку шылі па замове, Аксана сама выбірала фасон і тканіну. Але ж не дзеля сукенкі выходзіць замуж! Тата яшчэ болей за маму, відаць, цешыўся вяселлем дачкі. Выглядаў так, быццам нападпітку, мо і сапраўды кульнуў пару чарак. Дзяўчына прамаўчала пра Назара, праглынула прамову разам з крыўдай, быццам выпіла горкі сіроп ад прастуды, і наляпіла на твар усмешку, каб не расчароўваць бацькоў, якія столькі для яе зрабілі! Чамусьці Аксана нават падумала, што яны не паверылі б аніводнаму яе слову пра Назара альбо не пачулі б, купаючыся ў эйфарыі перадсвяточных дзён, у прадчуванні нечага чароўнага і казачнага. Да таго ж і яе бацькі і бацькі Назара ў складчыну знялі самы дарагі рэстаран, аплацілі паслугі супрацоўнікаў і стол, замовілі нейкую

зорку з айчыннага шоу-бізнесу і вядучага адтуль жа. Столькі ўсадзілі грошай у вяселле, што адмаўляцца, па шчырасці, ніяк не выпадала. Адно нявесту забылі спытаць, ці патрэбна ёй усё тое. Зрэшты, адкуль яны маглі ведаць?.. Маладыя, на іх погляд, падыходзілі адно аднаму так, як ніводная пара дагэтуль. Назар выглядаў самавіта і пераканаўча, грошы цяклі да яго, здавалася, ракой. Бізнес, які ён распачаў з татавай падтрымкай і стартавым капіталам, атрыманым ад маці, ужо прыносіў дастойны прыбытак. Пасля вяселля хлопец планаваў адкрыць сетку крам жаночай касметыкі і бялізны не толькі ў Станіслававе, але і ў кожным раёне вобласці. Пастаўшчыкі з Францыі працавалі з ім наўпрост, без пасрэднікаў. Будучае ён бачыў у вясёлкавых тонах. Аксане пашанцавала з такім мужам! Ёй і працаваць самой не спатрэбіцца! Гэта ж мара, а не мужчына!.. Ён тэлефанаваў ёй кожную гадзіну, пакідаў кранальныя і рамантычныя смс, на якія яна не рэагавала, прасіў дараваць яму, калі пакрыўдзіў. Ён нават не разумеў, што пакрыўдзіў, лічыла Аксана, калі ўдакладняў ці пытаўся пра тое ў яе. Дамоў да іх таксама не рашыўся прыйсці. Зрэшты, нічога падазронага ў гэтым ніхто не заўважыў. Перад вяселлем жаніх не павінен бачыць нявесту. З самага ранку найважнейшага для кожнай жанчыны дня Аксану ванітавала. Мама не адыходзіла ад дачкі, казала, што падобнае бывае, што арганізм прадчувае перамены і таму рэагуе такім дзіўным чынам на іх. На шчаслівую нявесту Аксана мала паходзіла, больш на зялёную русалку. Яе напічкалі акты-

ваваным вугалем, але млосць усё адно не праходзіла. Час падціскаў. Тата нерваваўся і кусаў губы. Тым не менш яму хапіла розуму і духу зайсці ў пакой дачкі, каб прапанаваць усё адмяніць. З якой удзячнасцю Аксана паглядзела на яго! Але зусім іншае прачытала на татавым твары — страх ганьбы. Ён баяўся праз дачку абняславіцца. Прыстойнасць для яго стаяла на першым месцы. Аксана пашкадавала тату і запэўніла, што нічога адмяняць не трэба, яна збярэцца, таблеткі павінны падзейнічаць. І ён з палёгкай выдыхнуў, прыпыніў абкусваць губы, вочы яго зазіхацелі, настрой прыўзняўся. Тата нават замурлыкаў нейкую мелодыю, падхапіў маму і закружыў яе ў танцы па гасцёўні, пасля чаго мама зазірнула ў пакой дачкі, каб напомніць, што час апранацца, і папытаць на ўсялякі выпадак, ці не патрэбна яе дапамога. Аксана сказала, што справіцца сама.



Назар выглядаў шыкоўна ў чорным смокінгу. Ён зачараваў усіх. Твар хлопца быў бледны бы ў арыстакрата, хоць, зразумела, ніякага дачынення да арыстакратыі хлопец не меў. Бледнасць яго была звязаная з хваляваннем, бо ў любую хвіліну мог атрымаць гарбуза. Ён не ведаў і нават не ўяўляў, як сябе павядзе Аксана, бо пасля Львова яны не перакінуліся аніводным словам, і пра непаразуменні з нявестай ён нікому не распавёў. Стаіўся і чакаў. Магчыма, чакаў адмовы, неафіцыйнай ці афіцыйнай, што неістотна. Аднак, акрамя цішыні ды ігнаравання яго тэлефанаванняў і смс-паведамленняў, па-ранейшаму панавала перадсвяточная ліхаманка. І Назар вырашыў не

спяшацца з высновамі, не думаць за Аксану, не станавіцца на яе месца. Ён зладзіў «мальчишник», традыцыйны і кансерватыўны, у стрыптыз-бары, з сябрамі і партнёрамі па бізнесе, які плаўна перамясціўся затым у гатэль наводшыбе. Каб не прыцягваць асаблівай увагі, туды неўзабаве прывезлі загадзя замоўленых і аплочаных дзяўчат з эскорт-паслуг. Назар шчыра разлічваў павесяліцца і забыцца ў абдымках павеўн, п’яных віншаваннях і нясмешных анекдотах пра маладзёнаў, ды, на жаль, не выходзіла. Яго ўсё адно нервавала невядомасць, ён хацеў Аксану, жывую і трапяткую, а не бяздушных лялек за грошы, якія нават не прыдурваліся, што на працы. Зрэшты, вечарына, трэба прызнаць, хутчэй патрабавалася не яму. Так, ён планаваў уцячы ад рэчаіснасці, даць нырца з галавой, як у прорву, ды прорва апынулася не бяздоннай, і ён ляснуўся на дно яе плазам, ажно рэбры забалелі наяве. У якійсьці момант Назар быццам убачыў сябе збоку — навіслага над раскошным, сапраўды раскошным целам фарбаванай сімпатычнай бландзінкі з вачыма а-ля Пугачова, якая самкнула свае ногі ў замок за яго спінай і дазваляла валодаць сабой, але толькі як штучным механізмам. Навошта ён увогуле палез на яе? Ён жа кахаў Аксану! Зрэшты, пахваліцца перамогай не выпадала нават у цемры, нават уяўляючы замест твару прастытуткі Аксанін твар. Назар адхіснуўся ад яе, адштурхнуў да сценкі, дзяўчына захіхікала. Ён ледзь стрымаўся, каб не ўдарыць яе, але ж яна ні ў чым не правінілася перад ім. Гэта ён няздара. За акном падаў дождж кроплямі-

камікадзэ. Назар таксама хацеў бы, як тыя кроплі, разбіцца насмерць ад сораму. Ён апрануўся і сышоў. Яго ніхто не спыніў. Сябры і партнёры па бізнесе зацята шчыравалі па кутах у прафанацыі любові. Драпежныя інстынкты, падмацаваныя алкаголем, вырваліся на волю з-пад стомленых ад кантролю мазгоў і спявалі «Алілую» сексу. У рэшце рэшт толькі дзеля гэтага і варта жыць. Каб не званітаваць, Назар выйшаў на дождж, дзе той яго адразу ж расстраляў. Не сумняваўся ён у адным: Аксана нейкім невядомым чынам уплывала на яго, мела над ім невытлумачальную ўладу, нават не знаходзячыся побач. Не ўпершыню, пасля знаёмства з Аксанай, у яго нічога не выходзіла з іншымі. Не ўпершыню і штораз. Нібы прываражыла. Не, да варажбітак яна не звярталася, Назар правяраў, хутчэй, звяртаўся ён. Зачаравала Аксана сабою, і таму ён пакутаваў, бо не мог ёю валадарыць цалкам, і таму прагнуў на ёй ажаніцца. Страціць яе Назар не меў права. Ён пацягнуўся пешшу да яе дома, але забыў, што брамка ў двор на ноч зачынялася. Коду ад замка Назар, зразумела, не ведаў. Ён тэлефанаваў ёй зноў і зноў, але ніводнага разу дзяўчына не адказала на тэлефанаванне. Хлопец змерз і пашкадаваў сябе, не хапала яшчэ захварэць перад вяселлем і загрымець у бальніцу з пнеўманіяй. Ён вярнуўся дамоў, здзёр з сябе мокрую вопратку, скочыў пад гарачы душ і ап'янеў ад яго абдымкаў. Да ложка даваloкся па сценцы, калі заплюшчваў вочы, адчуваў сябе верталётам, які чамусьці заўжды падаў уніз і разбіваўся. Аксане неабавязкова пра гэта

ведаць, да таго ж на яго твары ні намёку пра «мальчишник», дый выглядае ён непагана.

Назар трымаў у руках шыкоўны букет барвовых ружаў. Ён аслупянеў, уражаны прыгажосцю нявесты, якая выйшла да яго ў вясельным уборы, што сведчыла аб магчымасці агульнага будучага, прыўкраснага будучага. Назар не быў упэўнены, што яму даруе Аксана, хоць віны за сабой асабліва не адчуваў, таму працягнутая рука нявесты абнадзеіла і выклікала такі ўсплеск удараў у сэрцы, што ён ледзь утрымаўся на нагах, добра, што не паваліўся, а як бы апусціўся на адно калена перад дзяўчынай. Аксана выглядала багіняй, яе бездакорная прыгажосць, праўда, заставалася халоднай і няўсмешлівай, але букет дзяўчына ўзяла. Сэрца Назара па-ранейшаму білася шалёным метраномам і, здавалася, вось-вось здрадзіць. Не хапала яшчэ страціць прытомнасць ад наплыву пачуццяў. Тым не менш падняцца на ногі не ўяўлялася магчымым. Нават намер неяк зрушыцца з месца выклікаў моцнае галавакружэнне і фіялетавыя плямы перад вачыма. Мізансцэна зацягвалася, як бы палічылі ў тэатры. Напэўна, Аксана зразумела, што з ім нешта не так, перадала букет маме, якая стаяла ззаду, і прысела побач з Назарам. Як ён яе хацеў у той момант і як быў удзячны! Яны ўзяліся за рукі. Назар прачытаў па вачах Аксаны, што можа ёй даверыцца. Яго захістала, калі ён падымаўся, але Аксана моцна трымала яго за руку. Устрывожаны позірк яе, неспакойны, спагадлівы, расчуліў Назара. Ён не выпускаў рукі Аксаны і пацягнуў на

балкон, ці гэта яна пацягнула яго? Свежае паветра, якое ён прагна хапаў шырока адкрытым ротам, быццам наталяла смагу струменем вады, дапамагло супакоіць сэрцабіццё. Магчыма, яго слабасць паўплывала на канчатковае рашэнне Аксаны. У рэшце рэшт, што такое каханне як не шкадаванне і ўменне дараваць? Яшчэ хвіліну перад тым яна цвёрда ведала цалкам адваротнае, нават сумнявалася ў станоўчым «так» на запыт, ці варта брацца шлюбам з Назарам... Дзяўчына не хацела падвесці бацькоў, але іх абразы і крыўда да скону не спынілі б таксама, бо вяселле гэтае тычылася толькі яе жыцця. Не бацькі звязвалі свой лёс з Назарам, а яна. Зрэшты, ім усім пашанцавала, дзякуючы не зусім добраму стану жаніха, які заўважыла толькі Аксана. Астатнім быццам засляпіла вочы. Яна прытулілася да яго. Ён аберуч абняў, нахіліў галаву, клюнуў у патыліцу. І адчуў сябе найшчаслівейшым чалавекам на зямлі. Рука ў руцэ яны выйшлі да гасцей. Пачуліся воклічы «Горка!», патрабавальныя, з воплескамі. Маладзёны павярнуліся адно да аднаго тварам у твар. Аксана прыпаднялася на дыбачкі, каб Назару было зручней пацалаваць яе. Вусны дзяўчыны мелі смак мандарынкі. Яго вусны патыхалі жарам, а рот падаваўся распаленым камінам. Нехта пачаў адлічваць секунды, цягам якіх доўжыліся пацалункі. Яго падтрымалі яшчэ колькі галасоў. Прагныя вусны Назара, іх нездаровая гарачыня паланілі Аксану, яна цалавала яго з не меншым пачуццем і заплюшчыла вочы, нават адчула жаданне блізкасці. Назар мог святкаваць перамогу. Цалава-

цца ён умеў і мэтанакіравана скарыстаўся ўменнем. Але зацягваць з пацалункамі было немэтазгодна, таму на васьмідзясятай секундзе адарваліся адно ад аднаго, праўда, трымаючыся за рукі. Бацькі абодвух пазіралі на дзяцей са шчаслівымі ўсмешкамі. Назарава маці выцірала вочы насоўкай. Мама Аксаны малітоўна склала рукі на грудзях.

Рэстаран уразіў пафасам, але не здзівіў, хоць раней Аксана ніколі падобныя ўстановы не наведвала і не магла параўнаць альбо ацаніць узровень абслугоўвання і меню. У Станіслававе гэты рэстаран лічыўся найдаражэйшым, і бацькі Назара ці хутчэй за ўсё маці яго адмыслова выбрала для сына найлепшае, што мог прапанаваць горад, і не пашкадавала. Вочы разбягаліся ад багацця страў, фруктаў і напояў.



Пакаштаваць хацелася ўсяго, і хутка Аксана зразумела, што аб'елася. Своечасова Назар запрасіў на танец, бо дзяўчына адчувала сябе жабай-рапухай, якая вось-вось лопне проста за сталом. Іх прыклад заахвоціў іншых, хоць, як высветлілася, танец планаваўся выключна як сола жаніха і нявесты. Але ж не праганяць ахвочых патанчыць. Аксана ледзьве не вісела на Назары. Каб дзяўчыне было лягчэй, ён дазволіў ёй стаць абедзвюма ножкамі на яго ногі. Яна згадзілася адразу, адно скінула туфлі. Затым яе скралі і схавалі ў шафе на кухні, дзе яна нават паспала трохі, пакуль адшукалі. Назару вельмі не спадабалася ідэя з крадзяжом нявесты, да таго ж яго прымусілі выпіць гарэлкі з чаравічка дзяўчыны да дна, а потым адціснуцца ад падлогі на кулаках дваццаць

разоў, тым самым атрымаць алкагольны хук у галаву. Зрэшты, неўзабаве ён ачомаўся, знайшоў нявесту і на руках вынес яе да гасцей пад віншавальныя выгукі апошніх і воплескі.

Найбольш урачысты момант настаў тады, калі тата Аксаны падышоў да маладзёнаў і працягнуў ключы ад кватэры. Цішком, нават употай ад жонкі, ён набыў нерухомасць спецыяльна ў падарунак на вяселле, абсталяваную мэбляй і ўсім неабходным для паўнавартаснага жыцця. Назарава ж маці падаравала машыну. Назар і без падарунка маці меў аўтамабіль, таму вырашылі, што новай машынай будзе карыстацца Аксана, зразумела, пасля таго як здасць на правы.

Напрыканцы вяселля Аксана марыла, каб яно ўжо хутчэй скончылася. Яна стамілася і прагнула цішыні, а яшчэ — трапіць у жытло, якое нарэшце магла назваць сваім і рабіць там усё, што ёй уздумаецца. Гучная музыка раздражняла і нервавала. Аксана ледзь стрымлівала сябе ад неразумных учынкаў, бо музыканты ні ў чым перад ёй вінаватымі не былі, выконвалі сваю працу, шчодра аплачаную Назаравай маці. Млявымі рухамі сёрбала дэсертнай лыжкай чырвоную мякаць кавуна, разрэзанага напалам. У якійсьці момант Назар шапнуў ёй на вушка, ці не хоча яна збегчы адсюль. Аксана ўдзячна зірнула на мужа і відавочна ўзрадавалася. На вуліцы іх чакаў лімузін, прадбачліва замоўлены маці Назара на выпадак уцёкаў маладзёнаў. Практычная жанчына прадугледзела развіццё падзей, тым больш што вяселле на апошняй стадыі магло працягвацца

і без жаніха і нявесты. Яна і тата Аксаны праводзілі дзяцей да аўто, пажадалі добрай ночы і развіталіся да заўтра.

Назар адразу пачаў лезці да Аксаны, але яму перашкаджала доўгая сукенка на ёй, якую ён не адважыўся падраць, і мусіў адчапіцца. Магчыма, яшчэ і халоднасць Аксаны астудзіла яго запал. Дзяўчына абыякава сядзела злева ад мужа, адкінуўшы стомленую галаву назад. Вяселле яе змардавала. Усё, чаго яна жадала, — гэта давалачыся да ложка, распрануцца і заснуць. Наўрад ці таго ж самага хацеў Назар, але Аксане было ўсё роўна на тое, чаго той хацеў. Яна і так зрабіла яму вялікую ласку: згадзілася стаць яго жонкай.



— Чаму ты такая жорсткая? — ледзь не на вуха дзяўчыне пракрычаў Назар.

— Не крычы! — асадзіла яго Аксана і незадаволена скрывілася.

— Не, я буду крычаць! — не супакойваўся той. Спакойны тон жонкі імгненна раз'юшыў яго.

— Прыпыні істэрыку! — адвесіла яму поўху Аксана. Наступствы яе не палохалі. Яна нават не міргнула, калі ён занёс над ёй руку для ўдару. У той жа момант лімузін спыніўся. Кіроўца выйшаў з салона і адчыніў дзверы аўто з боку Аксаны, працягнуў ёй руку, каб дапамагчы выйсці. Тая падзякавала і выйшла з машыны. Назар паспяшаўся следам за ёй і незнарок наступіў на падол сукенкі. Лёгкая тканіна з шэрым адбіткам узораў падэшвы чаравіка на белым парвалася ў некалькіх месцах. Аксана

азірнулася на мужа гнеўна, але ён зрабіў выгляд, што ні пры чым.

Яны падняліся на другі паверх, зайшлі ў агульны калідор, дзе каля акна пукаціўся мэблевы куток — два скураныя падзёртыя фатэлі і часопісны столік з неахайна раскіданымі паштоўкамі. На шырокім падваконні цягнуліся ўверх да столі з вазонаў расліны і кветкі. Калідор нагадваў літару «г», і кватэры пачыналіся за паваротам. У крыле іх налічвалася шэсць. Кватэра Аксаны і Назара апынулася апошняй па ліку. Назар адчыніў дзверы, прапусціў жонку наперад, зайшоў следам у передпакой і ўключыў святло. Злева ад перадпакоя месціліся дзве спальні, проста насупраць уваходных дзвярэй раскінулася арка гасцёўні, справа ад перадпакоя — дзверы ў прыбіральню і ў ванны пакой, за якімі ў нямым маўчанні застыла даволі прасторная кухня. Толькі падлога перадпакоя заставалася голай у адрозненне ад астатніх пакояў, нават у прыбіральні ляжала посцілка. Усе дзверы пакояў былі драўляныя, з выразанымі пасярэдзіне геаметрычнымі зашклёнымі фігурамі, і з замкамі ў ручках ды шпінгалетамі. Мэбля гасцёўні ўключала ў сябе шырокую скураную белую канапу, такія ж фатэлі паабапал, шафу-сценку насупраць з вялікім тэлевізарам пасярэдзіне, у куце круглы стол і некалькі крэслаў. У адной спальні — велізарны ложак, люстраная шафа-купэ, камода, касметычны куток з ружовай банкеткай. У другой — тахта, драўляныя пустыя паліцы, шафа-купэ. На падлозе паўсюль мяккія дываны, на вокнах — блакітныя шаўковыя шторы, за

імі цюлевыя фіранкі. Балкон-лоджыя цягнуўся ад гасцёўні да кухні і меў два выхады: з гасцёўні і з кухні. Тата вельмі пастараўся, каб дачка адчувала сябе на новым месцы камфортна. Нават што-нішто з асабістых яе рэчаў упарадкаваў у шафе і на століку для касметыкі.

Зразумела, і Аксана, і Назар разуліся, усунулі ногі ў тэпці, усхваляваныя аглядам уласнага жытла, перайшлі на кухню, дзе Назар адразу палез у лядоўню, спадзеючыся знайсці там што-небудзь з напояў. Пачуццё яго не падманула. Ён перанёс з лядоўні на стол шампанскае, пляшку каньяку, гронку бананаў, на сподку нарэзаныя кавалкі вяндліны і сыр. Чаркі ў нецярплівым чаканні маркоціліся на стале.



— Трэба адзначыць! — рашуча заявіў Назар. — Ты ж не супраць, — канстатаваў без магчымасці запярэчыць. — Што будзеш піць?

Аксана пагадзілася на шампанскае, а Назар наліў сабе каньяку.

Яны выпілі спачатку за татаў падарунак, потым за падарунак Назаравай маці, затым за шыкоўнае будучае, затым... затым... затым... Аксане стала так добра, што яна сама пацягнулася да Назара, да яго вуснаў і абдымкаў. Ёй хацелася быць каханай, шчаслівай і жаданай. Пры ўсім тым патрабавала ад мужа грубасці, нават жорсткасці, не шкадаваць яе і не рэагаваць на слёзы ці просьбы быць пяшчотнейшым. Аксана ўсё яшчэ псіхалагічна залежала ад гвалту. Секс атаясамліваўся з гвалтам на падсвядомым узроўні, і толькі ў вычварнай форме задавальняў яе. Нават пакаранне,

якое падрыхтаваў Назар ёй у Львове, на самай справе спадабалася!!! Зразумела, пра тое Аксана ніколі не прызнаецца мужу, але саму сябе не падманеш. Яна кайфавала, спавітая па руках і нагах, атрымлівала асалоду ад стану ахвяры. Сцэны сексуальнага гвалту ў кіно міжволі прыцягвалі яе ўвагу, яна застывала ў нерухомасці і адчувала ні з чым не параўнальнае жаданне апынуцца на месцы актрыс з тых фільмаў. Але Назар, на думку Аксаны, не дужа стараўся, каб ёй дагадзіць. Ён вось-вось справіць патрэбу, дбаючы толькі пра сябе, зрэшты, як і заўжды, адваліцца ад яе, рыхтык кароста, адвернецца і засапе самазадаволеным самцом. Не на тую натрапіў, даражэнькі мужанёк! Жаніўся — значыць будзеш адпрацоўваць па поўнай праграме! Аксана злаўчылася, спіхнула Назара з сябе і адмыслова пацэліла яму абедзвюма нагамі ніжэй жывата. Назара адкінула да акна, да таго ж ён выцяў плячо аб батарэю. Вочы яго набрынялі гневам, быццам у вампіра ў прадчуванні жаданай ахвяры. Аксана борзда саскочыла з ложка. Няхай пабегае за ёй, няхай ператворыцца ў паляўнічага. 

— Што, хлопчыку бо-бо? — здзекліва пакпіла Аксана з мужа, гатовая да ўцёкаў.

— Ды я... Ды ты... Ды я цябе... — не мог саўладаць Назар з болем і шокам ад болю, старанна ўсё ж праганяючы слёзы, якія па-здрадніцку каціліся з вачэй буйнымі кроплямі.

— Што, і мову адняло? — кпіла з яго далей Аксана. — Глядзі, нават слёзкі закапалі... Адно не наплач тут лужыны...

Яна не дагаварыла, бо Назар кінуўся на яе, бы каршук на здабычу. Дзяўчына завішчала і стрымгалоў выбегла з пакоя на кухню, адтуль трапіла ў лоджыю, з лоджыі — у гасцёўню і проста ў лапы Назара, які не дагнаў яе на кухні, але вылічыў, дзе верагодней за ўсё зловіць нягодніцу, і затаіўся ў гасцёўні. Яны паваліліся на канапу, з якой зляцелі на падлогу. Аксана ляжала жыватом уніз, Назар накрыў дзяўчыну сабой зверху.

...Ён меў намер пакараць дзяўчыну, як у Львове, але перадумаў. Да таго ж раптоўна навалілася стома. Аксана, крыху расчараваная, але і задаволеная, адправіла яго ў спальню. Назар не паклікаў яе з сабой і не здзівіўся, што яна засталася ў гасцёўні. Ён атрымаў належнае і проста на хаду засынаў. Каньяк, магчыма, быў лішнім. Без яго хлопца хапіла б на большае. Зрэшты, у іх з Аксанай цэлае жыццё наперадзе, яшчэ паспее.

Назар заснуў. Выцягнуўся ва ўвесь рост, смешна задраўшы падбародак. Аксана клапатліва, як сапраўдная гаспадыня дома, папраўіла коўдру, пасядзела колькі хвілін побач, быццам перад дзіцем, якому толькі што прачытала казку. На імгненне ўявіла сябе мамай, якая сапраўды перад сном чытае казку сыну або дачцэ, але хутка прагнала насланнё. Ніякіх дзяцей! Ва ўсякім разе ў бліжэйшы час, у бліжэйшыя пяць-дзесяць гадоў. І калі ў Назара іншыя думкі — то няхай шукае сабе свінаматку ў іншым месцы. Ёй хопіць дзяцей і ў школе. Павеяла холадам. Відаць, ад скразняку, бо дзверы лоджыі засталіся адчынены-

мі напята і ў кухні, і ў гасцёўні. Аксана адчула дрыжыкі, пазачыняла тыя дзверы і палезла ў шафу, каб знайсці што-небудзь для сну. Спадзявалася на татаву кемлівасць. І не памылілася. Усе яе рэчы тата перанёс, паскладаў і развесіў на плечыках дакладна так, як яна пакінула іх у бацькоўскім доме. Аксана зняла з плечыкаў чорнае кімано, дасланае з Еўропы ў падарунак Соняй, апранула на голае цела і патэпала ў ванный пакой. Яна не любіла рэчы падобнага гатунку, але яны так лёгка саслізгвалі з плячэй і так хораша на іх сядзелі, што калі-нікалі дазваляла сабе раскошу насіць іх.

Зранку прыехалі бацькі. Яго і яе. Прывезлі вясельныя падарункі для маладзёнаў. Назар разоў пяць бегаў з кватэры на двор і назад, дапамагаў іх заносіць і складваць у незанятай пакуль другой спальні. Затым колькі часу пасядзелі на кухні цесным сямейным гуртком, пагаварылі пра жыццё пад каньяк і шампанскае. Калі бацькі сышлі, нецярпліва кінуліся да падарункаў, разбіраць іх, захапляцца імі альбо, наадварот, моршчыць нос і адкладаць убок як непрыдатнае. Канверты з грашыма праверылі ў першую чаргу. Падлічылі. Атрымалася багата грошай. Назар прапанаваў грошы падзяліць напалам. Сваю долю ён укладзе ў бізнес, Аксана можа рабіць што заўгодна з другой паловай. Яна падумала, што рашэнне Назарава справядлівае, і пагадзілася. Сярод падарункаў галоўным чынам вылучалася побытавая тэхніка (прас, дошка пад прас, пыласос, кававарка, мікрахвалёўка, маразільная камера, бар, некалькі плоек, тэлефон апош-

няй мадэлі, агромністы тэлевізар, ноўтбук, бегавая дарожка-трэнажор) і посуд (сервізы, электрачайнік, кухонныя наборы нажоў, відэльцаў і лыжак, талерак, кубкаў і сподкаў). Ад Соні прыйшла пасылка з камплектам хатніх халатаў усіх колераў. Партнёр Назара па бізнесе падараваў знарок для Аксаны касцюм пакаёўкі для інтымных гульняў, які Назар адразу загадаў жонцы апрануць. Яна заўпарцілася толькі таму, што гэта быў загад, а не просьба, да таго ж заставалася яшчэ купа неразабраных скрынак. Назар настойваў, казаў, што ён яе муж і мае права патрабаваць. Аксана запярэчыла, што ў прыслугі да яго не наймалася, калі выходзіла замуж. Яны — муж і жонка, а не гаспадар і рабыня. Ён схапіў дзяўчыну за шыю і шклянымі вачыма паглядзеў у яе вочы. Вочы Назара заўсёды станавіліся шклянымі, калі ён нечага хацеў, і здаваліся пустымі і мёртвымі. Аксана здагадвалася, на што муж быў здатны з такім халодным позіркам, але пакуль не ведала дакладна. Потым яна сутыкнецца з яго чорным мінулым, пра якое нават не падумала пацікавіцца, але тое будзе потым. Упершыню Аксана спалохалася Назара менавіта тады, калі ён прагнуў пабачыць яе ва ўборы пакаёўкі. Каб не нагнятаць сітуацыю, і міжволі згаджаючыся з тым, што, па вялікім рахунку, Назар меў рацыю, патрабуючы ад жонкі падпарадкавання, Аксана пераапранулася. Касцюм нагадваў савецкую школьную форму, праўда, ружовую і атласную, з кароткімі рукавамі, а яшчэ без ліфа, зрэшты, грудзі сяк-так прыкрываў, калі тое можна назваць прыкрыццём, белы фартушок. У дадатак да касцюма таксама меліся

белыя чэпчык, гольфы і сандалеты, якія Назар літасціва дазволіў пакінуць у спакоі.

— Задаволены? — буркнула Аксана.

У адказ муж загадаў ёй апусціцца на калені і паўзці да яго, як у адным з фільмаў Кім Бэйсінгер паўзла да Мікі Рурка.

— Прыпыні, — спыніла яго Аксана, — у мяне няма настрою выконваць твае вычварныя жаданні!

І тады ён ударыў яе. Наводмаш і па твары.

— Я сказаў: стала на калені і папаўзла! — працэдзіў Назар проста ёй у вочы і адышоў у перадпакой, каб нацешыцца відовішчам. Ён не сумняваўся, што Аксана пачула яго і паслухаецца.

Дзяўчына зразумела тады, што недарэмна марудзіла з вяселлем, што памылялася ў Назары, падсвядома адчувала яго чорнае нутро і дарэмна даравала яму. Яна выйшла за яго, псіхануўшы, назло сабе і свету, вось і атрымлівала. Кожнае рашэнне мае наступствы. Назарава каханне (а ці каханне?) нагадвала тыранію, абароненую законам. Падпарадкаваць сабе менавіта Аксану было яго галоўным жаданнем. А на яе твары, на лобе, быццам выпаленымі літарамі, было напісана АХВЯРА. І таму яна паўзла, марудна, запаволена выгінаючы спіну, туды, куды загадаў ёй паўзці Назар. І таму яна дазволіла таўкці сябе, як курыца — пеўню. Скардзіцца не было каму. Назар — яе законны муж, яна законная жонка Назара. Кола замкнулася. Вінаватая ва ўсім сама. І пачварны секс толькі пачатак.

# 7

Дзівосная рэч — крылы. Яны альбо ёсць ад нараджэння, альбо няма ў прынцыпе, і ніякімі высілкамі, кшталту ўкрасці, прыдбаць, пазычыць, адабраць гвалтам, іх не займець. Нярэдка шчаслівыя ўладальнікі крылаў нават не здагадваюцца, што маюць іх, і пражываюць жыццё ў сляпым няведанні. Магчыма, крылы ў падобных выпадках самі не асабліва хочуць адкрывацца свету і выконваюць функцыю анёла-ахоўніка, нябачнага, але адданага падапечнаму. Тыя ж, хто ведаюць пра крылы ў сябе за спінай, могуць дасягнуць незвычайных вышынь на тым полі дзейнасці, якое абралі дзеля самавыяўлення або ўдасканальвання ўласных здольнасцяў. На жаль, не заўсёды крылы адорваюць вартых анёльскай апекі і служаць нядобрым справам гэтак жа спраўна, як і добрым. Тым не менш ніколі не каюцца. Яны не ў стане ўплываць на характар чалавека, бо не чароўныя ж палачкі, што адным узмахам ператвараюць нягодніка ў прынца. Крылы нагадваюць наркотык дзейнасці, які актывізуе ўпэўненасць у заўтрашнім дні, падвышае самасць і падштурхоўваюць да рашучасці і смеласці. Менаві-

та крылы перанеслі Соню з аднаго свету ў іншы. Яны спалі разам з ёй недзе ўнутры пад скурай, стаіўшыся ў костках хрыбта і харчуючыся спінным мозгам, як шашаль кніжнымі паліцамі, аднак з тым адрозненнем, што не шкодзілі агульнаму здароўю дзяўчыны. І прачнуліся ў той самы момант, калі Соня выявіла ў сабе талент візажыста. Лічы — з ніадкуль, бо раней нічога падобнага яе не цікавіла, а дакранацца да чужых галоў і валасоў дзяўчына ўвогуле гідзілася. Аднак ніадкуль нічога не бярэцца і не можа проста так узнікнуць. Талент дзяўчыны і быў яе крыламі, якія паступова вырасталі (асабліва па начах Соня нават адчувала дзікі боль пад лапаткамі), каб неўзабаве выпрастацца ва ўсёй сваёй прыгажосці. Аднойчы на світанку, у кватэры на Каперніка, дзе Соня жыла ўжо без сястры, яна іх убачыла наяве. Дзяўчына не памятала, ці сон гэта быў, ці трызненне, але памятала да драбніц крылы і сябе, застыглую ў паветры паміж столлю і ложкам. Яна дакранулася да іх рукамі, адчула пальцамі перапончатасць і жорсткаць храшчоў, а яшчэ пяшчотнае на дотык апярэнне. У ванным пакоі, пасля ранішняга душу, праз люстэрка заўважыла два свежыя шнары пад лапаткамі. Ад убачанага ледзь не страціла прытомнасць і ледзьве не пабіла галаву аб край ванны. Але супакоілася, сабралася, прагнала насланнё і ўзгадала пра крылы. Соня іх нават адчула, нават паварушыла імі, каб упэўніцца, што яны жывыя. Карцінка падалася надзіва сапраўднай і ў той жа час па-вар’яцку шалёнай, здатнай разбурыць ушчэнт і без таго пакрамсаную на шматкі псіхіку дзяўчыны,

з такой цяжкасцю сабраную ў львоўскай клініцы татавым братам. Ён, здавалася, прышываў тыя кавалкі нябачнымі ніткамі адзін да аднаго, як той доктар з дзіцячай казкі — пашкоджанае крыло птушаняці. Зноў крыло?! Соня размахнулася рукой, каб пабіць люстэрка, якое, быццам тэлевізар, паказвала яе крылы, але здаровы розум (а ці здаровы?) утрымаў ад бязглуздага ўчынку. Замест гэтага дзяўчына проста перавесіла люстэрка. Тое ж самае зрабіла з астатнімі па ўсёй кватэры, якую ёй знялі працадаўцы. Соню не палохалі крылы. Яна баялася вяртання захворвання, што муціравала з параўнальна бяспечнага ў небяспечную псіхалагічную залежнасць ад другога, а то і трэцяга «я». Соня не сумнявалася ва ўзнікненні ўнутры яе іншай асобы, менавіта таму і з'явіліся крылы. Аднак іншыя Соні, ці як іх там звалі, ёй былі абыякавыя. Зрэшты, яна справіцца. Не ўпершыню ёй пераадольваць цяжкасці.



Соня выйшла на вуліцу вячэрняга Берліна. Міжволі ўявіла сябе ў адным з раманаў Рэмарка. Яна не любіла чытаць сур'ёзныя творы, з глыбокім падтэкстам і высокай мараллю, але кнігі нямецкага аўтара надзіва лёгка зайшлі ў яе свядомасць, тым больш што жыла на Унтэр-дэн-Ліндэн. Згадка пра Рэмарка прывяла Соню на Бебельплац да мемарыялу Міхі Ульмана — Помніку спаленым кнігам — глыбокай яме пад шклом пасярод брукаванкі, адкуль свяціўся электрычным святлом белы пакой з пустымі кніжнымі паліцамі. На гэтым месцы эсэсаўцы пад урачыстую музыку спалілі больш за дваццаць тысяч кніг, у тым

ліку і Рэмарка. Кім трэба быць, каб паліць кнігі лепшых прадстаўнікоў сусветнай літаратуры, выдаючы іх за хворае трызненне дэгенератаў і імбецылаў? Па аповедах Аксаны Соня ведала тое-сёе пра пісьменнікаў, чые творы Гітлер і гітлераўскі рэжым запісалі ў макулатуру і вечнае забыццё. Рэмарка, відаць, нацысты ненавідзелі болей за астатніх, шантажавалі сястрой, якую схапіла гестапа і кінула ў канцлагер толькі за тое, што Рэмарк быў яе братам. Ёй пагражалі тым, што калі брат не прадстане перад справядлівым судом нямецкага народа за панапісаныя ім пасквілі супраць вялікай арыйскай нацыі, то ёй не жыць. Сястру Рэмарка забілі з асаблівай жорсткасцю. Яе ўсё адно б забілі, нават калі б брат кінуўся ратаваць яе. Іх абодвух бы знішчылі паказальна і прылюдна, як злосных ворагаў Рэйху, і натоўп задаволена б скандаваў пра іх віну ды патрабаваў яшчэ большай крыві. У Савецкім Саюзе тым часам адбывалася тое самае. Пад задаволеныя воклічы натоўпу знішчаліся кнігі, людзі, сем'і, нават народы. У адрозненне ад рускіх немцы прызналі віну перад чалавецтвам, рускія ж ніколі не прызнавалі за сабой аніякай віны ні ў чым і ніколі ды абвінавачвалі ва ўсім іншых. Спачатку ім Амерыка перашкаджала жыць і развівацца, хоць на самай справе пасля Другой сусветнай вайны менавіта лепшыя вучоныя, архітэктары, інжынеры і будаўнікі ЗША дапамагалі аднаўленню разбураных гарадоў і прадпрыемстваў Савецкага Саюза. Затым меншыя краіны, пакуль не ўзнік моўны канфлікт ва Украіне, і рускія распачалі вайну супраць украінцаў, назваў-

шы фашыстамі ўжо іх. У рускіх усе фашысты, хто не жадае падпарадкавацца ім і адстойвае права на незалежнасць. Яны называюць свае дзеянні вызваленчай барацьбой і адстойваюць межы Радзімы. Але пры чым тая Радзіма і з якога боку — ніколі не тлумачаць. Соня не любіла палітыку, войны, тым больш развагі пра іх. Гэта помнік спаленым кнігам паўплываў на думкі, з'яўленне якіх зусім не радавала і не ўздымала настрой. Навошта ўвогуле яна памкнулася на Бебельплац сярод ночы? Баялася адна заставацца ў кватэры? Але і на Бебельплац яна таксама адна. Чалавек заўсёды адзін, нават у шматтысячным натоўпе. Нікому да яго няма ніякай справы... Зноў змрок. Трэба вяртацца дамоў, у чатыры сцяны, пад іх абарону, схавацца пад іх крылы, як пад крылы Маліфісенты, забыцца на ўласныя крылы, накрыцца з галавой коўдрай і лашчыць сябе, бо болей няма каму, а так хочацца асалоды не ад працы, а звычайнага чалавечага цяпла побач. Зрэшты, у тым, што адна, Соня вінавацiла толькі сябе, выключна сябе. Колькіх ужо яна адштурхнула, знарок пакрыўдзіла, каб іншым разам у іх нават думкі не ўзнікла проста наблізіцца да яе! Яна патанала ў працы, нічога, акрамя працы, яе не цікавіла і не хвалявала. Магчымыя стасункі аспрэчвала, бо перад вачыма заўжды паўставаў вобраз Тараса, і ў яго позірку Соня бачыла асуджэнне і нават папрок. Ён не адпускаў яе, не хацеў адпускаць, не хацеў дзяліць яе ні з кім, як і разумець таго, што больш яго не было, а яна жывая. Вось менавіта так — жывая! Напэўна, ён хацеў, каб яна рушыла сле-

дам за ім, да яго, у змрок, у які патрапіў сам, няхай і выпадкова, няхай... І яна не здрадзіла яму, шчыра і паслядоўна забівала сябе дзеля яго капрызу. Так, менавіта капрызу, юначага максімалізму і рамантычнага флёру першага кахання. Аднак неўзабаве зразумела ці адчула, што ніводзін чалавек няварты падобнай ахвяры. Магчыма, Тарас таксама адчуваў гэта, таму і не адпускаў, магчыма, і крылы — яго рук справа. А можа, напіцца? Можа, калі яна будзе п'янаю, Тарас адступіцца, бо пабачыць яе, непрыгожую і агідную? Мужчыны заўжды напіваюцца, калі ім дрэнна. На жаль, Соня не піла. Зрэшты, ніколі не позна пачынаць. Усё бывае аднойчы ўпершыню. А раптам стане лягчэй? Героі Рэмарка таксама напіваліся, нават жанчыны. Усё адно заўтра ў яе выхадны. І Соня рашуча накіравалася да бліжэйшай карчмы, якая насамрэч была барам з піяніна, агароджаным пляцоўкай на падушках пасярэдзіне. Клавішы перабіраў доўгімі худымі пальцамі вузкай рукі хударлявы малады чалавек. Доўгія хвалістыя валасы падалі на яго твар і закрывалі ад прысутных. Ён граў нешта з «Металікі», але музыку ніхто не слухаў. Нешматлікія наведвальнікі хаваліся па цёмных кутах і без таго не дужа асветленага памяшкання і вырашалі ўласныя праблемы з дапамогай алкаголю; музыка ім толькі перашкаджала. Тым не менш мелодыя гучала, ціхая, хоць і выразная, лунала па-над столлю і, відаць, бянтэжылася, не магла расправіць крылы, каб паказаць магутнасць сваю напоўніцу. Яе было шкада, аднак музыкант, на першы погляд, нічколькі

не думаў пра лёс музыкі, якую граў. Твар яго немагчыма было разгледзець. Соню пацягнула спачатку да піяніста: ёй карцела зазірнуць у яго вочы. Проста зазірнуць у вочы, каб зразумець, што прымусіла яго выконваць менавіта «Металіку», а не Моцарта альбо Бетховена, напрыклад. Аднак спыніла сябе, бо не за тым прыйшла. Верагодней за ўсё, музыкант іграў штоноч адзін і той жа зацверджаны з уласнікам бара рэпертуар, і нічога дзіўнага ў тым не было. Яна падышла да стойкі бара, узабралася на досыць высокае крэсла з дужа мяккай сядушкай і чамусьці па-руску звярнулася да бармена, якім аказалася дзяўчына ў бандане з безліччу татуіровак на агаленых руках і шыі ды пірсінгам у бровах, носе, губах і вушах:



— Водки!

Яе звонкі дзіцячы галасок рассек бар напалам. Гучным ён падаўся і Соні. Яна азірнулася па баках, каб упэўніцца і калі што — папрасіць прабачэння, але ніхто не звярнуў на яе ўвагу.

— І таматавы сок, — ужо па-нямецку дадала Соня, — шклянку.

Бармен выканала замову і агучыла кошт. Соня разлічылася, выдыхнула паветра ўбок (бачыла, што так робяць у фільмах), узяла шклянку з гарэлкай у адну руку, шклянку з сокам у другую і прагна прыпала губамі да першай шклянкі. Яе выраз твару мяняўся з кожным глытком. Якая ж брыдота гэтая гарэлка! Як мужчыны п'юць яе ды яшчэ хваляцца адзін перад адным колькасцю ўжытых пляшак?!

Гарэлка і Сонін арганізм супраціўляліся адно аднаму. Дзяўчына адчувала, што вось-вось — і ўвесь той алкаголь, які яна ў сябе заліла, палезе назад. Соня паставіла шклянку з гарэлкай на стойку і не менш прагна ўчапілася губамі ў шклянку з сокам. Вялікія глыткі, быццам пажарныя, ратавалі яе нутро ад катастрофы. Бармен спачувальна ўсміхнулася, калі Соня выпіла гарэлкі. І зноў усміхнулася, падбадзёрваючы, калі тая асушыла шклянку з сокам да донца.

— Як гэта можна піць?! — замахала абедзвюма рукамі перад тварам Соня. Бармен паціснула плячыма.

— Дазволіце? — пачула леваруч ад сябе Соня мужчынскі голас і азірнулася на яго.

Голас належаў музыканту з доўгімі пальцамі, і той музыкант ужо сядзеў побач. Навошта тады пытаўся дазволу? Яны зазірнулі адно аднаму ў вочы. У вачах маладога чалавека бегалі зайчыкі, амаль сонечныя, вось толькі сонца даўно зайшло.



— Вы руская? — новае пытанне. Соню нават абурыла нахабства музыканта, але яшчэ больш абурыла тое, што яе прынялі за рускую. Хіба яна падобная?

— З чаго вы ўзялі? — павярнулася тварам да хлопца.

— Гэта ваш адказ на першае ці на другое пытанне? — усміхнуўся той.

— Што? — разгубілася дзяўчына.— Не зразумела, пра што вы.

Што яна не так робіць? Чаму ім усім весела тут?

— Вы руская? — паўтарыў пытанне музыкант.

— З чаго вы ўзялі? — зноў абурана адказала Соня.

Малады чалавек тады тыцнуў пальцам на шклянку з гарэлкай, якой яшчэ засталася палова, і на пустую шклянку з-пад сока.

— Якія стэрэатыпы, — вымавіла Соня і праз секунду дадала: — Быццам бы зараз не дваццаць першае стагоддзе, а каменны век.

Тады музыкант дакрануўся пальцам да рукі Соні, надзейна абароненай чорнай карункавай пульсэткай. Зноў стэрэатып.

— Проста я мярзлячка, — растлумачыла дзяўчына.

— Руская! — пераможліва выгукнуў малады немец.

— Якая я табе руская! — запярэчыла Соня.

— Не? —відавочна не разумеў той.

— Не! — пераконвала ў адваротным Соня і з годнасцю дадала: — Украінка! Ферштэйн? Ук-ра-ін-

ка, — паўтарыла па складах. — Юкрэйн, так больш зразумела? — утаропілася на суразмоўцу-тугадума.

— Пуцін? — усё ж, відаць, не даходзіла да яго.

— Які Пуцін? — Соня ледзь стрымлівалася, каб не ўдарыць музыканта па яго доўгіх пальцах, каб хутчэй дайшло. — Пуцін — Расія!

— Расія, так! — заўсміхаўся немец.

— Чаго ты ўсміхаешся? — злавалася Соня. — Я не маю аніякага дачынення да Расіі, толькі да Украіны! Тарас Шаўчэнка, разумееш, гэта Украіна, Іван Франко, Вакарчук і «Акіян Эльзы», Ціна Караль?..

— Пуцін, — усміхаўся музыкант. Здавалася, ён наўмысна здзекаваўся з дзяўчыны, выдаючы сябе за ідыёта.

— Ды што ты заладзіў, як папугай, Пуцін ды Пуцін! — узмахнула Соня рукамі, затым узяла шклянку

з гарэлкай, паднесла да вуснаў, паморшчылася. — Вось і цалуйся са сваім Пуціным, — працадзіла і выпіла рэшту гарэлкі за колькі маленькіх глыткоў. Досыць упэўнена пасля паставіла шклянку на стойку, замахала перад тварам рукой, разганяючы паветра, раптам страціла раўнавагу, яе павяло ўбок, і, калі б не музыкант, паляцела б з крэсла на падлогу спінай.

Ён моцна трымаў яе аберуч. Пазіраў зверху ўсмешлівымі вачыма. На хвіліну Соні захацелася, каб абдымкі гэтыя ніколі не заканчваліся. Яна адчула сябе маленькай у яго надзіва дужых руках, быццам у калысцы. Яшчэ б калыханку пачуць і заснуць салодкім сном. Немец нахіліўся да Соніного твару, іх вусны блізка... Хлопец быў прыгожы, падобны на прынца з нейкага фільма савецкіх часоў, але... не яе. І ўсё ж вусны дзяўчыны пацягнуліся да яго вуснаў. Соня заплюшчыла вочы. У той жа момант усё вакол закружылася, завярцелася, быццам яна была верталётам, які падбілі ворагі, і ён вось-вось упадзе на скалы і разаб'ецца. Дзяўчына намагалася расплюшчыць вочы, каб пазбегнуць падзення, яна не хацела быць верталётам, бо з'яўлялася дзяўчынай, прычым прывабнай дзяўчынай і нават паспяховай. У Варшаве за некалькі гадоў жыцця яна ўдасканаліла сваё майстэрства і разам з прычоскамі рабіла дзівосныя мэйкапы. Яе крэатыўнасць выклікала захапленне. Галівудскі кінаканцэрн, прадстаўнікі якога здымалі ў Польшчы чарговы блокбастар, заключылі з ёю доўгатэрміновую дамову. Дзейнасць Соні не абмяжоўвалася выключна кіно, бо ў канцэрна меліся мадэльныя

школы, тэлешоу і іншыя праекты па ўсіх еўрапейскіх краінах (у большасці з якіх дзяўчына была задзейнічана). У Берліне здымалі якраз чарговую гістарычную франшызу і рыхтаваліся да штогадовага вельмі пафаснага і медыйнага паказу мод, і Соня прымала ў іх непасрэдны ўдзел. Ёй ніяк не выпадала разбіцца аб скалы. Няхай бы музыкант з бара аказаўся яшчэ і пілотам-прафесіяналам... Аднак цудаў не бывае, і Соня разбілася на тысячы аскепкаў, якія разляцеліся ў розныя бакі пасля выбуху.

Яна заснула на руках у музыканта, які, шчыра кажучы, не зусім ведаў, як сябе паводзіць з ёй далей, таму кідаў позіркі, поўныя надзеі, у бок бармена. Але яму ніхто не дапамог. Не пакідаць жа яе ў бары, а будзіць — дык не дабудзішся, каб запытаць, дзе яна жыве. І музыкант павёз Соню дамоў да сябе. Спачатку, праўда, выклікаў таксі.



...Яна з цяжкасцю разляпіла вочы. У роце перасохла так, быццам ён быў пустыняй Сахарай альбо, як мінімум, занядбаным калодзежам, які перасох. Смагу змяніў, быццам суразмоўца-спрачальнік, здрадлівы неспакой, бо нічога знаёмага ў памяшканні, у якім апынулася, не пабачыла. Соня не прывыкла яшчэ да жытла на Унтэр-дэн-Ліндэн, аднак пазнаць яго ўсё ж магла, і тое месца, у якім знаходзілася зараз, нічога агульнага з ім не мела. Невялікі пакойчык, падобны на камору, без вокнаў, у якім акрамя ложка — нічога больш. Добра, што хоць дзверы адчыненыя напята. Соня на ўсялякі выпадак агледзела сябе, з жахам усведамляючы той факт, што пад ружовым штофным

халатам, аблямаваным мяккім пухам на рукавах і завялікім для яе, — зноў-такі нічога. А потым на парозе ўзнік доўгавалосы малады чалавек.

— Ты хто? — адразу стрэліла ў яго пытаннем, машынальна затуляючы халат на сабе. — Дзе я?

Той па-нямецку сказаў, што не разумее, чаго дзяўчына ад яго хоча, бо звярнулася яна да яго па-ўкраінску. Соня паўтарыла па-нямецку. Ён назваўся Фрыдрыхам і спакойна распавёў, якім чынам яна апынулася ў яго доме. Соня ўзгадала бар, сябе ў бары і музыканта з доўгімі пальцамі. У таксоўцы дзяўчыну званітавала і ваніты забрудзілі яе адзенне, таму Фрыдрыху давялося імправізаваць. З жаночай вопраткі ў яго меўся толькі халат, які раней належаў колішняй каханцы. Яна забыла яго, калі з'язджала спешна да больш заможнага мужчыны, а мо і знарок пакінула халацік, каб было куды вяртацца. Гісторыя цалкам праўдападобная за адным выключэннем... Фрыдрых быццам чытаў Соніны думкі і паспяшаўся растлумачыць адсутнасць на ёй ніжняй бялізны: яна таксама сапсаваная ванітамі.

— І мы не спалі разам? — дапытвалася Соня.

— Не, — усміхнуўся Фрыдрых. Усмешка яго здавалася незямной. Яго не цікавіў той тып жанчын, да якога належала Соня.

— Але ж мы цалаваліся! — узгадала дзяўчына іх пацалунак у бары. Яна раптам адчула, як непрыемна закалола ў сэрцы ад прызнання немца. Зразумела, добра, што паміж імі нічога не адбылося, але яго грэбаванне ёю зачапіла і наждаком расчэсвала паднябенне.

— Так, — не адмаўляў малады чалавек і дадаў: — Хацеў паспытаць рускі смак вуснаў.

— Я не руская! — абурылася дзяўчына.

— Ведаю, — зноў усміхнуўся Фрыдрых. — Мне спадабалася, як ты адстойваеш прыналежнасць да сваёй нацыянальнасці. Хацеў яшчэ раз пачуць. Табе пасуе.

— Пасуе што? — не зразумела Соня.

— Пасуе быць украінкай, — паясніў той.

Смага зноў нагадала пра сябе. Соня папрасіла вады. Фрыдрых паспяшаўся выканаць замову. Ён вярнуўся праз колькі секунд з празрыстым куфлем для піва, але з вадой усярэдзіне. Дзяўчына прагна прысмакталася да мокрых сценак посуду губамі і глытала халодную ваду, быццам удыхала паветра. Яна амаль асушыла куфель і працягнула яго Фрыдрыху. Той узяў яго і трымаў у руцэ, разгублена лыпаючы вачыма. Соня зразумела, што ён хоча нешта сказаць, але не рашаецца чамусьці. Яна падбадзёрыла яго.

— Я дужа ўдзячна табе, — сказала, — праўда. Не ведаю толькі, як табе аддзячыць за дабрыню і клопат.

Фрыдрых быццам чакаў яе слоў, менавіта гэтых слоў.

— Я быў бы шчаслівы, калі б сённяшні вечар ты згадзілася правесці са мной у адным клубе. Зразумела, калі ў цябе няма іншых планаў, — ён гаварыў хутка, быццам баяўся, што дзяўчына перадумае альбо не пачуе. Сваім запрашэннем Фрыдрых як бы прабачаўся за тое, што не здарылася з імі...

— Ты ведаеш, — прамовіла Соня, падумаўшы, — якраз няма. Толькі мне трэба неяк вярнуцца дамоў...

— Я выклічу таксі, — схапіў Фрыдрых тэлефон.

У машыне, якая везла Соню, захутаную ў чужы халат, на Унтэр-дэн-Ліндэн, яна раптам пашкадавала аб згодзе правесці вечар з Фрыдрыхам. Што ёй вядома пра яго? Ды нічога. Ну музыкант, ну годна паводзіў сябе, не пакінуў незнаёмку ў бядзе... Шчыра кажучы, Соні шанцавала на людзей і да гэтага, інакш як растлумачыць фенамен яе паспяховай прафесійнай дзейнасці?!. Але ніхто раней не прапаноўваў неяк разам правесці час, не паспеўшы пазнаёміцца. Зрэшты, Фрыдрых таксама нічога не ведаў пра Соню, а тое, што даведаўся, сведчыла пра яе не з самага, мякка кажучы, лепшага боку. Соня адчувала сорам, таму як мага хутчэй мусіла пакінуць часовы прытулак, у якім апынулася выпадкова, наабяцаць мех і торбу, каб не затрымлівацца ні на секунду і пазбавіцца няёмкага пачуцця, якое ўсё адно не праходзіла. Халат, хоць і завялікі, ёй падабаўся. Нешта ў ім было эстэцкае, нуарнае. Падобныя рэчы дзяўчына бачыла на галівудскіх актрысах старога амерыканскага кіно, якім нядаўна захапілася. Напэўна, яна не аддасць яго Фрыдрыху, прыдумае прычыну, каб халат застаўся ў яе, а яшчэ лепш — каб Фрыдрых падарыў ёй халат добраахвотна. Соня нават марудзіла яго здымаць, калі апынулася ў кватэры. Яна не спяшалася развітвацца з рэччу, з-за цяпла якой адчувала сябе больш-менш упэўнена. Люстэркі, перавернутыя шклом да сцяны, Соня пакінула некранутымі і мэтанакіравана рушыла да ваннага пакою. Як жа добра было ляжаць у абдымках гарачай вады і ні пра што не думаць!

Вось бы гэтаю вадой мог быць Тарас: як бы яна яго кахала! Соня ні з кім не мела ніякіх стасункаў пасля гібелі Тараса, за выключэннем нязначных выпадкаў інтымнай блізкасці з некаторымі ўплывовымі, але прыгожымі і далікатнымі мужчынамі сферы шоу-бізнесу, зразумела, выпадкі былі разавымі і ніколі не паўтараліся. Акрамя плоцкага задавальнення, нярэдка сумніўнага, яны нічога не прыносілі. Соні не хапала каханага, гармоніі, паяднання душаў і сэрцаў. Яна марыла пра чалавека, які абавязкова аднойчы сустрэнецца, і яна ў ім растворыцца, як рафінад. Магчыма, такія мужчыны ўжо сустракаліся на яе шляху, але заўсёды паміж імі і ёй паўставаў вобраз Тараса, нават не вобраз, а прывід, прычым цалкам рэальны прывід, які адштурхоўваў не прэтэндэнтаў на Сонін

сэрца і месца ў пасцелі, а, уласна, саму Соню праз яе пачуццё віны перад хлопцам, якога даўно не было на свеце. Так, яна хацела памерці і патрапіць да Тараса, у каторы раз Соня нема крычала ў столь. Пытанне: чаму выжыла? Напэўна, таму, што Тарас недастаткова моцна хацеў яе мець побач з сабой, недастаткова моцна кахаў, недастаткова моцна трымаў яе за руку і сам адпусціў руку дзяўчыны. Яны маглі быць шчаслівымі ў іншым свеце, Соня насамрэч верыла ў гэта. На жаль для Тараса, а мо і не на жаль, нічога не адбылося. Яна жыла, ён — не. А жывым — жывое. Навошта тады Тарас пераследваў яе, не даваў ані маленькага шансу на звычайнае жаночае шчасце? Пакрыўдзіўся, што загінуў, а яна — не? Дык сам жа не ўтрымаў, а цяпер помсціў пастаяннай прысутнас-

цю. І ўсё ж уяўляла Соня толькі яго, калі марыла пра каханне, калі застывала ў ванне нерухомай багіняй і дазваляла гарачым подыхам і рукам воднай гладзі лашчыць яе і песціць, цалаваць і нашэптваць цікавосткі пра сябе на вушка. Шкада, цяпло хутка сыходзіла, дакладней, вада аддавала цяпло Соні і станавілася непрыдатнай для далейшага ўжытку. На шчасце, у дзяўчыны з'явіўся чароўны халат, які навобмацак атаясамліваўся з цяплом, адно дрэнна, што ён не мог замяніць чалавечае цяпло. Яна захуталася ў яго і села ў мяккі фатэль перад тэлевізарам. Нічога не хацелася пасля ванны. Не хацелася ісці кудысьці... Дый навошта? Не хацелася нават устаць, каб наліць сабе соку. Агульная млявасць авалодала ўсім Соніным целам. Вочы заплюшчваліся. Цяжка было сачыць за кліпамі на экране тэлевізара. Хаатычнае мільгаценне перад вачыма пагрузіла дзяўчыну ў сон, якому яна і не супраціўлялася. Прачнулася яна бадзёрай і гатовай да прыгодаў, ад прадчування якіх, здавалася, сэрца скочыць з грудзей проста на падлогу ружовым кролікам. У Соні аж дух заняло і заказытала ў паднябенні, хоць яшчэ колькі гадзін таму яна сумнявалася ў мэтазгоднасці прапановы Фрыдрыха, бо гэта была авантура чыстай вады. Зазвычай Соня нікуды не хадзіла, але не таму, што не хацела, праца забірала ўвесь яе час, і на выхадных дзяўчына проста ляжала і пазірала ў столь як дурніца, а пасля раптам засынала. Зрэшты, і ў вольны час яна працавала. Мозг, не напружаны мітуснёй працоўнай атмасферы, менавіта ў моманты адпачынку найбольш якасна сябе праяў-

ляў, дзякуючы чаму Соня прыдумляла незабыўныя вобразы і крэатыўныя ідэі, датычныя яе прафесійных здольнасцяў. Яна пачала хвалявацца, чакаючы Фрыдрыха, бо вечар ужо плаўна пераходзіў у ноч, а музыкант быццам забыў пра яе. Аднак тэлефанаваць яму не стала. Можа, і добра, што ён пра яе забыў. І без таго даволі шмат зрабіў для дзяўчыны-незнаёмкі. Тым больш ёй зранку на працу, якая абяцала быць няпростай: і на здымачнай пляцоўцы, і на натурлакацыі, а потым трэба паспець у гатэль «Адлон», дзе мусіў адбыцца паказ мод. Хоць разарвіся, адным словам. Тым не менш Фрыдрых усё ж аб'явіўся, роўна ў адзінаццаць вечара, і замест таго, каб выбачыцца за спазненне, працягнуў поліэтыленавы скрутак. Соня на словах пацікавілася, што ў ім, але малады чалавек не адказаў і параіў развярнуць яго. Там аказалася сукенка з чырвонага латэксу. Патрабуючы тлумачэння, дзяўчына здзіўлена паглядзела на позняга госця, які досыць вальяжна размясціўся на канапе.



— Усё проста, — усміхнуўся Фрыдрых, — клуб, у які мы неўзабаве патрапім, мае пэўны дрэскод. Выкананне ўсталяваных клубам правіл для ўваходу — гарантыя паспяховага праходу паўз ахову. У звычайным адзенні туды папросту не пусцяць ні за якія грошы. Так што неяк так.

— Але ж ты не ў гэтым, — вачыма ўказала Соня на латэкс у правай руцэ, бо Фрыдрых сапраўды выглядаў не для падобнага клуба апранутым, наадварот, складвалася такое ўражанне, што ён сабраўся на нейкую пафасную сустрэчу па вырашэнні праблем

сусветнага маштабу ў чорнай тройцы, белай кашулі, гальштуку мятлікам і лакавых штыблетах, якія блішчалі так, што Соня ўбачыла адбітак свайго твару на іх, бы ў люстэрку.

— Так, — пагадзіўся малады чалавек, — не ў гэтым. Але мне і не трэба.

— Мне таксама не трэба, — пацiснула плячыма Соня.

— Ты не разумееш, — цярпліва ўсміхнуўся Фрыдрых. — Табе якраз неабходна апрануцца менавіта так, бо інакш цябе не пусцяць. А я, скажам так, працую там. Ты, дарэчы, была хоць аднойчы ў нашых клубах? — своечасова запытаў.

— Не, — шчыра прызналася дзяўчына. — Не было калі.

— Тады абавязкова павінна сёння пазнаёміцца з найлепшым! —ганарліва прамовіў музыкант.

— Таму што ты там працуеш? — падлавіла яго Соня.

— Таму што ён насамрэч найлепшы, — прагучаў адказ. — І ты не пашкадуеш. Ва ўсякім разе ўражанні застануцца надоўга ў тваёй памяці.

— Добра, — кіўнула Соня. — Я ж не супраць. Проста дзіўна.

— Убор, між іншым, што я табе прынёс, трэба апрануць на голае цела, — як бы незнарок папярэдзіў Фрыдрых.

Ён застаўся сядзець на месцы, Соня адышла, каб пераапрануцца ў ванным пакоі. Што ні кажы, а яе заінтрыгаваў паход у клуб, і чым далей, тым болей яна хацела патрапіць туды. Жаночая цікаўнасць брала сваё. Дзяўчына прадчувала, што клуб будзе чымсьці

вычварным і пачварным, як у стужцы «Ад заходу да світанку», інакш навошта тады латэкс, у якім, дарэчы, выглядала яна сексуальна. Сукенка апляла яе цела змяёй і прыляпілася да скуры нібыта новай скурай, лепшай, яскравай і кідкай, але пад ёй, на дзіва, пачувалася ўтульна і нават цёпла. Верх сукенкі падкрэсліваў кожны выгін і выгадна вылучаў грудзі. Ніз уяўляў сабой міні-спаднічку, якая ледзьве прыкрывала клубы, але адкрывала прыгожыя, хоць і нядоўгія, як у мадэляў, ножкі, на якія Соня нацягнула шкарпэткі-унісекс. Халат яна павесіла на адзін з гаплікоў, што тырчалі з дзвярэй гаргулдямі. Спачатку хацела выйсці з ім і з удзячнасцю вярнуць уладальніку, але перадумала — пераб'ецца. Халат застанецца ў яе, наўзамен. Калі Фрыдрых захоча, Соня ахвяруе яму тузін іншых, з кітайскімі цмокамі на спінах, у якіх звычайна носяцца мадэлі перад паказамі, а потым забываюць іх у грымёрках. Каб не прападаць дабру, Соня іх збірала і пакідала сабе, прыхоўвала для розных выпадкаў. Яна выйшла да Фрыдрыха. Той задаволена ўсміхнуўся, падняўся з канапы і пацалаваў ёй руку. На яго думку, дзяўчына выглядала шыкоўна, зрэшты, ён і не сумняваўся, што ўбор, прывезены ім, ёй будзе пасаваць. Латэкс быў даспадобы ўсім без выключэння прыгожым дзяўчатам і міжволі выклікаў захапленне ў мужчын. Правакацыйнае адзенне падкрэслівала прыгажосць Соні, як почырк мастака, чый стыль немагчыма зблытаць ні з якім іншым. Яна ўсунула ножкі ў чорныя скураныя туфлі на платформе, набытыя выпадкова, бо звычайна насіла лёгкі

і зручны абутак, ад абцасаў нярэдка балелі і калені, усміхнулася Фрыдрыху, упэўненая ў тым, што спадабалася яму. Злавіла сябе на думцы, што гэта дужа прыемна — камусьці падабацца проста за тое, што ты ёсць, аж мурашкі пабеглі па скуры ад задавальнення. Аднак магчымых стасункаў з немцам, развіцця іх наўрад ці жадала і чакала. Нешта з ім было не так. Або з ёй, што верагодней за ўсё.

Клуб, у які малады чалавек прывёз Соню, называўся «КітКат». Ён знаходзіўся на KöpenickerStraße, 76 і з'яўляўся сапраўдным храмам геданізму, празмернасцяў і эксгібіцыянізму, але з атмасферай настолькі нязмушанай, што яна разнявольвала амаль усякага, хто ўваходзіў у яго цянёты. Менавіта тут магло здарыцца ўсё, што заўгодна, хоць і не з кожным. Мужчыны, пераапранутыя ў жаночую вопратку і наадварот, геі, спавітыя танцам разам з лесбіянкамі, адкрыты эратызм без цынічнай пошласці і нядрэнная музыка (транс і хаус) акуналі ў 1980-я, часы шалёных пляжных вечарынак на Гоа і сексуальнай свабоды.



Ужо пры ўваходзе ў клуб свядомасць Соні атакавалі вобразы, навеяныя «Боскай камедыяй» Дантэ і «Майстрам і Маргарытай» Булгакава, нягледзячы на тое, што звонку будынак выглядаў несамавіта і нязграбна. Яна адчула сябе быццам пад кантрастным душам, калі апынулася ўнутры, і сэрца яе амаль спынілася, асленленае чырвона-чорнымі тонамі дэкору, светлавым шоу, мноствам залаў і пакойчыкаў, афармленых у эротыка-псіхадэлічным стылі. Яна стаяла, агаломшаная музыкай, якую і музыкай можна было назваць толькі

з вялікай нацяжкай. Пакуль праходзілі ў галоўную залу з барам праваруч ад уваходу і вялікім тэлевізарам зверху, на якім дэманстраваліся фільмы для дарослых без цэнзуры, дзяўчына заўважыла ў бакавой нішы пажылога трансвестыта на вазку, якому рабіла прыемна элегантная дама пад пяцьдзясят. Соня рэзка адвярнулася, яе ледзь не званітавала ад убачанага. Зрэшты, нешта падобнае сустракалася на кожным кроку, а яшчэ шмат голых мужчын і жанчын, дзяўчат з залепленымі чорнай ізалентай крыж-накрыж смочкамі. Соня незнарок зачапіла некага плячом. Азірнулася, каб выбачыцца, і сустрэлася позіркам з бландзінкай-трансгендэрам, якая лыпала вейкамі, як курыца крыламі, і прыязна ўсміхалася, маўляў, нічога страшнага. Як высветлілася, трансаў тут хапала на любы густ і смак. І Фрыдрых аддаваў перавагу менавіта ім для інтымнай блізкасці. Вось чаму ён і не крануў Соню. Між іншым, Фрыдрых атрымліваў долю ад даходаў клуба, меў, відаць, нейкае дачыненне да заснавальнікаў, мо праз сваяцтва, мо праз штосьці іншае, таму з ім увесь час нехта вітаўся, а супрацоўнікі ветліва ўсміхаліся. Таму і Соня бесперашкодна трапіла ў клуб, абмінуўшы чэргі жадаючых, і трэба дадаць, бясплатна, тым часам плата за ўваход складала ад 15 да 25 еўра. Цяжка паверыць, але атмасфера клуба адрознівалася жыццярадаснасцю, пазітывам, ветлівасцю, выхаванасцю, за выключэннем нястрыманасці ў жаданнях. Агрэсіяй тут і не патыхала, аднак Соне здавалася, што агрэсіўнай стане неўзабаве менавіта яна. Ёй не падабалася падобная вольнасць, магчыма,

з-за сямейнага выхавання ў постсавецкай краіне, дзе падобнае ўспрынялася б як вакханалія Сатаны. Сучасныя святары рушылі б усёй дружнай грамадой на свяшчэнны бой супраць гэтай вольнасці. Цалкам верагодна, што дзяўчына і ўзначаліла б той паход. Як мог Фрыдрых прывезці Соню сюды? Ды яшчэ з мэтай знаёмства са сваёй другой паловай! Каб супакоіцца, трэба было дзе-небудзь схавацца, і Соня папрасіла Фрыдрыха паказаць, дзе ў іх дамскі пакой. Ён узяў яе за руку і павёў за сабой. У калідоры з прыбіральнямі дазвалялася курыць, там жа стаялі два крыжы, да якіх па жаданні можна было прыкаваць каго заўгодна і мацаць. На адным якраз некалькі напаўаголеных хлопцаў толькі-толькі распялі аголеную хударлявую бледную бландзінку з татуяваннямі на плячах і сцёгнах. Яна смяялася і пазіравала на камеру трэцяга хлопца, хоць здымаць у клубе забаранялася. Фрыдрых пасунуў цяжкую чырвоную аксамітавую парцьеру, падобную на заслону ў тэатры, і прапусціў ва ўзніклую адтуліну дзяўчыну да кабінак «М» і «Ж». Яе званітавала. А чаго яна чакала? Венскага балю і вальса, ці што? Няўжо незразумела было з самага пачатку, калі Фрыдрых адно прыйшоў да яе з гэтай латэкснай сукенкай? Навошта яна ўвогуле згадзілася яе апранаць, згадзілася на спатканне? Ды хіба спатканне? Нават смешна. На хвалько Фрыдрых не падобны, не будзе ён хваліцца статусам прасунутага мача. Дый не мача ён ніякі, а звычайны гамасек, які, праўда, шыкоўна іграе на піяніна. Напэўна, ён хацеў, каб Соня разняволілася. Як лепш хацеў. Хацеў паказаць, як ад-

пачываюць немцы, бо менавіта сюды немцы хадзілі з зайздросным пастаянствам. Так, яна не прасіла яго ні пра што, але і не адмовіла адразу, бо падсвядома таксама хацела акунуцца ў нешта незвычайнае. Не ў такое агіднае, канешне, але... сама вінавата, карацей. Трэба ехаць дамоў, зранку на працу. Соня лічыла сябе крэатыўнай недарма, але да крэатыву клуба гатовая не была. Яна выйшла з кабінкі, але застыла ў тамбуры, бо не бачыла выхаду з яго. Пры кепскім асвятленні ўсё вакол здавалася адной суцэльнай сцяной. Гэта жарт такі, ці што? У немцаў, значыцца, пачуццё гумару мелася? Звонку шырму яны ператварылі ў яскравую тэатральную заслону, а ўнутры замаскіравалі пад сцяну? Вычварэнцы да апошняга. І што — навобмацак шукаць выхад? Як назло — нікога, хто мог бы падказаць, нават дзіўна пры наяўнасці дзікай колькасці наведвальнікаў клуба. Зрэшты, Соні пашанцавала ўжо праз хвіліну. Некалькі дзяўчат у скураных спадніцах, але з аголенымі грудзьмі расхінулі сезам, у які Соня і прашмыгнула мышанём. Вядома, ніякага Фрыдрыха, які застаўся яе чакаць у калідоры, яна не пабачыла, што выклікала яшчэ большае раздражненне. У клубе ёй не падабалася, і яна хацела сысці. Аднак спачатку мусіла знайсці Фрыдрыха, каб развітацца з ім, бо знікнуць па-англійску не дазваляла выхаванне. Ёй удалося вярнуцца да барнай стойкі ў знаёмую залу, дзе людзей прыкметна пабольшала: на сцэне распачыналася нейкае дзейства. Соня прыпадымалася на дыбачкі, каб хоць нешта разгледзець, але марна: не з яе ростам. І Фрыдрыха адшукаць таксама не атры-

малася з тае ж прычыны. Тады Соня пакінула залу і паднялася на другі паверх, дзе было паспакайней, хоць і не нашмат. Затое меўся басейн, у якім, на дзіва, ніхто не плаваў. Празрыстая тканіна вады нерухома ляжала пад цьмяным позіркам чырвоных лямпачак, чыё святло, здавалася, прасавала яе. Тут і там бессаромна кахаліся парачкі розных полаў і ўзростаў. Соні было няёмка праходзіць побач з імі, але тыя не звярталі на дзяўчыну ўвагі. Яна мусіла ў думках адправіць сябе назад, спусціцца ўніз, наўрад ці Фрыдрых знаходзіўся на гэтым паверсе, але нешта штурхала яе наперад і вяло далей. У пакойчыках з адчыненымі насцеж дзвярыма, якія Соня абмінула пасля таго, як пакінула басейн ззаду, праходзілі сесіі дамінуючых над мужчынамі жанчын. Гаспадыні не адрозніваліся арыгінальнасцю ў адзенні: карсет або сукенка з латэксу ці скуры, высокія батфорты альбо туфлі на доўгіх абцасах. Аголеныя мужчыны ў скураных масках, каб не свяціць твар, але па целах бачна, што сталага веку, стоячы на каленях, хто вылізваў языком батфорты сваёй гаспадыні, хто атрымліваў асалоду ад лупцоўкі плёткай, хто выдаваў сябе за сабаку і падаваў голас, некага ўжо яго «імператрыца»... Соня крадком, міжволі, зазірала ў чарговы пакойчык і спяшалася прэч. За гульнёвымі заламі з аўтаматамі і більярднымі сталамі яна заўважыла даволі мірную міні-кавярню, дзе наведвальнікі проста сядзелі за столікамі і пілі з маленькіх кубкаў, напэўна, каву альбо гарбату, альбо гарачы шакалад. Сэрца яе раптам закалацілася ў грудзях, быццам звычайная птушка ў клетцы, якой зрабілася не-

чакана цесна і млосна, і яна пачала біцца галавой аб сценкі сваёй турмы, а затым спынілася. Соня адчула, што памерла, бо сэрца сапраўды не білася. Яна адчула млявасць, ногі падкасіліся, яна намагалася за што-небудзь зачапіцца рукамі, але тыя лавілі адно паветра. Дзяўчына правалілася ў цемру, такую плотную і вязкую, што не ставала дыхання. І ўсё ж ёй удалося не падавіцца чарнатой, якая запаўняла вантробы з хуткасцю непазбежнасці, і выціснуць з сябе здаўлены крык, пасля чаго сэрца зноў запрацавала, буксуючы, як машына, што патрапіла двума коламі ў яму на бездарожжы. Але запрацавала. Над тварам жа Соні схіліўся твар… Тараса. Тараса, якім бы хлопец мог стаць, калі б заўчасна не загінуў. Соня не зводзіла вачэй з рысаў аблічча, што паўстала з самога пекла наўпростым дакорам, якога, аднак, яна не баялася. Вось так бы бясконца і глядзець у такія родныя вочы, ахутвацца імі і нерухома ляжаць у іх, супакоенай і прыціхлай; церціся сваёй пяшчотнай ружовай шчакою аб шчаку каханага з трохдзённай няголенасцю і не адчуваць раздражнення ад яе наждачнай шорсткасці. Альбо адчуваць, але не раздражненне, а прыемны козыт, які б пераскочыў на паднябенне, а з паднябення скочыў у ніз жывата; цягнуцца вуснамі, перасохлымі ад бяссоння і суму, да яго вуснаў і прагнуць пацалункаў, і атрымліваць асалоду да стомы з заплюшчанымі вачыма. Хаця хацелася раскрыць вочы як мага шырэй і занатоўваць вачыма ў памяці, як камерай, кожны рух яго губ, мяккіх, але ўпэўненых і моцных, якім хацелася падпарадкоўвацца і аддавацца напоўніцу, без

астатку. Не валодаючы сабой, не маючы аніякага жадання кантраляваць сябе, Соня пацягнулася вуснамі да губ незнаёмца з тварам Тараса, але той ухіліўся ад пацалунку дзяўчыны і вымавіў па-англійску:

— Я бачу, з вамі ўсё ок. Але напалохалі вы не па-дзіцячы.

— Вас? — таксама па-англійску запытала Соня. Голас незнаёмца вярнуў яе ў прытомнасць, і яна дакладна разумела, дзе знаходзілася і, на жаль, з кім. Тараса не вярнуць, ён даўно памёр, ад яго, напэўна, ужо нічога не засталося, акрамя шкілета ў труне глыбока пад зямлёй, і гэты прыгажун побач не Тарас, хоць падабенства з ім уражвала.

— І мяне таксама, — пацвердзіў той.

Яны ўдвох сядзелі на мяккай канапе ўбаку ад столікаў. Соня з запракінутай на спінку канапы галавой, удзячная, што яе не палажылі на канапу, а менавіта пасадзілі.

— Дзякую ў такім разе, — сказала яна яму.

— Я — Томас, — назваў тады сябе незнаёмец.

— Соня, — назвалася дзяўчына і працягнула руку.

— Руская? — паціснуў руку дзяўчыны Томас.

— Не! — рэзка аддзёрнула руку Соня адразу пасля новага запыту Томаса. Той незразумела пазіраў на яе. Ён не быў вінаваты ў яе рэакцыі на яго пытанне, але прывыкнуць дзяўчына не магла і ніколі не прывыкне да стэрэатыпу сярэднестатыстычных чужынцаў, хоць чужаніцай для іх была менавіта яна. — Украінка! — літасціва вымавіла яна, а хлопец чакаў тлумачэння яе ўчынку.

Томас прыемна здзівіў Соню, бо ведаў пра Украіну шмат чаго цікавага, і выбачыўся перад ёй за тое, што назваў яе рускай. Яна не стрымалася і ў запале ўдзячнасці абняла яго і расцалавала, пасля чаго Томас пачуваўся досыць разгубленым. Зрэшты, дзяўчыну стан Томаса не палохаў, да таго ж неўзабаве пры дапамозе размовы яна вывела яго з таго стану. Ён аказаўся журналістам з Нью-Ёрка і трапіў у клуб па заданні «Нью-Ёрк Таймс», дзе працаваў. Яму неабходна было напісаць грунтоўны матэрыял пра «КітКат» і яго наведвальнікаў. Удзень, калі клуб быў пусты і яго рыхтавалі да вечара, яму нават дазволілі зняць на відэа ўсе памяшканні ўнутры клуба, праўда, інтэрв'ю ўзяць не атрымалася з уладальнікамі, аднак і той інфармацыі, якой ён завалодаў, хопіць на добры артыкул. Соня раптам сказала, што можа дапамагчы з інтэрв'ю. Яна мела на ўвазе Фрыдрыха, хоць не ведала, дзе таго шукаць. Зрэшты, калі ён сапраўды з'яўляўся тым, за каго сябе выдаваў, персанал клуба мог дапамагчы адшукаць яго. Ёй і раней, калі яна шукала Фрыдрыха самастойна, прыходзіла думка звярнуцца да персанала, але ўпэўненасці ва ўласнай значнасці бракавала. Томас прадстаўляў саліднае амерыканскае выданне: яму не адмовілі б. Ідэя Томасу спадабалася, вочы яго загарэліся, бы ў ваўка, якога, як вядома, ногі кормяць, і ён рушыў у атаку.



...І Фрыдрыха адшукалі. Больш за тое, ён таксама шукаў Соню. Яна не папракнула яго за тое, што пакінуў яе адну, бо менавіта дзякуючы гэтаму, як высветлілася, непаразуменню пазнаёмілася з Томасам, да

якога цягнулася і гарнулася ўсёй сваёй сутнасцю. Ні да каго раней, зразумела, акрамя Тараса, нічога падобнага Соня не адчувала. І пачуцці, датычныя Томаса, палохалі яе амаль гэтаксама, як навальніца і маланкі, ад якіх дзяўчына хавалася пад ложкам, з тым, праўда, адрозненнем, што ад Томаса хавацца не хацелася, наадварот, карцела як мага даўжэй заставацца поруч з ім і спадзявацца, што ён нікуды і ніколі не знікне. Відавочна марнае жаданне, тым не менш настолькі трывала замацоўвалася ў сэрцы і пускала карані, што Соня з кожнай наступнай хвілінай упэўнівалася ў яго нязменным здзяйсненні. Паганыя думкі яна праганяла прэч, выдаляла, як сяброў з сацсетак, хоць і разумела, што Томас у любым выпадку з'едзе ў Амерыку, а яна застанецца ў Берліне, і нават калі б паміж імі нешта адбылося ў тым прамежку паміж яго ад'ездам і прысутнасцю, ростань і адлегласць потым знішчаць з асаблівым задавальненнем кволы парастак пяшчоты і любові так, як гэта робяць заўжды. Да таго ж, магчыма, у Нью-Ёрку Томаса чакала дзяўчына або жонка. Ён жа не мог прадбачыць сустрэчы з Соняй. Дый Соня ці магла ўявіць сабе знаёмства на іншым кантыненце з чалавекам, падобным як дзве кроплі вады на каханне ўсяго яе жыцця? Бог быццам рабіў ёй падарунак у асобе Томаса, але дражніў ім, як шкадлівы падлетак, маўляў, або адбяры, або дакажы, што вартая падарунку. Таму, пакуль хлопцы дамаўляліся пра інтэрв'ю, на якое Фрыдрых згадзіўся, праўда, крыху павагаўшыся, Соня ліхаманкава вырашала ў галаве праблемы асабістага характару. Яна не сумнявалася ў тым, што Томас

яе і толькі яе мужчына, хоць ведала яго менш за гадзіну, дый крылы за спінай, здавалася, распасцерліся ва ўсю сваю даўжыню і шырыню і, узрадаваныя, трапяталі ў прадчуванні палёту. Соня адчула іх па свербу пад лапаткамі. Яна вартая Томаса, яна заслужыла яго, выплакала, вымаліла. І раптам прапанавала перабрацца ў яе ціхую кватэрку на Унтэр-дэн-Ліндэн. Там Томас зможа і інтэрв'ю ўзяць у Фрыдрыха, і спакойна дапісаць асноўны тэкст артыкула. Томас без ваганняў прыняў запрашэнне дзяўчыны. Яму сапраўды не было больш сэнсу тырчаць у клубе. Ён мог, зразумела, вярнуцца ў гатэль, у якім спыніўся, і нават запрасіць туды астатніх, але Соня апярэдзіла яго, то чаму не скарыстацца выпадкам?.. Фрыдрых таксама не запярэчыў, але папярэдзіў, што мусіць быць не адзін, а з сяброўкай, якая вось-вось павінна падысці. Ёю аказаўся (Соня нават не здзівілася) даволі сімпатычны транс у блакітнай газавай сукенцы і з блакітнымі валасамі, падобны на Мальвіну з савецкай кіназказкі. Томас з Соняй пераглянуліся, упэўненыя ў аднолькавым меркаванні і наконт новага персанажа, і наконт клуба ўвогуле, але з прыязнасцю аднесліся да Шэран: такім імем назваўся транс. Да таго ж Шэран мела прыемны голас і зайздроснае пачуццё гумару, што не ўласціва немцам.

Яны выйшлі на вуліцу. Фрыдрых выклікаў таксі. Вуліца аглушыла цішынёй амаль гэтаксама, як некаторы час таму клуб музыкай.

# 8

Цяжарнасць Аксану не ўзрадавала, на што спадзявалася доктарка, абвясціўшы шчаслівую навіну раптам збялелай дзяўчыне. Хутчэй, наадварот. Аксана не планавала дзяцей і злавала на Назара. Да таго ж у жываце яе пасяліліся, быццам чужыя з галівудскага блакбастара, адразу двое. Пашчасціла — так пашчасціла! Аднак і пра аборт думак не ўзнікла. Сямейныя традыцыі ў Станіслававе пільнаваліся свята, святасцю ахоўваліся і лічыліся боскім запаветам. Тое, што ты магла не верыць у Бога і адмаўляць яго, — не прымалася за ўвагу. За савецкім часам Бога таксама адмаўлялі і забаранялі любую згадку пра яго, тым не менш Бог застаўся, а куды падзеўся Савецкі Саюз і ўсе яго бонзы, якія да хрыпаты крычалі, што вера і рэлігія — опіум для народа? Опіумам апынуліся менавіта яны — часовым, хоць і працяглым. Аксана не адмаўляла Бога, але і не верыла ў яго. Яна мела ўласнае меркаванне наконт стварэння свету, бо свет, зразумела, не мог паўстаць з нічога: у яго быў аўтар. Вось у аўтара яна і верыла, нябачнага і геніяльнага, таму што толькі геній у стане стварыць тое, што ча-

лавек штодня, штосекундна бачыў вакол сябе і ніколі не задумваўся, адкуль яно ўзялося, асабліва лясы і горы, рознаквецце раслін, дрэў, насякомых і жывёльнага свету. У яе кружылася галава ад захаплення навакольнымі краявідамі ў сельскай мясцовасці і ў гарах, асабліва ўлетку, калі вочы літаральна танулі ў зеляніне шаўковых мораў, у якія карцела не толькі ныраць з разбегу ці з трампліну і плысці, п’янеючы без віна адно ад водару паветра, а забраць іх з сабой хаця б у выглядзе паштовак альбо малюнкаў у аднастайную будзёнасць гарадской кватэры, упрыгожыць яе імі, як навагоднюю елку, і ўздымаць настрой пры шторазовым позірку на іх. Маляваць Аксана не ўмела, паштоўкі рабіць — таксама, але магла дзівосы вакол сябе сабраць пасродкам фатаграфавання.



Зразумела, не адно дзеля забаўкі дзяўчына набыла даволі прафесійны фотаапарат і розныя дэвайсы да яго. Ёй не падабалася, як іншыя фатаграфавалі яе. Яна не пазнавала сябе на чужых фотаздымках, і не толькі сябе. Аксана валодала прыроджаным пачуццём кадру, беспамылкова і хутка знаходзіла патрэбны ракурс, і фотаздымкі яе атрымоўваліся сапраўднымі шэдэўрамі. Да кожнай фотасесіі адносілася аднолькава адказна і добрасумленна. Фатаграфаванне неўзабаве пачало прыносіць неблагі фінансавы прыбытак, што дазволіла дзяўчыне сысці са школы і заняцца выключна дзейнасцю фатографа. Аксану запрашалі на вяселлі, дні нараджэння, карпаратывы і проста пафоткаць пад настрой. Больш за ўсё яна зарабляла на вяселлях, але ніколі і нікому не адмаўляла нават

за мінімальны ганарар. Назар адносіўся да дзейнасці жонкі як да хобі і не ўспрымаў фатаграфаванне вартым увагі ці нечым сур'ёзным, хоць Аксана сто разоў даказвала яму, што яна займаецца мастацкай фатаграфіяй, што стварае мастацтва, гэтаксама як мастак піша карціны, кампазітар — музыку, а пісьменнік —кнігі. Тым не менш пераканаць мужа ў важнасці сваёй справы не атрымлівалася. Ён не слухаў яе ці не хацеў слухаць, заняты пытаннямі бізнесу, бо яго бізнес у грашовым эквіваленце, зразумела, пераўзыходзіў жончына фатаграфаванне. Аднак і не перашкаджаў Аксане, хоць і не падтрымліваў, нават першую яе выставу праігнараваў, нягледзячы на тое, што яна прасіла яго дапамагчы. Аксане давялося самой ускарасківацца на драбіны і развешваць фатаздымкі па сценах Бастыёну. Гэта пры тым, што ўжо 
насіла пад сэрцам Назаравых дзяцей, пра якіх яшчэ не ведала. На яе выставу, як ні дзіўна, прыйшло багата людзей, нават вядомыя не толькі ў Станіслававе фатографы, якія сказалі мноства цёплых і прыемных слоў пра маладую фотамастачку. Тэлежурналісты знялі рэпартаж пра Аксану і паказалі па мясцовым тэлебачанні. Дзве працы захацелі набыць і прапаноўвалі неблагія грошы. Аксана так разгубілася, што аддала іх бясплатна. Яна не шкадавала потым, бо не разумела ў той час, што фотакарціны можна таксама прадаваць, як і звычайныя карціны, дзеля гэтага, уласна, і наладжваюцца выставы. Да таго ж не была гатова да ўвагі грамадства, да той увагі, якую атрымала, але на якую зусім не разлічвала. У той дзень,

калі Аксана даведалася пра цяжарнасць, ёй патэлефанавалі з Кіева і прапанавалі месца штатнага фатографа ў адным модным выданні, а таксама фотавыставу ў арт-галерэі сучаснага мастацтва. Бацькі не падтрымлівалі Аксану, не падзялялі яе захопленасць фатаграфаваннем, зрэшты, як муж дзяўчыны і свякруха. Тая ўвогуле мела намер зрабіць з яе афіцыянтку ў адной з кавярань на Стометроўцы. Неаднаразова пачынала пры сустрэчы размову пра дастойны занятак дастойнай жанчыны. Аднак Аксана не лічыла працу афіцыянткі дастойным заняткам для жанчыны. Яна нічога не мела супраць уласна афіцыянтак, але не ў яе выпадку. Тады свякроў, якая прыходзіла ў кватэру маладзёнаў у любы час, зручны для яе, маючы ад кватэры дублікат ключоў, казала пра перспектыву росту, бо ўсякая прафесійная дзейнасць таго або іншага кшталту пачынаецца з малога, і праводзіла аналогію з гардэробам у тэатры. Асабліва насела яна на Аксану, калі дзяўчына прыпыніла настаўнічаць у школе, каб цалкам пераключыцца на фатаграфаванне. І тата патураў сваццi ва ўсім, што Аксану збівала з панталыку. Яна не разумела, як і калі ён трапіў пад уплыў чужой, па сутнасці, жанчыны, а ў тым, што тая ўплывала на яго, Аксана не сумнявалася. Яна з татам пастаянна спрачалася і сварылася, бо той заўсёды прымаў бок сваццi. Яго быццам падмянілі пасля вяселля дачкі. Але ён ганарыўся яе статусам замужняй жанчыны, быццам для жанчыны выйсці замуж — гэта як ускараскацца на Эверэст. Назар часта адсутнічаў па справах бізнесу, але калі з'яўляўся — здавалася,

сам Людовік XIV сыходзіў з вышынь уласнай велічы дзеля любові плебсу. Яго сапраўды абагаўлялі і лічылі, што Аксане з ім вельмі пашанцавала. Як Дзед Мароз, ён пасля кожнай камандзіроўкі адорваў падарункамі, нікога не забываючы з сям'і. Там, дзё ён быў, надыходзіла свята. Маці Назара таксама дзяўбала сына наконт працы Аксаны ў яе кавярні, але яму было ўсё адно. Галоўнае, каб жонка добра прымала яго ў пасцелі і выконвала ўсе пажаданні, а кім і дзе яна працавала ці будзе працаваць — справа дзясятая. Ён увогуле меў спадзеў, каб Аксана нідзе не рабіла, а сядзела дома, як наложніца, і чакала мужа пад дзвярыма на каленях і з тэпцямі ў зубах, бы сабачка. Падобныя гульні Назара заводзілі імгненна, а грошы зарабляць ён умеў, таму не бачыў неабходнасці ў працаўладкаванні жонкі. Таму і маці сваю слухаў для выгляду, згодна ківаў, падтакваў, але нічога больш. Тая ж лічыла, што мела права на эксплуатацыю Аксаны. Па-першае, падарыла ёй машыну. Тое, што дзяўчына амаль не карысталася ўласным транспартам, адно ў выпадку вострай неабходнасці— яе справа. Па-другое, забяспечвала прадуктамі (лядоўня маладзёнаў выглядала як харчовы склад), бо не магла ж сына пакінуць галодным, а на жонку яго спадзявацца не было чаго, тая нярэдка забывалася і сябе пакарміць. Па-трэцяе, купляла адзенне абодвум, нават ніжняя бялізна Аксаны была набыта свякрухай. Па-чацвёртае, прыбірала ў кватэры сына, калі прыходзіла, а прыходзіла нярэдка, прала рэчы і прасавала іх, нават тыя прасавала, што ляжалі сабе

спакойна ў шафе і нікога не чапалі. Аксана злавала на свякроў, але ніводнага разу не запярэчыла, хоць наважвалася не аднойчы, і ва ўласнай кватэры пачувалася госцяй. Зрэшты, удзячнасць да свякрові таксама мела, бо была пазбаўлена ёю ад бытавога вэрхалу.

Дзеці ўсё зменяць. Напэўна, да лепшага. Аднак і Аксана зменіцца таксама,ператворыцца ў курыцу-наседку, як мільёны іншых дзяўчат да яе, пазбавіцца амбіцый, прагі нечага дасягнуць. Калі б адно — яшчэ можна змірыцца, а двое адразу — гэта ж катастрофа! І як сказаць Назару? Ці ўзрадуе яго навіна? Бацькоў, вядома, узрадуе стоадсоткава, што яе, што яго. Яны адразу стануць паважнымі індыкамі, як жа: такі прыплод, узнагарода за два гады чакання пасля вяселля, нават сорамна было прайсціся па вуліцы. Затое цяпер сорам свой засунуць куды падалей. І ніхто не падумае пра яе, Аксану. А як ёй быць? А што яна, менавіта яна адчувае?



Аксана выйшла з жаночай кансультацыі быццам сама не свая. Не заўважала нікога і нічога вакол, ледзь не трапіла пад колы на пераходзе праз дарогу. Ногі па інерцыі прывялі да бацькоўскага дома. Аднак яна не разумела навошта і марудзіла заходзіць у двор. Карцела закурыць, нягледзячы на тое, што даўно курыць кінула, дый не курыла так, як зацятыя курцы. Хаця б зацяжку, адну-адзіную... Зрэшты, пераадолела нясцерпнае жаданне, удыхала на поўныя грудзі зімовае марознае паветра. Шырока адкрытым ротам Аксана глытала яго, як снег у дзяцінстве. Снег жа рыпеў пад нагамі, хрумсцеў, бы цукар на зубах, выказваў

незадаволенасць, напэўна, за нерашучасць дзяўчыны. Павярнуць дамоў, плесціся па Канавальца ўгару і нікому не глядзець у вочы, не заўважаць сустрэчных позіркаў і зачыніцца ў кватэры — не варыянт. Аксана не хацела адзіноты, якая чакала яе дома, якая нікуды не знікала нават у прысутнасці Назара. Яна, адзінота, не баялася яго. Назар зноў недзе адсутнічаў, але ўсё адно казаць яму пра цяжарнасць Аксана не мела ніякага жадання, бо сумнявалася ў сабе. Яна падумала пра аборт. Магла ўвогуле нічога нікому не казаць і пазбавіцца, пакуль не позна, ад плода. Аднак яе таямніца страціць таемнасць адразу, як толькі зойдзе размова пра аборт, бо доктарка абавязкова паведаміць свякрусе, якая паўсюль мела сваіх людзей. Свякруха не дазволіць пазбавіцца ёй цяжарнасці. Выхаду не было. Трэба падзяліцца навіной з роднымі і змірыцца, зноў пахаваць планы і спадзяванні на прафесійны рост і прафесійны поспех. Зрабіцца, як усе, і плысці разам з плынню, а не супраць яе. Нікому бунтарства Аксаны нічога добрага не прыносіць, нават ёй самой.

Дзяўчына цяжка ўздыхнула і гэтаксама цяжка выдыхнула, асуджана патэпала да пад’езду. Ёй адчыніла мама. Аксана абняла яе і расплакалася. Усхваляваная станам дачкі, мама не ведала, як рэагаваць, але ўгаворвала супакоіцца і даверыцца ёй. Ад маміных слоў Аксанін плач ператварыўся ў істэрыку. Мама разгубілася і шкадавала ўжо, што апынулася дома, а не паехала з татам на аб’ект, як і планавала. Той вырашыў, што жонцы трэба застацца дома, бо

абяцалі марозны дзень, да таго ж яе прысутнасць на аб'екце была неабавязковай. Яна пакінула дачку адну ў гасцёўні, каб прынесці з кухні вады. Дзіўна, але Аксана супакоілася, як толькі мама сышла. Потым яна зрабіла некалькі глыткоў цёплай адфільтраванай вады з прынесенай мамай шклянкі і сказала, што ў яе будуць дзеці.

— У сэнсе — будуць дзеці? — не зразумела мама. — Калісьці будуць? Ты кансультавалася з доктарам?

— Не, мама, не калісьці, — запярэчыла Аксана. — У маім жываце зараз ужо двое іх, разумееш?

— Ты цяжарная?! — не хавала прыемнага здзіўлення мама. Нарэшце яе дачка даказала гэтаму свету, што ніякая не хворая, як лічылі некаторыя толькі з-за таго, што пасля вяселля прайшло больш за два гады, а Аксана пустая.



— Менавіта! — І зноў вочы на мокрым месцы.

— Дык радавацца ж трэба! — усклікнула мама. — А ты плачаш, — нібы папракнула.

— Гэта слёзы шчасця, мама, хіба незаўважна, што я шчаслівая? — з'яхіднічала Аксана, але мама таго не заўважыла ці зрабіла выгляд, што не заўважыла.

— А ты не падманваеш мяне часам? — усё ж падазрона зірнула на дачку.

— Не, мама, — уздыхнула Аксана, — на жаль, гэта праўда.

— Чаму — на жаль?

— Таму.

— Добра, ты зараз, відаць, не зусім адэкватная, — вырашыла мама не назаляць з роспытамі. — Табе

трэба адпачыць, супакоіцца і прымірыцца з сабой... А Назар ведае, ты яму сказала ўжо? — усё ж не стрымалася.

— Не. Ты першая, — адказала Аксана, і маме адказ дачкі спадабаўся.

— Вось і добра, — задаволена вымавіла яна. — Далей я сама ўсё зраблю, а ты адпачывай.

Мама адвяла Аксану ў яе дзіцячы пакой. Тая паслухмяна лягла ў ложак і ўхуталася ў коўдру. Ёй сапраўды патрабаваўся адпачынак пасля перажытага стрэсу. Яна не шкадавала, што прыйшла да мамы і пераклала адказнасць за сваю цяжарнасць на яе плечы. Мама з задавальненнем прыняла і падтрымала дачку. Далей і сапраўды лепш дзейнічаць ёй.

Аксана паплакала, шкадуючы сябе, і неўзабаве заснула ў той самы час, калі мама яе распачала доўгачаканую дзейнасць. Спачатку яна патэлефанавала ў жаночую кансультацыю, каб упэўніцца ў праўдзівасці слоў дачкі. Не тое што мама не давярала ёй, проста мусіла ведаць дакладна. Сэрца яе, здавалася, удвая прыспешыла рух кругазвароту крыві па венах, што пагражала павышэннем ціску, але хваляванне было прыемным, таму даволі хутка жанчына з ім паразумелася. Для надзейнасці яна крыху пасядзела ў фатэлі, аддыхалася пад чарговую серыю «Сватоў» і патэлефанавала свацці. Тая таксама навіну ўспрыняла блізка да сэрца, некалькі разоў перапытала, ці праўда, бо адразу не верылася. Мама запрасіла абодвух сватоў прыходзіць увечар у госці і пераканацца на свае вочы. Сваццця абяцала, што не прапусціць та-

кую падзею, а затым пацікавілася, ці ведае яе сын аб будучым бацькоўстве. Мама шчыра адказала, што не ведае: Аксана, відаць, launched пературомленая насычанасцю дня і ўласнымі думкамі, заснула. Сваццця параіла запрасіць і Назара, але абяцала заняцца сынам самастойна. Казаць яна яму нічога не будзе, толькі заінтрыгуе, няхай Аксана ўсё ж асабіста мужу перакажа, што той стане бацькам. Мама не запярэчыла, пасля чаго патурбавала тату і агаломшыла яго навіной. Той не стрымліваў пачуццяў і адрэагаваў узрушана. Нарэшце і ў яго з'явяцца ўнукі! Мама папрасіла яго не затрымлівацца, бо на вечар запрасіла сватоў. Тата паабяцаў, што і хвіліны лішняй свайго жыцця не пакіне працы, абы хутчэй апынуцца на свяце новага жыцця, і выбачыўся за таўталогію ды пафас. Аднак ён хацеў

быць у тую хвіліну пафасным і важным, бо не было на свеце нічога, як ён лічыў, прыўкрасней за нараджэнне, а значыць, аднаўленне, амаладжэнне і працяг роду. Да таго ж карцела пахваліцца перад бізнес-партнёрамі, што і ў яго, як і ў іх, усё добра з унукамі. Назар жа, па шчырасці, зусім не прагнуў патрапіць цесцю на вочы, таму аднекваўся на кожны мацерын довад. Вось і сёння тая яму патэлефанавала і параіла завітаць увечар да жончыных бацькоў. Справа ў тым, што год таму ён пазычыў у цесця тры тысячы долараў на пашырэнне бізнесу і абяцаў вярнуць з працэнтамі. Аднак і бізнес не пашырыў, і грошы прафукаў, хоць намер меў сур'ёзны і не сумняваўся, што доўг аддасць разам з працэнтамі цягам трох месяцаў. Чорт яго ці хто нацкаваў тады зазірнуць у казіно

і прайграць не толькі пазычаныя грошы ў рулетку, але і неіснуючыя свае. Ён быў вінен не толькі цесцю, але і свайму французскаму пастаўшчыку, які і справакаваў паход у казіно, а затым неверагодных памераў пазыку. Здавалася, яму прыносіла не абы-якое задавальненне назіраць за азартам Назара, які быццам ап'янеў ад гульні, застаючыся цвярозым фізічна. Добра, што ўвесь бізнес Назар паспеў перапісаць на Аксану, нібы прадчуваў падставу. Ён увогуле нікога не хацеў бачыць, нават жонку, тым больш глядзець у вочы яе тату. Не з-за сораму ці іншых нейкіх сентыментальных адчуванняў, не. Сямейныя пасядзелкі выбівалі яго з каляіны, стваралі ілюзію казкі, як у галівудскіх перадкалядных фільмах, а ілюзіі ён ненавідзеў больш за ўсё. Ілюзіямі жыла Аксана, фатаграфуючы іх і пазіцыянуючы як мастацтва, якое таксама з'яўлялася звычайнай ілюзіяй, уцёкамі ад праблем рэальнага жыцця. Зрэшты, калі маці так упарта настойвала на яго абавязковай прысутнасці, значыць, нешта там важнае здарылася. І калі без яго ніяк, а маці падкрэсліла, што без яго ніяк, то ён прыйдзе, але ненадоўга.

Тым вечарам Аксана пашкадавала ўсё ж, што прыйшла да мамы. Калі яна прачнулася, тая бегала па кватэры, бы маладая козачка, бадзёрая, рухавая, жыццярадасная. Столькі ў ёй было энергіі, што яна літаральна збівала з ног. На хаду мама паведаміла, што чакае гасцей, толькі самых блізкіх, вядома, што Аксана прынесла ў іх сям'ю свята, якое па традыцыі неабходна адзначыць, каб не сурочыць. Запыт-

ваць — навошта — не было неабходнасці. Усё і так відавочна. Але ці не дзеля мамінай дзейнасці, менавіта вось гэтай, з застоллем і гасцямі, Аксана самаўхілілася? Ці не дзеля гэтага і прыйшла да яе, а не пацягнулася ў сваю вялікую, але пустую і халодную кватэру?.. Быццам і зацяжарыла дзеля сям'і, быццам сапраўды хацела даказаць, што вартая іх увагі, што не ўсё з ёй так дрэнна?.. Няўжо і яна, нягледзячы ні на што, залежная ад ухвалы бацькоў і родных?.. Прыйшоў тата, пагладзіў яе па галаве, як у дзяцінстве, прыгарнуў да сябе. Аксанін твар ахутала цяплом яго мяккага пухнатага швэдара. Адразу захацелася зноў стаць маленькай дзяўчынкай, ускараскацца на татавы калені і ашчаперыць яго за шыю, дакладна ведаючы, што ён нікуды не падзенецца і будзе з ёю заўжды, як каменная сцяна ці вежа, надзейная і моцная, у якой так зацішна і спакойна. Тата казаў нейкія словы, напэўна, выказваў гонар і радасць за дачку, але яна не чула іх, прыціхлая, бы кацяня пад печкай. Потым у дзверы пазванілі. Іх адчыніла мама. Гэта прыйшлі сваты. Тата схамянуўся, ніякавата ўсміхнуўся, адляпіўся ад Аксаны, адгарадзіўся ад яе сцяной супярэчнасцяў і жыццёвых рэаліяў ды паспяшаўся да гасцей. Ён не ведаў, як паводзіць сябе з дарослай, тым больш цяжарнай дачкой, якую ўсё меней разумеў. Пасля вяселля, як ён лічыў, яе быццам падмянілі. Напэўна, у гэтым была і яго віна. Аксана расчаравалася шмат у чым. Адукацыя, атрыманая ёю, не прынесла тых дывідэндаў, на якія разлічвалі яны абодва. Аксана адасобілася, аддалілася, маг-

чыма, крыўдавала на тату за тое, што паслухалася яго, і шукала іншых шляхоў да ўласнай рэалізацыі. Аднак, па праўдзе кажучы, рэалізацыя жанчыны, па меркаванні таты, — гэта сям'я і дзеці, а не лунанне ў паднябессі на паветраных конях. На татаву думку, Назар — ідэальны для дачкі муж, чалавек, які ўмее зарабляць грошы, бо для мужчыны галоўнае быць фінансава незалежным, умець забяспечыць сябе і сваю сям'ю. Адзінага, чаго ім не хапала, дакладней, Аксане — дзяцей. Магчыма, з-за адсутнасці дзяцей яе пацягнула ў так званае мастацтва, няхай сабе і прыбытковае. Але...

Дзяўчына засталася адна ў паўцёмным пакоі. Яе не турбавалі. Свякруха, праўда, зазірнула ў дзверы, аднак мама адцягнула ўвагу той на больш цікавыя рэчы, прынамсі, так падалося Аксане. Яна раптам шалёна захацела дамоў, здзіўленая сваёй прысутнасцю ў бацькоўскай кватэры. Ды нясцерпнасць перамагла абыякавасць. Ці не ўсё адно, дзе ляжаць, захутвацца ў коўдру і пазіраць у столь, быццам у кнігу, але не бачыць ні літар, ні сэнсу. Бацькі Аксаны пачалі спрачацца з бацькамі Назара якраз на гэтую тэму. Яны катэгарычна адмаўлялі ёй у самастойнасці, ва ўсякім разе пакуль дзяўчына не народзіць, дый і пасля пад вялікім пытаннем, таму кагалам вырашылі, што адпускаць на Петлюры яе нельга, да таго ж і Назар часта ў раз'ездах, дый які з яго памочнік. Здавалася, зацікаўленыя бакі паразумеліся стоадсоткава, засталіся задаволеныя, што і адзначылі звонам бакалаў з шампанскім. Далей задача

ўскладнялася. Ніхто не жадаў саступаць адказнасці за дзевачку, якая мусіла знаходзіцца менавіта пад наглядам адных бацькоў, а не іншых. Свякроў не сумнявалася, што ў яе палацах Аксане будзе лепш за ўсё, але мама настойвала на родных сценах, у якіх дзяўчына вырасла, і на матчынай любові. Свякроў запярэчыла, што і яна маці таксама. Жанчыны ледзь не пабіліся. Іх мужы своечасова расцягнулі жонак па розных кутах, як баксёраў. Спрачаліся яны досыць доўга, каму весці рэй у шчаслівых клопатах за цяжарную, але ўсё ж да кансэнсусу дапялі, якім бы абсурдным ён ні падаўся. Рашэнне было канчатковым і скасаванню не падлягала, а менавіта абодва бакі сышліся на тым, што Аксана мусіла цягам кожнага тыдня мяняць месца пражывання (кватэру бацькоў на дом свякрові і наадварот), пакуль не народзіць. І быццам гара з плячэй звалілася ва ўсіх апанентаў. Яны зацвердзілі вырак чарговым тостам, асушылі шампанскае да дна і разняволена адкінуліся на спінкі фатэляў. Засталося зусім нічога: абвясціць аб прынятым на сямейнай радзе рашэнні Аксане і Назару, які ўвогуле не ведаў і нават не падазраваў ні пра раду, ні пра цяжарнасць жонкі. Аксана ж усё чула, бо і яе бацькі і бацькі Назара даволі гучна размаўлялі. Зрэшты, ёй было ўсё адно. Яна змірылася з доляй мамы, быццам знаходзілася ў вязніцы і яе пакаралі за нешта такім чынам. Ні пра што не думала, нічога не жадала, ні да чаго не імкнулася, адно ўяўляла сябе каравай, у якую, напэўна, ператворыцца ў бліжэйшым будучым.

Назар з’явіўся тады, калі яго, напэўна, ужо не чакалі. Безумоўна, ні яго думка, ні прынцыповая згода хлопца на дазвол манеўраў з яго жонкай нікога не цікавілі. Яго паставілі перад фактам, і кропка. Але спачатку ён меў размову з Аксанай. Яна і адчыніла яму дзверы, пасля чаго зацягнула ў пакой, які займала. Назар разлічваў на гульню з яе боку, бо выраз твару дзяўчыны падаўся яму досыць таямнічым, магчыма, таму што перад тым, як выканаць абяцанне, дадзенае маці, кульнуў колькі чарак з сябрамі па школе, якіх нечакана сустрэў на Стометроўцы. Яму трэба было адцягнуцца, разняволіць і думкі, і мышцы, напружаныя да болю ў вачах і рэзі ў жываце з-за безвыніковых пошукаў выхаду з той халепы, выхаду з якой не бачыў апрыёры. Дні міналі, як ліхтары за вокнамі хуткаснага цягніка. І чым хутчэй — тым больш у сябе засмоктваў адчай. Аднакласнікі своечасова трапіліся на яго шляху, яны адзначалі дзень нараджэння аднаго з тых, каго Назар нават не памятаў і ўзгадаў не адразу. Імяніннік у школьныя гады не вылучаўся ні голасам, ні знешне, сядзеў шыбздзікшыбздзікам на «камчатцы», занураны ў падручнікі, з-за якіх нават акуляраў яго не было відаць, але неўзабаве паспяхова скончыў сталічны ўніверсітэт і трапіў у адзін з кіеўскіх холдынгаў, што спецыялізаваліся на праграмаванні і распрацоўцы камп’ютарных гульняў. Наколькі Назар зразумеў, хлапчына займаў у холдынгу зусім не нізкую пасаду з суадносным заробкам, дый змяніўся да непазнавальнасці, а ў Станіслаў вярнуўся ў адпачынак, які супаў з днём

нараджэння. Бывае і такое. Назар не зайздросціў. Ён ніколі не хацеў жыць у Кіеве. Вялікія гарады раздражнялі яго мітуснёй і недахопам паветра з-за бясконцай і паўсюднай плыні людзей. Нават Парыж, у які Назар нярэдка наязджаў па справах бізнесу, нічым яго не зачапіў і, калі падумаць, амаль не адрозніваўся ад Запарожжа. Славутасці ж, выдатныя мясціны, гісторыя і мастацтва Назара мала цікавілі. Яго ўзбуджалі грошы, грошы ды яшчэ жонка. Згадка пра Аксану прымусіла Назара развітацца з аднакласнікамі, тым больш што ён абяцаў маці зазірнуць на аганёк да жончыных сваякоў. Калі б ведаў, што яго там чакала, лепш бы забыўся пра абяцанне. Аксана агаломшыла навіной, якая, магчыма, у іншых абставінах зрабіла б яго найшчаслівейшым чалавекам на зямлі. Цяжарнасць жонкі была несвоечасовай і непатрэбнай, лішнім гемароем на яго дупу, пагражала сапраўднай небяспекай, бо цяжарнасць маглі выкарыстаць у якасці шантажу дзеля вяртання пазыкі. Але грошай не было, і з’явіцца ніадкуль яны ніяк не маглі. Таму і радасці на твары мужа Аксана ніякай не пабачыла, хутчэй прыкрасць і расчараванне. Па праўдзе кажучы, ён спадзяваўся на сексуальны адпачынак. Добра, што хоць старыя ўсё вырашылі без маладых. Адным клопатам меней. Назар нават не здзівіўся, наадварот, уздыхнуў з палёгкай, што яго пакінулі з мінімальнай адказнасцю ў спакоі. З яго цэрберам-маці наўрад ці каму пашчасціць з шантажом. Але ён памыляўся. Назараў доўг вісеў не толькі над ім дамоклавым мячом, але і над тымі, каму

ён быў вінен. Французскі партнёр па бізнесе, які так удала выдаваў сябе за сябра, усяго толькі выконваў ролю, і ролю выканаў на выдатна. Яго гаспадары былі людзьмі іншага гатунку, для якіх кожны цэнт важыў з цэнтнер, і свае грошы яны вярталі ў любым выпадку. Зразумела, на крайнія меры яны не ішлі, бо няма чалавека — і няма праблемы, як і грошай, якія той чалавек вінен, таму знаходзілі альтэрнатыўныя захады і сродкі ціску на даўжніка. У іх паўсюль меліся адданыя справе спецыялісты, і тыя рэдка расчароўвалі гаспадароў, яны і вылічылі слабое месца ў Назаравай сям'і. Па вялікім рахунку, хто і як мусіў аддаваць грошы, іх не асабліва цікавіла, галоўнае, каб доўг быў пагашаны.

Аксану выкралі на пятым месяцы цяжарнасці, проста з-пад носа свякрові. Дзяўчына сядзела на тэрасе і чытала кнігу, свякроў якраз ад'ехала па справах, Назар корпаўся ў двары з машынай. Выкрадальнікі ў белы дзень пад'ехалі на бусе пад выглядам інтэрнэт-правайдараў (вуліца ціхая, амаль заўжды бязлюдная), яны нават твараў не хавалі пад чорнымі маскамі, як у галівудскіх фільмах з падобнымі сюжэтамі. Ветліва запыталі ў Назара, назваўшы адрас, ці не памыліліся часам, хоць Назар запярэчыў, што з інтэрнэтам у хаце праблем няма. Яму зноў-такі ветліва ўсміхнуліся і бясшумна абясшкодзілі ды сунулі пад машыну. Аксану ўсыпілі хлараформам, падкраўшыся ззаду, знеслі ўніз, пагрузілі ў бус і з'ехалі. Аднак пакуль даехалі да месца прызначэння, дзяўчына ледзь не сцякла крывёю і не памерла. Хлара-

форм, хутчэй за ўсё, выклікаў алергічную рэакцыю ў арганізме Аксаны і згубна паўздзейнічаў на плод. Да таго часу будучая мама ўжо дакладна ведала, што ў жываце яе раслі і набіраліся моцы хлопчык і дзяўчынка, яна нават імёны ім прыдумвала, раілася з імі, якое каму больш даспадобы. Адказны за аперацыю па выкраданні Аксаны, які чакаў бус з ахвярай у прызначаным месцы, асабліва не засмуціўся станам дзяўчыны, адно сплюнуў ад прыкрасці і загадаў везці яе ў бліжэйшую бальніцу, што выканаўцы і паспяшаліся зрабіць, бо не на жарт спалохаліся. Зрэшты, труп нікому патрэбны не быў. Адказнасць за смерць Аксаны не ўваходзіла ў планы выкрадальнікаў, іншая справа, калі яна памрэ на руках у дактароў. Дзяўчыну выратаваць удалося, але дзяцей яна страціла і паўторная цяжарнасць выклікала ў медыкаў сумненні. Верагодна, гэта была першая і апошняя магчымасць Аксаны мець дзяцей. Яна скуголіла і скавытала ў палаце, як ваўчыца, пазбаўленая гвалтам ваўчанят. Мацярынскі інстынкт і псіхалагічнае ўзрушэнне разбуралі ў галаве межы свядомасці і надсвядомасці. Крывяны ціск заставаўся нязменна павышаным і пагражаў разліцца крывёю ды затапіць мозг, як гноем апендыкс, што разарваўся праз суткі пасля паступлення Аксаны ў бальніцу. Мама з татам дзяжурылі каля дачкі па чарзе. Свякроў дапамагала сувязямі і грашыма. Назара падпільнавалі на запраўцы тыя ж людзі, якія выкралі Аксану, гэтым разам на чале з адказным за аперацыю. Ім апынуўся Матарола: чалавек, які неўзабаве возьме сабе гэты пазыўны ў сувязі з ваенным

канфліктам на Данбасе. Ён не ўдзельнічаў у збіцці Назара, аднак з непрыхаванай цікавасцю назіраў за працэсам. Назар не паспеў адбіцца, яго адразу павалілі на зямлю і доўга таўклі нагамі, але білі ўмеючы, каб не пашкодзіць жыццёва важныя органы. Па загадзе Матаролы, калі той вырашыў, што з хлопца хопіць, біць прыпынілі. Матарола сеў на кукішкі побач з залітым крывёю тварам даўжніка. Назар аддыхваўся, грудзіна яго хадзіла ходырам. Ён сказаў, што яго, Матаролы, віны ў няшчасным выпадку з Аксанай няма. Калі б Назар слухаўся старэйшых і не лез у пазыкі, жонка б нарадзіла яму прыўкрасных дзетак. У тым, што з ёй здарылася, вінаваты толькі Назар, выключна Назар і больш ніхто. Аксана — выпадковая ахвяра, так бывае, усё не прадугледзіш, але Матароле не шкада яе, нягледзячы на той факт, што яна ні пры чым. Думаць трэба пра наступствы, калі пазычаеш у сур'ёзных людзей. Прасі ў маці, у цесця, які, хутчэй за ўсё, калі даведаецца праўду, уласнаручна цябе заб'е, аднак грошы, вінныя за табой, павінны вярнуцца да сваіх гаспадароў у найбліжэйшы час. У іначшым выпадку, сам разумееш...



Матарола забраў машыну Назара, запісаўшы яе ў рахунак доўгу, і выкрадальнікі з'ехалі. Назар папхнуўся да матчынага двара. Ён усё распавёў ёй. Плакаў і каяўся. Маці слухала споведзь сына досыць стрымана, але ўважліва. Яна нічога яму не сказала пасля. Моўчкі сышла ў кабінет і зачынілася ў ім. Ёй давялося прадаць па-хуткаму палову бізнесу і вельмі шмат страціць у грашах пры продажы, аднак яна зрабіла

гэта дзеля сына, які, хоць і не заслугоўваў дапамогі, але ўсё ж быў яе сынам. Гэтаксама моўчкі, як і слухала яго аповед, паклала перад ім грошы, усю патрэбную суму з працэнтамі. Ён падзякаваў, узяў пакунак з грашыма, выйшаў з дому і... знік амаль на паўгода. Доўг ён вярнуў, за што быў узнагароджаны аўдыенцыяй з гаспадарамі партнёра па бізнесе. Ва ўсякім разе так яму паведамілі. Імі аказаліся нашчадкі рускіх эмігрантаў першай хвалі, якія цесна супрацоўнічалі з рускай жа мафіяй, чый галоўны офіс знаходзіўся ў маскоўскім Крамлі. Назару прапанавалі працу, ад якой ён не мог адмовіцца. Зрэшты, адмовіцца ён не мог у любым выпадку, што б яму ні прапанавалі.

Ён ніколі і нікому не распавядаў, як прайшлі для яго тыя паўгода, чым ён займаўся і дзе жыў. Відавочна адно: перыяд адсутнасці Назара ў Станіслававе вельмі змяніў яго і знешне, і ўнутрана. Вочы яго быццам страцілі колер, зашклянелі да празрыстасці і не вылучалі анічога, акрамя застылага холаду. Валасы пасівелі і нагадвалі снег, таму ён коратка стрыгся і не глядзеўся ў люстэркі. Казаў, што люстэркі выпіваюць душу, як французы аперытыў за абедам. Аксана ў адсутнасць мужа ўзненавідзела яго і нярэдка жадала яму смерці, асабліва калі болі ў жываце здаваліся нясцерпнымі. Яна змірылася са стратай ненароджаных дзяцей, але боль застаўся, пасяліўся ўнутры яе новаўтварэннем, не злаякасным, аднак небяспечным, нягледзячы на тое, што дактары вырашылі не чапаць яго, прапісалі лекі і адправілі дадому. Яна вярнулася ў ква-

тэру на Петлюры, зносіны з бацькамі абмежавала неабавязковымі для сябе тэлефоннымі размовамі. Бацькі таксама знаходзіліся ў прастрацыі і не назалялі непатрэбнай прысутнасцю ў жыцці дачкі. Дзіўна, але злавалі яны на яе, а не на зяця, з-за якога Аксана страціла дзяцей. Спярша пакуль іх дачка знаходзілася ў бальніцы, яны былі побач з ёю, але потым аддаліліся. Свякроў прыходзіла да дзяўчыны штодзень, хоць тая і не выходзіла да яе, прыносіла ежу, адмыслова прыгатаваную, у каструльцы, пакідала на кухні і сыходзіла. Яна адчувала ўласную віну і адказнасць, а яшчэ невыносны адчай Аксаны і магчымыя яе думкі пра суіцыд. Паліцыя не знайшла «состава преступления» ў тым, што адбылося з дзяўчынай, і закрыла справу, калі ўвогуле адкрывала. Да таго ж свякроў і не звярталася па дапамогу да праваахоўных органаў, разумела, што бессэнсоўна. Яе ўсцешвала, што каструлькі аказваліся парожнімі, калі чарговым разам прыходзіла да Аксаны, нават не сумнявалася, што дзяўчына з’ядала ўсё, а не выкідала. Аксана не магла ж цэлымі днямі валяцца ў ложку, пазіраць у столь і шкадаваць сябе. Хаця, канечне, шкадавала і плакала ад болю, бо боль перамагаў жаль і скручваў цела дзяўчыны ў такія фігуры, якім бы пазайздросціў і Пікаса. Боль, як выдатны скульптар, ператвараў цела Аксаны ў пластылін. Свякроў ведала пра страшныя болі Аксаны ад дактароў, ведала і пра найбольш дзейсныя лекі. Прыгатаваная ёю ежа, беспярэчна, таксама дапамагала дзяўчыне акрыяць. Памалу ежа пачала вы-

цясняць боль з арганізму дзяўчыны. Калі спачатку яе ванітавала, то неўзабаве шлунак прызвычаіўся. Боль адступаў, пакуль ганебна не збег канчаткова, як Напалеон з Беларусі праз Бярэзіну. У той самы момант Аксана пачула цішыню, яе подых і пухнатасць на дотык. Цішыня амаль адразу знікла, і яна больш не чула болю і свайго скрыгату зубоў. Тады Аксана шумна і з палёгкай выдыхнула. Жыццё працягвалася. Хаваць сябе і шкадаваць больш не мела сэнсу. Яна ж моцная і мэтанакіраваная, са стрыжнем унутры, часова пераможаным болем, — вось што галоўнае. Так, Аксана не пераносіла боль, ён яе знішчаў як чалавека, аднак і рабіў мацнейшай. Так ужо было некалі. І яна перамагла. Нягледзячы на тое, што жыццё — суцэльнае пераадоленне болю і штоu разовае пачынанне спачатку,— усё ж яно дзівосная рэч, асабліва калі не шукаць у ёй сэнс. Ніякага сэнсу ў жыцці не было, няма і не будзе. Трэба проста жыць і цешыцца момантам, бо пасля жыцця нічога цікавага не чакае, усё цікавае ў самім жыцці. Аксана выйшла з кватэры і накіравалася да бліжэйшай цырульні, дзе абстрыгла валасы да хлапечага вожыка, які пафарбавала ў зялёны колер. Яна не хацела мець нічога агульнага з мінулым у новым жыцці, а таму і абнаўленне яе самой мусіла адбыцца самым кардынальным чынам. Тое самае і з адзеннем. Новае «я» Аксане спадабалася. Асаблівай была рэакцыя яе мамы, калі яны выпадкова сустрэліся на вуліцы. Мама спачатку нават не пазнала дачку, што Аксану пацешыла, а на зробленую мамай заўвагу наконт

яе знешняга выгляду дачка адказала даволі рэзкім тонам, маўляў, гэта не яе справа.

Тым не менш яна мусіла вярнуць страчанае становішча ў грамадстве і статус таленавітай фатаграфіні, таму распачала актыўную дзейнасць у выбраным накірунку. Перш-наперш аднавіла сувязі з чалавекам, які падкідаў ёй замовы на вяселлі, бо вяселлі прыносілі найбольшыя грошы ў сферы фатаграфавання побытавага маштабу, і грошы ёй былі востра неабходныя. Паралельна распрацоўвала тэматыку праектаў, абавязкова з сацыяльным ухілам. Зрэшты, да рэалізацыі апошніх не спяшалася. Яны патрабавалі максімальнай канцэнтрацыі і аддачы, на якія пакуль не асабліва спадзявалася. Паспее. Пакуль можна абмежавацца адным заробкам грошай, што аўтаматычна паспрыяе як узмацненню яе прафесійнага ўзроўню, так і яе імені.



Не тое каб замовы пасыпаліся быццам манна нябесная, але без працы яна не сядзела, дамоў прыходзіла позна, ставіла апаратуру на зарадку і высыпалася. Выхадныя ўладкоўвала пасярод тыдня і тое дзеля апрацоўкі фота ў камп’ютары ды раздрукоўкі іх на паперы. Праца спрыяла добраму настрою дзяўчыны і дапамагала забыцца на мінулыя непрыемнасці. Назара яна не ўзгадвала, прапаў і прапаў — туды яму і дарога, дзе б ён ні апынуўся. Пра стасункі з іншымі мужчынамі не задумвалася. Па-першае, не мела на іх часу, нават калі б і захацела, аднак і не хацела іх, аніякіх. Па-другое, усе яны выклікалі ў яе агіду. У кожным Аксана бачыла патэнцыйнага здрадніка і секс-

маньяка. Яна не лічыла сябе мужаненавісніцай, бо з некаторымі мужчынамі падтрымлівала таварыскія адносіны, не больш за тое, аднак не здзівілася б, калі б аднойчы папоўніла шэрагі жанчын з ухілам у фемінізм. Свякроў па-ранейшаму дзяўчыну апекавала. Яны не размаўлялі пра Назара і ніколі не закраналі тэму дзяцей і цяжарнасці. Здавалася, свякроў нават абараняла Аксану ад балючых успамінаў, за што тая была ўдзячна ёй. Жанчына не раздражняла Аксану, больш за тое — апошняй падабалася нябачная прысутнасць свякрові, якая па-ранейшаму клапацілася пра яе харчаванне і парадак у кватэры. Яна быццам выбачалася за сына, магчыма, рыхтавала грунт да яго вяртання ў сям'ю, нягледзячы на тое, што і сама не ведала, дзе той падзеўся, але адчувала (сэрца маці здатнае на такія рэчы), што Назар жывы. Ён напісаў ёй ліст, дасланы электроннай поштай, у якім прасіў не шукаць яго і не турбавацца пра яго, бо з ім усё добра, але некаторы час яму патрабаваўся на адзіноту, каб разабрацца і ў самім сабе, і ў тым, што адбылося. Яго справа, Аксану гэта не хвалявала. У адрозненне ад свякрові бацькі дзяўчыны не ішлі з ёй на кантакт. А што яны чакалі ці хацелі? Каб яна выла ў падушку ў іх кватэры, а яны б яе шкадавалі, гладзілі б па галоўцы, расчэсвалі валасы, як маленькай дзяўчынцы, і гушкалі, зачыніўшыся ад свету? Каб свет у асобе Станіслава не бачыў іх паразы і не напамінаў лішні раз пра няшчасную долю дачкі? Яна не ахвяра і не слабая істота, залежная ад бацькоў! Свякроў зразумела яе, хоць і не адразу, нават кансультавалася з экспе-

ртамі ў сферы фатаграфіі наконт дзейнасці Аксаны і будучых перспектыў фотапрац дзяўчыны. Жанчыну прыемна ўразілі адказы на зададзеныя ёю пытанні, а калі Аксану неўзабаве прынялі ў Саюз фотамастакоў, прычым не ў мясцовы, а дзяржаўнага маштабу, адчувала непрыхаваны гонар, як за ўласную дачку. Зрэшты, сватоў яна ні ў чым не пераконвала. У кожнага свая галава на плячах.

Неяк Аксану папрасілі фатаграфаваць вяселле ў Галічы. Яго праводзілі на тэрыторыі замкавага комплексу, дакладней руін, што ад комплексу засталіся. Тэрыторыя захавала аўтэнтычнасць і шыкоўныя прыродныя рэсурсы. Восень толькі пачыналася, таму комплекс патанаў у зеляніне, быццам адмыслова вымытай начным дажджом і расчасанай ранішнім сонцам. Вецер, які звычайна па-хуліганску паводзіў сябе тут, бо мясцовасць знаходзілася на даволі высокім узгорку і з яго можна было пабачыць не толькі Галіч, але і далёкія ваколіцы, нібыта спаў недзе, стомлены сваволіць ці закалыханы расповедамі камянёў пра князя Данілу Галіцкага. Спакой, здавалася, ляжаў зялёным шоўкам пад нагамі далёкага ўчора і блізкага сёння, якіх паяднала вяселле, бо праводзілася не проста так у гістарычным месцы. Жаніх з нявестай і госці атаясамлівалі сабой сівую даўніну, маладзілі яе і рабілі неўміручай. Ніводнага чалавека Аксана не пабачыла ў сучасных строях, і здавалася ёй, што трапіла ў сапраўднае сярэдневякоўе. Толькі яна адна і адрознівалася ад астатніх. Дзяўчына захоплена, як яшчэ ніколі, фатаграфавала ўсё, што бачыла, намагалася нічога не прапусціць,

не праваroніць цікавага і незвычайнага, хоць, шчыра кажучы, незвычайным было ўсё. І яе ганарар таксама. Яна не прысела ні на хвіліну, зрабіла ці не тысячы кадраў, адганяючы неспакойныя думкі пра тое, як будзе з імі потым працаваць, бо праца за камп'ютарам па перапрацоўцы і выбарцы чакала дужа складаная і карпатлівая. Тым не менш фотаапарат яе шчоўкаў кадр за кадрам бесперастанку. Цягам цэлага наступнага тыдня Аксана працавала з фотаздымкамі галіцкага вяселля, сартавала іх, размяркоўвала па ўпадабаных, апрацоўвала ў фоташопе, рэтушавала, каб захаваць смак адлюстравання і яго паслясмак. Не спала начамі, бо не паспявала па тэрмінах, яе ўвесь час прыспешвала тэлефанаваннямі замоўніца — дзяўчына-нявеста з фота. Яна таксама жыла ў Станіслававе, займалася фітнэсам, а да таго аб'ездзіла аўтаспынам усе былыя савецкія рэспублікі. Муж яе быў маскалём, які меў украінскія карані, а менавіта галіцкія. Цалкам сур'ёзна ён лічыў сябе нашчадкам княжацкага роду, таму і вяселле наладзіў суадноснае. З нявестай пазнаёміўся, як ні дзіўна, у Станіслававе, у адным з начных клубаў. Знешне яна нагадала яму нейкую княжну з партрэта ў кнізе радаводу галіцкіх князёў (кнігу тую ён паўсюль цягаў з сабою). Яны пазнаёміліся, і ўжо праз дзесяць дзён маскаль запрапанаваў дзяўчыне шлюб. Наўрад ці ён кахаў, хоць, напэўна, сімпатыя з абодвух бакоў першапачаткова і была, да таго ж жаніх аказаўся заможным і перасоўваўся па горадзе ў суправаджэнні двух целаахоўнікаў. Больш за ўсё яго цікавіў палац Патоцкіх, таму ён і спыніўся ў Станіслававе. Таму, мабыць, меў неаднаразовую

размову з дзяржадміністрацыяй горада, але дамовіцца, відавочна, не змог па вырашэнні пытанняў, дзеля якіх і прыехаў у Станіславаў, дзе мусіў затрымацца на нявызначаны перыяд. Як высветлілася пасля, ён адразу назваў будучай жонцы суму з чатырма нулямі, якую яна атрымае, калі пагодзіцца выйсці за яго замуж, то бок шлюб з такім прыгожым і казачным вяселлем быў падманам і фікцыяй, пылам у вочы дзяржадміністрацыі горада, выкананнем пастаўленых умоў дзеля вышэйшай мэты. Фота з вяселля патрабаваліся дзеля доказу шырокіх магчымасцяў чалавека, які мог дазволіць сабе падобнае свята. Яму сапраўды быў неабходны палац Патоцкіх, які ён хацеў купіць і ператварыць... зрэшты, у што ператварыць, — ніхто не ведаў. Дазналася Аксана пра перыпетыі незвычайнага вяселля з вуснаў самой нявесты, якая прыйшла па фотаздымкі ў прызначаны загадзя час. Яна мела імя Леся, зграбную фігуру, спакуслівую знешнасць і наіўны выгляд вачэй, на самай справе падманлівых і хітрых; умела пераўвасабляцца ў каго заўгодна, як якая-небудзь народная артыстка тэатра і кіно. Такі сабе хамелеон, што дбаў адно пра ўласную скуру, граўся з людзьмі, як кошка з мышшу, і лічыў жыццё полем для гольфу, а сябе галоўным на ім гульцом. І Аксану чамусьці пацягнула да Лесі адразу, як толькі тая зайшла ў кватэру. Ілжывыя вочы дзяўчыны чамусьці выклікалі давер. Менавіта Леся настояла на сустрэчы не на вуліцы ці дзе-небудзь на Стометроўцы ў кавярні, а выключна ў кватэры Аксаны. Аксана нават узрадавалася, што нікуды не трэба цягнуцца па

не восеньскай гарачыні, бо адчувала сябе стомленай і выціснутай, як сок з апельсіна.

Леся ўважліва разгледзела кожны фотаздымак, быццам вышуквала шпіёна, але ў выніку засталася задаволенай. Потым прапанавала адзначыць працу Аксаны, бо працу яна насамрэч ацаніла як грандыёзную і вартую ўзнагароды не толькі грашовай. Да таго ж кожны поспех проста неабходна было падмацоўваць невялікім святам, каб ён нікуды не ўцёк і заўжды заставаўся з табой, — падсумавала Леся. Аксана пагадзілася, але кудысьці, усё роўна куды, ісці не мела сіл. Леся быццам мазнула яе позіркам сваіх нібыта чыстых вачэй, як мастак пэндзлікам карціну, і выдала, што тое не бяда. Віно і сушы, ты ж любіш сушы? Можна замовіць і ў кватэру, тым больш што Леся нікуды не спяшаецца, а муж, які чакаў фотаздымкаў, няхай панервуецца лішні раз, яму не зашкодзіць.



Яны моўчкі глядзелі шоу Новага канала «Хто зверху?», пакуль не прывезлі замоўленыя Лесяй віно і сушы. Яшчэ ніколі Аксане не здавалася віно такім смачным, а сушы проста раставалі ў роце! Леся казала ёй прыемныя словы пра фотамайстэрства, затым перайшла непасрэдна на яе асобу, распавядала, быццам чытала верш, якая Аксана прыўкрасная і прыгожая, якія ў яе вочы, якое ў яе бачанне навакольнага свету арыгінальнае і непадобнае ні на чыё іншае, ды з кожным прамоўленым словам бліжэй і бліжэй сунулася да дзяўчыны, пакуль не апынулася ўсутыч да яе. Аксана адчувала жар, што сыходзіў ад Лесі, бы ад печкі, аднак апячыся не баялася, наадварот, была гатовая згарэць у ім, як

Жанна д'Арк, хоць арлеанская дзева не мела ніякага дачынення да яе жадання. Тым не менш, калі язык Лесі запоўз у левае вуха Аксаны, дзяўчына быццам застыла нерухомаю статуяй, здранцвела знешне, але ўнутры яе ўсё трымцела, нягледзячы на тое, што язык Лесін здаваўся слізкай агіднай п'яўкай. Леся цалавала шыю Аксаны, і з кожным дотыкам Лесіных вуснаў скура дзяўчыны пакрывалася ўяўнымі пупышкамі ад задавальнення, раней не чуванага, невядомага, жаданага і ўзбуджальнага. Пацалункі Лесіны, бы кроплі дажджу, пакрывалі твар Аксаны спачатку павольна і кропкава, але паступова іх станавілася ўсё больш. Аксана не рэагавала на іх, бо не ведала, як рэагаваць, не адказвала нават тады, калі вусны Лесіны намагаліся расшчапіць яе вусны, аблізвалі іх і пакусвалі, а рукі слізгалі па грудзях і сціскалі пальцамі смочкі няхай і праз адзенне, усё адно было прыемна. І раптам шаленства прыпынілася. Леся адхіснулася ад яе, наліла сабе яшчэ віна, выпіла і працэдзіла:

— Ну ты й калода.

— Што? — запытальна вылупілася Аксана на Лесю, быццам словы апошняй знялі з яе чары акамянення.

— Што чула, — неяк нават з выклікам адказала Леся.

— Прабач, — праглынула крыўду (а ці мела на тую крыўду права?) Аксана. — Я не звыкла да падобнага.

— А да чаго звыкла? — тон Лесі па-ранейшаму заставаўся халодным.

— Ты ж толькі замуж выйшла! — быццам не пачула Аксана яе слоў, абураная паводзінамі дзяўчыны.

— Гэта не здрада, — адмахнулася Леся. — Да таго ж, — дадала, — ты мне падабаешся. А калі мне нешта падабаецца, я заўжды тое атрымліваю.

Леся зноў падсунулася да Аксаны, але рухі яе набылі агрэсіўны характар. Яна апынулася мацнейшаю і падмяла Аксану пад сябе. Дзяўчына з жахам усведамляла, што ёй хацелася падпарадкавацца Лесі, як Назару, але лічыла гэта няправільным і вычварным, ды ўсё ж здалася і не пашкадавала пра тое. Лесіны пястоты ні з чым нельга было параўнаць, ад дотыкаў яе вуснаў, рук, падушачак пальцаў, да якога б месца на целе Аксаны яны ні дакраналіся, карцела спяваць, і дыханне займала так, што з горла выходзіў адно свіст, які паступова ператвараўся ў істэрычны віск. У думках Аксане рабілася сорамна, яна праклінала сябе і сваё здрадлівае ды ласае да ласкавак цела. Леся ж усміхалася. Ёй падабалася рэакцыя Аксаны на яе пяшчоту, не такую, як звычайна, а з брутальнымі элементамі, што яшчэ цікавей. Леся не памылілася ў фатаграфіні, зразумела яшчэ на вяселлі, што пагуляецца з ёю. Не так, канешне, як муж Лесі з самой Лесяй, аднак свайго яна не ўпусціць. Леся любіла падобнага кшталту гульні. Асабліва ўдаваліся яны з адзінокімі жанчынкамі, пакрыўджанымі іх мужамі, разведзенымі альбо кінутымі. Кожная хацела пяшчоты, і яна яе ім давала. Спярша. Затым жа ператварала ў рабынь, залежных ад гаспадыні, і блізкасць дазваляла толькі ў якасці ўзнагароды за якую-небудзь зробленую справу па яе загадзе, які выглядаў як просьба. Дамінаванне над жанчынамі не было такім цікавым, як над мужчынамі, затое жарсным і бяспечным. У выпадку

з Аксанай праблем увогуле не павінна было ўзнікнуць ніякіх. Яна аказалася класічнай ахвярай, залежнай ад першага атрыманага ў жыцці сексуальнага гвалтоўнага досведу. Каб пабачыць відавочнае, не патрабавалася спецыяльнай адукацыі псіхолага, якую Леся ўсё ж такі мела, таму, магчыма, кожная забаўка ёй сыходзіла з рук. Шкада, што падобныя гульні не вылучаліся працягласцю. Леся ніколі не затрымлівала іх болей за адведзены загадзя тэрмін, адмыслова пралічаны ў галаве, і карысталася ўладай над патаемнымі жаданнямі дзяўчат.

Аксану яна прыручыла за тыдзень. Дзяўчына, якая раней нават не падумала б пра магчымыя інтымныя стасункі з іншай дзяўчынай, літаральна задыхалася без Лесі. Натуральна, яна размяжоўвала прафесійную дзейнасць і каханне, якое насамрэч ніякім каханнем не было, аднак паспрабуй дакажы гэта ахопленаму жарсцю чалавеку, і ўсё ж спяшалася хутчэй выканаць абавязацельствы па замовах, каб апынуцца ў абдымках Лесі. Яны здаваліся дзяўчыне чароўнымі, накшталт гарачага шакаладу, у іх Аксана нырала з галавой без роздуму і не баялася патануць, больш за тое — жадала ўвогуле не выплысці на паверхню. Леся тым часам дзяліла з Аксанай не адно ложак, але і яе вопратку. Асабліва ўпадабала халаты, дасланыя Соняй з Берліна. Зрэшты, бліскучае адзенне, як высветлілася, было слабасцю дзяўчыны. Яна дачакалася моманту абсалютнага падпарадкавання сабе і капрызіла без сумневаў, упэўненая ў тым, што Аксана пойдзе на ўсё, абы не страціць Лесінага цяпла і прыхільнасці. Аксана ца-

лавала ёй ногі, вылізвала кожны пальчык дзяўчыны, ела з яе рук… Неяк Леся знарок знікла на колькі дзён, не тэлефанавала сама і не адказвала на тэлефанаванні Аксаны, якая ледзь не страціла розуму ў адчаі больш ніколі той не пабачыць. Аксана не хацела жыць, рыкала і стагнала ў роспачы, на ложку раскладала халаты, якія апранала Леся, лажылася на іх аголеная і цалавала кожны куточак бліскучай тканіны. Яна наляцела на Лесю, калі тая з'явілася, з шаленствам раз'юшанай раўнівіцы кідала ў твар дзяўчыны неабдуманыя прэтэнзіі. Леся адно скрывіла твар у пагардлівай усмешцы і павярнула да дзвярэй з кватэры. Аксана рванулася ёй напярэймы і на каленях прасіла прабачэння, стоячы ў куце на грэчцы. Трывала пакаранне амаль дзве гадзіны, пасля чаго Леся літасціва дазволіла Аксане цалаваць ёй ногі, але некалькі разоў адштурхоўвала за няякасныя пацалункі. Аднойчы Назар патрапіў на дзяўчат, жарсны шал якіх дасягнуў кульмінацыйнага моманту на канапе са скамечанай пад імі пасцеллю. Быццам прывід ён паўстаў на парозе гасцёўні, нечаканы і нежаданы. Аксана спалохалася так, быццам сапраўды пабачыла прывід, а не ўласнага мужа, пра існаванне якога ўжо і забылася, ачмураная жарсцю да Лесі. Ён вышпурнуў тую з кватэры за каршэнь, не прамовіўшы да яе ані слова. Аксана кінулася да дзвярэй таксама, аднак Назар адпіхнуў яе і зачыніў дзверы на замок, а ключы схаваў. Як толькі ні называла яго жонка, як толькі ні абражала, ды ён цярпліва маўчаў, прымаў як належнае, бо сапраўды заслужыў і адчуваў віну перад ёю. Леся прыходзіла яшчэ некалькі разоў, намагалася

трапіць у кватэру, нават спрабавала спакусіць Назара, але ў яе нічога не выйшла і давялося саступіць. Неўзабаве яна з’ехала ў Польшчу, там і засталася, бо мужа яе пасадзілі за фінансавыя махінацыі ў асабліва буйных памерах. Аксана ж без Лесі пакутавала, бы Дантэ без Беатрычэ, і пакуты пагрузілі яе ў глыбокую і дзікую дэпрэсію. Яна магла нерухома ляжаць на канапе ў гасцёўні цэлымі днямі, не піць і не есці, а затым умомант ускочыць на ногі, падбегчы да бліжэйшай сценкі і біцца аб яе галавой да крыві альбо крычаць бесперастанку так, нібы яе рэзалі. Ад бяссілля дапамагчы жонцы Назар нярэдка плакаў, калі ніхто не бачыў. Маці яго, якую Леся была прагнала, зноў наведвала Аксану. Ёй таксама не падабаўся стан дзяўчыны. Яна адчувала, што ў Аксану быццам усяліўся нячысцік, што яе трэба ратаваць, пакуль не позна. Без слёз, і праўда, на дзяўчыну было цяжка глядзець. Яна пахудзела і змарнела, вочы нібы праваліліся ў вачніцы і з тых пячор пазіралі спалоханымі вавёркамі. Аксана не пазнавала нікога: ні бацькоў, ні мужа, ні свякроў, адно клікала Лесю ці шаптала яе імя, бо голас даўно сарвала нечалавечым крыкам. Мама баялася падыходзіць да дачкі. Ёй хапіла некалькіх хвілін прысутнасці побач з ёю, каб больш не дакранацца да яе ніякім чынам. Тата кусаў губы, бо не ведаў, што рабіць, і перажываў дэжавю, бо нешта падобнае яшчэ раней адбылося з яго малодшай дачкой. З прыкрасцю ён адзначаў, што абедзве дачкі быццам порчаныя, як праклятыя кімсьці. Але за што?

# 9

Мульцікультурны, шматнацыянальны Нью-Ёрк нездарма называюць «плавільным катлом» Злучаных Штатаў. З часу заснавання ў 1624 годзе ў ім несупынна змешваліся плыні імігрантаў з Заходняй і Усходняй Еўропы, Кітая і Афрыкі. Кожнае пакаленне новых амерыканцаў уносіла свой уклад у архітэктуру

і гарадскі асяродак. «Чорны» Гарлем, «Карыбскі» Бруклін, Чайнатаун, філіпінскі Вудсайт — этнічныя каларытныя раёны сучаснага Нью-Ёрка. Візітная картка мегаполіса — вядомая кожнаму чалавеку на зямлі Статуя Свабоды: манумент, які ўвасабляе свабоду і незалежнасць дзяржавы, падараваны Амерыцы французамі, першапачаткова ён служыў знакам дружбы паміж амерыканскім і французскім народамі; Манхэтэн — прэстыжная адміністрацыйная акруга Нью-Ёрка, багатая на галоўныя фінансавыя офісы і культурныя ўстановы горада, а таксама знакамітая Брадвеем (найдаўжэйшай і найбуйнейшай вуліцай Нью-Ёрка, якая цягнецца больш за 50 км і перасякае Манхэтэн і Бронкс) і «брадвейскімі тэатрамі», 5-й Авеню (асноўнай«артэрыяй» Нью-Ёрка

і адной з надзвычай дарагіх вуліц у свеце, якую часам называюць «сусветнай вітрынай»). Пятая Авеню падзяляе Манхэтэн на ўсходнюю і заходнюю частку. Вуліца вядомая тым, што тут знаходзяцца буцікі самых знакамітых дызайнераў, прэстыжныя прыватныя апартаменты і дарагія гатэлі. Ужо больш за сто гадоў месца з'яўляецца сімвалам прэстыжу і раскошы па-амерыканску. Нельга не ўзгадаць Цэнтральны парк, заціснуты паміж 8-й і 5-й Авеню. Ён узнік у сярэдзіне XIX стагоддзя; над праектам працаваў ландшафтны архітэктар Ф. Олмстэд, а таксама ўспомнім Уол-стрыт, Таймс-сквер («сэрца» тэатральнага раёна, што прыйшоў практычна ў поўны заняпад у гады Вялікай амерыканскай дэпрэсіі: тэатры на плошчы былі зачыненыя). На шчасце, улады краіны змаглі аднавіць мясцовасць, і сёння тут раскашуюць такія вялікія карпарацыі, як напрыклад Дысней. Месца атрымала назву, дзякуючы газеце «Нью-Ёрк Таймс», якая размясціла тут свой офіс у 1904 годзе. Што да Брайтан-Біч, то гэта месца пражывання шматлікай рускай супольнасці ў Нью-Ёрку. Вуліца носіць таксама назву «маленькая Адэса» з-за вялікай колькасці імігрантаў з Украіны. Перасяленцы з былога СССР пачалі прыязджаць сюды пасля распаду краіны ў пошуках лепшых жыццёвых умоў. Брайтан-Біч прыцягвала людзей нізкім коштам арэнды жылля, добрымі транспартнымі развязкамі і хуткай сувяззю з іншымі часткамі горада ды легендарнымі падвеснымі мастамі. Горад даўно стаў квінтэсенцыяй найактуальнейшых падзей, цэ-

нтрам сусветнай моды, магутным фінансавым фарпостам самай амбіцыйнай дзяржавы на планеце.

Нью-Ёрк натхняў і зачароўваў, палохаў і ламаў многіх. Горад эмігрантаў, горад, які ніколі не спіць, горад хмарачосаў, горад мільянераў, горад машын, горад злачынцаў, горад багемы, горад-свята. Мегаполіс з тысячай аблíччаў. Лепшыя пісьменнікі мінулага стагоддзя (Томас Вулф, Фрэнсіс Скот Фіцджэральд і яго экспрэсіўная ды прыўкрасная жонка Зельда, Джон Дос Пасас, Сэлінджэр, Марыа П'юзо і нават Рэмарк) спрабавалі адлюстраваць яго сутнасць у сваіх кнігах. Нью-Ёрк у іх не проста фон, а паўнапраўны персанаж, часам супярэчлівы, але захапляльны. Соня праўдамі і няпраўдамі дамаглася пераводу ў Амерыку, бо не ўяўляла жыцця без Томаса, а той — без



Соні. Ён тады застаўся ў яе берлінскай кватэры на Унтэр-дэн-Ліндэн да паўдня, пакуль ёй не прыйшоў час збірацца на працу. Фрыдрых з Шэран сышлі на світанні, захапілі колькі бліскучых халатаў у абмен на той, што Соня знесла з Фрыдрыхавага жытла. Праўда, абяцалі вярнуцца, у прыватнасці, Фрыдрых абяцаў прынесці запісаныя на флэшку музычныя творы, створаныя ім, як кампазітарам. Ён марыў супрацоўнічаць з кіно, але не з нямецкім. Айчынны кінематограф не меў такога маштабу і ўзроўню, які б задаволіў самога Фрыдрыха. На самай справе, маладому музыканту паўсюль адмаўлялі ў пратэкцыі без тлумачэнняў прычыны адмовы. Знаёмства з Соняй Фрыдрых лічыў падарункам нябёсаў, бо яна магла адчыніць яму дзверы ці, калі не дзверы, то хаця б

шчылінку, у якую б ён прасачыўся нотамі і акордамі дзеля служэння сапраўднаму кіно, бо толькі амерыканскае кіно і вартае ўвагі для перспектыўных і таленавітых творцаў з якой-небудзь мастацкай сферы. Соня разумела яго і запэўніла, што зробіць усё магчымае, каб патрэбныя людзі даведаліся пра невядомага кампазітара і з невядомага ператварылі ў славутага. Не па чутках яна ведала, што ў галівудскую кінаіндустрыю проста так, з вуліцы, патрапіць было нерэальна. Самародкаў, якія не маюць за спінай нічога, акрамя таленту, налічвалася не больш за пяць адсоткаў. Месцы за кінапірагом былі размеркаваны на сто гадоў наперад мільярдэрамі, мільянерамі, рознымі нафтавымі, газавымі і іншымі магнатамі дзеля сваіх дзяцей, сваякоў, каханкаў, асабліва калі справа тычылася акторскай індустрыі. «Амерыканская мара», паводле якой кожны грамадзянін ЗША мог дасягнуць неверагоднага поспеху ў абсалютна любой галіне прафесійнай дзейнасці, марай і засталася або казкай пра шэрага бычка, у каго які густ. Соніна гісторыя — шчаслівы выпадак, нельга на яе раўняцца і лічыць, што гэта так лёгка, тым больш што яна ўсяго толькі стыліст-візажыст, да таго ж родам з краіны, пра якую ніколі не чулі ў жыцці мільёны жыхароў Захаду. Тым не менш Фрыдрых спадзяваўся на Соню, магчыма, як Гітлер на Трэці Рэйх. Хаця Трэці Рэйх скончыў даволі сумна сваё існаванне, Фрыдрых усё ж не губляў надзеі на поспех. Соня таксама чамусьці не сумнявалася ў гэтым. Яна чула, як грае Фрыдрых чужую музыку, уласную, напэўна, выканае з яшчэ большым імпэтам.

Томас ледзьве дачакаўся сыходу немцаў. Ён не зводзіў з Соні вачэй. Яна здавалася яму неверагодна арганічнай і нічым не вылучалася ад тых жа немцаў, то бок чужаземкай яе цяжка было назваць. Не сумняваўся Томас і ў тым, што гэтаксама лёгка дзяўчына ператворыцца ў амерыканку, француженку, брытанку ды ў каго заўгодна. Яе мульцяшны голас зачароўваў, кожны гук выклікаў мурашкі па скуры. На якой бы мове Соня ні загаварыла, акцэнт яе нагадваў амерыканскі, прычым Поўдня Амерыкі. Томас так выразна чуў яго таму, што сам паходзіў з Поўдня, а менавіта з радзімы Уільяма Фолкнера. Магчыма, ён чуў тое, што хацеў чуць, цалкам магчыма. Аднак Соніна вымаўленне горшым ад гэтага не станавілася. Ён п’янеў ад яе голасу, як ад віскі, і з кожнай хвілінай адчуваў непарыўную повязь з ёю ды ўсведамленне таго, што Соню і чакаў усё сваё жыццё. Так, ён меў каханак і нават даволі працяглыя адносіны з адной брадвейскай танцоркай, якая прыехала заваёўваць свет з Тэхасу, але ранейшыя адносіны і пачуцці ў параўнанні з тым, што ён адчуваў да Соні, як неба і зямля. І гэта неверагодна, бо... колькі часу ён ведаў Соню? Дзве-тры-чатыры гадзіны? Сур’ёзна? А здавалася, што яны заўжды былі разам, тысячагоддзі, яшчэ да нашай эры перапляліся іх пуцявіны ці нават пупавіны. Як ён жыў без яе ўвесь той час, калі яе не было побач? Жыццё, хутчэй за ўсё, падавалася сном. Соня з’явілася і разбудзіла яго, а таму нельга дазволіць сабе зноў заснуць ні ў якім разе, тым больш страціць яе. Ён бачыў па вачах дзяўчыны, ва ўсякім

разе прымусіў паверыць сябе ў тое, што і яна не хоча расставацца з ім, што і яна чакала яго, менавіта яго і больш нікога, інакш навошта тады так калаціцца сэрца і дрыжаць пальцы ў яго руках, яе пальцы, а шчокі гарацць, бы кумачы падчас рэвалюцыі 1917 года ў Расіі над галовамі бальшавікоў, і водбліскі кумачоў адлюстроўваюцца ў яе зрэнках, як у люстэрках, гатовых разбіцца ад адчаю, аднак не разаб'юцца, бо адчайвацца дзяўчыне Томас не дазволіць. Яна — яго дзяўчынка з далёкай незразумелай і невядомай яму Украіны, але яго. І нічога дзіўнага Томас не пабачыў у тым, што сустрэўся ён з ёю ў Нямеччыне. Свет такі малы насамрэч, калі прыцягвае палоўкі адна да адной менавіта ў тым месцы і тады, калі адчувае найбольшую патрэбу ў еднасці роднасных душаў і сэрцаў.

— Ты ж нікуды не знікнеш? — запытаў Томас Соню. 

Дзяўчына неяк дзіўна, як яму падалося, паглядзела на яго.

— Куды мне знікаць? — пытаннем на пытанне адказала, а потым накруціла пасму сваіх валасоў на палец і дадала: — Я ж не сняжынка і не прывід. Хутчэй знікнеш ты, — быццам абвінаваціла.

— Як? — не зразумеў Томас.

— З'едзеш у сваю Амерыку — і памінай як звалі, — патлумачыла Соня.

— Не! — запярэчыў той. — Ніколі!

— Што не? — сумна ўсміхнулася дзяўчына. — Хіба не з'едзеш? Не смяшы.

— Паехалі са мной, — вырвалася тады з вуснаў Томаса.

— Я не магу, — паціснула плячыма Соня.

— Чаму?

— Неэтычнае пытанне, — дакорліва памахала ўказальным пальчыкам перад носам Томаса. — У мяне праца.

— Працаваць можна і там, — заўважыў Томас.

— Можна, — не адмаўляла Соня.

— Як ты не разумееш!.. — Томас не стрымаўся, схапіў дзяўчыну аберуч і прыціснуў да сябе. Яна задыхалася ў яго мядзведжых абдымках, але не вырывалася, дыхала праз раз, удыхала яго пах, наталяла сябе гэтым пахам бы ў прадчуванні доўгай ростані, калі не канчатковай, назаўжды. А ён цалаваў яе валасы і лашчыў аб іх твар. — Як ты не разумееш!.. — паўтарыў у адчаі, падхапіў на рукі, аднак не асмеліўся скіраваць да ложка і авалодаць ёю зараз жа, хоць жаданне адчуваў нясцерпнае, і цяжка апусціўся ў фатэль каля акна, жалюзі, не выпускаючы дзяўчыну з рук. Яна, у сваю чаргу, апляла рукамі шыю Томаса і засталася сядзець у яго на каленях. Тварам у твар. Іх перарывістае дыханне, здавалася, дапаўняла адно аднаго, перапляталася, вязала вузлы бясконцасці...

— Што я не разумею? — шэптам запытала Соня, хоць цудоўна ўсё разумела, але жадала пачуць тое ўголас.

— Я не магу без цябе, — выдыхнуў Томас. Вочы яго і вусны яго знаходзіліся ў небяспечнай блізкасці ад вуснаў і вачэй дзяўчыны. Іх падзялялі толькі подыхі. — Гэта дзіка гучыць, згодзен, — працягваў ён, бо мусіў, калі хацеў нечага большага ад Соні, якая ўсё

адно згадзілася б на што-небудзь, — але ты тая самая мая, чуеш, а я той самы твой! Ніякія лагічныя тлумачэнні маіх пачуццяў да цябе не складаюцца ў адну прамую, і словамі іх не выказаць. Калі існуе каханне з першага позірку, то гэта яно самае і ёсць. Ты не можаш належаць нікому іншаму, акрамя мяне, як і я не магу належаць нікому іншаму, акрамя цябе. Мы павінны быць разам. Паўсюль. І да скону. Як бы пафасна не прагучала...

— Я згодна, — на выдыху мовіла Соня, — я тая самая твая, а ты той самы мой. Я чакала цябе. І няхай гэта вар'яцтва...

Томас пацалункам перапыніў яе. Вусны дзяўчыны з удзячнасцю аблашчылі яго вусны. Яна шаптала, каб ён цалаваў яе і не спыняўся, бо кожны яго пацалунак адчуваўся ёю як лыжачка гарачага шакаладу — упадабанага напою. Ад тых пацалункаў кружылася не толькі галава, але ўсё навокал, а зямля ці падлога трушчылася пад нагамі, рыхтык печыва, і засмоктвала ў сябе, бы зыбучыя пяскі.

Іх блізкасць была прадчувальнай адразу. Яна, блізкасць, ніколі не памылялася, абіраючы прэтэндэнтаў на сапраўдныя стасункі. У якісьці момант Соня пабачыла няясны прывід Тараса над сабой. Шырока расплюшчанымі вачыма яна пазірала ў столь, з-пад якой ёй усміхаўся хлопец, падміргваў адным вокам і трымаў руку з паднятым уверх вялікім пальцам. Потым ён павярнуўся спінаю, азірнуўся і памахаў на развітанне рукой. Соня вымавіла «дзякую». Томас прыняў падзяку на свой адрас, дзяўчына не перако-

нвала яго ў адваротным, аднак пра крылы распавяла, як і пра шнары пад лапаткамі. Томас цалаваў тыя шнары, ніколькі не здзіўлены прызнаннем дзяўчыны і наяўнасцю шнараў, вывучаў яе цела, як мапу скарбаў, бо Соня сапраўды стала для яго скарбам, які ён мусіў аберагаць ад згрызот і бядот свету. Зрэшты, яго аграмаднаму каханню тое было няцяжка.

Яна забылася пра ўсё ў абдымках каханага. Каханага? Так, нягледзячы ні на што, усё ж такі каханага. Яна заслужыла яго, дачакалася, і асэнсаванне гэтага соладка казытала ў грудзях і ў паднябенні. Адчуванне нечуванай раней узнёсласці клікала крылы за яе спінай распасцерціся цалкам і засланіць упэўненымі ўзмахамі сонца, абарончым шчытом застыць і адбіваць напады помслівага жыцця, якое так ненавідзіць праявы шчасця і намагаецца знішчыць іх любымі сродкамі, не звяртаючы ўвагі на супраціў сумлення, якога, зрэшты, у яго няма. Але Соня давярала ім, сваім крылам, як і пачуццям, у якіх плавала, быццам у моры, і не баялася стаміцца і патануць. Томас спаў. Ляжаў на спіне з заплюшчанымі вачыма, грудзіна яго размерана ўздымалася і ападала з кожным выдыхам і ўдыхам. Соня ляжала галавой на грудзях Томаса. Дыханне яго і стварала ілюзію мора, калыванне хваляў, у якіх дзяўчына бачыла сябе — шчаслівую і каханую. Напэўна, яна б спазнілася на працу, калі б ілюзію не парушыў Фрыдрых. Ён пазваніў у дзверы і на тэлефон, прынёс дыск з музыкай. Соня не сердавала на яго, наадварот, падзякавала, бо сама, па ўласным жаданні, наўрад ці адарвалася ад Томаса. Ён не хацеў яе нікуды

адпускаць, не разумеў, навошта ім расставацца, калі ім так добра разам. Аднак рэчаіснасць мела свае законы і правілы, якім чалавек мусіў падпарадкавацца і выконваць іх, бо непаслушэнства ім заўсёды выходзіла бокам. Да таго ж Томасу таксама належала адпрацоўваць аплачаную камандзіроўку і пісаць артыкул.

Праца ратавала Соню, канцэнтравала яе, збірала да купы, нібы канструктар, які Томас у яе кватэры, куды ён пераехаў з гатэля, разбіраў на маленькія часткі. Яна адчувала сябе трансформерам, аднак ёй гэта падабалася, як і той факт, што менавіта яе настойлівасць падштурхнула Томаса адмовіцца ад гатэля і жыць з ёй. Дзяўчына не жадала дзяліць каханага з часам і адлегласцю. Пасля працы яна спяшалася дамоў, каб атрымліваць асалоду ад Томаса, як ад торта «Птушынае малако», які любіла ў дзяцінстве, але якога заўжды не хапала, каб здаволіцца ім напоўніцу (каштаваў торцік немалыя грошы і з'яўляўся ў кулінарыі гады ў рады). Яна так прагнула, каб Томас быў побач, і страціць яго, як ужо страціла аднойчы Тараса, не магла, бо ў іначшым выпадку, ведала дакладна, памрэ. Томас таксама пакутаваў. Побач з Соняй, вядома, — не, але калі заставаўся адзін, то час цягнуўся невыносна доўга і — парадокс — адначасова хутка набліжаў тэрмін яго вяртання ў Нью-Ёрк. Застацца ў Берліне ён не меў права больш за вызначаны яму час, бо меў прафесійныя і не толькі абавязацельствы перад «Нью-Ёрк Таймс», да таго ж не хацеў губляць працу, якая на дарозе не валялася, дый мовы ён не ведаў, каб застацца ў Нямеччыне. Соня разумела

Томаса. Яна ўвогуле была больш гнуткаю за яго. Па сутнасці, дзяўчыну нічога не прывязвала да аднаго канкрэтнага месца па працы. Яна магла дазволіць сабе лакацыю па жаданні, да таго ж працадаўцамі яе з'яўляліся амерыканцы. Праект, над якім праходзіла праца непасрэдна ў Берліне, заканчваўся, яе паслугі па праекце, суадносна, таксама, а значыць, дзяўчыну маглі перакінуць куды заўгодна. Соня вырашыла апярэдзіць падзеі і паразмаўляць з босамі, за адным махам распавесці пра Фрыдрыха і яго музыку, бо абяцала ж, а свае абяцанні старалася выконваць. Фрыдрыхам босы зацікавіліся, дакладней, музыкай, якую той пісаў, і запрасілі яго на размову. Соні параілі звярнуцца ў галоўны офіс кампаніі, які знаходзіўся ў Лос-Анджэлесе. Са свайго боку за яе яны гатовы паручыцца, бо ніякіх перашкод для гэтага не бачаць. Яна адправіла пісьмовы запыт у Лос-Анджэлес, у якім патлумачыла прычыну неабходнасці свайго пераезду ў Нью-Ёрк. Ёй не чынілі перашкодаў. У галоўным офісе палічылі, што Соніны паслугі, як нідзе, спатрэбяцца менавіта ў Нью-Ёрку. Амерыка не Расія, адкуль родам дзяўчына (Соня нават вокам не міргнула на Расію, бо тое нішто ў параўнанні з магчымасцю быць разам з каханым чалавекам), таму трэба не закопваць таленты ў зямлю, а наадварот, дапамагаць ім раскрыцца напоўніцу. Соні паведамілі, што не бачаць прычын у адмове працы на кінаканцэрн, у якім яна і без таго працуе, на тэрыторыі ЗША.



Напэўна, апынуўшыся за акіянам, не адчувала Соня таго хвалявання, што нярэдка авалодвае чалавекам па

прыездзе ў іншую краіну, поўную таямніц і цікавых адкрыццяў ды ўражанняў, бо ўсё ж Амерыка была далёка не першым яе замежжам. Дзяўчына аб'ездзіла ўсю Еўропу, жыла па некалькі месяцаў запар у розных яе сталіцах, а ў некаторых і па паўгода, ў залежнасці ад тэрміну працы, адведзенага на тую або іншую мясцовасць. Кожнае падарожжа часам успрымалася дзяўчынай не больш як пераезд са Станіславава ў Калуш або Надвірну — райцэнтры роднай вобласці ва Украіне. Соня заснула адразу, як толькі самалёт да Нью-Ёрка з Берліна падняўся ў паветра, і праспала ўсю дарогу. Чаго ёй было хвалявацца? Томас побач, яе галава ў яго на плячы, а рука яе ў яго руцэ. І галоўнае менавіта гэта, а не прадчуванне захаплення невядомымі дасюль краявідамі. Да таго ж у Амерыку Соня ляцела не на экскурсію ці ў адпачынак, а працаваць і жыць. Астатняе паспее. Ёй сніліся тата, і мама, і Аксана, якіх яна ніколі не бачыла ў сваіх снах. Яны стаялі на чыгуначным вакзале ў Станіслававе і махалі ёй з перона, а яна высунула галаву праз фортку акна ў вагоне цягніка, што звозіў яе невядома куды, і праз сэрца, зробленае з пальцаў, паказвала, як іх любіць. Хутчэй за ўсё сон казаў пра нешта, папярэджваў або, наадварот, напамінаў. Пра што? Верагодна, пра сям'ю. Соня рэдка згадвала родных, рэдка адказвала на іх лісты, няхай і электронныя, забыла ўжо, калі апошні раз выходзіла з імі на відэасувязь. Не таму, што не хацела іх бачыць ці чуць, бо яны сведчылі пра іншае жыццё, якое засталося ў мінулым, а мінулым жыць не жадала. Не таму, зразумела,

што не адчувала ўдзячнасці да іх і любові. Яна вельмі любіла маму. Яшчэ больш — тату. Аксану проста горача любіла. Праца яе, праклятая, але неверагодна цікавая і любімая, праца забірала ўвесь час. Соня не апраўдвала сябе ды ўсё ж дзякавала лёсу, што мела такую працу і падарожнічала па розных краінах, а не сядзела дзе-небудзь у раённай цырульні на радзіме. Звычайна, яна ўсё далей і далей ад яе. Сон, відаць, на ўзроўні падсвядомасці выдаў факт канчатковай аддаленасці праз карцінкі, што адлюстроўвалі бацькоў і сястру, каб яна што?.. Задумалася? Апамяталася? Азірнулася назад? Аднак мінулае дзяўчыну не цікавіла. Не, яна не пакідала ў мінулым блізкіх, у мінулым пакідала мінулае, бо сёння і заўтра яе было непарушна звязана з Томасам. Рэлаксаваць над тым, што было і ніколі не вернецца, — не яе стыхія, а парафія пісьменнікаў, таму яна асабліва і не адчувала прыхільнасці да кніг, бо тыя на п’едэстал узводзілі мінулае. Не ўсе, вядома, за выключэннем фантастыкі, аднак фантастыку Соня не лічыла вартай увагі. Што б яна сказала, калі б даведалася пра мару Томаса стаць пісьменнікам? А ён сапраўды песціў думку пра лаўры не меншыя за лаўры Фолкнера на ніве літаратуры. Знакаміты зямляк быў яго кумірам, аднак Томас аднойчы свайго куміра пераўзыдзе і ў майстэрстве пісьма, і ў любові чытачоў. Зрэшты, да Фолкнера любоў чытачоў прыйшла не дужа хутка, нават знарок марудзіла, бо не разумела, не магла паверыць у геній чалавека, які жыў у суседстве з ёю. У Томаса з ёю стануцца інакшыя стасункі. Дзеля яе

ён парваў усе кантакты з роднымі, бо тыя не падтрымалі яго жадання, і пераехаў у Нью-Ёрк. Яму пашанцавала ўладкавацца ў найпрэстыжнейшае месца рэпарцёрам, якое дапаможа абзавесціся неабходным досведам і хутчэй наблізіцца да запаветнай мары. Да моманту прыняцця ў «Нью-Йорк Таймс» Томас скончыў літаратурны факультэт Калумбійскага ўніверсітэта і абараніў дысертацыю па прозе ўсходніх штатаў. Ён пісаў, але нікому не паказваў свае творы, дакладней, твор, такі ж, напэўна, вялікі па аб'ёме, як раманы знакамітага цёзкі — Томаса Вулфа. Параўнанне з кім-небудзь іншым засмучала Томаса, асабліва раздражняў той факт, што ён сам сябе з некім параўноўваў, таму неяк аднойчы пад адпаведны настрой знішчыў напісанае. Часу шкадаваць, на шчасце, не выпадала, бо бацькі тады разбіліся ў аўтакатастрофе. Томас застаўся адзін, прыгнечаны тым, што з бацькамі так і не паразумеўся. Наяўнасць жывога дзеда, мацерынага бацькі, настрой не палепшвала. Да таго ж дзед, як здавалася Томасу, цярпець не мог унука. Ён яшчэ з дзяцінства нагадваў яму Скруджа з аповесці Дзікенса, і ўражанне нават праз гады не змянілася. Тым не менш Томас не скардзіўся на долю, асабліва апошнім часам, калі ў яго жыццё ўвайшла Соня і завалодала яго сэрцам, якое ён аддаў ёй без бою, больш за тое — падарыў. І яна, між іншым, зрабіла тое ж самае.

Жыў ён у Брукліне — адным з пяці адміністрацыйных адзінак Нью-Ёрка, у раёне Уільямсбург, што размешчаны на поўнач ад Уільямсбургскага моста і яшчэ

зусім нядаўна з’яўляўся вытворча-складской часткай Брукліна. У 1985 годзе, калі насельніцтва Нью-Ёрка адчувала катастрафічны дэфіцыт жылля, а яго кошт узрос да нечуваных памераў, гарадскія ўлады на заканадаўчым узроўні прынялі рашэнне аб выкарыстанні памяшканняў раёна пад жыллё. У выніку, прыцягнутая нізкім коштам і незвычайнасцю лофтаў (так называліся вытворчыя або складскія памяшканні, змененыя пад жылыя патрэбы, і менавіта ў адным з іх на апошнім паверсе цаглянай каробкі па Уайт-стрыт пасяліўся Томас, як толькі прыехаў у Нью-Ёрк) моладзь краіны запоўніла раён і пачала абжываць яго ды ствараць разнастайныя клубы ў атачэнні ўзораў насценнага жывапісу — графіці. Уайт-стрыт ператварылася ў галоўную вуліцу раёна, бо не толькі лофты ўмяшчала ў сябе, але і ўсе знакавыя ўстановы, якія падкрэсліваюць аблічча кожнай асобна ўзятай мясцовасці, — кавярні, крамы вінтажнага адзення, букіністычныя кнігарні, атэлье дызайнераў і галерэі.



Нягледзячы на тое, што Соня мела магчымасць пасяліцца ў кватэры на Манхэтэне , аплачанай кампаніяй, на якую працавала, яна ўсё ж адмовілася ад яе, бо рашэнне быць разам з Томасам аўтаматычна прадугледжвала і жыць з ім, жыць у яго кватэры, дзе ён пачуваў сябе галоўным і свабодным. Дзяўчына не бачыла ніякай розніцы, дзе жыць ёй, абы з каханым. Што Манхэтэн, што Бруклін для яе былі толькі прыгожымі, таямнічымі словамі, не больш за тое. Амерыку, з усімі яе штатамі разам узятымі, увасабляў сабой Томас. Астатняе здавалася другасным.

Яны ехалі Бруклінскім мостам над Іст-Рывер, і ад відовішча, якое адкрывалася вачам, міжволі займала дыханне. Мост уражваў не толькі сваёй даўжынёй, але і ўнікальнай архітэктурнай задумкай — неагатычнымі вежамі, вышыня якіх складала 83 метры. Менавіта гэтыя вежы лічыліся найбольш высокімі збудаваннямі ў ЗША яшчэ доўгі час пасля іх узвядзення. Гісторыя моста пачалася з няўдач, якія адна за адной некальгі разоў запар сыпаліся на архітэктараў. Першы з іх, Джон Рэблінг, памёр у выніку няшчаснага выпадку ад хваробы. «Місію» падхапіў яго сын Вашынгтан Рэблінг, які таксама пацярпеў ад будаўніцтва моста і сканаў, атрымаўшы цяжкія цялесныя пашкоджанні, несумяшчальныя з жыццём, пасля абвалу крокваў. Жонцы Вашынгтана Эмілі ўсё ж пашчасціла давесці справу да пераможнага завяршэння. Велічнасць канструкцыі выклікала не толькі ў яе трапятанне і захапленне ды глыбокую пашану да стварэння рук і мозгу чалавечых, бо, варта адзначыць, будаўніцтва праходзіла ў тыя часы, калі жыхары Нью-Ёрка перасоўваліся не на высакахуткасных аўтамабілях і цягніках, а на конях ды драбінах. З акна таксі не ўсё, вядома, было бачна, хоць Соня і не адрывала вачэй ад шкла, ды ўсё ж разгледзела шэсць палос няспыннага аўтамабільнага руху і адну — цэнтральную паласу— над транспартнымі палосамі, для веласіпедыстаў і пешаходаў. Дзякуючы ёй, менавіта пешаходнай дарозе, савецкі паэт Маякоўскі пасля таго, як пешшу перайшоў мост ад манхэтэнскай мэрыі да бруклінскай Адамс-стрыт, усклікнуў у захапленні: «Бруклінскі мост — так... Гэта — рэч!»

Бясконцыя высоткі, як дрэвы, цягнуліся да сонца і аблокаў, каб паветранымі шапкамі прыкрыць свае пераважна лысыя дахі, выклікалі пачуццё безабароннасці і адначасовага захаплення. Ад іх колькасці і кучнасці ўсё мітусілася ў вачах, а шкляныя сцены, быццам лазерам, сляпілі зрэнкі. Соня не на жарт захапілася ўбачаным, нягледзячы на тое, што была даволі падрыхтаванай і выпрабаванай у пытаннях уразлівасці. Ёй падабалася — злавіла сябе на думцы — што і яна мецьме дачыненне да гэтай паўсюднай грандыёзнасці, якая яе не раздушыць, як мурашку, а наадварот, штокрокавы маналіт падпарадкуецца ёй. Таму і сцены лофта, куды прывёў яе Томас, выклікалі захапленне. Памяшканне здавалася жывой істотай, на думку Соні, чамусьці падобнай на кіта, напэўна, з-за памераў, прасторы і велічнасці, той самай велічнасці хмарачосаў знадворку, упэўненых у сабе, прыўкрасных, але не нарцысічных. Драўляная падлога са збітых адна да адной роўных дошак, відаць, некалі для нечага лакіраваных, дзе-нідзе яшчэ захавала бляск і ад сонечных промняў ледзьве не гарэла рудым полымем. Вокны з шырокімі, як тахта, і крэпкімі падваконнямі выходзілі на вуліцу, чыё жыццё ніколі не ведала супыну. Неўзабаве Соня гадзінамі будзе сядзець на тых падваконнях і глядзець праз шкло на Бруклін, бо яшчэ з дзіцячых гадоў любіла падаконнікі, асабліва ў зімовы час, калі ты ў цяпле, але ўсё адно золка, бо за вокнамі снег, вецер і завея.

З нішы за акном выглядваў ложак памерамі пад нішу. Над ложкам віселі паліцы з кнігамі і часопісамі.

Кнігі займалі ў лофце асаблівае месца. Паколькі паліц мелася ўсяго некалькі, і тыя небяспечна навісалі над ложкам, — яны, кнігі, знаходзілі сабе прытулак абы-дзе, галоўным чынам на падлозе, падпіралі сцены альбо, складзеныя ў слупкі, нерухомымі грыбамі сядзелі пад падваконнямі, адно з якіх Томас выкарыстоўваў як рабочы стол. На ім стаяў камп'ютар, неахайна ляжалі паперы, побач сумавала офіснае крэсла з высокай спінкай і падлакотнікамі ў мехавых рукавіцах. Паміж кухняй і спальняй, як бы падзяляючы памяшканне на пакоі, грувасціўся мяккі куток — канапа і некалькі фатэляў, таксама абсыпаных кнігамі, быццам перхаццю. Усутыч з канапай — часопісны шкляны круглы столік. Шафа, туалет і ванны пакой нібы адсутнічалі. Прынамсі, Соня іх заўважыла не адразу. Яны знаходзіліся ўбаку ад кухні. Больш за ўсё ўразіла дзяўчыну лесвіца пасярод лофта, што вяла на дах, куды маладыя людзі і падняліся разам. Дах уяўляў сабой тэрасу, дзе ўлетку ратаваліся ад невыноснай спёкі, на якую пакутаваў Нью-Ёрк. Зрэшты, Соню нью-ёркская гарачыня цалкам задавальняла. Напэўна, яна адна ва ўсім горадзе любіла гэта нясцерпнае для іншых людзей сонца. Іншая карціна паўставала з надыходам халадоў, якія пераносіліся з цяжкасцю не толькі Соняй: дзяўчына мерзла ў зімовую пару і ў добра натопленых памяшканнях, нібы сядзела ў калодзежы з савецкай кіноказкі пра Марозку. Адтаць яна магла адно ў гарачых абдымках Томаса пад коўдрай у пасцелі.



Соня лічылася высокааплатнай супрацоўніцай у сваёй сферы. Каханне і праца запаўнялі дзяўчыну

цалкам, быццам малако ў глечыку, налітае да краёў. Яе адразу задзейнічалі ў некалькіх гучных брадвейскіх пастаноўках і топавых тэлесерыялах, што здымаліся ў Нью-Ёрку. Бачанне вобразаў і мастацкія рашэнні Соні па іх увасабленні садзейнічалі як яскравасці, так і поспеху праектаў. Неўзабаве пасля гэтага дзяўчына трапіла на здымачную пляцоўку вялікага кіно. Як шалёна калацілася яе сэрца і трымцелі ад хвалявання рукі, калі ўпершыню пабачыла жывога Брэда Піта! Ён пакорліва сядзеў у крэсле перад люстэркам у Соніным вагончыку, пакуль тая варажыла над яго тварам і валасамі, у думках жа звярталася да Бога, абы не параніць ці нечым не зачапіць і не зрабіць балюча зорцы, ды ўсё ж парэзала актору шчаку. Кроў быццам выцэджвалася з парэзу, і гэта марудна забівала Соню. Яна застыла за спінай Брэда Піта і нават заплюшчыла вочы ў чаканні гневу актора, што мусіў абрынуцца на яе вывяржэннем Везувія на Пампеі, ніяк не меней. Аднак той зрабіў выгляд, што не заўважыў памылкі дзяўчыны і літасціва дазволіў ёй выправіцца бадзёрлівай усмешкай. Яму падабалася непасрэднасць і ўнутраная, не паказная, адказнасць стыліста-візажыста з такімі чулымі, мяккімі і пяшчотнымі пальцамі ды лоўкімі рукамі, няхай яны і задрыжалі аднойчы. Даспадобы прыйшлася Соня і Брусу Уілісу, які падчас грыму не стрымліваў сябе, каб насмяшыць дзяўчыну, бо быў захоплены і нават закаханы ў ямачкі на яе шчоках, пра што неаднаразова намякаў. Джоні Дэп адмаўляўся здымацца, калі яго не грымавала Соня

(яна якраз тады захварэла, бо мярзлячкай заставалася кругласутачна, і актор прыязджаў у Томасаў лофт, каб наведаць хворую, пашаманіць над ёю, бо меў індзейскае паходжанне, каб хутчэй ачуняла, ды пакінуць замоўлены ім самім мёд). Ніколь Кідман апекавала дзяўчыну сваёй увагай, калі дазналася, што тая зусім адна ў Амерыцы, а Міла Ёвавіч і Міла Куніс радаваліся, пачуўшы ўкраінскую мову з вуснаў зямлячкі. Соня распавядала пра свае знаёмствы Томасу, імітавала (бо, аказваецца, мела талент) паходку і выраз твару пры размове Сільвестра Сталонэ, які падарыў ёй адну з новых карцін, намаляваную нядаўна, з любоўю на памяць; магла лёгка паказаць прыжмурванне і манеру распавядаць Роберта Дэ Ніра, арыстакратызм Энтані Хопкінса, манернасць чапурыстых старлетак, якія рабілі першыя крокі ў кінакар'еры, але не сумняваліся ў поспеху, бо мелі бацькоў-магнатаў. Яна б таксама магла здымацца ў кіно. Рэжысёры неаднойчы прапаноўвалі ёй ролі, Таранціна нават абяцаў адмыслова пад яе напісаць ролю, не галоўную, але не менш важную. Ды Соня лічыла, што тыя проста смяяліся з яе, не злосна, зразумела, дзеля настрою. Яна ніколі не хацела быць артысткай і шчыра казала пра гэта, магчыма, таму яе так і палюбілі славутыя людзі кінасвету. Зрэшты, тэатр ёй імпанаваў больш, але часу на яго, акрамя прадугледжанага дамовай, катастрафічна не хапала. Томас слухаў Соню ўважліва, здаралася, нярэдка перапытваў, каб удакладніць некаторыя падрабязнасці. Дзяўчына з ахвотай паўтарала, узгадвала нешта новае,

забытае. Калі заставаўся адзін, ён запісваў тое, што пачуў па памяці, каб выкарыстаць у рамане, які пісаў, пісаў крадком, урыўкамі, нікому не прызнаючыся аб тым, нават Соні, у першую чаргу Соні, бо пісаў раман пра яе. Некалькі разоў Томас наважваўся распавесці дзяўчыне пра сваю дзейнасць, але не ведаў, як яна адрэагуе, бо да кніг адносілася абыякава, ды вырашыў нічога пакуль не гаварыць. Вось напіша, тады і... А да таго часу яны жылі адно адным, разам кладліся спаць, разам прачыналіся, разам прымалі душ і гатавалі сняданак, разам ехалі на працу на метро, хоць Томас меў уласнае аўто, а Соня — службовую машыну з персанальным кіроўцам. Ім падабалася шторанку проста сядзець поруч на нязручных і цвёрдых сядушках вагона метрапалітэну, кранацца плячыма адно аднаго, адчуваць блізкасць і прысутнасць, наталяцца, назапашвацца адно адным на цэлы дзень, каб не дужа сумаваць і чакаць вечара, які кідаў іх у абдымкі страсці і неспатоленай, нерастрачанай энергіі пазнання, бо кожная іх сустрэча пасля дзённай напружанай працы дыхала па-новаму, і яны быццам знаёміліся нанова, прынамсі, мелі такое пачуццё. Невядома, хто з іх больш стамляўся на працы, ні Томас, ні Соня не прызнаваліся нават самім сабе, аднак стомленасць абодвух знікала адразу, як толькі распачыналася размова дотыкаў. Яны вывучалі адно аднаго навобмацак, і штораз гэта было як упершыню. Мова дотыкаў адкрывала ў іх арганізмах шлюзы другога дыхання, і тое запаўняла сабой лофт празрыстым шлейфам эротыкі, які паступо-

ва ператвараўся ў ядваб вясёлкавых стужак сексу, што нагадвалі, калі задзейнічаць фантазію і памяць, нацыянальны галаўны ўбор украінскіх дзяўчат. Іх стасункі сапраўды выглядалі як той вянок. Томас ганарыўся Соняй, захапляўся яе непасрэднасцю і яе крыламі. Ні на секунду ён не ўзяў пад сумненне іх існаванне і аднойчы насамрэч пабачыў іх. Яму тады не спалася, і ён, каб не трывожыць сон дзяўчыны сваім варочаннем з боку на бок, перабраўся на канапу, узброіўшыся ноўтбукам, у спадзеве магчымага натхнення на напісанне чарговага кавалка тэксту да рамана, над якім працаваў. Спачатку яму падалося, што над Соняй схіліўся якісьці цень. Томас міжволі ўздрыгнуў, а па скуры пабеглі мурашкі страху, у галаве замітусіліся сюжэты хорар-фільмаў, у адзін з якіх, магчыма, ён нечакана патрапіў. Пісьменніцкае ўяўленне, а калі не пісьменніцкае, то ўяўленне творцы, здавалася, вырашыла пажартаваць над гаспадаром самым кардынальным чынам. Трэба было ўстаць з канапы, проста ўстаць з канапы і падысці да ложка, на якім пакінуў Соню адну, і ўпэўніцца ў гульні ночы, не больш за тое. Аднак Томас марудзіў, па спіне каціліся кропелькі раптоўнага поту. Ён казаў сам сабе, што гэта глупства, і назваў сябе баязліўцам, ды ўсё адно падымацца з канапы не спяшаўся, бы зачараваны, пазіраў у кут з ценем. Нарэшце зладзіў з сабой, павярнуў ноўтбук манітoрам да Соні і святло яго накіраваў у яе бок. Убачанае ўразіла не меней за цень, які яму, як высветлілася, прымроіўся. Велізарныя, шыкоўныя, прыўкрасныя ў сваёй бездакорнасці

крылы ахоўвалі сон дзяўчыны і яе саму. Томас пацягнуўся за тэлефонам, каб сфатаграфаваць цудоўную праяву, але пакуль вымаў яго, адвярнуўшыся літаральна на секунду, згубіў момант. Ён сустрэўся з позіркам дзяўчыны, якая глядзела ў вочы, стоячы побач з ім. Ад нечаканасці Томас выпусціў з рук тэлефон, і той бразнуўся на падлогу ды разляцеўся на часткі. Соня ўздрыгнула, абняла каханага і пацікавілася, чаму ён не спіць. Томас вагаўся, ці расказаць ёй пра ўбачанае, ці змаўчаць.

— Я бачыў твае крылы, — усё ж вымавіў, не валодаючы сабой.

— Праўда? — прашаптала Соня на вуха Томасу, прыціскаючыся да яго ўсім целам, але без ніякага здзіўлення, як падалося яму. — І як яны табе?



— Яны сапраўды ў цябе ёсць?! — прашаптаў ёй у адказ.

— Канешне, ёсць, — не адмаўляла Соня, — я ж распавядала пра іх табе, памятаеш?

— Калі шчыра, я спалохаўся, — прызнаўся Томас.

— Не бойся, — тулілася да яго Соня. — Яны цябе не пакрыўдзяць.

Аднак крыламі дзяўчыны Томас спадзяваўся быць сам, на што і разлічваў, калі вёз яе з Берліна ў Нью-Ёрк. Зманлівае ўяўленне, народжанае знешнім выглядам Соні, патрабавала, напэўна, гэтага ад яго. Тым часам менавіта Соня стала крыламі Томаса і не толькі Томаса. Кожны, з кім сутыкалася дзяўчына, з кім перасякаліся яе жыццёвыя сцяжыны, перайначваў свой шлях, пераасэнсоўваў ранейшае жыццё і ўлас-

ныя імкненні дзеля таго толькі, каб не падвесці яе, каб не затуманіць позірк яе пранізлівых вачэй ценем, складзеным з расчаравання і смутку. Соня сапраўды засмучалася ад чужых няўдач, параз, дэпрэсій, не перакідвала іх на сябе, але твар яе быццам губляў фарбы і ранішнюю свежасць. Суперажыванне, здавалася, адбірала яе сілы, здатныя дапамагчы тым, каму патрабаваліся больш за ўсё. І тады на Соніным твары заставаліся адны вочы, як у вязня Асвенцыму, што пазіралі на свет з глыбокай тугой і невымоўным дакорам. Томасу не падабаўся гэты яе позірк, але менавіта ён не сыходзіў апошнім часам з твару дзяўчыны, нібы чырвоная кропка снайперскага прыцэлу, якую ўпершыню заўважыў акурат у ноч пабачаных Соніных крылаў. Дзяўчына адчувала яго неспакой. Магчыма, на падсвядомым узроўні прадчувала нават яго роздумы аб агульным далейшым шляху — рука ў руцэ па жыцці. Ці чакала яна прапановы рукі і сэрца Томаса? Не чакала, бо не мела часу на падобныя «глупствы», да таго ж у сучасным грамадстве шлюб не лічыўся абавязковым. Тым не менш спадзявалася, што аднойчы Томас рашыцца ўзяць яе за жонку. Усё ж яна жанчына, нягледзячы ні на што, са стэрэатыпным бачаннем інстытуту сям'і, павагу да якога насіла ў крыві, відаць, з пялюшак. Шлюб дапамог бы ёй пазбавіцца і статусу эмігранткі. Падобныя думкі нярэдка праследвалі не толькі Соню ў горадзе эмігрантаў. Аднак Томас маўчаў, а яна не наважвалася размаўляць з ім на балючую тэму. Ён таксама задумваўся пра стасункі з Соняй, пра далейшае іх развіццё.

Яны пражылі разам паўтара года ў Нью-Ёрку, якія праляцелі, як паўтары хвіліны, ды аказаліся такімі насычанымі, як цэлае стагоддзе. Соня была дужа запатрабаванай у кінасферы, кантактавала з вельмі ўплывовымі і знакамітымі людзьмі кінабізнесу і не толькі. Аднак яе знаёмствы з магнатамі рознай прамысловасці, мясцовымі гангстэрамі і прадстаўнікамі ўраду ўражвалі і прыгняталі Томаса адначасова. Яна распавядала пра іх не задумваючыся, як пра нешта нязначнае і нявартае яго ўвагі. Томас баяўся страціць Соню, бо на іх фоне выглядаў непрыглядна, па яго ўласным меркаванні, і чакаў з ёй разрыву. Ён не сумняваўся, што дзяўчына абярэ не яго, да таго ж заўважыў раптоўнае аддаленне і халоднасць як у размовах, так і ў інтымнай блізкасці. Томас ні ў чым не абвінавачваў дзяўчыну. Хто ведае, як бы сябе паводзіў ён сам, калі б навокал з усіх бакоў — жывыя свяцілы і легенды. Не дзіва, што ў яе закружылася галава ад шалёнага поспеху, да якога і Томас не быў гатовы. Інакш ён уяўляў іх з Соняй агульнае жыццё, больш спакойным, без надрыву і пастаяннай занятасці дзяўчыны. Соня таксама не разумела змены ў Томасе і злілася на яго, асабліва ў той час, калі ён знік на некалькі тыдняў без ніякага папярэджання, адно СМС адправіў праз дзень пасля знікнення, маўляў, з'ехаў па справах. Быццам яна большага не заслугоўвала. Добра, што праца пазбаўляла ад панурых думак, і Соня забывалася ў ёй. Томас жа вымушаны быў паехаць на пахаванне дзеда — апошняга сваяка, які так-сяк злучаў яго з сям'ёй і роднымі мясцінамі. Яму

патэлефанаваў напярэдадні дзедаў даверааны, паведаміў пра смерць старога і пра запавет, які тычыўся непасрэдна яго, Томаса. Як высветлілася, дзед меў не абы-які капітал у грашах, аблігацыях і акцыях буйнейшых карпарацый паўдзённай Амерыкі, пра што Томас і не чуў ніколі, ды капітал гэты цалкам пераходзіў у яго рукі па распараджэнні памерлага. Да таго ж ва ўласнасць Томаса пераходзіў вялікі асабняк, у якім дзед жыў апошнія гады і які знаходзіўся ў горадзе Батан-Руж. Нечаканая шчодрасць старога расчуліла Томаса да слёз, і ён не саромеўся іх ні на могілках, ні на памінках. Сваёй смерцю дзед ратаваў Томаса ад розных магчымых жыццёвых нягод і забяспечваў бязбеднае будучае на дзясяткі гадоў наперад, калі не на сотні. Томасу не цярпелася падзяліцца шчаслівай навінай з Соняй і хутчэй ажаніцца з ёй. Ён паспяшаўся вярнуцца ў Нью-Ёрк, акрылены і ўпэўнены ў сабе, як ніколі яшчэ. Але ці патрэбна гэта Соні? Ці кахае яна яго ўвогуле, разбалаваная ўвагай розных медыйных асоб? Што яна рабіла ў яго адсутнасць? Можа, ад яе і слядоў не засталося ў лофце… Дачакалася зручнага моманту і збегла па-ціхаму, шкадуючы яго. А можа, наадварот, скарысталася свабодай і прывяла ў лофт палюбоўніка якраз дзеля таго, каб Томас заспеў яе здраду. Ён адганяў паганыя думкі пра Соню прэч, бо не верыў ім ні на каліва, бо Соня не такая. Аднак голас у вушах настойваў на супрацьлеглым з пераконлівасцю фанатыка, чым сапсаваў радасць вяртання дамоў і сустрэчу з той, каго самаадданна кахаў.

Томас зайшоў у бар. Як бы ні цягнула яго да Соні, але ж ён марудзіў падымацца ў лофт: прадчуваў непазбежнасць непрыемнага і аддаляў сутыкненне з ім. Лепш напіцца гарэлкі і падрыхтавацца да горшага, не такім балючым стане ўспрыманне таго, да чаго гатовым не быў. Нічога не ведаючы наперад, накручваў сам сябе адмыслова з упэўненасцю фаталіста. Ён замовіў шклянку чыстага віскі, абаперся на стойку бара. Тут жыццё віравала ў гучных галасах і агрэсіўных паводзінах прысутных. Алкаголь нязменна выціскаў з кожнай душы сапраўднае нутро чалавека, і добрым яно ніколі не было. Пад уздзеяннем алкаголю, гэтай найтаннейшай і найбязлітаснейшай сывараткі праўды, чалавек не баяўся быць сабой, няхай і на непрацяглы перыяд. Слабы і асцярожны ў паўсядзённым існаванні, сканцэнтраваны на самакантроль і прыстойныя паводзіны, чалавек на падпітку, відаць, здаваўся самому сабе Гераклам, не менш, якому мора па калена і ніхто для яго не аўтарытэт. Такім чынам, Томас вырашыў, што піць не стане, таму адсунуў віскі ўбок. Ён не зрабіў ні глытка, хоць і заплаціў за напой. Зрэшты, віскі не знік дарэмна, яго выпіў адным махам безграшовы заўсёднік, які не зводзіў вачэй з Томаса з першай хвіліны з'яўлення таго ў бары. Падобных суб'ектаў хапала паўсюль. Томас выйшаў на вуліцу і неахвотна папхнуўся да свайго дому.



Лофт сустрэў яго насцярожанай цішынёй. Ён нават падаўся Томасу кошкай, што натапырыла вушы ў прадчуванні небяспекі. Паветра білася то-

кам, рыхтык маланка. Соня напаўсядзела ў ложку і чытала кнігу. Яна не звярнула на Томаса ніякай увагі, але ён быў удзячны, што застаў яе дома і адну. Зрэшты, прысутнасць дзяўчыны ў лофце не здымала з яе падазрэння. Вось толькі ў чым? Што Томас мог прад'явіць ёй, іграючы ў маўчанку? Ён не прамовіў ані слова, пакінуў чамадан ля канапы і лёг на яе не распранаючыся. Соня гучна закрыла кнігу. Яе раздражнялі паводзіны Томаса. Яна чакала яго кожны вечар, спецыяльна прыходзіла раней з працы і гатавала на ўсялякі выпадак вячэру на дваіх. Соня кахала Томаса і не жадала з ім ніякага разрыву, але падазравала яго ў тым самым, у чым і ён падазраваў яе. Ім трэба было пагаварыць, проста пагаварыць, каб пазбавіцца непаразуменняў раз і назаўжды. Яны маўчалі, у галаве ствараючы ўласныя катастрофы і апакаліпсісы, з якіх не ведалі, як выбрацца. Ды толькі маўчанне не з'яўлялася золатам, не ў іх выпадку. І тады Соня, як больш нецярплівая альбо больш разумная, саскочыла з ложка, упэўнена падышла да канапы, на якой застыў у нерухомасці Томас, і патрабавальна вымавіла:

— Пагавары са мной!

— Што? —Томас, здавалася, сапраўды не пачуў Соніных слоў, таму паўтарыла:

— Пагавары са мной!

Томас падняўся з канапы, апынуўся побач з дзяўчынай. Яны стаялі ўсутыч, але не дакраналіся адно да аднаго.

— Што адбываецца? — патрабавала яснасці Соня.

— А што адбываецца? — цягнуў Томас час, бо не знаходзіў адказаў на пытанні, якія сам у думках колькі разоў задаваў Соні. Яна яго апярэдзіла.

— Што адбываецца з намі? — настойвала Соня. — З табой? Са мной? Ці ты лічыш, што ўсё добра?

— А хіба дрэнна? — выдаў раптам Томас і ўзненавідзеў сам сябе за гэта.

— Нават так?! — Соню, відавочна, агаломшыў Томасаў адказ. — Значыць, ты не бачыш ніякіх праблем?

— У мяне іх няма, — гнуў сваю лінію Томас, калі яму стасункам з жанчынай, якую кахаў болей за ўласнае жыццё.

—Ува ўсіх ёсць, а ў цябе, значыць, няма ніякіх праблем? — учапілася за «праблемы» дзяўчына. Яна ледзьве не страціла раўнавагу і не ўпала на падлогу проста пад ногі Томасу. Яе хіснула і павяло ўбок, у вачах пацямнела. Томас хацеў падтрымаць Соню, але яна рашуча адмовілася ад яго падтрымкі. — Не чапай мяне! — вочы яе, быццам слязьмі, набрынялі гневам, накіраваным, аднак, не на Томаса, а на сябе.

Томас адступіў на крок назад.

— Ды што з табой? — не пазнаваў ён у дзяўчыне тую, якую кахаў. Знешне яна, натуральна, заставалася той самай Соняй, якую ён ведаў, але ці ведаў насамрэч яе сапраўдную — ужо сумняваўся.

— Што са мной?! — міжвольны Томасаў усклік абурыў дзяўчыну, бо гэтае самае пытанне мусіла яму задаць яна. — Са мной усё добра! А вось што з табой?

— Я цябе не разумею, — вымушаны быў прызнацца Томас.

— У цябе нехта ёсць!— не вытрымала тады Соня, бо падазрэнні ў здрадзе каханага напрошваліся самі сабой. Інакшага тлумачэння яго двухтыднёвай адсутнасці яна не знаходзіла.

— Што?! — абвінавачванне Соні, кінутае ў твар Томасу, быццам пальчатка з выклікам на дуэль, балюча ўдарыла ў самае сэрца.— Я ж табе напісаў, што хаваў дзеда, — выдушыў з сябе ўсё ж, не жадаючы апраўдвацца.

— Напісаў? Ха! — парыравала Соня. — Тры словы ў СМС ты называеш — напісаў? І два тыдні, два, — падкрэсліла яна, — хаваў дзеда?!

— Узніклі справы, непарыўна звязаныя з дзедавай маёмасцю, якія я павінен быў уладкаваць, — адказаў Томас.



— Уладкаваў?

— Так.

— Цяжка было патэлефанаваць? Адказаць на мае тэлефанаванні?

— Я забыў зарадку тут.

— Зручнае апраўданне.

— Я не апраўдваюся.

— З кім там кахаўся, прызнавайся!..

— Ды ні з кім я не кахаўся! Гэта ты, хутчэй за ўсё!..

— Я?!. — Соня ледзь не захлынулася паветрам, ад якога пацямнела ў вачах, і яна зноў пахіснулася, але ўтрымалася на нагах.

— Не да мяне заляцаюцца галівудскія акцёрышкі, не ў мяне кружыцца галава ад іх сумніўных кампліментаў! — бязлітасна працягваў Томас.

— Не акцёрышкі, па-першае! — працадзіла Соня. — А па-другое, каб ты ведаў, мне на іх на ўсіх напляваць, бо ніводзін з іх і аднаго твайго мезенца нявартый. Ва ўсякім разе яшчэ хвіліну таму я так лічыла, бо кахала цябе.

— Кахала? — учапіўся Томас за дзеяслоў, вымаўлены дзяўчынай у мінулым часе.

— Не чапляйся да слоў, — асекла яго Соня. — Я зараз жа збяру рэчы і з'еду на Манхэтэн, каб табе не замінаць.

Яна павярнулася спінай да Томаса і накіравалася да шафы. Слёзы перашкаджалі выразна бачыць усё наўкол, дзяўчына прымушала сябе не плакаць, і ёй гэта ўдалося.

— Соня! — паклікаў яе Томас, ды яна не звярнула на яго голас увагі. Ён кінуўся за ёй, развярнуў да сябе тварам, апусціўся на калені. — Соня! Я кахаю цябе! Разумееш, кахаю! Твая праца, тваё асяроддзе забівалі мяне кожную хвіліну. Хто я на фоне тых, з кім ты маеш справу штодзень? У мяне няма нікога і быць не можа!

— Праўда? — з недаверам паглядзела на яго дзяўчына.

— Вядома, праўда! — не зводзіў вачэй з Сонінага твару Томас.

— Тады дакажы, — наўмысна халодным тонам вымавіла яна, хоць гатова была зараз жа ўкленчыць побач з ім і цалаваць без перапынку.

— Выходзь за мяне, — не задумваючыся, без ваганняў выгукнуў Томас, які і хацеў толькі аднаго ўвесь час: каб Соня стала яго жонкай. Спыняла яго ад рашу-

чага кроку яе праца, ён баяўся выглядаць смешным поруч з ёй у параўнанні з зоркамі Галівуда і Брадвея, бо нічога не меў за душой і таму камплексаваў. Нечаканая, але такая патрэбная і выратавальная дзедава спадчына пахіснула шалі жыцця і лёсу, паяднаныя з Соняй, на яго карысць.

— Ты нармальны? — правяла рукой па валасах Томаса Соня. Нічога іншага сказаць у той момант яна не магла. Яшчэ некалькі секунд таму іх стасункі віселі на валаску ад гібелі, але яны кахалі адно аднаго, і каханне перамагло. Уздыхнуўшы, Соня выпрастала з-за спіны крылы, якія схавалі закаханых ад зайздрослівых чужых вачэй. Яны прачнуліся разам, адначасова. Усміхнуліся адно аднаму, наталіліся пацалункамі так, нібы падзяліліся адной на двух сакавітай спелай суніцай без зялёнага хвосціка. Сонца жоўтай пяшчотнай далоняй лашчыла Соніну шчаку, з-за чаго тая выпраменьвала водар гарачых бліноцоў. Прынамсі, так падумалася Томасу.

— Добрага ранку, — прашаптала яму ў вочы Соня.

— Добрага ранку, — адказаў Томас.

— Ты не перадумаў? — запытальна ўзіралася яна ў яго твар, нібы ў душу, створкі якой моцна трымала ў сваіх руках.

— Ты пра што? — пачухаў патыліцу Томас з такім выглядам, быццам не зразумеў яе пытання.

— Ды ну цябе! — пакрыўдзілася Соня і адвярнулася ад яго.

Томас задаволена засмяяўся. Соня зноў павярнулася тварам да яго, перадражніла і вымавіла:

— Вельмі смешна, аж так, што абрагочашся!

— Я баяўся, каб не передумала ты, — прызнаўся Томас.

— Я не перадумаю, — цалкам сур'ёзна заявіла Соня, — не дачакаешся. Дый з чаго б мне перадумаць? — дапытвалася.

— Ну, — працягнуў Томас, — ты страціш сваю папулярнасць, працу, незалежнасць...

— На халеру яны мне, — перапыніла яго Соня, — калі ў мяне ёсць ты!

— Ну, я ў цябе быў і раней, — запярэчыў Томас, але яму спадабаўся адказ дзяўчыны.

— Тое зусім іншае, — заўважыла Соня.

— І ты гатова кінуць усё: Нью-Ёрк, сваю запатрабаванасць — і з'ехаць...



— Так, нават да чорта на балота! Дарэчы, дзе гэта?

— Табе там, спадзяюся, спадабаецца, бо там ніколі не бывае зімы, хоць Луізіяна і не Каліфорнія.

Мужчыны не ведаюць, што жанчыны дзеля іх могуць ахвяраваць абсалютна ўсім, калі, вядома, кахаюць. Яны не прывязаныя ні да канкрэтнай мясцовасці, ні да рэчаў, дарагіх сэрцу, і з лёгкасцю забудуць, калі спатрэбіцца, сваё мінулае дзеля будучыні з каханым, у адрозненне ад мужчын. Зрэшты, і Томас, і Соня знаходзіліся ў аднолькавым становішчы, пакідаючы Нью-Ёрк. Соня без шкадавання адмовілася ад насычанай і цікавай працы гэтаксама, як і Томас, хоць іх працы пры параўнанні з'яўляліся нераўназначнымі. Дзяўчына лічыла пройдзеным этапам сваё рамства, якое апошнім часам усё радзей задавальняла

яе і нагадвала жуйку без смаку. Яна прагнула нечага новага і задыхалася ад канвеернай аднастайнасці тых людзей, з якімі працавала, нягледзячы на іх феерверк пачуццяў, у большай ступені штучны, чым сапраўдны, бо нават у жыцці яны гралі ролі і не мелі, за рэдкім выключэннем, уласнай думкі. «Фабрыка мрой» на справе аказалася высокадысцыплінаваным войскам, што паслухмяна выконвала загады камандзіраў, і гэта лагічна, бо ў інакшым выпадку не дасягнула б ні поспеху, ні прыбытку. Адна бяда: другаснасць. Чым болей Соня разумнела, тым часцей згаджалася з самой сабой, што другаснай заставацца не жадае. Томас таксама быў на яе баку, і яе меркаванне было і яго меркаваннем. Ён хацеў пісаць і хацеў быць першым сярод пісьменнікаў, падпарадкоўвацца толькі сабе, чаго сучаснае грамадства не дазваляе, калі, вядома, ты не залежыш ад яго фінансава. Спадчына дзеда зрабіла Томаса незалежным ад грамадства, падарыла магчымасць кінуць пад ногі цэлы свет сваёй каханай, і яна прыняла яго дар з удзячнасцю і любоўю.



Батан-Руж, размешчаны на ўсходнім беразе ракі Місісіпі за 120 кіламетраў ад Новага Арлеана, куды Томас прывёз будучую жонку, спадабаўся ёй з першага позірку. «Назву горад атрымаў больш за 300 гадоў таму, калі 17 сакавіка 1699 года П'ер Ле Мойн вёў экспедыцыю ўздоўж ракі Місісіпі. Французскія даследчыкі выявілі шост з плямамі крыві жывёл, які абазначаў мяжу паміж плямёнамі індзейцаў і назвалі месца Baton-Rouge або «чырвоная палка». У 1719 годзе фра-

нцузы пабудавалі форт і ўмацаваліся на тэрыторыі. На працягу наступных гадоў Батан-Руж знаходзіўся пад уладай Англіі, Іспаніі, Заходняй Фларыды, Луізіяны, Канфедэрацыі Штатаў Амерыкі, пакуль не быў далучаны да ЗША. Сталіцай штата Батан-Руж стаў у 1849 годзе», — распавядаў ён Соні. Каля іх дома новых гаспадароў сустракалі людзі, што абслугоўвалі яго, афраамерыканцы (менавіта яны складалі большую частку насельніцтва Батан-Ружа) — маладая дзяўчына ў дрэдах, што змяіліся па спіне і звісалі ніжэй таліі; пышнацелая кабета з добразычлівым тварам, абедзве ва ўніформе пакаёвак, быццам наўмысна апранутых пад стэрэатып прыхадняў з поўначы краіны; стары, але на выгляд дужы яшчэ мацак-негр у сівых кучарах і шыракаплечы, атлетычнага складу малады чалавек з дзерзкім грубаватым позіркам, які выклікаў нястрымнае захапленне, падобнае на дзіцячае, асабліва выглядам збоку, бо меў падабенства з зефірам. Абгароджаны невысокім каменным плотам з мармуровымі фігуркамі анёлаў каля брамы, трохпавярховы драўляны асабняк, у афарбоўцы якога пераважаў белы колер з ружовымі ўстаўкамі, быў пабудаваны яшчэ ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя ў віктарыянскім стылі. Меў крыты прасторны ганак з канапай, фатэлямі, крэсламі і круглым сталом, тэрасу на другім паверсе, аграмадную гасцёўню і не меншую за яе кухню на першым паверсе, багатую бібліятэку, якую Томас з часам зрабіў сваім кабінетам, пакоі для гасцей, чатыры спальні на трэцім паверсе з чатырма ваннымі пакоямі, кожная з якіх

мела сваю назву пад колер афармлення: атласная чырвоная, зялёная аксамітавая, жоўта-блакітная сонечная і чорна-белая газавая. Вузкія калідоры і шырокія лесвіцы, вытанчанага стылю драўляная мэбля зачароўвалі позірк і неаднойчы станавіліся прадметам вывучэння і даследавання. Двор перад домам, падстрыжаны да ідэальнай дасканаласці, нагадваў зялёны дыван, які нібы праразала і дзяліла напалам асфальтаваная сцежка, што вяла да ганка. За домам квітнеў шыкоўны сад, дзе ў сяброўскім ладзе раслі вінаградныя і персікавыя дрэвы, яблыні, слівы, клумбы з ружамі і кустамі дзікіх траянд. Соня, нарэшце, адчула, напэўна ўпершыню, пачуццё дому, пачуццё хатняга хараства, ніколі раней не зведанага, нечага свайго, да чаго, мабыць, імкнулася яе душа, дзе хацелася нарадзіць дзяцей, гадаваць іх і выхоўваць. Яна не хавала сваёй захопленасці домам, слугамі (падумаць толькі, у яе была ўласная чэлядзь, як у тых дваранак, якіх знішчылі ў 1917 годзе, хоць дваранкай сябе не лічыла), яе непасрэднасць зачароўвала ўсіх навокал, яна была шчасліваю і дзялілася шчасцем з астатнімі. Дом, здавалася, зараджаны энергіяй дзяўчыны, таксама свяціўся ад задавальнення і нават усміхаўся. Усмешку яго, калі прыглядзецца, можна было пабачыць уначы, асветленую ліхтарамі. Соню палюбілі хутка і прымалі за сваю, бо з кожным яна знаходзіла агульную мову, патрэбнае своечасовае слова і зацікаўленасць чалавекам, не ўяўную, дзеля прыстойнасці, а сапраўдную, душэўную і чыстую. Яе вяселле з Томасам, нешмат-

люднае, але гучнае, ажывіла акругу, нават кракадзілы павыпаўзалі з Місісіпі на сушу, каб таксама мець да яго дачыненне. Напалохалі, вядома, тубыльцаў, аднак свята не сапсавалі. Томас пагадзіўся з рашэннем Соні ў неабходнасці вянчання, але не ў Амерыцы, а на яе радзіме, таму праз некалькі тыдняў пасля вяселля маладзёны адправіліся ў падарожжа ва Украіну. Дзяўчына сумавала па родных, па сястры, якіх не бачыла шмат гадоў, Томас жа любіў, проста любіў усё тое, што любіла Соня, да таго ж яму таксама было цікава паглядзець на краіну, у якой нарадзілася жонка, пахадзіць па зямлі, якая яе ўзгадавала, адчуць яе нутро, характар і волю.

# 10

На што падобная цемра? На страх? А на што падобны страх? На цемру? Вышуканая таўталогія альбо замкнутае кола, у якім пачуваеш сябе вавёркай, асуджанай на бясконцы бег. А мо на салодкую вату, толькі чорную? Аднак цемра не салодкая, яна ўвогуле не мае смаку, а калі мае, то нагадвае сырасць, што з парай і бульканнем выходзіць з балатоў. Цемра запаўняе сабой цалкам, затыкае кожную дзірачку, кожную шчылінку, быццам вадкімі смоламі, што неўзабаве зацвярдзее — і ўсё, выхаду няма. Ты навечна яе вязень. Ды ў турме цемра не дазваляе ахвяры права на рух, нават маленькі, аблытвае нябачнай павуцінай з ног да галавы, як гіганцкі павук, і цешыцца ўладай падпарадкоўваць. Цемра — сапраўдны дыктатар, адзіны сапраўдны дыктатар, прыродны і натуральны, усе астатнія ў параўнанні з ёй пігмеі, смешныя ва ўласных недарэчных высілках падпарадкаваць сабе свет, які адносіцца да іх як да марыянетак, выкарыстоўвае ў якасці своеасаблівых прэзерватываў і знішчае з асаблівай жорсткасцю. Свет — адданы паслугач цемры — садыст-эсэсавец, шматразовы камендант

Аўшвіца ці Майданэка, ці Дахау, як каму хочацца. І ў гэтым канцлагеры чалавек нават не пясчынка, а жыццё яго танней і празрысцей за пыл, нягледзячы на тое, што кожны мае свой парадкавы нумар, які ён сам не памятае, дык чаму свет або цемра павінны яго памятаць? Аксана марыла растаць у цемры, ператварыцца ў яе часцінку, стаць часткай цемры, каб памяць пра яе знікла назаўжды, каб яна сама сябе не памятала і ніколі не ўзгадвала пра сябе. Яна клікала цемру, маліла забраць яе ў сваё лона, пазбавіць памяці і пачуццяў, што бязлітасна, несупынна і метадычна наносілі толькі боль — то бясконцымі нажавымі ўдарамі, то ядзернымі боегалоўкамі ў сэрца, якое раздзіралася на шматкі, бы падушка, адно замест пер'яў у памяшканні яе цела разляталася кроў ды ва ўсе бакі тырчалі, як шкілет арматуры, парваныя сасуды. Ці пачула цемра дзяўчыну? Напэўна, так, бо тая адчувала сябе спавітай ёю, быццам чорнай шаўковай прасцінай. Прынамсі, на дотык так і было. Аголенае яе цела не памылялася наконт тканіны, да якой быццам прыліпла. Больш за тое, рот яе таксама быў напоўнены запханым да самых гландаў ядвабам. Ці ўсё ж цемрай? Ці цемра наўмысна выдавала сябе за гладкую і прыемную навобмацак рэч, якою захаплялася Соня? Але ж яна не Соня! Цемра нешта наблытала, памылілася. Аксана намагалася падказаць цемры пра яе памылку, але тымі гукамі, што атрымлівалася выціснуць з сябе, — наўрад ці можна было прывабіць увагу цемры. Дый паварушыцца Аксана таксама не магла. Зрэшты, ці не ўсё адно? Цемра

пачула яе першапачатковае жаданне, зрабіла сваёй палонніцай, сваёй рабыняй, пазбавіла святла і свету. Маленне дзяўчыны не засталося незаўважаным, яна мусіла быць удзячнай цемры і быць задаволенай сваім становішчам. Болей не трэба ні пра што ні думаць, ні дбаць, ні адчуваць, ні бачыць і ні чуць. Але адкуль такі раптоўны і невыносны боль у скронях, што распаўсюджваўся з хуткасцю размнажэння клетак, выклікаў у вачах фіялетавыя сполахі, падобныя на мазаічныя фрэскі? Аксану трэсла, але не ад ліхаманкі, выструньвалася-выпроствалася цела ў анямелым здранцвенні, быццам яна з'яўлялася адной суцэльнай сутаргай. Паслабленне прыходзіла, аднак на некалькі секунд, і Аксана зноў станавілася непасрэдна самім болем, які перашкаджаў дыхаць, пазбаўляў паветра і магчымасці быць. Праз аднолькавыя інтэрвалы, матэматычна падлічаныя, боль угрызаўся ў яе маланкай, выразаў вантробы, свідраваў чэрап і смажыў мозг, быццам яечню на патэльні. Дзяўчына не паламала зубы і не адкусіла сабе язык толькі з-за запханага ў рот ядвабу. Як яна раней не здагадалася, дзеля чаго ён апынуўся ў роце? Цемра не жадала псаваць сімпатычны дзявочы твар, але не магла адмовіць сабе ў задавальненні садысцкіх прыхільнасцяў. Няўжо Аксана вечна асуджаная на гвалт?!.

Ноч у вачах, у душы, у сэрцы... І боль, паўсюдны, акупаваў яе назаўжды. Цела Аксаны, думкі Аксаны сталі іх акупаванай тэрыторыяй без мараторыю на палёгку, а калі палёгка здаралася, то карцела, каб хутчэй вярталася цемра разам з болем. Менавіта

цемру і боль у падобныя моманты Аксана асацыявала з палёгкай. Яна залежала ад іх, нібы наркаманка са стажам, асабліва ад болю. Калі да цемры душа дзяўчыны пацягнулася адразу, растала ў ёй і дазволіла спавіць цела, то да болю прывыкала доўга, пакуль той неператварыўся ў жаданы допінг, падобны на жарсныя абдымкі каханага, якога ў Аксаны не было. Ёй не пашанцавала з ім, не сустрэўся на яе жыццёвай дарозе той адзіны, пра якога марыла, усё нейкія хворыя на галаву і слабыя ў сваіх хваробах трапляліся, абвяргаючы няісную ісціну, што дзяўчына абірае самастойна сабе аб’ект кахання. А мо наадварот? Мо ісціна ўсё ж такі не хлусіла, і хворая на галаву яна, Аксана, а не тыя, каго абвінавачвала? Тады і пагатоў заслужыла цемру і боль. Цемра замяніла ёй святло, падманлівае, жорсткае і адначасова слабое, подлае і варожае, нягледзячы на тое, што быццам бы лічылася сябрам. Хутчэй сябрам у двукоссі. Інакш бы не прымушала так пакутаваць. Дзеля чаго толькі? Усё адно фінал адзіны на ўсіх. Цемра у адрозненне ад святла заўсёды аднаго колеру, прасталінейная і непахісная, а боль — быццам асалода, асабліва ў пары з цемрай. Непасвячоным не зразумець. Боль замяніў сабою ўсіх каханкаў Аксаны. Акрамя Лесі. Леся — асобны від вар’яцтва. З ёю Аксана насамрэч звар’яцела, бо інтымныя стасункі паміж дзяўчатамі апрыёры нясуць катастрафічныя разбурэнні ў псіхіцы кожнай, бо стасункі паміж імі — бязмежны космас, у які выходзіш без скафандра. Аксана не шкадавала, што мела падобны досвед, які амаль забіў і знішчыў

яе, і сумавала па ім, сумавала па Лесі. Як тая, цікава, перажывала іх разрыў? Наўрад ці гэтаксама. Напэўна, даўно забыла ўжо пра Аксану ў абдымках новай ахвяры, гатуючы для яе чарговы апакаліпсіс душы. Рэдкая сцерва. І сука. Сука! Сука! Сука! Ненавіджу яе! Ненавіджу яе і люблю!

Боль уварваўся паратункам у цела і мозг дзяўчыны, у гэтым і заключалася яго задача: выцесніць, вытравіць з памяці Аксаны ўсе згадкі пра Лесю і напоўніць яе іншымі ўспамінамі, больш прыемнымі і больш правільнымі. Ды такіх памяць Аксаны не мела, а калі мела, то яны не валодалі той моцай, якая б зладзіла з прывідам Лесі. Боль першапачаткова быў асуджаны на правал галоўнай місіі. Зрэшты, Аксана сама не дазволіла яму прайграць, і ён учапіўся ў яе з раз'юшанасцю ворага, не ведаючы, што дзяўчына, наадварот, палічыла яго за свайго лепшага сябра і кожны яго напад успрымала як ласку, чакала яе і захаплялася ім. Калі боль зразумеў адносіны Аксаны да сябе — знайшоў выхад: Лесю ў памяці дзяўчыны можна знішчыць, то бок выпаліць, бы лазерам, адно дабрацца б да закуткоў, у якіх тая хавалася. Аднак існавала пагроза парушыць клеткі мозгу, неабходныя для ўзнаўлення здароўя цела.

Хто гэта сказаў? Чый гэта голас Аксана пачула праз невыносна-салодкія сутаргі болю?

— Пад маю адказнасць, — яшчэ адзін голас, такі знаёмы, але такі непрыемны.

— Наступствы могуць быць самымі несуцяшальнымі, — зноў першы голас, заклапочаны, стомлены, мяккі, як раздушаны абрыкос.

— Я ж вам сказала: за ўсё адказваю я! — настойлівы, рэзкі, уладны голас... свякрові.

За што гэта свякроў адказвае?

Аксана не бачыла, не магла бачыць нічога, ахопленая цемрай, быццам агнём, у якім палала матыльком. Як вымавіць хаця б слова, хаця б гук? Затым боль, здавалася, раструшчыў усе яе косткі разам узятыя і кожную паасобку адначасова. Цела яе стала суцэльным болем да такой ступені, што нават цемра ў вачах залілася чырванню. Боль быццам займеў голас, ён святкаваў перамогу гучнымі выгукамі, падобнымі на гул фашысцкіх бамбардыроўшчыкаў, ён і быў фашысцкім бамбардыроўшчыкам, скідаў бомбы проста ў Аксану, і яны выбухалі ў ёй, разрывалі ўсё ўнутры, перамешвалі мазгі з вантробамі... Пакуль не прыйшла ціша. Нячутнымі крокамі кошкі, што падкрадалася да ахвяры ў драпежным запале. Зазвінела ўвушшу вясёлкавымі званочкамі ў дзіўнай аблямоўцы. Рассекла напалам вочы, як вараныя яйкі. Гэта свякроў зняла з іх плотную павязку, вызваліла ад штучна створанай цемры. Яна ж і выцягнула з рота дзяўчыны мокрую, жаваную, скамечаную шаўковую хустку, страсянула яе, каб выпрастаць, і накрыла ёю твар Аксаны, бы абрусам заслала стол. Дзяўчына паспела заўважыць перад тым, як зноў пагрузіцца ў цемру, што сапраўды спавітая ў прасціну.

Свякроў ратавала нявестку, няхай і без дазволу той, без яе жадання. Аксана паводзіла сябе неадэкватна: то гадзінамі нерухома ляжала на канапе і пазірала ў столь, ледзь-ледзь міргала і дыхала, то

кідалася зверам на Назара, лупцавала яго, драпала твар, мацюкалася так, што яе ўменню пазайздросцілі б невылечныя вар'яты і закаранелыя зэкі. Назар цярпліва выносіў гнеў жонкі, ніводнага разу не ўдарыў яе, не папракнуў, не адбіваўся. Зрэшты, прыступы агрэсіі Аксаны адбываліся нядоўга. Яна хутка выдыхалася і зноў ператваралася ў зомбі. Аднак што рабілася ў яе галаве — заставалася загадкай. Дзяўчына магла нанесці шкоду як родным, так і сабе. Свякроў разумела гэта болей за ўсіх, бо кантактавала з сынам і штодня наведвала Аксану. Бацькі Аксаны, наадварот, быццам не заўважалі праблемы. Дачка жывая — і дзякуй богу. Усё ў яго боскіх руках. Такімі набожнымі сталі, што хоць да раны прыкладай, але і пальцам не паварушылі, каб дапамагчы дачцэ. Тым не менш лічылі, што іх малітвы ў храме больш дзейсныя за рэальны клопат свацці. Мама нічога не хацела чуць пра псіхічную нестабільнасць Аксаны, з якой нешта было неабходна вырашаць і чым хутчэй, тым лепш. Бог пра яе дачку паклапоціцца, адмахвалася яна, Бог жа не сляпы, бачыць, як Аксана пакутуе, калі пакутуе, а не прыдурваецца, каб яе пашкадавалі, як маленькую дзяўчынку. Толькі Бог і можа даць рады ў выпадку з Аксанай, бо яна вялікая грэшніца, як аказалася. І яна павінна маліцца не менш за сваіх бацькоў, каб Бог, у рэшце рэшт, звярнуў на яе ўвагу. Тата падтрымліваў маму ў кожным яе слове і рашэнні, датычных Аксаны. На іх спадзявацца не было чаго, і свякроў узяла ў свае рукі лячэнне дзяўчыны. Яна

звярнулася да кампетэнтных спецыялістаў, паказала ім нявестку, распавяла перадгісторыю, што прывяла да небяспечнага стану дзяўчыны. Тыя, як адзін, вырашылі, што Аксану неабходна шпіталізаваць, прычым неадкладна, і лячыць шокатэрапіяй. Іншага паратунку яны не бачылі. Свякроў зразумела іх, але адмовіла ў шпіталізацыі і папрасіла параіць альтэрнатыўны варыянт лячэння. Аднак альтэрнатыўнага варыянту не існавала, толькі шпіталізацыя і толькі шокавая тэрапія. Тым не менш на шпіталізацыю свякроў так і не пагадзілася. Яна вырашыла лячыць Аксану ў хатніх умовах, не шкадуючы ніякіх грошай, і нават наняла доктара, які б сачыў за тым, каб лячэнне праходзіла па ўсіх правілах. Свякроў быццам загладжвала віну перад дзяўчынай, што было недалёка ад ісціны. Яна шкадавала Аксану і шчыра хацела ёй дабра, да таго ж магла сабе дазволіць дапамогу. Разам з Назарам свякроў перавезла нявестку ў свой дом і пасяліла яе ў пакоі дачкі, якая на ўсходзе краіны шукала справядлівасці пад агнём і смерцю ды марна ў гэтую справядлівасць верыла. Жанчына не сумнявалася, што тайны справядлівасці аднойчы адкрыюцца Дашы, але будзе позна. Тым не менш не жадала ёй зла і марыла, каб тая вярнулася дамоў, хоць дакладна ведала, што яна не вернецца ніколі. Доктара часова пасяліла ў пакоі сына. Той вярнуўся ў кватэру, да таго ж меў справы па бізнесе, які ўзнавіў і падпісаў дамовы з іншымі пастаўшчыкамі, больш надзейнымі, бо іх яму знайшла маці.

Лячэнне Аксаны пачалося. Жорсткае, у некаторай ступені агіднае, бо кожная тэрапія заканчвалася непрыглряднымі выдзяленнямі, якія свякроў мужна і непахісна прыбірала, абмывала дзяўчыну і рыхтавала да наступнай «экзекуцыі», якія не дапамагалі досыць працяглы час. Доктар адчайваўся, ныў пра тое, што ў шпіталі пацыентка мела б больш шансаў на выздараўленне. Свякроў спрачалася з ім, пераконвала ў адваротным, напаміналала пра грошы, якія плаціла яму. Гаварыла, што ў шпіталі дзяўчыну б даўно залячылі і ператварылі ў «овощ», а ў яго, то бок у доктара, — навейшая апаратура і лекі, так што хай не ные, а займаецца справай і верне дзяўчынку да жыцця. Доктар мусіў падпарадкавацца, бо свякроў мела рацыю, да таго ж і яму, нягледзячы ні на што, карцела давесці справу да пераможнага канца ды вырваць хворую са сквапных лап немачы. І ў выпадку поспеху пацвердзіць сваё імя ў медычным свеце, неўзабаве абзавесціся багатай кліентурай. 245

І цемра патроху саступала. З баямі, агрызаючыся, бы зацкаваны воўк, пакідала пазіцыі адну за адной, вызваляла месца і аддавала яго святлу. Лячэнне б дапамагло Аксане хутчэй, калі б яна не супраціўлялася яму, не чаплялася, як тапелец за саломінку, за краёчкі цемры і не цягнула іх на сябе, нібы коўдру, каб схавацца пад ёй з галавою. І цемра, і боль асацыяваліся дзяўчынай з зонай камфорту, губляць якую яна не жадала. Як не жадала і вяртацца да святла. Менавіта святло здавалася ёй чорным. Тым не менш Аксана адужвала і, быццам русалка, што пазбавілася лускі

дзеля таго, каб назаўжды застацца чалавекам, стрэсла з сябе апошнія кроплі цемры, якія ўмомант злізала сонца, нібы гарэзлівае кацяня — пралітае на падлогу малако. Доктар, як і меркаваў, атрымаў прызнанне і павагу сярод калег ды прызначэнне галоўлекарам у прэстыжную клініку суадноснага накірунку ў гарах. Свякроў — удзячную дачку. Так, Аксана пацягнулася да яе, бы цяля да маткі, дый жанчына прыкіпела да нявесткі, як да роднай. У любым выпадку, хто ведае, што сталася б з дзяўчынай, на якую махнулі рукой нават бацькі, калі б не рашучасць свякроўкі. Аксана квітнела, напаўнялася прыгажосцю з кожным днём, быццам карціна геніяльнага мастака. Валасы яе адраслі, іх, параіўшыся з другой сваёй маці, пафарбавала ў бялявы колер, а да вуснаў, каб адцяняць і падкрэсліваць бездакорны колер скуры, падабрала ярка-чырвоную памаду. Мама парадавалася за дачку, ухваліла даўжыню і колер валасоў ды параіла падзякаваць Богу за дзівоснае ачуньванне, бо менавіта Бог вярнуў яе да жыцця матчынымі ды бацькавымі малітвамі. Аксана не пярэчыла. Пераконваць маму ў адваротным не мела сэнсу. Галоўнае, што жывая. Тата абдымаў яе, зазіраў у вочы, быццам прасіў прабачэння за нешта, але не разумеў — за што, бо і ён не сумняваўся ў боскай літасці. Свякроў жа не казала сватам нічога, не хвалілася сабой, ведала — не пачуюць яе, не той выпадак. Дзяўчынка ачуняла — і добра, а якім чынам — неістотна. Там, у свой час, залічыцца.

Аксана вярнулася ў кватэру да Назара. Бізнес яго набіраў абароты і даволі паспяхова развіваўся, пра

што сведчылі нядаўна адкрытыя ім крамы, як тыя, што вымушаны быў закрыць, так і новыя — з адзеннем для дарослых і дзіцячую. У новай краме мужа дзяўчына набыла сабе абновак — скураную чорную прыталеную сукенку з устаўкамі з матэрыі, скуранoе паліто мужчынскага крою з каўнерам тырчком, скураную зімовую куртку, скураныя нагавіцы, скураныя батфорты. Ёй пасавалі скураныя вырабы, і яна да іх таксама адчувала прыхільнасць, падсвядома як бы баранілася імі і ад цемры, і ад святла. Ды зноў распачала фотадзейнасць, нават абвясціла пра навучальныя дзіцячыя курсы па майстэрству фатаграфавання. І, як ні дзіўна, да яе пацягнуліся дзеці. Не тое што жадаючых стала багата, але гэта быў толькі пачатак. Усю тую нерастрачаную на сваіх ненароджаных дзяцей любоў Аксана выплюхнула на навучэнцаў, галоўным чынам, дзяўчынак, цікаўных і ўважлівых, старанных і таленавітых. Яна не вучыла іх проста фатаграфаваць, бо недасведчанаму чалавеку здаецца, што ў фатаграфаванні няма нічога складанага, цісні на кнопку і здымай усё, што бачыш. Яна вучыла іх фотаздымку, распавядала, што ўвогуле такое фотаздымак, параўноўвала з карцінай, з мастацкім творам, бо фотаздымак не столькі стоп-кадр, колькі адлюстраванне секунды, адной секунды цэлага жыцця, неістотна, чыёй — чалавека, жывёлы, расліны, архітэктурных збудаванняў ці прыродных з'яў, і задача фотамастака занатаваць гэтае жыццё, стварыць свой уласны фотажывапіс, стварыць нешта прыўкраснае. Ды навучэнкі Аксаны лічылі яе саму прыўкраснай,

распавядалі бацькам, калі вярталіся дадому, якая іх настаўніца прыгожая. Паралельна з курсамі Аксана фатаграфавала. Яе працы станавіліся неаднаразовымі прызёрамі міжнародных фотаконкурсаў. Тэматычныя выставы падарожнічалі па Украіне, Малдове і Польшчы, пра іх пісалі ў СМІ, распавядалі тэлеканалы. Пасля Новага года Аксана атрымала запрашэнне ад украінскай дыяспары ў Беларусі прывезці фотаработы і правесці майстар-клас у Мінску. Яна падзялілася навінай з Назарам, хоць ён, як і раней, не цікавіўся захапленнем жонкі, але і не перашкаджаў, нават дапамагаў фінансава. Яны не жылі разам, то бок займалі адно памяшканне, але спалі ў розных пакоях. Ні Аксана не цягнулася да Назара за інтымнай блізкасцю, ні ён да яе. Іх жарсць адно да аднаго быццам заблакавалі ненароджаныя дзеці і наступствы той драмы, непасрэднымі ўдзельнікамі якой вымушаны былі стаць. Здаралася, Аксана прыходзіла да мужа сярод ночы, клалася пад бок. Яны пачыналі цалавацца і мілавацца, ды на нешта большае ў абодвух не хапала запалу. Пацалункі здаваліся прэснымі, як жуйкі без смаку, абдымкі нязграбнымі, рухі ненатуральнымі. Кожны думаў: навошта я гэта раблю і што ўвогуле раблю побач з ім (ёй)? Назар выбачаўся першы і паварочваўся да Аксаны спінай, а тая сыходзіла ў свой пакой, зачынялася, але заснуць не магла, бо фізіялогію ніхто не адмяняў. Тады дзяўчына лашчыла сябе, пры гэтым заплюшчвала вочы і ўяўляла Лесін твар, зацiснуты паміж яе ног. Яна не забыла, не забыла нічога, але і не адчувала нічога да

Лесі больш. Засталіся толькі фантазіі, дый тыя бясплодныя, як Назаравы пацалункі. Тым не менш ёй удавалася задаволіць сябе, і яна засынала. Спала спакойна, без сноў. Сны Аксане перасталі сніцца пасля шокавай тэрапіі. Як адчуваў сябе Назар, дзяўчына не задумвалася. Чаму яны не разыходзіліся і трымаліся адно аднаго? Напэўна, абодвум было зручна мець кагосьці поруч. Да таго ж Назар кахаў Аксану і не хацеў ад яе нікуды сыходзіць. Не хацеў, каб і яна сыходзіла ад яго. Усё ж яны сям'я. У адносінах да дзяўчыны ён цалкам перамяніўся, праяўляў клопат і ўвагу, няхай матэрыяльныя, але іх мог дазволіць сабе. Фізічнага кантакту не атрымлівалася, але Назара задавальняла і тое, што засталося: лепш за нічога, ці не так? Таму той факт, што Аксана звярнулася да яго за парадай, датычнай магчымай паездкі ў Беларусь, прыняў за ўласную маленькую перамогу. Па-першае, паездка не аплочвалася прымаючым бокам (навошта тады было запрашаць?); па-другое, пра Беларусь ні ён, ні яна нічога не ведалі, акрамя таго, што прэзідэнт краіны Лукашэнка, ды пра мінскія дамоўленасці па пытаннях вайны на ўсходзе Украіны, якія ніколі не выконваліся расійскім бокам. А яшчэ хадзілі чуткі, што Беларусь — апошні аплот Савецкага Саюза і жыццё там амаль такое ж, як пры Сталіне, за любое неасцярожнае слова на адрас улады адразу саджалі ў турму. «Табе яно трэба?»— так і карцела запытаць Назару ў жонкі, ды па вачах бачыў, што трэба. Аксана хацела паехаць. Баялася, але з-за страху і ў прадчуванні незвычайных прыгод яшчэ больш хацела паба-

чыць на свае вочы тое, што амаль нікому невядома тут, памацаць тое паветра рукамі, удыхнуць таго нязведанага і небяспечнага на поўныя грудзі. Разам яны пагуглілі ў інтэрнеце, адшукалі ўсе афіцыйныя відэаролікі, у якіх Беларусь падавалася казачнай прынцэсай з абавязковым слоганам «Беларусь — страна для жизни». Назар адзначыў, што краіна рускамоўная, і Аксане давядзецца размаўляць па-руску, чаго яна яшчэ ніколі не рабіла. Дзяўчыну тое не палохала. Соня ж змагла жыць у розных краінах і размаўляць на мове тых краін, дык і яна не зломак, здужае.

— Не баішся ехаць? — усё ж запытаў жонку Назар.

— Ды баюся! — не прыхоўвала страху Аксана. — Але… — развяла рукі ў бакі.

— Разумею, — сказаў Назар на гэта.



Ён вырашыў дапамагчы дзяўчыне і ўзяў усе выдаткі па падарожжы на сябе. Няхай пацешыцца, паглядзіць на тых беларусаў, з якімі ў іх даўняя агульная гісторыя, не зжаруць жа яны яе, як ваўкі якія! І Аксана пачала збірацца ў дарогу. Яна адчувала адказнасць не толькі за сваю творчасць, але і за краіну, якую мусіць прадставіць у лепшым свеце. Аксане было прыемна і ганарова, што яе працы заўважылі (як? дзе?) і захацелі зрабіць выставу менавіта ў Беларусі (пра выставы ў Малдове і Польшчы адразу забылася). Што яе чакае там? Які прыём? Якія людзі? Назар казаў не дужа спадзявацца на гасціннасць, бо, па праўдзе, як запрасілі яе, не запрашаюць ад чыстага сэрца, але ў тое не хацела верыць. Назар — практык, пабіты жыццём, ва ўсім

бачыць падвох. Яе жыццё таксама пабіла, нават зацягнула, здавалася, у беспрасветную твань, а ўсё ж веры ў людзей, веры ў лепшыя іх якасці не адабрала.

Ён завёз яе на машыне ў Львоў, бо толькі з Львова ішоў цягнік да Мінска маршрутам «Львоў — Магілёў», які адпраўляўся ў дарогу а сёмай вечара і прыбываў у сталіцу Беларусі пасля восьмай ранку. Купэйны цягнік «Мінск — Варна», што праязджаў Станіславаў і спыняўся ў ім, на жаль, чыгункай быў задзейнічаны выключна ў перыяд летняга адпачынку, інакш Аксана, натуральна, скарысталася б ім. Рэчаў з сабой дзяўчына ўзяла няшмат, не назаўжды ж з'язджала, на тыдзень, таму ўсё неабходнае змясціла ў невялікі, але ёмісты чамадан на калёсіках, а даволі вялікіх памераў фотаздымкі для выставы надзейна запакавала ў тубусе. Назар пажадаў поспеху на развітанне, доўгім і надзіва палкім пацалункам сагрэў сэрца жонкі, ад чаго яна нават расчулілася. Ён абняў яе, параіў радавацца падарожжу і прывезці дамоў дзівосныя ўражанні. Дзяўчына абяцала, што так і зробіць.

Месца ў вагоне яна выбрала яшчэ як набывала квіткі (ніжняе бакавое, каб нікому не перашкаджаць і самой не стаць прадметам увагі), адразу заслала пасцель і лягла. Неўзабаве дрымота і ўдушлівае цяпло вагона агарнулі яе. Аксана заплюшчыла вочы і пад закалыхванне цягніка адчула сябе ці не ў калысцы. Над ёю схілілася мама, маладая, і спявала калыханку. Нібы праз вату чуліся руская мова праваднiц, якія сноўдалі туды-сюды па вагоне, прапаноўвалі пасажырам чайкаву-вафлі, звінелі капейкамі; мясцовае рознагалоссе,

скаргі на духату, дзіцячыя смех і плач, мужчынскі бас. Потым вагон ахапіла ціша і прыцемак: то выключылі святло. Нехта захроп амаль адразу. Нехта варочаўся з боку на бок на мулкай паліцы. Большасць унурылася ў экраны тэлефонаў, але наўрад ці каб пачытаць адмыслова спампаваную кніжку, хутчэй, каб паблукаць у прасторы інтэрнет-сеціва. Аднак і самых адданых заўзятараў сацсетак таксама адолела змора. Святло ўключылі правадніцы сярод ночы на памежжы, папрасілі падрыхтаваць пашпарты. Пасажыры незадаволена прачыналіся, моршчыліся, пазяхалі, чухалі галовы, жываты і падпахі. Нехта пацягнуўся да загадзя падрыхтаванай ежы, бо адчуў голад. Украінскія памежнікі асабліва не затрымаліся ў цягніку, жартавалі, добразычліва жадалі шчаслівай дарогі пасля



праверкі дакументаў. Беларускія памежнікі чапляліся да пасажыраў, быццам ім не было чаго рабіць іншага, загадвалі адкрыць сумкі і чамаданы, свяцілі ў твар ліхтарыкам, параўноўваючы фота ў пашпарце з арыгіналам. Іх руская мова падавалася агрэсіўнай і нагадвала нямецкую часоў Гітлера. У Аксаны аж заняло дыханне, асабліва калі ўздоўж паліц пусцілі нешта вынюхваць нямецкую (!) аўчарку. Побач з яе суседзямі насупраць затрымаліся, бо пабачылі на адкідным століку кнігу Жадана «Інтэрнат».

— Чья? — узяў кнігу ў рукі адзін з памежнікаў, грэбліва пагартаў.

— Мая, — годна адказаў уладальнік кнігі, малады хударлявы чалавек у акулярах з адным пустым рукавом кашулі.

—Личные вещи к досмотру!— прагучаў загад.

Хлопец нязграбна нахіліўся за сумкай пад ніжняй паліцай. Тым часам памежнік вывучаў яго пашпарт. Прыкмеціў пусты рукаў.

— Из этих?.. — запытаў.

Хлопец нічога не адказаў, адкрыў сумку, але памежнік сфармуляваў да канца пытанне, удакладніўшы:

—Ну, из бандеровцев?

Напэўна, малады чалавек меў некалі дачыненне да АТА, у адным з баёў і руку страціў. Незразумела, праўда, чаго ён ехаў у Беларусь, зрэшты, прычын магло існаваць процьма. Аксану апанавала нервовая дрыготка. Яе ўнутраны бунтар не мусіў цярпець падобных паводзінаў памежнікаў, і яна не стрымалася.

— Вам няма чаго рабіць, як чапляцца да людзей? — выгукнула. — Азірніцеся вакол. Адкуль ідзе цягнік, не ведаеце? Тут усе бандэраўцы, калі меркаваць па-вашаму. 

— Барышня, успокойтесь, — павярнуўся да дзяўчыны той памежнік, што так грэбліва гартаў кнігу Жадана, акінуў яе прафесійна-вывучальным позіркам, нязграбна вярнуў кнігу ўладальніку, не гледзячы на яго, і дадаў: — До вас еще дойдет очередь.

Напэўна, ён падаў знак аднаму з калег (яны былі ўтрох), бо чарга дайшла да Аксаны зараз жа.

— Личные вещи к досмотру! — загадаў памежнік ёй.

Дзяўчына мусіла падпарадкавацца.

— Запрещенные вещи везем? — запытаў памежнік, узяў пашпарт Аксаны, хуткімі звычнымі рухамі гартаў старонкі дакумента і працягваў яе апытваць: — Сигареты? Спиртное? Наркотики?

— Не, — адказала Аксана.

— Откройте чемодан! — пачула яна наступны загад, але папярэдзіла:

— Калі вашы брудныя пальцы дакрануцца хаця б да адной маёй рэчы, чамадан можаце забіраць з сабой зараз жа. — Яна сказала гэта таму, што заўважыла непрыхаваны цікаўны бляск у вачах памежніка. Напэўна, яму падабалася прыніжаць людзей і запускаць рукі ў чужую бялізну, тым больш што закон дазваляў тое. — Але, — вяла далей, — я паскарджуся на вашы дзеянні ў пасольстве, а праз нашага пасла інфармацыя дойдзе да вашага прэзідэнта, і дзе вы тады будзеце?.. Куды падзенуцца ваша сытасць і гладкасць?..



Памежнікі пераглянуліся. Той, каму не патрафіла кніга Жадана, відаць, уважліва выслухаў пагрозу Аксаны. Напэўна, ён быў галоўным сярод тройкі. Ён жа загадаў трэцяму «прабіць» дзяўчыну. Чамадан з тае прычыны, мабыць, не праверылі і дазволілі закрыць. Затое прычапіліся да тубуса.

— Это что? — не адставаў ад яе памежнік-«фетышыст».

— Не ваша справа, — адказала Аксана.

— Послушайте, барышня, — галоўны завалодаў яе пашпартам, які перадаў яму падначалены, — нам, так же, как и вам, подобные процедуры не доставляют никакого удовольствия...

— Праўда?! — з'едліва ўставіла Аксана.

—За редким исключением, — кінуў злосны позірк на памежніка-«фетышыста». — Но это наша работа.

— Я разумею, — памякчэла Аксана.

— А вдруг там базука? — маючы на ўвазе тубус, быццам бы пажартаваў сыты памежнік.

— Ха-ха-ха, як смешна! — незадаволена чмыхнула Аксана.

— Скройся, — галоўны тройкі акінуў памежніка гнеўным позіркам, але чамусьці дзяўчына не паверыла ў яго шчырасць. Відавочна, што памежнікі забаўляліся, іх праца дазваляла падобную гульню. — Откройте все же, — настойліва звярнуўся да Аксаны.

Яна выканала тое, што ад яе патрабавалі. Памежнікі засталіся задаволенымі. Трэці з іх нешта шапнуў першаму на вуха, і ён хітнуў галавой, а затым праштэмпеляваў Аксанін пашпарт, вярнуў яго і пажадаў лёгкай дарогі.



— В этих поездах из Хохляндии в каждом вагоне найдутся те, кто обязательно поднимут нервы, — падсумаваў памежнік-«фетышыст».

Аксана зрабіла выгляд, што не пачула. Адсталі ад яе, і дзякуй богу. Пакуль упарадкавала рэчы, злавіла на сабе ўдзячны позірк хлопца з пустым рукавом. Яна адвяла ад яго бяду. Як высветлілася потым, ён вёз даволі вялікую суму грошай усярэдзіне кніг (кнігі гэтыя быццам бы чакалі на Міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы ў Мінску). Што гэта былі за грошы і каму належалі — Аксана не ведала і не хацела ведаць. Даверлівасць маладога чалавека палохала, бо нядобра патыхала чужой тайнай, а чужыя тайны заўжды выходзілі бокам тым, хто выпадкова на іх мог напароцца. Добра, што выключылі святло, і пры-

цемкі разагналі пасажыраў па сваіх паліцах. Яшчэ сем гадзін дарогі, можна і трэба паспаць, аднак сон не ішоў, гвалтам выштурханы памежнікамі некуды ў ноч. І ўсё ж Аксана заплюшчыла вочы ў спадзеве на цуд, бо адчувала нязвычную стомленасць і нервовае перанапружанне. Пад мерны грукат колаў, што выстукваў рэчытатыў быцця, змора адкінула яе на падушкі, але цалкам забыцца не ўдалося, бо падушкі аказаліся не мяккімі і паветранымі, як вата аблокаў, а нязручнымі і танклявымі, больш падобнымі не на падушкі, а на навалачкі ад іх, пакладзеныя адна на адну. На нешматлікіх прыпынках Аксана расплюшчвала вочы, патрывожаная шорхатам і пошумам рэчаў ды крокаў тых, хто выходзіў. Вызваленыя месцы заставаліся пустымі. Рэдка на якім прыпынку

вагон папаўняўся новымі пасажырамі. Нарэшце дзяўчына заснула, але перад самым Мінскам ужо, таму, раскатурханая правадніцай, няўцямна лыпала на яе чырвонымі стомленымі вачыма. Тая паведаміла, што цягнік пад’язджае да Мінска, вярнула ўзяты напачатку шляху квіток, надарваны ў кутку, параіла паціху збірацца. Аксана прыбрала пасцель і панесла выкарыстаную бялізну ў купэ правадніцы, затым чакала чаргі ў прыбіральню, каб памыць твар і пачысціць зубы. Рот увесь час шырока адкрываўся, яна не магла стрымаць пазяханне, ад чаго рабілася няёмка.

Сталіца Беларусі, як вожык з савецкага мультфільма, патанала ў тумане, які здаваўся такім густым, што яго можна было памацаць. Аксана зрабіла крок у яго, быццам у бездань. Пасля гарачыні вагона холад вуліц

быў падобны на айсберг і дрыжыкі праймалі цела. Куды ісці — невядома. Зрэшты, усе пасажыры, што сышлі з цягніка, рухаліся ў адным накірунку, і дзяўчына паспяшалася за імі. Накірунак прывёў да падземнага пераходу, збоку якога Аксана заўважыла сваё імя і прозвішча на таблічцы, што трымала ў руках на ўзроўні грудзей высокая дзяўчына ў караткаватым кажушку і пухнатай шапцы.

— Гэта я, — ткнула пальчыкам у таблічку Аксана, як толькі апынулася побач з дзяўчынай. Тая радасна прывіталася і абняла госцю. Яны яшчэ крыху пастаялі, разглядаючы адна адну, затым пасунуліся ў падземны пераход. Дзяўчына прапанавала дапамагчы з чамаданам, але Аксана адмовілася ад дапамогі, бо і самой было няцяжка.

Неўзабаве апынуліся каля чорнай «Волгі», у салон якой дзяўчына прапанавала сядаць Аксане. Кіроўца падхапіў яе рэчы і паклаў у багажнік. Аксана праслізнула на задняе сядзенне, дзяўчына села побач і загадала кіроўцу ехаць. 

Патроху саграваліся. Завязалася размова, і хутка высветлілася, што дзяўчына была жонкай другога сакратара пасольства Украіны ў Беларусі па сувязях з грамадскасцю, што яна з Мінска і выпускніца БДУ, у якім вывучала ўкраінскую мову, а потым стажыравалася ў Кіеве, дзякуючы гэтаму атрымала працу ў пасольстве, дзе і пазнаёмілася з мужам. Назвалася яна Мар’янай і распавяла, што яна надзвычай шанавала ўкраінскую культуру, пра якую ведала столькі, колькі сама Аксана не ведала, хоць

і лічыла сябе даволі адукаванай, а мова Мар’яны не выклікала ніякіх сумневаў у тым, што ўсмоктаная ў душу з малаком маці. Аксана ўважліва слухала яе, аднак раз-пораз і ў акно пазірала, бо ўсё самае цікавае было там, нягледзячы на туман і амаль бесперапынны рух машыны, якая раптам спынілася ў двары трохпавярховых будынкаў, сабраных літарай «П». Мар’яна растлумачыла Аксане, што прывезла яе на ведамасную кватэру, у якой дзяўчына пажыве, пакуль будзе ў Мінску. Яны разам падняліся на другі паверх, кіроўца нёс рэчы. Мар’яна адчыніла першыя бакавыя дзверы і запрасіла Аксану ўваходзіць. Кіроўца занёс рэчы ў вітальню і адразу сышоў. Супрацоўніца пасольства таксама не затрымалася, сказала толькі, што заедзе пасля абеду, і папрасіла Аксану адпачыць, прыняць душ або ванну і ўпарадкаваць фотапрацы, якія ў другой палове дня трэба будзе падрыхтаваць да адкрыцця заўтрашняй выставы. Аксана згодна кіўнула і... засталася адна. У чужой краіне. Праўда, з дахам над галавой. Яна разулася, распранулася і прайшла ў адзіны, але вялікі пакой з высокай столлю і шырокім акном, злева ад якога падпірала сценку шыкоўная белая скураная канапа, а справа, насупраць канапы, вісеў вялізны тэлевізар. Побач з ім, гэтаксама блізка да сцяны, знаходзіліся стол, крэсла, фатэль, піяніна. Насупраць, паміж канапай і дзвярыма, — шафа-купэ. Падлога паркетная, але накрытая дыванам, сцены ў фоташпалерах, на акне — герань за жоўтымі сацінавымі фіранкамі. На стале — фрукты, некалькі відаў соку,

нарэзаная гароднiна з салам у адмысловых сподках, пюрэ з дзвюма катлетамi па-кiеўску ў талерцы, ад якой у столь струменiлася пара, а таксама салата, яечня, некалькi чыстых шклянак. Нехта парупiўся пра сняданак, што не магло не ўсцешваць, але есцi Аксане не хацелася. Яна падышла да канапы, села на яе, адкiнулася спiнай i з асалодай выцягнула ногi. Колькi хвiлiн пасядзела так, але заплюшчвалiся вочы. Прагнаць дарожную санлiвасць Аксана вырашыла пры дапамозе ванны, да таго ж i цела быццам бы прасiла яе аб тым самым, а пасля замацаваць перамогу кавай. Яна неахвотна паднялася з канапы i пасунулася да ваннага пакоя, у дзвярах якога на гаплiчках паасобку вiселi неабходныя рэчы: вялiкi махрысты ручнiк коўдравага колеру, вафельны ручнiк i навюткi з выгляду белы шаўковы халат. Ванна зiхацела снежнай чысцiнёй. Аксана закаркавала вадасцёк, уключыла ваду, адрэгулявала яе да патрэбнай кандыцыi i вярнулася ў пакой, каб распрануцца. Зняла з сябе ўсё, не баючыся прастудзiцца: у кватэры было гэтаксама горача, як i ў вагоне цягнiка, якiм прыехала. Басанож патэпала да вады, якая прыняла яе ў свае абдымкi з удзячнасцю каханага. Гэтая ванна дазваляла выцягнуцца ва ўвесь невялiкi рост дзяўчыны, што тая i зрабiла з вялiкай асалодай. Цела яе адпачывала ў воднай прасцiне, вантробы, здавалася, нават замуркалi ў экстазе задавальнення. Мiжволi позiрк дзяўчыны зачапiўся за халат, у якiм яна раптам пабачыла Лесю. Пасля знiкнення апошняй кожная падобная рэч асацы-

явалася менавіта з ёй. Аксана не любіла вырабаў з шаўковых тканін, не разумела, чаму Соня дасылала іх ёй, неаднаразова казала праз скайп не дасылаць, але Леся захаплялася імі, як дзіця, і прыхапіла іх усе, калі сыходзіла. Аксане не хапала яе, нягледзячы на трэш, які Леся прынесла з сабой. Яна заплюшчыла вочы, уявіла, як Леся ўваходзіць у ванны пакой, аголеная, бачыць перад сабой на дзвярах халат, здымае і запаўзае ў яго змяёй: толькі Леся і ўмела вырабляць падобныя штукарствы. Вось яна сядае на краёк ванны, апускае руку ў ваду і гарэзліва пырскае ёю ў твар Аксаны. Затым гладзіць па галаве, гладзіць, гладзіць і… раптам цісне, уціскае ў ваду Аксану, трымае яе галаву ў абцугах сваіх рук і топіць, як кацяня. Аксана ў марным спадзеве на выратаванне размахвае нагамі і рукамі, каб злавіць хоць трохі паветра, якога катастрафічна не хапае, распырсквае ваду, якая пераліваецца з ванны на падлогу хвалямі, бачыць перад вачыма фіялетавыя кругі, бы ў калейдаскопе і захлынаецца. Леся адпускае яе з усмешкай. Шырока расплюшчанымі мёртвымі вачыма Аксана ўзіраецца ў Лесін задаволены твар.



Яна расплюшчыла вочы адначасова з гучным выдыхам, і дрыготка спалоху праняла яе стралой наскрозь: позіркам сустрэлася з позіркам Мар'яны, якая быццам навісала зверху і бессаромна разглядала чужую пекнату.

— Ты?! — здзіўлена працягнула Аксана і хутка дадала: — Як ты тут?..

— Маю запасныя ключы, — нязмушана адказала дзяўчына, — на ўсялякі выпадак. Я званіла, — як бы між іншым удакладніла, — ты не адказвала. Я спалохалася, каб чаго не сталася.

— Дарма спалохалася, — вымавіла Аксана. — Я ў норме.

— Бачу, — згадзілася Мар'яна і дадала: — Ды яшчэ ў якой!

— Ты пра што? — не зразумела Аксана.

— Пра цябе, — усміхнулася Мар'яна. — Кавы? — рэзка змяніла тэму.

— Так, калі ласка, — пацвердзіла Аксана.

Мар'яна выйшла з ваннага пакоя, загрымела посудам на кухні. Аксана таксама не затрымалася ў халоднай вадзе. Абцерлася насуха вялікім ручніком, расчасала валасы, уздыхнула і зняла халат з гаплічка. Халацік дужа ёй пасаваў, але кожны яго дотык да яе цела яна адчувала як дотык Лесіных пальцаў.



Кухня з электрычнай плітой, разьбяныя шафы на сценах з блакітнай кафляй і ветлівая ўсмешка Мар'яны. Дзяўчына ўжо зварыла кавы і разлівала яе з туркі па кубках, што стаялі на стале. Стол, у сваю чаргу, адным кутом утыкаўся ў лядоўню, а тая плаўна запаўняла нішу.

Аксана застыла ў дзвярах, адным плячом абаперлася аб вушак і пільна пазірала на Мар'яну. Тая, ростам вышэйшая за яе на галаву, таксама не зводзіла з Аксаны вачэй — цёмных, як кава, што разлілі па кубках. Зрэшты, твар дзяўчыны з прыгожым падба-

роддзем меў нешта лісінае, і авал яго адрозніваўся прыкметнай прадаўгаватасцю. Вузкія вусны бледнаружовага колеру пад кірпатым цікаўным носікам усё ж былі магнетычна-прыцягальнымі, асабліва ў стане ўсмешкі, якая натуральны магнетызм вуснаў павялічвала ўдвая. Вогненна-рудыя валасы падалі далёка за плечы прамымі, але рэдкімі атласнымі стужкамі і вельмі ёй пасавалі. Напэўна, іншая прычоска альбо густыя і пышныя валасы не падкрэслілі б так прывабнасць дзяўчыны. Так бывае з пэўным памерам грудзей, які надта хочацца мець. З грудзьмі, аднак, у Мар'яны ўсё было добра, прынамсі, на думку Аксаны — цвёрдая двоечка, як і ў яе самой: няцяжка насіць і смочкі тырчком, быццам маленькія дзідкі, намагаліся прарэзаць тонкую тканіну халата наскрозь. Прывабнае цела Мар'яны хавалася пад джынсавай доўгай кашуляй, больш падобнай на сукенку і перахопленай у таліі скураным раменьчыкам. З-пад расшпіленых двух верхніх гузікаў цягнулася ўверх бездакорнай формы і прыгажосці шыя — мара або скульптара, або маньяка — раптам падумалася Аксане. Размаўляла Мар'яна з лёгкай картавінкай, якая, калі і заўважалася пры размове, не рэзала слых, наадварот, разам з мяккімі шыпячымі стварала ўражанне своеасаблівага шарму.



Двубой позіркаў зацягваўся і ствараў небяспеку ненатуральнасці, да таго ж нагадваў дзіцячую гульню ў дзіваглядкі. Мабыць, Мар'яна, адчуўшы гэта, імгненна апынулася поруч з Аксанай, тая і вокам не паспела міргнуць, і прыпала вуснамі да яе вуснаў. Пацалун-

кі Мар’яны былі настолькі нелагічнымі і жарснымі, вусны настолькі настойлівымі, а абдымкі настолькі цёплымі, што Аксана пачала адказваць узаемнасцю і не менш жарсна аддаваць Мар’яне сваё цяпло. Абедзве ні пра што не думалі. Іх мозг быццам нешта выключыла. Цвярозасць наступіла раптоўна. Аксана адштурхнула Мар’яну ад сябе і склала на грудзях рукі, нібыта закрылася імі. Тая адступіла на некалькі крокаў убок. Абедзве дыхалі перарывіста і быццам задыхаліся, як пасля марафону.

— Прабач, — выціснула з сябе нарэшце Мар’яна. Дыханне яе супакоілася. — Не ведаю, што на мяне найшло, — казала проста ў вочы Аксане, чырванеючы ад сораму. — Не магла ўтрымацца чамусьці. Напэўна, з-за тваёй прыгажосці, — прызналася на здзіўленне самой сабе, — да якой пацягнула, нібы да выратавальнай выспы... Божа, што я нясу! — усклікнула яна.



— Нічога, — мовіла Аксана. — Бывае.

— Не са мной! — запярэчыла Мар’яна. — Я не лесбіянка! Я люблю мужчын! Люблю свайго мужа!

— Я разумею, — кіўнула Аксана і прапанавала: — Давай забудзем і нікому не раскажам.

— Дзякую табе за разуменне! — Мар’яна ў запале ўдзячнасці ледзь зноў не кінулася цалаваць Аксану. Тая спыніла яе рухам выцягнутай рукі.

— Пачнем спачатку, — падышла да стала, села на крэсла з высокай спінкай, пацягнулася за кубкам з кавай. — Кавы? — прапанавала Мар’яне.

— Так, — села тая насупраць.

Аднак размовы не атрымлівалася. Няёмкасць чорнай кошкай прабегла паміж дзяўчатамі.

Тым не менш яны дапілі каву. Аксана ў дадатак падсілкавалася яечняй. Усё, што засталося некранутым на стале ў пакоі, перанеслі на кухню і паскладалі ў лядоўню. Затым Аксана ў ванным пакоі пераапранулася да выхаду ў горад. На жоўты гольф нацягнула тоўсты чырвоны швэдар, на калготы скураныя нагавіцы з начосам унутры і батфорты, паўзверх куртку і шапку-берэт.

Скаванасць і непаразуменне пакінулі сябровак падчас падрыхтоўкі да выставы і развешвання прац Аксаны па сценах. Перад уваходам у будынак Мар'яна шмат распавядала пра Мінск, пра Плошчу Перамогі, на тэрыторыі якой знаходзіўся Палац мастацтваў, пра трамвайныя рэйкі, драўляны дом-музей на беразе Свіслачы, у якім адбыўся першы з'езд РСДРП, а ў доме наўскасяк жыў некаторы час Лі Харві Освальд, які застрэліў амерыканскага прэзідэнта Кенэдзі... Завяла да Вечнага агню праз падземны пераход, а потым у парк Горкага. Аксана занатоўвала ўбачанае на фотаапарат, каб нічога не забыць. Фотаапарат замяняў ёй нататнік. Яна пісала жыццё фотаздымкамі, давяраючы візуальным флюідам больш за літары і словы. Дамовілася з Мар'янай на заўтра ў першай палове дня пазнаёміцца з горадам яшчэ бліжэй. Дакладней, Мар'яна абяцала ёй машыну і кіроўцу з самага ранку ва ўласнае карыстанне, бо справы не дазволяць, на жаль, правесці час разам. У іншым выпадку яна

б з задавальненнем. Аксану адвезлі на Катоўскага, дзе літасціва дазволілі жыць у ведамаснай кватэры, кіроўца абяцаў за ёй заехаць а дзясятай. Мар'яна на развітанне горача пацiснула руку і працягнула дзяўчыне мабільны тэлефон з ужо запісанымі ў памяць нумарамі непасрэдна самой Мар'яны, кіроўцы, службы таксі (на ўсялякі выпадак).

— Навошта? — адмовілася было Аксана.—Я і так збіралася заўтра набыць беларускую сімку...

— Бачыш, як мы пра цябе клапоцімся, — перапыніла яе Мар'яна, — бо можам сабе дазволіць, бо ты наша госця і ні пра што не павінна турбавацца. Зусім іншая карціна была б, калі б ты прыехала ў Беларусь самастойна, без афіцыйнага запрашэння. А ў нашым выпадку мы клапоцімся пра цябе, разумееш? Да таго ж тэлефон гэты рабочы, і ты мусіш яго вярнуць перад ад'ездам на радзіму. Так што карыстайся халявай і ні пра што не думай. Ну, пакуль, да заўтра!

— Да заўтра! — узяла Аксана тэлефон, адступіла на колькі крокаў, паназірала, як чорная «Волга» вырулiла з двара і знікла за паваротам, ды паднялася ў кватэру. Распранулася... і адчула страшэнны голад. За цэлы дзень толькі адну яечню і з'ела ды кавы папіла. Рушыла ў кухню, вынула з лядоўні сала, адрэзала хлеба і падсілкавалася на славу, ажно за вушамі трашчала. Уключыла чайнік і папіла гарбаты з шакаладкай. Затым прайшла ў пакой, уключыла тэлевізар і расцягнулася на канапе. Па ўсіх каналах трансліравалі беларускага прэзідэнта, які Аксане не спадабаўся. Глядзець было непрыемна на яго, як

і слухаць. Дзяўчыну нават перасмыкнула. Непадрыхтаваная да падобнага відовішча, яна быццам атрымала эстэтычны шок ці накаўт. Украінскі прэзідэнт таксама не Ален Дэлон, але… якая ёй да іх, прэзідэнтаў, справа. Як і ім да яе. І ўвогуле палітыка — не жаночая епархія, адкуль там прыгажосці ўзяцца? Аксана пазяхнула і ўмомант заснула.

Прачнулася яна бадзёрая і гатовая да прыгод і цікавостак. У акно нахабна свяціла сонца, бы клікала дзяўчыну на вуліцу гарэзаваць і забаўляцца. Дзень абяцаў быць шыкоўным. Не паспела Аксана пачысціць зубы, як забрынкаў тэлефон, напярэдадні ўручаны Мар'янай. Тэлефанаваў кіроўца, паведаміў, што чакае ўнізе. Ён адвёз яе на плошчу Незалежнасці ці, хутчэй, Леніна, бо, відаць, правільней Леніна (помнік яму знаходзіцца насупраць Дома Ураду). Аксана фатаграфавала той помнік з усіх бакоў і ракурсаў. Затым захапілася Чырвоным касцёлам, які стаяў тут жа, за некалькі крокаў ад Леніна. Дзіўнае суседства, але ў чужы гарод са сваёй матыкай не лезуць. Ведала б яна, што ў савецкія часы ў Чырвоным касцёле размяшчалася кінастудыя «Беларусьфільм»!..

Кіроўца не суправаджаў Аксану, каб не перашкаджаць, сказаў адно, што будзе непадалёк, ды паказаў рукой у бок праспекта, маўляў, рухайся наперад па прамой і нікуды не зварочвай. Яна і не зварочвала, не адрываючы вока ад камеры.

Мінск выглядаў прыгожа, прынамсі, праспект, на якім апынулася Аксана. Чысты, быццам вылізаны, без снегу і смецця, на кожным кроку сметніцы,

праўда, мінакоў бракавала, што дзіўна для сталіцы. Мова выключна руская, па-беларуску не размаўляў ніхто з тых, хто сустракаўся на шляху. Твары пераважна заклапочаныя, шэрыя, з вачыма ў зямлю. Траплялiся і ўсмешлівыя, але рэдка, і тое належалі вельмі маладым людзям, напэўна, першакурснікам і першакурсніцам з перыферыі. Аксана не прапусціла ніводнага. Яе вока фіксавала праз фотааб'ектыў усё. Міжволі варухнулася ў галаве лянівай змяёй першая думка аб будучай выставе ў Станіслававе выключна партрэтных фота з тварамі беларусаў.

...Час бег ледзь заўважным гарэзлівым зайчанём. Захопленая архітэктурай праспекта, Аксана несупынна шчоўкала фотаапаратам. Не тое, каб яна пабачыла нешта звышнатуральнае — і Станіславаў, і Львоў у гэтым плане пераўзыходзілі Мінск,— але і ў ім таілася нешта таемнае ды невыказнае, што зачароўвала, будзіла фантазію і ўражвала. Да каменных будынкаў, да якіх нават прыхiналася шчакой, каб адчуць дотык гісторыі, і якія з вялікай неахвотай мінала, карцела вяртацца зноў і зноў.

Калі пачала фатаграфаваць будынак КДБ, не маючы, праўда, ніякага ўяўлення пра яго прызначэнне, з дзвярэй, знянацку расхінутых насцеж, выскачылі, быццам чэрці з пекла, двое дзецюкоў у чорнай, ці не эсэсаўскай, форме і рашучаю хуткаю хадою накіраваліся ў яе бок. Аксана скурай адчула небяспеку, але ногі нечакана здрадзілі ёй і нібы акамянелі. Тым не менш яна працягвала фатаграфаваць, ды не будынак ужо, а, здавалася, твары мутантаў (так былі перакоша-

ны абліччы мужчын), што набліжаліся да яе з сілай непазбежнасці. Іх аддзяляла адлегласць у некалькі крокаў, Аксана міжволі заплюшчыла вочы, як дзецюкі раптам павярнулі назад і зніклі за дзвярыма. Дзяўчына расплюшчыла вочы, пакруцілася на месцы: бамбізаў, што напалохалі яе, і след прапаў. Мо ёй падалося? Бывае ачмурэнне нейкае незразумелае... Аднак на фота яны захаваліся, і, напэўна, фота атрымаліся выдатнымі. Містыка. Аксана азірнулася вакол, сустрэлася позіркам з каменным позіркам уважлівых вачэй Дзяржынскага, помнік якому стаяў насупраць праз дарогу, у аднайменным скверыку, і ёй нават падалося, што галоўны савецкі чэкіст ёй падміргнуў. Зразумела, яна і яго шчоўкнула на памяць.



На самай справе мацакоў пазваў кіроўца чорнай «Волгі», які пільна сачыў за кожным крокам Аксаны. І ён, і Мар'яна служылі ў КДБ у аддзеле міжнародных стасункаў і насілі на плячах зорачкі афіцэраў вышэйшага рангу. Іх адмыслова прыставілі да госці з Украіны, прычым не проста з Украіны, а з Украіны ўкраінскай, іншымі словамі «бандэраўскай», як лічылі ў савецкія часы, дый цяпер шмат хто так думаў, асабліва пасля распачатых вайсковых падзей на Данбасе. Ніякіх шпіёнскіх гульняў з ёю граць ніхто не збіраўся. Беларусь прытрымлівалася мірнага ўрэгулявання канфлікту і не лезла ў чужую вайну, але культурныя стасункі, зніклыя цалкам у 1991 годзе, намагалася наладзіць, прынамсі, калі не ўся Беларусь, то некаторыя яе структуры. Аксане пашанцавала трапіць у распрацаваную праграму па наладжванні стасункаў і абменах

досведам у адмысловых культурніцкіх прафесійных дасягненнях, пра што, зразумела, не ведала і ведацьме не павінна. Мар’яна, як філолаг і мастацтвазнаўца па адукацыі, адказвала за аперацыю. Менавіта ёй было даручана абраць з шэрагу заходнеўкраінскіх творцаў некага аднаго і запрасіць у сталіцу Беларусі, так бы мовіць, зладзіць праграму, паглядзець, ці спрацуе. Яна вагалася нядоўга: фатаграфіня з імем у Еўропе, а ў перспектыве і з сусветным імем — тое, што трэба. Персанальная выстава Аксаны ў Мінску — стратэгічны ход дзеля поспеху ў будучыні. Фотамастачка больш яскрава, а галоўнае, лепш за пісьменніка, жывапісца ці музыканта распавядзе свету пра Беларусь, пра яе гатоўнасць да супрацоўніцтва з кожнай краінай свету, да развіцця, напрыклад, турыстычнага бізнесу, бо і ў Беларусі, якая мела не меншую гісторыю за іншыя турыстычныя дзяржавы, было што паглядзець і чым пахваліцца. Дый непасрэдная прысутнасць самой Аксаны ў Мінску — падзея, пра якую не змаўчаць СМІ. Мар’яна загадала кіроўцу не перашкаджаць дзяўчыне фатаграфаваць усё, што той пажадаецца, няхай адчувае сябе вольна і нязмушана. У свой час Мар’яна асабіста адкарэктуе тое, што Аксана нафатаграфуе. І той паслухмяна выконваў загад. Паўдня нябачным ценем ці нават анёлам-ахоўнікам соваўся за дзяўчынай, пакуль не надышла хвіліна везці яе на кватэру, каб яна спакойна падрыхтавалася да выставы. Сказаў ёй на развітанне, што заедзе ўжо з Мар’янай за паўгадзіны да пачатку мерапрыемства. Аднак Аксана вырашыла не чакаць іх. Яна пераапранулася: скі-

нула швэдар і праз ногі нацягнула на сябе скураную сукенку, якая выгадна падкрэслівала яе прывабнасць і прыемна лашчыла цела падкладкай. Доўга думала, ці пакідаць скураныя нагавіцы. У выніку замяніла іх на цёплыя калготы, бо тыя больш пасавалі да сукенкі. Батфорты, куртка, шапка-берэт, вядома, чырвоная памада, фотаапарат пакінула ў кватэры (няхай адпачне), некалькі батарэй ад яго паставіла на зарадку, але карту памяці прадбачліва вынула і захавала ў кішэньцы партаманета, дзе чакала свайго часу іншая карта памяці, фотаздымкі з якой мусілі першапачаткова скласці змест экспазіцыі ў мінскім Палацы мастацтваў, ды чамусьці яшчэ ў Станіслававе раптам перадумала, палічыла, напэўна, небяспечным для самой сябе, бо не ведала, як сустрэнуць яе ў Беларусі. Тая серыя, якою афарміла разам з Мар'янай выставачную залу на другім паверсе, таксама неблагая, але ж пастановачная, мімімішная, хоць і з яе непаўторным стылем, занадта прыгожая, каляровая, нават вясёлкавая. Адлюстраванне бестурботнага жыцця краіны, у якой каторы год ішла вайна. Натуральна, жывое — жывым, нічога дрэннага ў падобных фота няма, але ў іх адсутнічала праўда. Аксана зразумела гэта ўдзень, фатаграфуючы Мінск. Яна павінна паказаць тое, пра што маўчаць нават у яе краіне, і не хавацца за прыгожымі карцінкамі. Двойчы дзяўчына ездзіла ў зону АТА з валанцёрскай місіяй, яе фотаапарат занатоўваў убачанае з прагнасцю галоднага сабакі, затым яна пабывала ў шпіталях, фатаграфавала параненых. Асобным блокам працавала над партрэтамі жанчын на вайне.

Блок усё яшчэ знаходзіўся ў распрацоўцы, але штонішто, якое ўжо не сорамна было паказаць, мелася. Аксана планавала запусціць праект напоўніцу ўлетку, але першы крок можна зрабіць тут і зараз. Яна выклікала таксі і выйшла на вуліцу. Неўзабаве пасігналіў жоўты «Фольксваген». Аксана села ў салон, назвала пункт прызначэння. Па-харошаму, варта было патэлефанаваць Мар’яне, папярэдзіць, каб не заязджала па яе. Аднак, як хутка высветлілася, тэлефон застаўся ў кватэры, у задняй кішэні скураных нагавіц. Мо і да лепшага. Кіроўца таксі слухаў шансон. Напэўна, таксісты паўсюль аднолькавыя.

У хуткім часе апынулася на месцы, разлічылася з таксістам і юркнула ў пад’езд дома з рэдакцыямі газет «Вячэрні Мінск» і «Голас Радзімы». На першым паверсе ў ім мелася служба друку з розных носьбітаў інфармацыі. Аксана заўважыла яе адразу яшчэ ўчора, бы прадчувала, што спатрэбіцца. Запытала ў супрацоўніка, ці магчыма раздрукаваць фота на паперы памерам з ватманскі аркуш. Ён прамармытаў нешта, а пасля дадаў, што будзе дорага каштаваць. Яна пацікавілася: колькі? Той назваў кошт аднаго аркуша. Аксана прыкінула ў галаве наўскідку — якраз атрымлівалася на замену ўсёй экспазіцыі, безумоўна, амаль усе грошы аддаць трэба, але квіток на зваротную дарогу набыты загадзя, таму хвалявацца не было чаго. Пакуль раздрукоўваліся фотаздымкі, час здаваўся флегматычным дзядком, дужа флегматычным, які сядзеў на крэсле поруч, абапіраючыся на кіёк, і паволі-паволі вымаўляў словы, якія не

спяшаліся складвацца ў сказы, а таму здаваліся адначасова і трызненнем вар'ята, і адмысловым шпіёнскім шыфрам. Нарэшце Аксана атрымала фота, разлічылася і пабегла ў Палац мастацтваў. За гадзіну да адкрыцця яна адну экспазіцыю пераўтварыла ў кардынальна іншую. Амаль ад кожнай яе працы прабіралі мурашкі. Эфект уражання ўзмацняўся яшчэ і ад чорна-белага колеру фотаздымкаў, нават карычневага. Мар'яна, якая з'явілася праз пятнаццаць хвілін з намерам выказаць незадаволенасць паводзінамі госці, літаральна аслупянела пасярод памяшкання з экспазіцыяй. Убачанае павыкідала з яе галавы ўсе папярэднія негатыўныя эмоцыі, звязаныя з Аксанай, якая на самай справе, без варыянтаў, з'яўлялася вялікім мастаком. Эстэтычны густ Мар'яны задаволена вуркатаў, як сыты кот, недзе ў паднябенні.



— Гэта ўсё ты?! — усё ж выціснула з сябе, хоць пытанне і не патрабавала адказу. Ён знаходзіўся перад вачыма відавочнай непарушнай сцяной.

Аксана сарамліва кіўнула.

— І гэта цяпер? — зноў не ўтрымалася ад глупства Мар'яна, быццам звычайная хатняя гаспадынька, неабцяжараная вышэйшай адукацыяй і мазгамі.

— Не, блін, у Сталінградзе, — сумна ўсміхнулася Аксана.

— Прабач, — кінулася да яе Мар'яна і моцна абняла, — прабач. Я не хацела цябе пакрыўдзіць.

— Не сярдуеш на мяне? — запыталася Аксана. Што ні кажы, але яна як бы падвяла Мар'яну: забы-

лася тэлефон, самастойна з'ехала ды яшчэ памяняла экспазіцыю.

— Усё добра, — супакоіла яе Мар'яна і пільна паглядзела ў вочы: — Гэта ж эксклюзіў? — узмах галавы ў бок экспазіцыі.

— Так, — не адмаўляла Аксана. — Пакуль нідзе менавіта гэтыя фота не выстаўляліся.

— Ты золата! — пахваліла яе Мар'яна.

Хваляванне ўсё ж не пакідала Аксану, асабліва яно ўзмацнілася перад самым адкрыццём выставы — афіцыйным і ўрачыстым. Існавала небяспека неразумення, непрыняцця прысутнымі таго, што яны пабачаць на фота. Зрэшты, баялася яна дарма. Жадаючых пабачыць выставу хапала, да таго ж адкрывалі яе чыноўнікі абедзвюх краін, кідаліся гучнымі пафаснымі фразамі пра сяброўства, доўг і агульную гісторыю. Мар'яна хораша сказала пра Аксану і як пра чалавека, і як пра мастака, натхнёна прамаўляла, быццам чытала верш каля дошкі перад класам у школе, гаварыла пра яе працы і ўвогуле фотамастацтва, затым перадала слова непасрэдна ёй. Аксана адчувала сябе вучаніцай малодшых класаў сярод паважных дарослых, нават разгубілася, бо распавядаць пра ўласныя работы не ўмела і не любіла, на іх трэба было глядзець. Усё, што яна хацела сказаць ці адлюстраваць, — знаходзілася на фотаздымках, красамоўней за іх нікому не распавесці. Ёй пляскалі ў далоні, хоць дужа разумнага яна нічога не сказала, віншавалі, уручылі нейкую грамату і букет бледнаружовых ружаў. Мар'яна накіроўвала і размяркоўвала

аўдыторыю па нябачных сектарах, каб паўней ахапіць той абшар убачанага і спайманага фотааб'ектывам Аксаны, які павенен быў запоўніць сабой не толькі вочы і розум, а і пранікнуць у сэрцы гледачоў. У які-сьці момант Аксана заўважыла, што засталася адна стаяць, як помнік самой сабе, пасярод памяшкання з недарэчнай і грувасткай граматай у руках. Кветкі Мар'яна прадбачліва перахапіла і палажыла на стол недзе ўбаку. Чамусьці захацелася плакаць, ва ўсякім разе вочы набрынялі слязьмі. Хаця навошта плакаць? Усё ж добра. Нават людзі прыйшлі, зацікаўлена разглядалі яе фота, часам захоплена, часам не дужа, але ўспрымалі добразычліва, не адварочваліся, не абураліся. Можна сказаць — адкрыццё выставы прайшло паспяхова. Больш за тое, людзі не разы-

ходзіліся і іх колькасць павялічвалася. Вось якраз, пахістваючыся, зайшоў яшчэ адзін цікаўны глядач, спыніўся каля фота з выявай смяртэльна параненай дзяўчыны-байца, якая напаўсядзела, прыхінуўшыся спінай да сцяны разбуранага бясконцымі снарадамі будынка. Левы бок яе цямнеў чорнымі плямамі крыві, правае плячо да перадплечча таксама было афарбавана крывёй, лоб і правая шчака ў крывападцёках, побач з параненай і забруджанай рукой — аўтамат. Над дзяўчынай схіліўся камандзір. Ён упаў на калені і павесіў галаву. На костачках яго пальцаў, быццам кароста, застылі бруд і кроў. Дзяўчына пазірала на яго з болем, але за каго — за сябе ці за яго — яшчэ тое пытанне. І тут жа, амаль усутыч, іншы фотаздымак. На ім дзве дзяўчыны-байцы цягнуць трэцюю,

параненую, за бронік. У аб’ектыў выразна патрапіла адна з тых, што цягне, з перакошаным ад натугі і перамазаным брудам і крывёй тварам. Яна таксама ў броніку. Паўзверх чорнай безрукаўкі, але без каскі, саламяныя валасы, што вызваліліся ад перахопленага гумкай хваста, тырчаць і навісаюць над вачыма, у вольнай руцэ — аўтамат. Другая дзяўчына ў форме па ўставе, але яе твару не бачна. Галава параненай дзяўчыны ўціснута ў бронік, бы галава чарапахі ў панцыр, твар — крывавая маска з шырока разяўленым ротам, напэўна, ад уласнага крыку. Голыя чорна-белыя рукі вісяць плецьмі, а пальцы ламаюць пазногці аб зямлю, за якую чапляюцца, як за жыццё. Задраная да пупка безрукаўка, жывот з тату, здранцвелыя ногі ў вайсковых чаравіках. І сонца ў бязвоблачным небе.



Аксана не заўважыла, як апынулася каля мужчыны, што застыў насупраць гэтых двух фотаздымкаў, бы спаў. На самай справе ён уважліва глядзеў на іх, а для паўнаты ўспрымання прымружыў вочы. Рост крыху вышэйшы за сярэдні, хударлявы, але не зломак, і на адлегласці адчувалася ўнутраная моц з некаторай нават доляй непахіснасці, нягледзячы на тое, што мужчына ўсё ж пахістваўся з боку на бок, быццам мядзведзь, з якім, калі прыгледзецца, меў падабенства. Ён не звяртаў увагі на дзяўчыну, разглядаючы скрадзеныя ў жыцця моманты. Зачасаныя назад хвалістыя валасы і барада з-за сівізны (хоць старым загадкавага незнаёмца цяжка было назваць, магчыма, узрост яго дасягнуў саракагадовай мяжы) выглядалі пафарбаванымі. Пад высокім лобам тырчалі дзіды

броваў, рыхтык маленькія антэны. Зразумела, яны мелі правільную дугападобную форму, але асобныя валаскі, загнутыя ўгору, выглядалі сапраўды інструментамі прыняцця інфармацыі з космасу.

— Гэта альбо геніяльны падман, альбо не менш геніяльнае бачанне і інстынкт своечасовай прысутнасці, вы не знаходзіце? —вымавіў мужчына запаволеным глухаватым хрыпатым барытонам, але не павярнуўся да Аксаны ні на міліметр, таму яна не адразу зразумела, што звяртаўся ён да яе.

— Вы мне? — усё ж вырашыла ўдакладніць, хоць побач больш нікога не было.

— Напэўна, — у тым жа тэмпе адказаў мужчына і зноў не павярнуўся да суразмоўніцы. Навошта тады ўвогуле загаварыў з ёй? Але размаўляў ён, у адрозненне ад астатніх, па-беларуску, што прымусіла Аксану застацца на месцы і, як заваражонай, услухоўвацца ў кожнае слова, вымаўленае ім. Мова з вуснаў незнаёмца сцякала мёдам ёй на грудзі і здавалася чароўнай казкай. Тым не менш сама дзяўчына чамусьці звярнулася да мужчыны па-руску.

— И что вы имеете в виду? — спытала, закранутая за жывое.

— Фота, прынамсі, гэтыя два, — развіваў думку той, не адрываючы ад прац Аксаны вачэй — зялёных, як трава, — выглядаюць цалкам пастановачнымі, адрэпетаванымі настолькі, што верыш кожнаму позірку персанажаў, той бяздані і адчаю, што засяроджаны ў іх вачах. У аўтара фота відавочна рэжысёрскае бачанне, якому героі фота слепа падпарадкоўваюцца...

— Ды як вы можаце?! — мова мовай, аднак тое, што прамаўлялася на ёй, Аксане не падабалася. Кім быў гэты затарможаны флегматык?! Ад абурэння дзяўчына не знаходзіла слоў запярэчыць і прысароміць нахабніка.

— Якраз я і магу, — нарэшце зрабіў ласку мужчына і зірнуў убок Аксаны мутным вокам. Ды ён, не інакш, п’яны!

— Напіліся, будзьце чалавекам, — прашыпела, бы змяя, дзяўчына. І нават мова незнаёмца пачала нагадваць яд.

— Вы мне не паверыце... — пачула Аксана, відаць, спробу апраўдання, таму рашуча перапыніла яго.

— Не паверу! — сказала, як адрэзала.

— Вы мне не паверыце, — паўтарыў мужчына, быццам не пачуў рэплікі дзяўчыны, — але я не п’ю. Не п’ю зусім яшчэ са студэнцкіх гадоў пасля таго, як атруціўся алкаголем. Магчыма, вас падманула маё вымаўленне і стомленыя вочы. Я сапраўды стаміўся, бо цэлы дзень у надзвычай напружанай атмасферы праводзіў даволі складаную рэпетыцыю, а заўтра прагон.

— Праўда? — Аксане хацелася верыць яму. Прыгледзелася, і сапраўды вочы стомленыя, з рудымі бялкамі ў чырвоных нітках танюткіх сасудаў.

— І яшчэ якая, — пацвердзіў.

Аксана хацела яшчэ штосьці дадаць ці спытаць у яго, аднак перашкодзіла раптам узніклая, быццам з ніадкуль, Мар’яна, якая, як са старым знаёмым, прывіталася з мужчынам ды ў дадатак пацалавала яго ў зарослую барадой шчаку.

— І ты тут? — падсумавала. — Якім лёсам?

— Ды вось, завітаў на аганёк, — паціснуў плячыма той.

— І як табе? — зрабіла Мар'яна ўзмах рукой у бок экспазіцыі.

— Пазнавальна, — коратка адказаў мужчына і тут жа пацікавіўся ў Мар'яны, ці мела яна дачыненне да мерапрыемства. Зразумела, тая дала станоўчы адказ, пасля чаго пачала распытваць пра асабістае. Аксана пераводзіла позірк то з Мар'яны на мужчыну, то з мужчыны на Мар'яну, адчувала сябе лішняй, аднак нікуды не сыходзіла, захопленая ці не слоўным двубоем. Суразмоўнікі ж у запале размовы, здавалася, забыліся на ўсё і ўсіх вакол без выключэння. І тым не менш Аксана, бы прыклееная да падлогі, заставалася на месцы, пакуль Мар'яна з незнаёмцам не ўспомнілі і не павярнуліся да яе тварам разам.



— Знаёмцеся, — схапіла Мар'яна дзяўчыну за руку і пацягнула на сябе. Аксана міжволі апынулася бліжэй да мужчыны на некалькі крокаў. — Янка Чэпік, — першым назвала імя і прозвішча мужчыны, — славуты беларускі рэжысёр...

— Сумніўна славуты, — важка ўставіў Чэпік рэпліку і тэатральна схіліўся перад Аксанай у паклоне. Тая зрабіла кніксен у адказ, а Мар'яна назвала імя дзяўчыны і паведаміла, што экспазіцыя — яе справа, менавіта яна аўтарка ўсіх фотаздымкаў, прадстаўленых тут. — Ага, — прымружыў вочы Чэпік.

Аксана паціснула працягнутую мужчынам руку і раптам засмяялася. Славуты рэжысёр выглядаў разгублена і вачыма прабачаўся за бестактоўныя паво-

дзіны, якія ён дазволіў сабе, бо не ведаў, хто перад ім. Але больш за недарэчны выгляд Чэпіка Аксану смяшыла яго імя. Так, гучала яно нязвыкла, неяк па-дзявочы і не пасавала такому ўпэўненаму і самавітаму чалавеку.

— Не ведаю прычыны вашага смеху, — заўсміхаўся ён аднымі вуснамі (усмешка яго заўжды была такой стрыманай, бо саромеўся, відаць, пракураных жоўтых зубоў). — Але мне падабаецца ваш настрой.

— Можна я потым як-небудзь раскажу? — хуткім рэчытатывам пралапатала Аксана, і зноў смех душыў яе.

— Мы тут абмяркоўвалі тое-сёе, — паспрабаваў растлумачыць Чэпік Мар'яне прыступ смеху яе падапечнай. — І я дазволіў сабе, мабыць, лішняе ды яшчэ заахвочваў Аксану згаджацца са мной.

— Мужчыны! — адным словам, трапна ахарактарызавала ўчынак Чэпіка Мар'яна. 

— Я гатовы выправіцца ў любы час дня і ночы! — ускрыкнуў ён.

— Лаўлю вас на слове, — падхапіла яго фразу Аксана. — За язык вас ніхто не цягнуў, — і какетліва павяла плечуком.

— О-ля-ля, — гульнёвы настрой Аксаны перадаўся і Мар'яне. —Якая інтрыга! — позірк у бок Чэпіка. — А ты, сяброўка, — падміргнула дзяўчыне, — тая яшчэ спакусніца-хітруха!

— А то! — не разгубілася Аксана і спакуслівa паглядзела на Чэпіка.

— Дык, можа, гэта, — прамовіў той, — прагуляемся?

— Калі? — спалоханымі матылькамі затрымцелі вейкі Аксаны ў прадчуванні нечага незвычайнага. Ёй карцела апынуцца сам-насам з гэтым Чэпікам, цягнула да яго з невытлумачальна страшнай сілай, хоць не ведала ні каліва ні пра тое, хто ён такі і што за чалавек, ні пра тое, як увогуле падобнае магчыма. Аднак разумела, што гэта проста гульня ў словы, веры якім няма і быць не можа.

— Ды зараз, — адказаў Чэпік і так пагляздеў на дзяўчыну, такімі шалёна-чароўнымі вачыма, што адмовіць ім яна не асмелілася. Дакладней, не захацела адмаўляць, бо чакала менавіта падобнай прапановы, хоць і не разлічвала на яе, прынамсі, у той канкрэтны момант, нават унутрана паспела падрыхтавацца да вымушанага расчаравання ў выпадку якой-небудзь адмазкі.



— Чаго застыла, як вадой аблітая на марозе? — штурханула яе Мар'яна ў плячо, бо паўза зацягвалася пасля апошняй вымаўленай фразы Чэпіка.

— Я не супраць, — ціха прашаптала Аксана ў падлогу, але Чэпік пачуў усё, што хацеў.

— Ну, тады ідзі, — пачула і Мар'яна, — мы тут самі. Адно заўтра не забудзь, у цябе майстар-клас, і я заеду... — Яна не дагаварыла і без паўзы звярнулася да Чэпіка: — Адказваеш галавой за госцю сталіцы!

Той кіўнуў. Яму давяралі. Прынамсі, Мар'яна. Яны разам вучыліся. Праўда, Чэпік да паступлення ў «кулёк», дзе дзяўчына атрымлівала другую вышэйшую адукацыю, паспеў паслужыць у войску і ў міліцыі. Расчараваўся ў першай службе і ў другой, бо справядлі-

васцю, якую мусілі несці папераддзе, як «сцяг брыгады», і ахвяраваць сабой дзеля яе, і войска, і міліцыя не былі гатовыя. У войску адмыслова і мэтанакіравана знішчаўся чалавек як асоба і ператвараўся ў пакорлівую механічную шрубку, заточаную на бясспрэчнае выкананне загадаў, якімі б бязглуздымі яны ні былі. Малейшы супраціў караўся з асаблівай жорсткасцю, часам гэта магло скончыцца і летальным сыходам. Так званыя бунтары толькі перашкаджалі бездакорнай дысцыпліне агульнага калектывізму. Войска ўсё ж структура калектыўная, але пабудаваная на іерархіі падпарадкавання. Тым не менш нязгодных не шкадавалі і, калі тыя гінулі, лічылі, што туды ім і дарога. «Бабы яшчэ нараджаюць»,— саркастычна пасміхаліся, цытуючы маршала Жукава, чые словы браліся за дэвіз у падобных выпадках. Чэпіка зламала сістэма праз некалькі месяцаў пасля прысягі, аднак ён не загінуў, бо не хацеў паміраць, неяк прыстасаваўся і нават даслужыўся да лычак сяржанта. Яму прапаноўвалі застацца на звыштэрміновую. У адказ ён плюнуў пад ногі вярбоўшчыку, чым выказаў усю сваю незадаволенасць сучасным войскам і грэблівасць да яго. У міліцыі, куды Чэпіка прынялі без лішніх слоў і затрымак, амаль тая ж карціна. Ён думаў абараняць людзей і дапамагаць ім, а мусіў ад тых людзей абараняць уладу, стаяць у ачапленні падчас апазіцыйных мітынгаў і прымяняць спецсродкі супраць звычайных працаўнікоў, студэнтаў, хлопцаў, дзяўчат, нават дзяцей. Аднойчы Чэпік адмовіўся ад «пачэснай» місіі і неблагога заробку, бо плаціла дзяржава за яе шчо-

дра, і дэманстратыўна адышоў убок. Побач з ім адразу апынуліся журналісты апазіцыйнага блоку, пачалі задаваць дзіўныя пытанні, на якія ён не ведаў адказаў, бо лічыў тыя пытанні бязглуздымі, як і саму сітуацыю. Атрымаў «хвіліну славы» ў навінах на Белсаце, выклік на «ковер» да начальства і гучнае звальненне. Ён тады ад крыўды і абразы крыху перапіў і надэбашырыў у родным аддзяленні, за што ледзь не прысеў на некалькі гадоў у Жодзіна, але атрымаў усяго пятнаццаць сутак, якіх хапіла, каб перагледзець папярэдняе жыццё і задумацца пра будучае. Чэпік заўсёды любіў чытаць, аднак сам пісаць не змог бы, і гэта факт, як ні прыкра ў тым прызнавацца. Затое няблага ў яго атрымлівалася перарабляць літаратурныя творы ў інсцэніроўкі і рабіць з іх сцэнічныя эцюды, што ў войску і ў міліцыі ацанілі, бо толькі дзякуючы яму перамагалі на злётах мастацкай самадзейнасці паміж акруг і часцей, а напярэдадні прафесійных святаў ён увогуле пачуваў сябе богам: нават генералы прыходзілі парукацца і паабяцаць усё, што заўгодна, праўда, у наступную хвіліну адразу ж і забыць пра свае абяцанні. Але справа не ў тым. Чэпік намацаў сваё прызванне. І паступіў на рэжысёрскае аддзяленне культуралагічнага факультэта сталічнага Інстытута культуры, дзе яшчэ студэнтам зарэкамендаваў сябе як перспектыўны ў галіне тэатральнай рэжысуры. На яго курсавыя сцэнпрацы прыходзілі паглядзець паважаныя рэжысёры, а ў аўдыторыі не было куды яблыку ўпасці. Дзяўчаты ўсіх курсаў з акцёрскага факультэта марылі патрапіць яму на вока, каб атрымаць хоць якую роль-

ку. Ён быў бескампрамісным, таленавітым, амбіцыйным, але не снобам і не жлабом. Калі некаму абяцаў ролю, абавязкова даваў яе. Але вельмі пераборліва ставіўся да патэнцыйных актрыс. З першага позірку мог разгледзець, што ў кожнай з іх за душой, і ніколі не памыляўся. Мяняў дзяўчат, як паштовыя маркі, якія збіраў у дзяцінстве, без адчування віны і дыскамфорту. З Мар'янай у яго нічога не было. Яны проста разам вучыліся, перасякаліся на паточных лекцыях, не больш за тое. Неяк ён ўратаваў яе ад хуліганаў, якім не падабалася мова, што выплывала з вуснаў дзяўчыны, нагадваючы пра нацыянальнае адраджэнне, і лунала паўзверх галоў «слуцкімі паясамі». Кожнае быдла, што ўпарта разрасталася ўшыркі і паглынала мястэчкі ды паселішчы, ператвораныя ў новыя раёны сталіцы, імкнулася пазбавіцца ад калгаснасці і вясковасці, а таму размаўляла выключна па-руску, і мова краіны, пачутая імі ў горадзе, раздражняла больш за ўсё і выклікала некантраляваныя прыступы нянавісці да яе носьбітаў, асабліва калі той носьбіт прыгожая дзяўчына інтэлігентнага выгляду і паходжання. Быдла лічыла Мінск сваім на сто адсоткаў і абыдлячвала яго з імпэтам вірусу, асабліва ў стане алкагольнага ўзбуджэння, калі берагі прыстойнасці і павагі да іншых гублялі свае абрысы ў туманным сутонні дэградацыі. Нацыянальная мова, ад якой быдла ўцякло ў сталіцу, на мінскіх вуліцах і ў дварах успрымалася яго прадстаўнікамі як асабістая абраза. Баялася быдла толькі сілу, нейкім чынам паўплываць на быдла словам не ўяўлялася магчымым. Мар'яне пашанца-

вала, што менавіта Чэпік ішоў тады тым завулкам, на якім сустрэлі яе аматары «русского мира», а не які-небудзь іншы студэнт, бо іншы, хутчэй за ўсё, прайшоў бы міма з заклапочаным выглядам (мужчынскі кантынгент гуманітарыяў у асноўнай масе сваёй ніколі не вылучаўся адвагай і рашучымі дзеяннямі, хіба што на словах). Чэпік раскідаў злыдняў трыма дакладнымі ўдарамі ног, што прамільгнулі перад іх вачыма нажніцамі, і яны адразу збеглі куды падалей у павазе да сілы. Мар'яна падзякавала, пазнала Чэпіка, яны разгаварыліся, і Чэпік прасякся тым, што дзяўчына казала пра мову, гісторыю і нацсвядомасць, бо да гэтага нават не задумваўся пра нешта падобнае. Можна сказаць, дзякуючы Мар'яне Чэпік неўзабаве пачаў размаўляць выключна па-беларуску, хоць сама Мар'яна

проста выкарыстоўвала мову, каб вылучыцца. Тым не менш валодала яна ёю на вышэйшым узроўні, гэтак жа як украінскай, рускай, англійскай і французскай. Чэпік захапіўся мовай толькі таму, магчыма, што яна патрабавала абароны, а яму неабходна было кагосьці ці штосьці абараняць, бо, нягледзячы ні на што, ён па-ранейшаму асацыяваў сябе з абаронцам слабых і справядлівасці.

Аксана слухала Чэпіка з адкрытым ротам. Яна надзвычай любіла гісторыю, і гісторыя сыпалася на яе дакладнымі датамі, як снег на плечы. Чэпік распавядаў такія цікавосткі пра розных беларускіх гістарычных асоб, якія, дарэчы, мелі дачыненне і да гісторыі Украіны, што адно паспявай запісвай. Потым дзяўчына пашкадуе, што не запаслася дыктафонам, бо ўсё, што

пачула ад Чэпіка ў той дзень ці вечар, забывала адразу. Аксана атрымлівала асалоду ад мовы, голаса Чэпіка, яго прысутнасці, сваёй прысутнасці побач з ім. Перад помнікам Якубу Коласу на аднайменнай плошчы яна заўважыла, што зашмат Леніных у Мінску. Чэпік адразу ж пасля яе слоў засмяяўся, ды так заразліва, што і яна міжволі засмяялася, не разумеючы, праўда, з чаго смяецца. Тады Чэпік запытаў:

— І дзе ж вы іх так шмат пабачылі?

— На плошчы Леніна адзін, — як на ўроку, старанна адказвала Аксана, — і вунь, перад намі, набліжаецца, як прывід камунізму, — кіўнула ў бок Якуба Коласа.

— Гэта не Ленін, — агаломшыў яе Чэпік.

— Як не Ленін? — здавалася, нават расчаравалася дзяўчына.

— Так, не Ленін, — сказаў Чэпік.

— А хто тады?

— Якуб Колас, — адказаў Чэпік, — класік беларускай літаратуры.

— Праўда? — не верыла Аксана. — А яны, часам, не браты? — усё ж не здавалася.

— Не браты, — запэўніў Чэпік.

— А такое падабенства, нібы браты-блізнюкі, — падсумавала дзяўчына.

— Гэта прэтэнзіі да скульптара, — усміхнуўся Чэпік. — Мы на плошчы Якуба Коласа, таму і помнік яму тут, — палічыў патрэбным удакладніць.

— Няўжо? — паціснула плячыма Аксана. — Плошчы могуць называцца па-рознаму, а Ленін заўжды адзін і той самы, я падумала.

— Нічога... — Чэпік узяў дзяўчыну за руку і падвёў да помніка народнаму песняру. — Знаёмцеся, — мовіў.

— Як? — не зусім зразумела дзяўчына.

— Павітайцеся, — цалкам сур'ёзна выдаў Чэпік.

— З помнікам? — марудзіла Аксана і ўзіралася ў твар беларускага рэжысёра, на якім быццам застыла нерухомая засяроджанасць у прадчуванні ўрачыстага моманту.

— З помнікам, так, — працягваў нейкую сваю, аднаму яму вядомую гульню Чэпік. — Але помнік увасабляе некалі жывога чалавека. Уявіце і вы яго жывым. Яму будзе прыемна, не сумнявайцеся.

— Помніку? — ніяк не разумела Аксана, ці жартуе Чэпік, ці, наадварот, прапаноўвае ёй нешта незвычайнае, неардынарнае, але дзіўнае. Дый людзі ходзяць побач...



— Не, чалавеку, — адказаў Чэпік. — У дадзеным выпадку Якубу Коласу, душа якога або частачка яго несмяротнай душы заўжды побач з гэтым каменем.

— Ды я ж нічога пра яго не ведаю, — вагалася Аксана, але адчувала, што перакананасць Чэпіка бярэ над ёй верх.

— Вось і прыўкрасна! — як бы ўсклікнуў Чэпік, аднак не сваім голасам. — Чым не нагода пазнаёміцца? — і вылупіўся пытальна.

— Ну, добра, — пацiснула плячыма Аксана і ўсміхнулася. Падышла ўсутыч да помніка, задрала галаву. — Добры вечар, пан Якуб Колас! — павіталася.

— Добры вечар і вам, красуня! — нечакана пачула ў адказ. Нават уздрыгнула ад нечаканасці і адступіла

на колькі крокаў назад ды наступіла на нагу Чэпіка, які стаяў ззаду. Яна азірнулася, але твар мужчыны заставаўся ўсё такім жа нерухома-засяроджаным.

— Вы чулі? — звярнулася Аксана да Чэпіка.

— Што чуў? — Чэпік з нечаканай зацікаўленасцю паглядзеў на яе.

— Ён са мной павітаўся, — падзялілася дзяўчына. — Ці, — мільганула імгненная здагадка, — гэта ўсё вашы тэатральныя жартачкі?

— Якія жартачкі? Я вас не разумею, — быццам бы казаў праўду Чэпік. Хаця хто іх разбярэ, тых тэатралаў... — Калі вы пачулі голас Якуба Коласа, — нахіліўся ён да дзяўчыны, — значыць, спадабаліся яму. Далёка не кожны чалавек мае шанец на размову з класікам, а ахвотнікаў хапае, якія прыходзяць сюды зноў і зноў, каб Якуб Колас звярнуў на іх увагу. Вы — шчасліўчык, Аксана!



І яму хацелася верыць, дужа хацелася верыць! Пераканаўчы, без эмоцый, голас Чэпіка пранікаў у душу дзяўчыны, у яе цела і пасяляўся ў ім змяёй,ператвараў у пакорлівую істоту. Аксана з радасцю б яму скарылася, нягледзячы на тое, што ведала Чэпіка ўсяго некалькі гадзін, калі не менш. Побач з ім яна адчувала сябе маленькай дзяўчынкай, мужчынская харызма зачароўвала да такой ступені, што карцела спыніць час, каб замерці навечна ў абдымках такога мудрага і надзейнага чалавека.

Аксана рашуча зноў падышла да помніка і запытала:

— Вы ж не смеяцеся з мяне?

— Ні ў якім разе, — пачула ў адказ.

— А будучае можаце прадказаць? — панесла раптам некуды Аксану, куды яна і сама не ведала, але стрымаць сябе не магла.

— Я не прадказальнік, — шчыра прызнаўся голас з ніадкуль. — Пісьменнік усяго толькі, — працягваў пасля невялічкай паўзы. — Але і пісьменнікі часам могуць сваімі творамі ўздейнічаць на будучыню.

— Паўздзейнічайце, калі ласка, — ледзь чутна папрасіла яна.

— Я пастараюся, — пачуў яе той, да каго звярталася. А да каго?..

— Хадземце, — узяла Чэпіка за руку і пацягнула за сабой. Зусім няважна, хто прамаўляў тыя словы ў размове, падобнай на эпізод з сюрэалістычнага рамана ці фільма. Мо прывід Якуба Коласа? Альбо

непасрэдна сам Чэпік у віртуознай манеры чэрававяшчальніка? Але з якім зместам, з якой глыбінёй! І глыбіню тую Аксана адчула, гатовая ў любую хвіліну даверыцца ёй цалкам.

Ён праводзіў яе дамоў пасля вандроўкі на Востраў слёз, у Траецкае прадмесце, шпацыру ўздоўж Свіслачы і яшчэ некалькіх размоў з помнікамі Максіму Багдановічу і Янку Купалу. Купала таксама быў Янкам, як і Чэпік, адзначыла Аксана. У дадатак яна пачула і пра Янку Лайкова, Янку Лучыну, Янку Сіпакова... А гэта значыла, што імя Чэпік насіў знакавае, пачэснае і надзвычай прыгожае. Дзяўчына з прыемнасцю вымаўляла яго імя, якое ўсё больш здавалася ёй казачным, а Чэпік — героем чароўных казак. Час не стаяў на месцы, а быццам уцякаў, рыхтык пясок праз

пальцы, у бяссэнсавае нікуды. Мацнеў мароз, і балелі ногі, стомленыя доўгім хаджэннем. Аднак Аксана мужна трывала тое, баючыся расставання з Чэпікам, як пазбаўлення волі. Ён таксама не паказваў сваёй стомленасці, з якой ужо прыйшоў на яе выставу. Усё часцей Аксана прыкрывала далоняй роцік ці незнарок адварочвалася, каб Чэпік не бачыў, як яна пазяхае, і не пакрыўдзіўся. Ад холаду яе перасмыквала і нават крыху патрэсвала. Чэпік заўважыў стан дзяўчыны і скіраваў іх маршрут у бок метро (Аксана загадзя назвала яму адрас, па якім жыла, добра, што недалёка ад метро). Яны селі поплеч. Дзяўчына прасунула абедзве рукі пад руку Чэпіка, галаву схіліла на яго плячо. Цяпло паступова распусціла холад у грудзях, нібы сметанковае масла. Няўжо яна мусіла застацца адна ўжо праз некалькі хвілін? Як адпусціць Чэпіка ад сябе? Куды? Ён толькі яе і больш нічый! Аксана адчувала з ім такую сувязь, быццам ведала вечнасць, быццам душы іх былі роднаснымі. Ці адчуваў ён тое самае? Напэўна. А калі не — абавязкова адчуе. Не цяпер, дык заўтра, адно каб застаўся з ёю, не пакідаў ні на імгненне...

У пад'ездзе, перад дзвярыма кватэры, Аксана запрасіла Чэпіка зайсці на кубак кавы ці гарбаты, каб сагрэцца. У позірку яе было столькі закліку, столькі спадзеву на яго згоду, што Чэпік ледзь не здаўся, ды вымушаны быў развітацца.

— Я вельмі ўдзячны вам, Аксана, за запрашэнне, — сказаў ён, — але... ведаю, чым яно скончыцца ўжо зараз.

«Ды што ты можаш ведаць?! — хацелася крыкнуць яму ў твар, а змяю яго манатоннага голасу выхапіць з горла. — Як ты ўвогуле смееш адмаўляць дзяўчыне, якая мае ў табе патрэбу, быццам у паветры?!»

— Я ведаю сябе, — бязлітасна працягваў Чэпік. — Пасля кавы ці гарбаты мяне пацягне да больш смачных прысмакаў, не ведаю, як вас. Але я настолькі стомлены, што расчарую не толькі сябе і вас, з мяне пасмяюцца зоры.

— Якая мне справа да зор! — не стрымала прыкрасці Аксана.

— І тым не менш, — вёў Чэпік далей. — Прыходзьце лепш заўтра на прагон. Мы здаём новы спектакль, таму ўсе мае думкі і сілы павязаныя з ім.

— Я прыйду! — з націскам вымавіла дзяўчына.



— Тады да заўтра.

— Да заўтра.

Ён нават не клюнуў яе ў шчаку на развітанне. Павярнуўся спінай і па-мядзведжаму сышоў па прыступках уніз. Няўжо не пачуў, як крычала яе цела? А мо пачуў і таму сышоў? І словы яго — пацвярджэнне. Зрэшты, добра, што сышоў, падумала Аксана праз некаторы час, калі апынулася ў кватэры і распранулася. Ногі ледзьве трымалі яе. Яна давалаклася да канапы і з асалодай выцягнулася на ёй. Хутчэй за ўсё, застанься Чэпік, яны абодва адразу б і заснулі. А ім, як высветлілася, неабходныя заўтра бадзёрасць і лёгкасць. Можа, Чэпік і меў рацыю, што адмовіў дзяўчыне, але яна запомніць яго ўчынак на ўсё жыццё і аднойчы нагадае, ды так — мала не падас-

ца. Ён яшчэ пашкадуе, ён яшчэ будзе локці кусаць, што цягнік з’ехаў без яго, ён яшчэ на каленях будзе маліць, каб яна дазволіла пацалаваць яму сваю ножку, такую прыгожую ножачку з вытанчаным педзікюрам, ён яшчэ, ён...

Аксана заснула, і ў яе сон прыйшоў Чэпік. І яна яму дазволіла ўсё, нягледзячы на пагрозы, пра якія ўмомант забылася. А хіба яны былі?..

Прачнулася — засаромелася, бо памятала сон, як бездакорна завучаны верш. Ды ўсё ж пашкадавала, што гэта быў толькі сон, і цягам цэлага дня думала адно пра Чэпіка, пра сустрэчу з ім на прагоне. Яна не ўлічвала занятасці і загружанасці Чэпіка, хутчэй за ўсё яму будзе не да яе падчас прагону, ды эгаістычна спадзявалася на адваротнае. Урэшце рэшт Чэпіку застаецца тут, паспее яшчэ навярстаць са сваёй тэатральшчынай, тэрмін жа знаходжання Аксаны ў Мінску скарачаўся з хуткасцю знічкі. Ён павінен паспець загадаць жаданне, то бок усю ўвагу сканцэнтраваць на ёй, пакуль не позна. Зрэшты, Аксана пастараецца, каб у яго атрымалася не забыць пра яе. Яна не сумнявалася ва ўласных паводзінах і рашэнні, датычных Чэпіка. Мужа не кахала ніколі, таму згрызот сумлення не ўзнікла. Іх шлюб першапачаткова быў памылкай, прынамсі, для яе. Сведчанне таму інтымныя стасункі Аксаны з іншымі людзьмі, асабліва з Лесяй. Яна вымавіла імя ўголас некалькі разоў запар, і ўпершыню сэрца не варухнулася. Напэўна, Леся ставілася да яе як да сабакі. Дрэнна, што вочы расплюшчваюцца запозна, быццам асепленыя знарок якімсьці хі-

мікатам. Няўжо Чэпік — супрацьяддзе, вакцына ад віруса па імені Леся?!. Як проста. Варта сустрэць годнага мужчыну — і розная дрэнь адвальваецца сама сабой, быццам засохлая кроў у выглядзе коркі з загоенай болькі. Аксана разглядала сябе ў люстэрку, і адлюстраванне ёй дужа падабалася. Не дзіва, што Чэпік захапіўся ёю. Безумоўна, захапіўся, інакш не збег бы адзін у ноч, халодную і зімовую. Магчыма, і ад боязі за самога сябе, каб не прапасці адразу ў яе вачах, не патануць у іх. Дурненькі, ён прапаў у першым жа яе позірку. Зрэшты, як і яна — у яго вядзьмарскіх вачах і глухім голасе. Ну не нонсэнс? Як ніколі раней, Аксана адчувала свайго мужчыну. Магчыма, дзеля сустрэчы з ім і падарыў ёй лёс падарожжа ў Беларусь.



Акрыленая закаханасцю, дзяўчына лёгка, бы страказа, лётала па кватэры, па горадзе, па памяшканні, у якім праводзіла майстар-клас. Людзей было небагата, але ўсе яны прыйшлі невыпадкова і слухалі яе з непрыхаванай зацікаўленасцю. Аксана падавалася ім вельмі ўпэўненай. Яна казала, што кожны здымак для яе — роздум. Кожны чалавек падчас фотаздымак — жывая кніга. Гісторыя фіксуецца на фота, дзякуючы чаму адчуваеш сябе адукаванай. Разважала пра тое, хто такі фатограф, які ўплыў ён мае на людзей, што прыцягвае, што адштурхоўвае, як наладжваць стасункі, як пазбягаць канфліктных сітуацый, як «дагадзіць» фотаздымкамі, як данесці ідэю, уласнае бачанне.

— Што трэба мне? Што патрабуе ад мяне грамадства? Чаго чакаюць ад мяне бацькі? Што я павінен

сваім дзецям? Чаго на самай справе хоча мая душа? Чаго ад мяне хоча Сусвет? — задавала пытанні аўдыторыі і сама ж на іх адказвала: — Фатаграфія дапамагае даць адказы на гэтыя пытанні, знайсці шлях да сябе. А знайсці сябе — гэта зразумець, чаго хоча душа, адпаведна таго ж хоча і Сусвет.

Распавяла пра свой новы фотакурс, пра ўменне бачыць, адчуваць, разумець; пра стасункі са светам праз фотакамеру; пра ўвасабленні крэатыўных ідэй; пра ўпэўненасць і веру ў сябе; мы «разбіраем» фотакамеру, партфоліа; вывучаем правілы, прымяняем і парушаем іх; даследуем «чаго хоча жанчына», якая прыйшла на фотасэт; шмат практыкуем; асноўны акцэнт — чалавек.

Тлумачыла, што кожная фотасесія мусіць мець аздараўленчы, пазітыўны эфект (калі чалавек знаходзіць свайго фатографа). Падрыхтоўкі, сам працэс, эмоцыі ад выніку павінны радаваць вока і душу. Менавіта таму нядаўна распачала фотатэрапію, дзякуючы якой чалавек абнаўляецца, фіксуе праз фатографа сябе іншага на фотакартцы.



— Дзесьці там прынята лічыць, — сказала напрыканцы, — што зіма — мёртвы сезон для фатографа з-за надвор'я. Гэта няпраўда. Зіма перыяд абнаўлення як для прыроды, так і для чалавека. І гэта не значыць, што фотакамера адпачывае, а фатограф сядзіць без працы. У халодны час заўжды ёсць студыя, праца ў якой значна складаней за здыманне на натуры. Ды хіба простае цікава? Я люблю працаваць са штучным святлом, бо менавіта святло здольна паказаць пата-

емнае. А фатаграфія — гэта не пра карцінку, як многія ўжо ведаюць. Фатаграфія — гэта размова з сабой. Гэта своеасаблівая медытацыя. І ніякіх прывязак, сябры.

Ёй гучна апладзіравалі, нібы артыстцы, а Мар'яна дык грамчэй за астатніх пляскала ў ладкі. Затым выступалі іншыя фатографы, дзяліліся сваім, уласцівым толькі ім адным, досведам. Аксана шчыра намагалася ўслухоўвацца ў словы прамоўцаў, але чула толькі голас Чэпіка і бачыла перад сабой толькі яго фізіяномію з прымружанымі вачыма. Насланнё, не іначай. Хаця яна адчувала шалёнае жаданне спасцігнуць наяве тыя пачуцці, не параўнальныя ні з чым. Аксана не разумела, чаму яна ўсё яшчэ сядзела ва ўтульным кампактным памяшканні адной з аўдыторый філалагічнага факультэта БДУ, абкружаная людзьмі, якіх бачыла ўпершыню і якія нагадвалі ёй наведвальнікаў чарговай сустрэчы ананімных алкаголікаў. Місію сваю яна выканала, меркаванні і думкі іншых наконт фотамастацтва яе не цікавілі апрыёры. Не было ў яе пачуцця перавагі над астатнімі, якія на яе ўзроўні выглядалі дылетантамі. Увага дзяўчыны канцэнтравалася толькі на тым, што цікавіла непасрэдна яе, а цікавіў выключна Чэпік. А прысутныя і ўдзельнікі майстар-класа ў той момант былі засяроджаны выключна на прафесійных якасцях фотамастака. За вокнамі мітусіўся снег, быццам пер'е, што вытрасалі з падзёртай гіганцкай падушкі. Кожная сняжынка мела буйны памер і выгляд захопніка. Здавалася, дай ім большую волю і моц, і яны б выціснулі шкло ў вокнах, каб акупаваць не толькі адкрытую,

дазволеную нябеснай канцылярыяй прастору, але і з вялікім задавальненнем паглынулі б нутро будынкаў. Аксане карцела далучыцца да тых сняжынак, бо сцены ціснулі і перахоплівалі дыханне. Яна мусіла дасядзець да канца, пасля прыязна ўсміхацца, адказваць на бязглуздыя пытанні і абменьвацца нумарамі тэлефонаў, загадзя ведаючы, што ніхто ніколі нікому не патэлефануе, прасцей звязацца пры жаданні праз Фэйсбук ці электронную пошту. Аднак эйфарыя жывога кантакту знішчала межы паміж краінамі. Нарэшце апынулася на заснежанай вуліцы. Мар'яна падхапіла Аксану пад руку і пацягнула да «Волгі», яна таксама хацела трапіць на прагон у тэатр да Чэпіка. У салоне машыны асцярожна пацікавілася пра ўчорашні вечар. Аксана з усмешкай адказала, што размаўляла ўвесь вечар з помнікамі пад непасрэдным наглядам Чэпіка.

— І ўсё? — не стрымала здзіўлення Мар'яна.

— Уяўляеш?! — усміхнулася Аксана.

— Я ведала, што Чэпік крыху дзівак, — працягнула тады Мар'яна, — але, відаць, зусім не крыху, як высветлілася.

— Зусім не крыху, — падтрымала яе Аксана.

— Творчыя людзі, яны такія... — расчаравана вымавіла Мар'яна.

— За гэта я яго і люблю, — ляпнула, не падумаўшы, Аксана.

— Ужо? — павесялела Мар'яна. — Ты ж кажаш, што нічога не было...

— Размовы з помнікамі — той яшчэ секс, — загадкава ўсміхнулася Аксана. — Прынамсі, нязвыкла і неардынарна.

Дзяўчаты засмяяліся і не заўважылі, як прыехалі на месца. Яны выйшлі з машыны і накіраваліся да шкляных дзвярэй кінатэатра«Масква», у будынку якога знаходзіўся і тэатр, дзе служыў Чэпік. Зразумела, супрацоўнікі тэатра мелі асобны ўваход, пабудаваны адмыслова для іх, з супрацьлеглага боку кінатэатра, схаваны пад бетоннай лесвіцай, як пад своеасаблівым парасонам. Зрэшты, ні Аксана, ні Мар’яна не імкнуліся нават зазірнуць у святая святых Мельпамены. Іх цалкам задавальняла і глядацкая доля. Яны абмінулі бар, які абяцаў ледзь не рай напоямі розных гатункаў у выкшталцоных пляшках ад віртуозаў-шкловыдзімальшчыкаў, крыху затрымаліся перад дзвярыма ў глядзельную залу, знарок спыненыя супрацоўніцамі тэатра дзеля ўпэўненасці апошніх у тым, што наведвальніцы не памыліліся паверхам, бо глядзельную залу тэатра нярэдка блыталі з кіназалай, якая знаходзілася вышэй, і неўзабаве апынуліся там, куды так імкнуліся. Кампактнае памяшканне з радамі крэслаў у зялёным аксаміце пад невыразным абажурам бляклага святла больш чым напалову было занята моладдзю з тэатральных вузаў, крытыкамі, тэатраламі-заўзятарамі, калегамі Чэпіка па цэху і яго нядобразычліўцамі. На сцэне адбываліся апошнія прыгатаванні, па ёй снаўдалі мантыроўшчыкі, нешта пераносілі, нешта ўмацоўвалі. З бакавой правай нішы выбег Чэпік, спыніўся

каля загпоста. Яны абмяняліся некалькімі нервовымі рэплікамі, і Чэпік зноў знік у нішы. Аксана расчаравана ўздыхнула, бо чакала з яго боку хоць позірку, хоць усмешкі, а ён нібыта і не заўважыў яе, нібыта яе ўвогуле не існавала. Яна нават падумала сысці, каб пакараць Чэпіка такім чынам, але передумала. Мар'яна параіла ёй супакоіцца і не звяртаць ні на што ўвагі, ва ўсякім разе да канца спектакля. Чэпіку не да Аксаны пакуль, затое пасля яна зможа ім завалодаць цалкам, вядома ў тым выпадку, калі яго не перахопіць так званая мясцовая багема. Аднак Аксана не жадала чакаць так доўга, тым больш дзяліць Чэпіка з багемай, і рашуча накіравалася ў тую самую нішу, у якой знік рэжысёр. Мар'яна не змагла ёй перашкодзіць і засталася сцерагчы занятыя імі месцы і рэчы, у прыватнасці верхнюю вопратку абедзвюх, пашкадаваўшы, што не скарысталася гардэробам. З прыкрасцю яна ўкусіла вусны ў той самы момант, калі ніша паглынула Аксану, а ў глядзельнай зале пагасла святло і загучала музыка. На сцэне пачынаўся спектакль.



Аксана апынулася ў пустым доўгім вузкім калідоры з партрэтамі лепшых акцёраў тэатра на сцяне леваруч ад яе і шматлікімі аднолькавымі пранумараванымі дзвярыма праваруч. Па падлозе цягнулася чырвоная дывановая дарожка. Аксана разгубілася, бо не ведала, у які бок ёй кіравацць і дзе шукаць Чэпіка. Не адчыняць жа дзверы адны за другімі, напэўна, замкнутыя на ключ. Трэба было вяртацца да Мар'яны і ўвогуле не пакідаць яе. Раптам дзверы ў аддаленым правым

куце з шумам расчыніліся і выйшаў Чэпік. Ён ішоў шпаркай хадою па калідоры (да яе?), набліжаўся хутка, хоць і глядзеў сабе пад ногі, занураны ці ў думкі, ці ў паперы, што нёс у руках. Аксана паўстала перад ім на паўдарозе. Яна забылася на ўласную годнасць і прыстойныя паводзіны, як толькі пабачыла Чэпіка. Яе штурханула насустрач яму ўнутраная патрэба прысутнасці побач з ім і жаданне валодання. Аксана не сумнявалася ў тым, што Чэпік захоплены ёю, што яму будзе прыемна бачыць яе, што ён ацэніць яе неўтаймаваны запал утрапёнасці...

— Што вы тут робіце?! — пачула яна здзіўленаабуранае незадавальненне, прычым з дужа эмацыйнымі фарбамі ў голасе. Няўжо ўсё падман? Няўжо сапраўды служкам тэатра нельга верыць? Чэпіка быццам падмянілі. Ці яна яго проста прыдумала?



Аксане адняло мову ад узрушэння. На вачах набрынялі слёзы крыўды.

— Я... я... — намагалася дзяўчына патлумачыць сваё з’яўленне за кулісамі, але словы не слухаліся яе, рукі трымцелі, пацелі далоні, а сэрца шалёна трапяталася ў грудзях і, нібы звар’яцелая птушка, кіпцямі раздзірала само сябе, вось-вось здавалася, што з грудзей пырсне кроў і запэцкае Чэпікаў твар і яго бялюткую кашулю.

— Не да вас зараз, як вы не разумееце, — працягваў Чэпік, але не глядзеў на яе, быццам яна была пустое месца. — Вяртайцеся ў залу. Усё потым.

— Ды я хацела... проста... — нарэшце прарваліся словы, ды не тыя і непатрэбныя ўжо. Аксанін твар

заліло чырванню. Было падобна на тое, што геніяльны мастак незнарок выціснуў на няўдалую карціну ўсе фарбы, што меў пад рукой.

Яна павярнулася да яго спінай, абаперлася плячом на сцяну, бо захісталася падлога, а перад вачыма замільгацеў калейдаскоп разнастайных геаметрычных фігур. Зрэшты, справілася з сабой хутка і хадою грацыі вярнулася да Мар'яны. Тая нешта пыталася ў яе, але дзяўчына адмахнулася, маўляў, назірай лепш за сцэнай.

Аксана глядзела спектакль, але нічога не бачыла, не памятала таго, што адбывалася на сцэне, і пасля завяршэння адразу заспяшалася з тэатра вонкі. Мар'яна ўпрошвала сяброўку не капрызіць і патлумачыць сваё рашэнне, не дужа разумнае, між іншым. Самае цікавае толькі пачынаецца. Аднак Аксана заставалася непахіснай. Яна супакоіла Мар'яну, каб тая не хвалявалася, і паведаміла, што даедзе на таксі. Мар'яна пракантралявала працэс ад'езду, яна ж і выклікала таксі, мусіла падпарадкавацца абставінам, хоць і не падтрымлівала ўцёкаў Аксаны. Канешне, не зусім яе справа ўмешвацца ў чужыя стасункі. Аксана сама вінаватая, што б там у яе ні адбылося з Чэпікам за кулісамі, куды ўсё ж не след было сунуцца. А Чэпік, як заўважыла пасля, сам не свой, марна шукаў вачыма не каго-небудзь, а менавіта Аксану, не звяртаючы ўвагу на віншаванні і цудоўныя водгукі наконт пастаноўкі. Яна адчула гэта ўмомант і падышла да колішняга аднакурсніка, каб падбадзёрыць яго ці хаця б даведацца прычыну знікнення Аксаны. Той толькі пажартаваў, бо

жадаў, мабыць, пазбавіцца ад недарэчных роспытаў Мар'яны. Але прыкметна спахмурнеў, калі яна яму паведаміла, што Аксана паехала дамоў, а ў яе ўчынку вінаваты менавіта ён адзін. Чэпік ні словам не запярэчыў, наліў сабе паўнюткую да краёў шклянку гарэлкі, кульнуў яе цалкам адным глытком і занюхаў валасамі Мар'яны, пасля чаго, нікому нічога не сказаўшы, пакінуў тэатр. Мар'яна бачыла, як ён на хаду апранаў паліто і выходзіў за дзверы. «А бандэраўка вунь наша, — міжволі адзначыла, — глыбокі след пакінула ў душы Чэпіка. Нават шкада яго, бо нічога добрага з іх сувязі не выйдзе». Ведала дакладна. На жаль. Прыгожая пара з іх атрымалася б.

Тым часам Аксана сядзела перад люстэркам у кватэры на Катоўскага і лупцавала сябе далонямі па



ружовых шчочках, па якіх струменіліся слёзы. Яна нагадвала крумкача з аднайменных фільма і серыяла з Брэнданам Лі і Маркам Дакаскасам у галоўных ролях. Адно што светлыя валасы псавалі, зрэшты, сумніўнае падабенства. Дзяўчына ненавідзела сябе, ненавідзела Чэпіка і краіну, у якой захрасла. Навошта ёй гэта? Навошта прыходзяць непатрэбныя пачуцці і пераварочваюць дагары сутнасць рэчаў? Колькі можна выпрабоўваць яе сэрца, яе беднае маленькае сэрца ў шнарах і ранах, бязлітасна нанесеных тымі самымі пачуццямі? Яна што, падвопытная мышка для іх? Чарговы эксперымент?..

У дзверы пазванілі.

Аксана інстынктыўна павярнулася ўсім корпусам на гук, але не зрушылася з месца. Яна нікога не

чакала. Нікога не ведала ў чужой краіне і не хацела ведаць. Нечаканы госць не да яе. Ці ўсё ж да яе? Ці ўсё ж яна чакала? Але каго? Каму яна патрэбна тут?

Званок не сціхаў і пачынаў дзейнічаць на нервы.

Аксана прымусіла сябе злезці з крэсла і падысці да дзвярэй. Яна не глянула ў вочка, каб убачыць таго, хто быў за дзвярыма, не спытала, хто там (ёй было ўсё роўна), адамкнула замок і расчыніла дзверы.

На парозе стаяў Чэпік. З нейкім пакункам у адной руцэ і трыма голымі чырвонымі ружамі ў другой. Са снегам на плячах і на валасах.

Аксана ледзь стрымалася, каб не кінуцца да яго і не павіснуць на шыі. Але ўціхамірылася, сціснула далоні ў кулачкі, павярнулася да Чэпіка спінай і адышла ўглыб кватэры, дзверы, праўда, пакінуўшы адчыненымі. Падышла да акна, абаперлася рукамі аб падваконне. Чула, як Чэпік зайшоў у вітальню, зачыніў за сабой дзверы, разуўся, распрануўся, зашарудзеў пакункам каля стала. Аксана не азіралася, не паварочвалася. Неўзабаве адчула рукі Чэпіка на сваіх плячах, подых яго, голас, у які карцела нырнуць, як спартоўцам у ваду з трампліна. Аднак стрэсла з плячэй такі жаданы цяжар і адскочыла ўбок. Чэпік з разгубленым і ўсхваляваным тварам пазіраў на яе. Іх вочы трымалі двубой, ад якога залежала доля ўсяго чалавецтва.

— Я не хацеў вас пакрыўдзіць, Аксана, — вымавіў Чэпік, і яна бачыла, як цяжка яму даюцца падобнага кшталту прызнанні, ды дапамагаць не збіралася. Няхай сам. Ён жа прыйшоў да яе, не яна. Калі яна

прыйшла да яго... — У творчым запале, — перапыніў яе развагі Чэпік, — не заўважаю нікога і нічога вакол. Праца адбірае рацыянальнае бачанне свету і...

— Бла-бла-бла, — не вытрымала ўсё ж Аксана. У паставе ваяўнічай амазонкі, са скрыжаванымі на грудзях рукамі і мокрымі валасамі, зачасанымі за вушы, у шаўковым халаце, які Чэпіку больш за ўсё хацелася сарваць, і позірк яго быў сканцэнтраваны менавіта на ім, дзяўчына вабіла і спакушала, магчыма, сама не асэнсоўваючы гэтага. — Што за вартыя жалю апраўданні, спадар рэжысёр! — упікнула яна. — Вы мяне абразілі! — лупанула наводмаш. — Пакрыўдзілі і прынізілі! І ляснуліся з пастамента, на які я вас узвяла, без аніводнага шансу выправіцца. — Пра гэтыя словы Аксана тут жа пашкадавала.



— Так ужо і без аніводнага? — не паверыў ёй Чэпік і меў рацыю, за што яна яму ўдзячна ўсміхнулася. — Навошта тады адчынілі дзверы і пусцілі ў хату?

— Бо дурніца, — хутчэй самой сабе, чым яму, адказала Аксана, прымружыла вочы і раптам загадала: — На калені!

Яна не хацела, каб Чэпік выканаў загад. Нават разлічвала на яго сыход пасля сваёй выхадкі. Гэта адразу ўсё спрасціла б. Яна, вядома, рыдала б, пасля супакоілася б і рушыла б сабе далей па жыццёвай дарозе. Ды Чэпік, гэты непрадказальны чалавек, раптам укленчыў перад ёй і пачаў цалаваць яе каленкі. Нязвыклае і дзіўнае пачуццё ахапіла Аксану, але яна не пярэчыла, наадварот, адчула, што яе ўнутранае «я» цалкам задаволена. У наступны момант

дзяўчына паслабіла пасак халата, затым развязала яго зусім і завязала на шыі Чэпіка банцікам.

— Цяпер ты мой! — сказала ўголас. — І паспрабуй толькі належаць камусьці яшчэ!

# 11

Навучы мяне думаць менш.
Навучы мяне не падаць, як зорка з неба,
Калі жаданне не спраўдзілася.
Навучы не плакаць,
Не баяцца страчваць,
Не страчваць мяне навучы!
Навучы вышыні трымаць тыя, у якіх толькі

Святло, бясконцасць, я і ты...
Навучы мяне думаць менш!
Баяцца,
Пакутаваць,
Навучы мяне быць тут і зараз!
Навучы мяне веру не губляць, сяброў, мару і
Сябе...
Навучы мяне ў радасці не сумаваць.
Навучы мяне хадзіць па зямлі басанож і камяні абыходзіць.
Навучы мяне любіць свет,
Жыццё,
Сябе,
Калі няма побач цябе!
Навучы...
Навучы мяне свяціць для цябе штодзень,
Штоноч,
Штосекунды.

Навучы мяне ні аб чым не шкадаваць!
Навучы не шукаць сябе ў іншых сусветах.
Стань тым сусветам, які я буду спазнаваць яшчэ не адно жыццё,
Маім сусветам стань!
Маім сусветам будзь
Або проста будзь...
Навучы мяне не знікаць без звестак
І быць сабой без цябе...
І нават калі ўсе словы скончацца,
Я буду пісаць пра цябе,
Крычаць,
Маляваць цябе,
Дыхаць табою буду я
І нават плакаць,
Кожную секунду ажыўляць.
Толькі кахаць мяне не вучы!
Як ніхто
Ніколі
Нікога...[1]



Аксана вымаўляла слова за словам так, быццам пляла ўзор. І насамрэч пляла, выводзіла ўзоры пальцамі на твары Чэпіка, на яго шырокім разумным лобе, перарэзаным у некалькіх месцах выразнымі рысамі зморшчын — вынікам жыццёвага досведу і відавочных роздумаў, на вострым носе, павеках, што хавалі пад сабой вочы, як густая трава — грыбы пасля дажджу, на пачуццёвых і прагных да пацалункаў вуснах, на валасатых шчоках, зарослых надзіва мяккай і шаўкавістай барадой. Ён нерухома ляжаў на спіне, з прыемнасцю дазваляў выкарыстоўваць сябе

[1] Верш украінскай паэткі Мар’яны Сурмачэўскай.

замест неабходнай прылады дзеля стварэння мастацкага твору, задуманага дзяўчынай, і з задавальненнем слухаў яе голас, які аплятаў яго з ног да галавы, як той дзівосны ўзор. Аксана ляжала на баку, адной рукой, утопленай у падушцы, падпірала галаву, другой стварала нябачны шэдэўр. Яна не ведала, чаму прачытала Чэпіку верш, напісаны ёю самой (зрэдку з'яўлялася паэтычнае натхненне і пісаліся верлібры, пра якія нікому раней не распавядала, тым больш не чытала іх уголас), але раптам захацелася, каб менавіта гэты верш паслухаў чалавек, які ацэніць і зразумее як сэнс верша, так і прычыну яго агучвання.

— Гэта ж не Ліна Кастэнка, спадзяюся, — не расплюшчваючы вачэй мовіў Чэпік праз непрацяглую паўзу, — ці Леся Украінка?



— Не, — коратка адказала Аксана, — але дадала, — ні тая, ні другая.

— Значыць, сама напісала?

— Значыць, сама, — чамусьці ўздыхнула дзяўчына.

— Ты яшчэ і паэтка?

— Яшчэ чаго! Якая я паэтка? — адмахнулася Аксана.

— Найчароўнейшая, — расплюшчыў вочы Чэпік і пільна паглядзеў на яе.

— Не падлізвайся.

— І не думаў! — пераконваў у адваротным Чэпік.

— Табе спадабалася?

— Вядома! Яшчэ ніхто не чытаў мне вершаў. Галоўным чынам даводзілася іх чытаць самому.

— Праўда, спадабалася?

— Вельмі!

— Не падманваеш?

— Хочаш, сходзім да помнікаў нашых класікаў, — прапанаваў Чэпік, — яны пацвердзяць кожнае маё слова.

— Добра, — падсумавала Аксана, — паверу. Ты не ўяўляеш, як мне важна было пачуць тваё меркаванне, —прызналася, — менавіта тваё.

І яна не маніла, бо адносілася да Чэпіка з глыбокай павагай, лічыла яго мудрым і дасведчаным чалавекам, якім ён з'яўляўся на самай справе, нягледзячы на нядаўняе знаёмства. Ёсць людзі, чыя значнасць і ўнутраная важкасць кідаюцца ў вочы з першага позірку — такім быў Чэпік. Ад яго нікуды не хацелася сыходзіць і адпускаць ад сябе таксама. Каб ён належаў толькі ёй цалкам! Каб ён забыўся на ўсе свае прафесійныя справы і абавязкі! Каб памятаў толькі яе і падпарадкоўваўся ёй, як багіні ці гаспадыні... Аксана прагнула іншага, не гульні. Хопіць з яе гульняў, нагулялася і з мужам, і з Лесяй, праўда, у абодвух выпадках ёй адводзілася роля ахвяры, якую яна выконвала пад прымусам абставін, быццам ачмураная ці абколатая нябачным наркотыкам падпарадкавання. Чэпік абудзіў у ёй жаданне валадарыць, валадарыць менавіта ім з неверагоднай сілай. Але валадарыць зусім не так, як валадарылі Назар і Леся. Чэпік мусіў цалкам зліцца з ёю, стаць ёю, а яна — растварыцца ў ім, падараваць сябе і свой унутраны свет, без якога ён не здолеў бы дыхаць. І Аксана дарыла яму сябе, пакрыху, пакрысе частавала сабой, як мандарынавымі долькамі, пырскаючы сокам і сцякаючы салод-

кай вільгаццю па яго целе, карміла сабой, як шакаладам, адламваючы па кавалачку ад сябе і знікаючы, растаючы на яго вуснах чароўнай слодыччу. Няхай наталяецца, каб надалей прагнуць яе больш і больш і ніколі не жадаць іншай, каб забыць усіх іншых, ні з кім не параўноўваць, нікога не памятаць, акрамя яе. Чэпік здаваўся ёй найдужэйшым з усіх мужчын, якіх яна ведала. Магчыма, і мела рацыю. Упершыню дужы мужчына плавіўся ў руках дзяўчыны бы воск, яна адчувала, што ўжо можа ляпіць яго нанова, як з пластыліна. Аксана не сумнявалася, што за Чэпікам яна будзе жыць бы за каменнай сцяной. Ёй уяўлялася чамусьці, што такіх, як Чэпік, ці не адзінкі на зямлі, што ён нават з іншай эпохі, лепшай і высакароднай, такі сабе сучасны д’Артаньян. Яна не магла памыліцца. Менавіта яго, Чэпіка, і чакала ўсё жыццё! Пра заўтрашні дзень не думала. Аксана ўвогуле пасля сустрэчы з Чэпікам старалася не загадваць наперад, адно валадарыць ім тут і зараз, звязаць і спавіць сабою, кахаць яго, кахаць узаемна...



У дзверы кватэры пазванілі. Раз, затым праз невялікі інтэрвал яшчэ раз. Потым у дзвярным замку апынуўся ключ. Прагучаў яшчэ адзін званок, папераджальны. Дзверы расчыніліся, і ў памяшканне шумна зайшлі некалькі чалавек. Затупацелі па падлозе вітальні іх ногі ў цяжкім абутку.

Аксана спалохана азірнулася. У пакой уваходзілі трое мужчын у чорных паліто. За імі мільганула полымя валасоў Мар’яны, якая ўключыла святло, націснуўшы на выключальнік. Святло непрыемна разанула па ва-

чах. Інстынктыўна дзяўчына прыкрыла іх рукой. Чэпік, спакойны і дужы, падняўся з канапы, нацягнуў джынсы, накінуў на плечы Аксаны халат, якім яна адразу затулілася і трымала за канцы на грудзях абедзвюма рукамі. Мар'яна падскочыла да Аксаны, прысела побач.

— Мне так шкада, — сказала і пяшчотна правяла далоняй па яе валасах.

— Я не разумею, — азірнулася Аксана на Чэпіка, які засяродзіўся на ўласнай вопратцы і моўчкі зашпільваў гузікі на кашулі.

— Глядзі на мяне, — пальцамі за падбароддзе павярнула галаву дзяўчыны да сябе Мар'яна. Трое, што прыйшлі з ёю, застылі там, дзе пасталі, і не варушыліся, як псы ў чаканні каманды «фас».

— Ды што адбываецца?! — Аксана адштурхнула руку Мар'яны.



— Нічога асаблівага, —запэўніла яе тая.

— Урывацца пасярод ночы ты лічыш нічым асаблівым? — дзівілася Аксана. — Гэта ўмяшанне ў асабістае жыццё, вашы дзеянні незаконныя!

— Ты можаш паскардзіцца на нас у Гаагскі суд, — пакпіла з яе Мар'яна. — Праўда, мы будзем усё адмаўляць і ты нічога не дакажаш.

— Мы?! — усё больш дзівілася Аксана.

— Яна мае на ўвазе КДБ, — парушыў, нарэшце, маўчанне Чэпік.

— Які КДБ? — заблытвалася дзяўчына. — Сюр нейкі...

— Беларусь суцэльны сюр, Аксана, — заўважыў Чэпік.

— Сціхні, Чэпік! — раздражнёна выгукнула Мар'яна. — Да цябе яшчэ дойдзе справа. — І да Аксаны: — Ты што думала, табе дазволілі сюды прыехаць за прыгожыя вочкі? Твая прысутнасць у нашай краіне тактычная неабходнасць, таму і кватэру гэтую арганізавалі, а не камеру на Валадарцы, якую ты заслугоўваеш болей. — Мар'яна вытрымала паўзу і дадала: — За экспазіцыю ў Палацы мастацтваў пра вайну, якой няма. Дурненькая дзяўчынка, не замяні ты ўзгодненую выставу на тое, што атрымалася ў выніку, мы б зараз з табой не размаўлялі. Але ты парушыла дамоўленасць і за наступствы мусіш несці адказнасць. Ды не гэта галоўнае. Нам патрэбна флэшка з фотаздымкамі, якія ты паспела нафатаграфаваць за час свайго знаходжання ў Беларусі.



— Ну ты і сука! — паволі вымавіла Аксана. — Нягодная двудушная гадаўка! — удакладніла.

— Сука, сука, — не адмаўляла Мар'яна. — А ты хіба не сука? — агаломшыла. — Не паспела аб'явіцца ў чужой краіне, як ужо завяла мужыка, маючы законнага мужа на радзіме! Так што не каўкай і гані флэшку, а затым уцякай туды, адкуль прыехала!

— Не я сябе сюды запрасіла! — напомніла Аксана.

— Так, — згадзілася Мар'яна. — Паўтаруся для надта разумных: не трэба было парушаць дамоўленасцяў! Нам пасля цябе разграбаць і разграбаць... Да таго ж кватэру, у якой табе літасціва дазволіў пажыць камітэт, нявартa было ператвараць у бардэль. Наша дзяржава за чыстыя стасункі і высокамаральныя прынцыпы!

Чэпік пасля яе слоў голасна зарагатаў. Яму з самага пачатку было смешна, ды ён стрымліваў сябе пакуль мог.

— Я нешта смешнае сказала? — ускочыла Мар’яна з канапы.

— Ага, — кіўнуў Чэпік. — Табе б у стэндаперы...

Адзін з чорных «палітонаў» зрабіў крок насустрач Чэпіку і гвазлануў яму кулаком у жывот. Чэпік, аднак, не сагнуўся напалам, як звычайна бывае пасля падобных удараў, а сваёй галавой выключыў святло ў вачах нягодніка, трапіўшы таму ў пераноссе, і той бразнуўся на падлогу, бы мех з бульбай. На гэтым абмен ударамі скончыўся, бо на Чэпіка вылупіліся ствалы пісталетаў з рук двух астатніх «палітонаў», і ён мусіў падняць рукі ўгору.



— Флэшку! Жыва! — загадала Мар’яна.

Аксана, спалоханая, але не за сябе, а за Чэпіка, выканала загад і працягнула флэшку, якую шукалі па ўсёй кватэры ўдзень супрацоўнікі следчага камітэта і не знайшлі толькі таму, што дзяўчына заўжды насіла ўсе лічбавыя прылады з сабой — чыста прафесійная звычка. Яна ніколі не хавала іх і не пакідала дома. Мар’яна выхапіла флэшку і перадала аднаму з «палітонаў», той дастаў з унутранай кішэні планшэт і падключыў да яго флэшку. Праз некалькі хвілін вярнуў флэшку Аксане.

— Я выдаліў толькі тое, што можа нашкодзіць асабіста вам, — патлумачыў. — Вашы фота шыкоўныя! — палічыў патрэбным пахваліць.

— Ну, вось і ўсё! — падсумавала Мар’яна, падышла да стала і паклала на яго квіток на цягнік да

Львова. — Гэта на заўтрашні, пардон, ужо сённяшні вячэрні рэйс. Рада была знаёмству!

Адзін з «палітонаў», што пацярпеў ад удару Чэпіка, даволі хутка апрытомнеў, надзеў на яго кайданкі і падштурхнуў да выхаду. Чэпік весела падміргнуў Аксане.

— Што з ім будзе? — у апошнюю секунду ўчапілася яна рукой у руку Мар'яны.

— Адкажа за свае неправамоцныя дзеянні супраць прадстаўніка ўлады пры выкананні сваіх непасрэдных абавязкаў, — Мар'яна нават не азірнулася, калі прамаўляла гэтыя словы, скінула руку дзяўчыны, быццам агідны пыл, і выйшла з кватэры апошняй.

Колькі часу Аксана стаяла нерухома ў вітальні, разгубленая і самотная? Менавіта самотная, адна ў чужой  краіне, нікому не патрэбная і расціснутая, як казурка. Яе палохала ілжывая дзяржава, дзе па-ранейшаму чалавек ніхто, нібы савецкія часы нікуды не зніклі (дый не зніклі, калі паўсюдна панаваў татальны кантроль КДБ). Вось чаму тут людзі не ўсміхаліся і не падымалі вачэй, хавалі іх у падлогу і ў зямлю, вось чаму амаль ніхто не размаўляў гучна, ва ўвесь голас, тым больш на нацыянальнай мове. Тут нічога не змянілася пасля развалу СССР, дакладней, СССР трансфармаваўся ў сучасную Беларусь, якую і сучаснай цяжка назваць. Напэўна, і канцэнтрацыйныя лагеры меліся ў наяўнасці. Аксана не здзівілася б, калі б раптам даведалася пра іх. Добра яшчэ, што яе не кранулі, адно настрашылі. Магчыма, спыніла іншае грамадзянства дзяўчыны? Хаця наўрад ці. Хутчэй за ўсё, ім проста пляваць на

яе. Хутчэй за ўсё, яе выкарысталі, каб справакаваць Чэпіка і прыцягнуць яго да адказнасці, а потым шантажаваць, каб ён згадзіўся на супрацоўніцтва з імі. Хіба не так? Зрэшты, якая ёй розніца. Абы ногі зрабіць адсюль найхутчэй і забыць як страшны сон. Бедныя беларусы. Бедны Чэпік. Так хораша між імі пачалося нешта сапраўднае, нешта незабыўнае і глыбокае. Напэўна, далейшага развіцця іх стасункаў можна не чакаць. А шкада. І ўсё ж не верылася, што яе выкарысталі. Занадта складаным падаваўся ёй гамбіт Мар'яны, якая не магла ведаць пра з'яўленне Чэпіка на выставе. Ці ўсё ж ён прыйшоў невыпадкова? Аксана не хацела думаць пра Чэпіка, не хацела разважаць пра сваю ролю ў яго затрыманні, на першы погляд, недарэчным і бязглуздым. Ёй шмат чаго падавалася бязглуздым і недарэчным у цывілізаваным грамадстве. Ды ў тым і справа, што толькі здавалася. Трэба было пазбавіцца ад таго бруду і негатыву пасля візіту Мар'яны (цікава, у якім яна званні?) і яе падначаленых. Аксана нават адчувала непрыемны пах ад самой сябе. Больш за тое, ні секунды не затрымлівацца ў кватэры і збегчы ў горад, на вакзал, лепш там пачакаць цягніка.

Яна старанна памылася ў ванне, высушыла валасы, сабрала рэчы і спакавала іх у чамадан, апранулася і рушыла да выхаду. Ды дзверы аказаліся замкнёнымі, а ключы зніклі, як і тэлефон. Вось і яна палонніца, не адно Чэпік. Але ненадоўга. Квіток на цягнік яскрава сведчыў пра тое. Значыць, за ёй прыедуць і адвязуць на платформу. Тым лепш.

Аксана пакінула чамадан каля дзвярэй і вярнулася ў пакой, але не распраналася, прылягла на край канапы, падціснула пад сябе ногі. Яна заснула, калі за акном пачало днець. Ёй нешта снілася, аднак што менавіта — ніколі б не прыгадала. Праспала дзяўчына да самага вечара. Прачнулася з адчуваннем, падобным на стан пасляалкагольнай інтаксікацыі. У роце так перасохла, нібы яна цэлы дзень піла гарэлку без закусі. Смага апякала. Аксана падняла з падушкі цяжкую пасля сну галаву, прымусіла сябе ўстаць з канапы і падыбала ў кухню, дзе напілася вады з-пад крана, хлябтала яе, нібы кошка, высоўваючы далёка наперад язычок. Затым зварыла кавы. Неўзабаве пасля таго ў кватэру ўварвалася Мар'яна разам з кіроўцам «Волгі». Кіроўца падхапіў чамадан Аксаны і хутка вярнуўся да машыны. Мар'яна спрабавала загаварыць з Аксанай, але тая не рэагавала, быццам не чула. Тады Мар'яна заўсміхалася, як вар'ятка, чым выклікала міжвольную ўсмешку на твары Аксаны, прыціснула да сцяны і пачала цалаваць яе. Язык Мар'яны сягаў праз Аксанін рот, здавалася, да сэрца апошняй, акупаваў яго пяшчотай, а рукі ў той жа час забраліся пад куртку і мялі грудзі, бязлітасна і жарсна. На жаль, Аксане падабалася Мар'яна, у абдымках якой нараджалася дараванне, нягледзячы на пачуцці да Чэпіка. Апошняга яна шкадавала, сумавала па ім, але ён быў далёка і, галоўнае, не з ёй. З ёй была Мар'яна...

— Не такая я і сука, — раптам вымавіла тая і балюча ўшчыкнула дзяўчыну за смочкі пад сукенкай.

Аксана інстынктыўна, як крыніцу болю, адштурхнула Мар'яну, але не завішчала, хоць было вельмі балюча, адно паморшчылася.

— Думаеш, мне прыемна?.. — выдыхнула.

— А мне, думаеш, прыемна выконваць службовыя абавязкі? — запытала рытарычна Мар'яна.

— Думаю, прыемна, — не разгубілася Аксана.

— Чаму ты так лічыш? — прабурчэла Мар'яна.

— Таму што ўлада.

— Што ўлада?

— Сама ведаеш.

— Ды я не хацела! — усклікнула Мар'яна. — Мне ўвогуле ўсё роўна!

— Наўрад ці.

— Ты сама вінаватая! — заявіла Мар'яна. — І ведаеш, што вінаватая! — паставіла кропку. — Хто цябе прасіў мяняць экспазіцыю? Тут табе не там, у вас!



— Менавіта, — згадзілася Аксана. — Вы дэградавалі. У вас тут як у гітлераўскай Германіі.

— Хутчэй як у сталінскай дзяржаве, — паправіла яе Мар'яна.

— А гэта не адно і тое ж?

— Ну ты параўнала.

— Што з Янкам? — змяніла тэму Аксана, бо разумела яе бесперспектыўнасць.

— Ды ўсё з ім добра будзе, — адмахнулася Мар'яна.

— Навошта ён вам?

— Асабіста мне ён сто гадоў непатрэбны. Дый змагар з яго так сабе.

— І ўсё ж.

— Для прафілактыкі, — вырашыла сказаць праўду Мар'яна. — Ты проста падвярнулася ўдала. Выпадковасць. Але зноў жа паўтаруся: без замены экспазіцыі нічога не адбылося б.

— Значыць, Янка выпадкова зайшоў на выставу?

— Не, — прызналася Мар'яна. — Я патэлефанавала яму. Запрасіла. З-за тваёй непразорлівасці. Ён проста ішоў міма. І прайшоў бы сабе далей ціха-спакойна, калі б не ты. Загад зверху.

— Мы б ніколі не сустрэліся?

— Ніколі б. Гэта дакладна. Можаш мне паверыць. І Беларусь ты б пакінула лепшай нашай сяброўкай.

Аксана задумалася, потым сказала:

— Добра, што так выйшла. Мы ўсё ж сустрэліся.

— Так, добра.



— Я не пра цябе, — удакладніла Аксана, каб Мар'яна не прыняла яе слоў на свой рахунак.

— Разумею, — кіўнула тая. — Значыць, ты мне павінна, — убачыла магчымасць усё ж застацца ў выйгрышы.

Аксана ў адказ заляпіла Мар'яне гучную плюху па шчацэ.

— Ужо не. Мы квіты, — патлумачыла і рашучым крокам накіравалася да дзвярэй.

Выйшла з пад'езда, на поўныя грудзі ўдыхнула зімовае марознае паветра, апякла ім лёгкія і села ў машыну. Мар'яна з'явілася амаль адразу, але ў салон не села. Загадала кіроўцу давесці аб'ект да вакзала і пракантраляваць яго ад'езд.

Яны не развіталіся. Аксана не глядзела ў бок Мар'яны, і тая вярнулася ў кватэру, куды праз паўгадзіны пры-

везлі Чэпіка з кайданкамі на запясцях зведзеных за спінай рук, пасадзілі пасярод пакоя ў крэсла. Над тварам яго крыху папрацавалі за ноч і дзень, але без катастрафічных наступстваў, загоіцца. Не трэба было аказваць супраціву, ніхто б і пальцам не крануў тады. Ва ўсіх сваіх бедах чалавек заўжды вінаваты сам. Яго, быццам сляпога, цягне нашкодзіць самому сабе, прычым чужымі рукамі. Супрацоўнік, якому Чэпік ледзь не зламаў нос, адвёў душу напоўніцу на Акрэсціна. Беспакаранае збіццё бездапаможнай ахвяры бадзёрыць і прыўзнімае прыгнечаны суворымі буднямі аховы айчыны настрой і дапамагае трымацца ў тонусе. Грэх не скарыстацца службовым становішчам у падобных выпадках. Да таго ж Чэпіка ні ў чым не абвінавацілі і не запатрабавалі пакінуць аўтограф на загадзя складзеным пратаколе допыту. Ён быў непатрэбны камітэту дзяржбяспекі, як былі непатрэбны і ўсе астатнія прадстаўнікі так званай творчай інтэлігенцыі, што размаўлялі на мове. Безумоўна, яны былі пастаўлены на ўлік, аднак усур'ёз ніводзін з іх не ўспрымаўся. Да кожнага адносіліся як да блазна, нават як да мошкі, якую прыхлопнуць — адна секунда, але ж гэта сябе не паважаць. Гэта ў Савецкім Саюзе творчая інтэлігенцыя нешта магла, неяк уплывала, і тое не факт, а ў незалежнай Беларусі не магла нічога апрыёры, таму і ніякай небяспекі з сябе не ўяўляла, хіба што смяшыла сумніўнай уласнай значнасцю. Ды і інтэлігенцыяй сучасную інтэлігенцыю было цяжка назваць, бо 99 адсоткаў яе складалі выхадцы з сельскай мясцовасці, якія не жадалі старан-

на і рупліва працаваць на карысць радзімы ў калгасах, дзе ім і было месца. Болей бы толку было. Вось і Чэпік — які ён інтэлігент? Сын даяркі і калгасніка! Салдафон і парушальнік субардынацыі, што раптам стаў геніем сцэнічнага мастацтва ў пагарэлым тэатры. Тэатр згарэў, а геній, бач, застаўся. Дык вось, каб асабліва не задзіраў нос, крыху пamялі яму бакі і падрэтушавалі твар, усё па сістэме Станіслаўскага, як ён любіць, ні больш ні менш. А саджаць яго, рабіць з яго пакутніка ва ўласных і толькі вачах — занадта шмат гонару дый выдаткаў дзяржаўных, якіх ён не заслугоўваў, як не заслугоўваў ніводзін так званы інтэлігент. Патрымалі крыху ў «яжовых» рукавіцах (ды якіх «яжовых», не 1937-ы, на жаль, так, у вязаных рукавічках) і даставілі на размову туды ж, адкуль і забралі. Пакінулі сам-насам з маёрам дзяржбяспекі, ды не проста маёрам, а маёршай, прычым прыгожай і разумнай маёршай, не на пакаранне, лічы, а на задавальненне.



Мар'яна выйшла да Чэпіка ў Аксаніным халацце ці, магчыма, у падобным. Наўрад ці ён быў тым самым. Тым не менш выглядаў на дзяўчыне шыкоўна. Яна села Чэпіку на калені, грудзьмі і тварам да яго грудзей і твару, які ён адварочваў убок. Мар'яна за валасы павярнула яго твар да сябе і прыціснула да грудзей, ненадзейна абароненых тонкай тканінай.

— Ну прызнайся ўжо, што хочаш мяне, — соладка выдыхнула ў патыліцу Чэпіка. — Яшчэ з часоў студэнцтва, — і рыўком за валасы запракінула яго галаву назад.

— Не, — досыць выразна вымавіў той.

— Не? — быццам не паверыла адказу Мар’яна і мацней пацягнула яго за валасы.

— Відаць, вельмі зачапіла, што хтосьці цябе не хоча? — усміхнуўся ён.

— Не вельмі, — адпусціла яго Мар’яна, — ты мне абыякавы.

— Тады чаго табе трэба?

— Ды нічога, — паціснула плячыма дзяўчына. — Сама не разумею. Хаця ёсць адно пытанне, на якое не магу знайсці адказу. Што ты знайшоў у гэтай бандэраўцы? — мела на ўвазе яна Аксану.

— А ты што знайшла ў ёй? — пытаннем на пытанне адказаў Чэпік.

— У якім сэнсе? — злезла Мар’яна з Чэпіка і перасела на канапу. Яна крыху занепакоілася, але што Чэпік мог ведаць пра пацалункі, якімі яна абмянялася з Аксанай?..



— У яе халат прыбралася, — той кінуў шматзначны позірк на дзяўчыну.

— Думаеш, я фетышыстка? — развязала аслаблы пасак на халаце і завязала яго наноў, шчыльней захінуўшыся ў абдымкі прыемнай на дотык тканіны.

— Я нічога не думаю, — мовіў Чэпік. Ён расчараваў Мар’яну сваім адказам. Зрэшты, з самага пачатку размова з ім пайшла не ў тым кірунку, у якім планавалася.

— І ўсё ж, — не здавалася дзяўчына.

— Добра, — сумна ўсміхнуўся Чэпік. — Я думаю, што ты адзінокая і незапатрабаваная, схільная да

маніпуляцый дзеля заспакаення ўласнага эга. Але прага дамінаваць над кімсьці выдае цябе з галавой, яна відавочная, і яна цябе паліць.

— Значыць, ты лічыш, што я вычварэнка? — пачутае меркаванне Чэпіка зацікавіла Мар'яну, бо ў некаторым сэнсе ён меў рацыю.

— Не зусім, але блізка каля таго, — пацвердзіў той і дадаў: — Мне шкада цябе. Хутчэй за ўсё ў цябе з мужам поўнае непаразуменне, бо дамінаваць над ім ты не можаш і ў твае гульні ён не гуляе. Таму оргаглы — хоць нейкі шанец не звар'яцець ад нерэалізаваных фантазій. Не здзіўлюся, калі ты паспрабавала іх ажыццявіць пры дапамозе Аксаны, улічваючы кватэру і пільную ўвагу да яе. Аднак, падазраю, нічога не выйшла. Зрэшты, я табе ўдзячны, калі б не



ты, — мы б з ёй не сустрэліся.

— Менавіта! — вочы Мар'яны заззялі, быццам зоркі. — Вы абодва мне вінныя! Добра, што ты гэта разумееш! — падкрэсліла яна. — На жаль, з бандэраўкай не так атрымалася, як планавалася... — адзначыла з прыкрасцю.

— Чаму ты называеш яе бандэраўкай? — Чэпіка раздражняла гэтае слова, поўнае знявагі.

— Так прасцей, — адказала Мар'яна, — і зручней.

— Ты прыніжаеш яе тым самым... Зрэшты, нічога дзіўнага. Увесь ваш камітэт трымаецца на прыніжэнні іншых, — заўважыў Чэпік.

— Я ж не казала ёй у вочы, — запярэчыла дзяўчына, — што яна бандэраўка. Ды хіба тое няпраўда? — вылупілася на Чэпіка.

— Што ты маеш на ўвазе пад няпраўдай?

— Не лаві мяне на слове, Чэпік! Я сама каго заўгодна ўпалюю так, што і мокрага месца не застанецца! — Мар'яна прашыпела, бы змяя, напружылася, аж вена на шыі ўздулася і пульсавала так, нібы адлічвала секунды да выбуху.

— А нічога, што Бандэра — нацыянальны герой Украіны, як наш Каліноўскі? — Навошта ён гэта сказаў? Ляпнуў, не падумаўшы. Забыў, што з жанчынамі спрачацца няма сэнсу.

— Не смяшы мяне, Чэпік, — Мар'яна адкінулася спінай на канапу, нагу закінула на нагу, агаліла выкшталцонай формы каленку. — Бандэра — бандыт і вораг народу, як і твой, не наш, заўваж, Каліноўскі, чые дзеянні прызнаныя тэрарыстычнымі.

— Кім прызнаныя? — усміхнуўся Чэпік і сам жа адказаў: — Відаць, вялікім гісторыкам, які вырас на вершах Быкава, а Францыска Скарыну адправіў вучыцца ў Піцер?

— Янка, дарагі, — Мар'яна скочыла з канапы і прысела на кукішкі побач з Чэпікам, — ты хочаш на нары? Табе надакучыла працаваць у тэатры?

— Служыць, — паправіў яе Чэпік.

— Ну, служыць, без розніцы! — І вокам не міргнула Мар'яна, зняла кайданкі з запясцяў Чэпіка і шпурнула іх на канапу. — Свабодны! — выгукнула, паднялася з кукішак і падышла да акна, захінутага жоўтымі фіранкамі, махрыстымі па краях.

Чэпік сышоў не азірнуўшыся, нічога не сказаў на развітанне, нават не падзякаваў за вызваленне. Напэў-

на, лепш было б увогуле не прывозіць яго пасля камеры ў кватэру, адпусціць і забыць. Каму ён патрэбны? Мар'яне — не. Ён яе не цікавіў ні як мужчына, ні як чалавек, а вось Аксане спадабаўся, магчыма, яна ў яго нават закахалася. Бывае. Мар'яна міжвольна стала свахай, не жадаючы таго. Яна мела іншыя планы на бандэраўку, пра якую ёй распавяла аднойчы Леся, стрыечная сястра. Іх бабулі былі роднымі сёстрамі. Чэпік не памыліўся ў імкненні Мар'яны дамінаваць, але дамінаваць выключна над дзяўчатамі. Пры ўсім тым яе цалкам задавальнялі інтымныя стасункі з мужам. Славутая жаночая логіка! Аднак усё пайшло не так з самага пачатку. І дзякуй богу! Яна не скацілася да ўзроўня Лесі і апярэдзіла саму сябе наяўнасцю Чэпіка. Магчыма, у яго з Аксанай штосьці казачнае атрымаецца, ва ўсякім разе можна спадзявацца на тое, і Мар'яна за абодвух трымацьме кулачкі, яна ж не пачвара якая, праўда?..

# 12

Стасункі Чэпіка і Аксаны між тым развіваліся. Яны не зніклі, як прывід камунізму, не згаслі, быццам кволыя пялёсткі царкоўных свечак, не адышлі ў нябыт памерлымі вершамі, не змерзлі на лютаўскім марозе і не расталі ў вясновую паводку. Наадварот, нібы ракавыя метастазы, падпарадкавалі сабе абодвух. Аксана намагалася забыць усё, што з ёю адбылося ў Мінску. Яна без прыгодаў вярнулася ў Станіславаў і акунулася ў абдымкі мужа, каб забыцца пра Чэпіка. Назар ні пра што яе не пытаў, хоць цікаўнасць усё ж меў да праведзенага жонкай часу за мяжой. Аднак Аксана нічога не распавядала, Назарам выціскала з сябе Чэпіка. Ці разумеў ён яе манеўр? Наўрад. Неяк паспрабаваў запытаць, як з'ездзіла, дык адразу і пашкадаваў. Зрэшты, праз інтэрнэт даведаўся, што «выстава Аксаны ў сталіцы Беларусі прайшла паспяхова, больш за тое, яе выставачны тэрмін падоўжылі на месяц, нягледзячы на вымушаны ад'езд самой фатаграфіні па сямейных абставінах». Аксана не размаўляла з мужам і зачынялася ад яго ў сваім пакоі. Штоноч ёй сніўся Чэпік. У параўнанні з Янкам

Назар выклікаў агіду. Навошта распытваў яе пра Мінск? Калі б не яго цікавасць... Сам усё сапсаваў.

Яна знайшла Чэпіка ў Фэйсбуку, напісала яму паведамленне, бо сапраўды непакоілася за яго. Няхай і запозна, але непакоілася. Сны яе непакой памнажалі ўдвая. Ён доўга не адгукаўся. Аксана нервавалася і зрывалася на Назары. Зноў абвінавачвала ў загубленым жыцці. Нікога не хацела ні бачыць, ні чуць. Неўзабаве Чэпік адгукнуўся. Адразу папрасіў прабачэння і патлумачыў, што рэдка карыстаецца сацсеткамі, таму адказвае з затрымкай. Чаму не шукаў яе першым? Хацеў, але спыняўся на паўкроку. Какетліва філасофстваваў: хто ты, а хто я, доўга думаў і разважаў, ці патрэбна нам тое. Але не забываў ні на секунду. Калі б не межы, што аддзялялі краіны, у якіх яны жылі... Дык у чым праблема? Што табе, Янка, рабіць там, дзе цябе ніхто не любіць і не цэніць? Пераязджай у Станіславаў. У цябе муж, адказаў Чэпік. Толькі муж стрымлівае ад канчатковага рашэння? Ну, як бы так. Мы развядзёмся, паабяцала Аксана.



Перапіска паступова перайшла ў рэгулярныя сустрэчы онлайн па відэасувязі, якія нярэдка трывалі па тры-чатыры гадзіны, у асноўным, вядома, уначы. Але і тых гадзін Аксане катастрафічна не хапала. Здавалася, яна і жыла толькі імі, тымі гадзінамі, калі магла бачыць Чэпіка. Магла чуць, аднак ні дакрануцца, ні пацалаваць, і гэта раздражняла больш за ўсё, да таго ж паходзіла на своеасаблівае катаванне. Чэпік выглядаў больш стрыманым, ды ўсярэдзіне яго таксама палала вогнішча ўсёпаглынальнай жарсці. Ён

абяцаў прыехаць. Яна пыталася: калі? Яна не хацела чакаць, хацела каб ужо. Ды згаджалася з кожным яго словам, бо ён меў рацыю, бо ён быў мудрым і разважлівым. Тым не менш забывалася і плакала, жалілася, як ёй адзінока без яго. Ён разумеў, але што ёй да яго разумення. Зрэшты, яны ні разу не пасварыліся. Не маглі сабе дазволіць падобнай раскошы, бо каханне іх (менавіта каханне, якое выспявала на нябачным дрэве адлегласці экзатычным фруктам) здавалася яшчэ такім крохкім, такім уразлівым, такім несамастойным і пяшчотна-кволым. Тым не менш абодвух не пакідала ўпэўненасць, што варта адно сустрэцца, адчуць сапраўднасць пацёскаў, дотыкаў, пахаў і позіркаў — і яно ператворыцца ў неверагоднай моцы стыхію, падуладную і пакорлівую ім.

(2019–2020)

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Адам** Мікола

**Сёстры**

Раман

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Рэдактар *Алеся Далгушова*
Дызайнерка *Бажэна Звыцэвіч*
Вёрстка *Таццяна Тамілава*
Карэктаркі *Алеся Далгушова, Аліна Дубровіч*

Падпісана да друку 18.11.2020. Фармат 60×90/16.
Папера Bulked. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 20,5. Ул.-выд. арк. 11,23.
Наклад 300 асоб. Замова 000.

16+

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Галіяфы».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/48 ад 03.10.2013.
Вул. Куйбышава, 22, каб. 6, пам. 6, 220029, Мінск, Беларусь.
E-mail: vish@bk.ru
www.halijafy.by

Акцыянернае таварыства
«Т8 Издательские технологии» АТ «Т8».
Пр-т Валгаградскі, 42, кор. 5, к. 6, 109316, Масква, Расія.